


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**6** (1040)

ЧЭРВЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

# ЗМЕСТ



Казімір КАМЕЙША

# ЖЫЦЬ, НЕ ГАСЦЯВАЦЬ...

* * *

Дай жа, памяць, мне сваю руку,
І далей мы ў згодзе пойдзем разам.
Семдзесят зязюліных «ку-ку»
Я праслухаў і пражыў адразу.

Не, не трэба лішняга прасіць
І наперад ведаць усе беды.
І араць, і сеяць, і касіць
Я вучыўся назіркам у дзеда.

І араў, і сеяў, і касіў,
Скончыў, як і ўсе, тры тыя класы.
І здзівіў зайздроснікаў усіх,
Збег у горад з роднага калгаса.

Згас калгас, дарэшты абяднеў,
Засталося недзе ўсё за часам.
З усяго багацця і ў мяне —
Тыя тры няскончаныя класы.

---

*__Камейша Казімір Вікенцьевіч__ нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навінкі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кнігі прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010), «Ад Кромані да Свіцязі» (2013).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

Страшна ўжо зязюлю мне прасіць.
Сумна жыць, калі жывеш з аглядкай.
І араць, і сеяць, і касіць,
Хоць шкада, а не пачнеш спачатку.

## АЭРАДРОМ

Яркія, зіхоткія машыны —
Аж глядзець здалёку любата!
А настрой трывожлівы, птушыны,
Нібы ў вырай трэба адлятаць.

Зноў сячэ аблокі грозны «Боінг»,
Нітку следу белую прадзе,
То малітвай тчэ яе, то болем.
Лёту табе добрага, мой дзень!

Птушка мая,
Чуеш? Ты вярніся!
Беражы і сэрца, і крыло.
Толькі б тыя сонечныя высі
Хмарамі адчаю не звяло.

Свечкі зор ізноў мой ранак тушыць,
Зноў раскрыўся неба парашут.
— Людзі-людзі, не страляйце ў птушак! —
Я з дзяцінства вас усіх прашу.

Дай жа, Божа, з ліхам размінуцца
У паветры гулка-трапяткім.
Кожная лятае, каб вярнуцца —
Абавязак выраю такі!

Гэта ціш даўно сябруе з громам
І зямное чуе ўсё нутром.
Лёгка як ляціцца ўсё ж дадому.
Дом без даху наш —
Аэрадром.

* * *

Марудна сонца коціцца да схілу,
Пякло яно нібы не ў моц сваю.
Стагуем сена.
Зноў бяру на вілы
І небу пласт цяжэзны падаю.

Ну а мяне і водзіць, і хістае,
Я нават ледзьве на нагах стаю,
Але трымацца гонару хапае,
І новы пласт я з крэктам падаю.

Усё яно забылася урэшце,
Ды не забыў я вілы і касу.
І зноў бяру на плечы як панесці,
І сёння штосьці цяжкае нясу.

А гонару няма.
Які тут гонар —
Таўкуся і кручуся, як і ўсе.
Але бяжыць заўсёды наўзадагонак:
— Бяры, сыночак, колькі панясеш!..

Бяру і падымаю зноў бярэмца,
Я сам адзін свой ведаю цяжар.
Стаіць мой стог у рыжанькай берэтцы,
Мае пракосы, як радкі, ляжаць.

Іду і чую, што хада стамляе,
А луг шуміць у сонечнай красе.
І мама шэпча, хустку папраўляе:
— Бяры, сыночак, колькі панясеш!..

* * *

Тут лес, як хмара, грозна плыў за мною,
Зялёнай хваляй дзіўна бушаваў.
Няма ўжо лесу,
І густой сцяною,
Расце, як лес, высокая трава.

Прыгорбіліся яблыні і хата,
Дрымотны мох спаўзае са страхі.
Глядзяць у ранак вокны вінавата,
Глядзяць лупата ў шыбы лапухі.

Павук гайдае сонца ў срэбнай сетцы,
Смалы слязінкі на сцяне зіхцяць.
Ды то ж не лес.
Травой усё завецца,
Але травою сумнай забыцця.

Я праз траву ледзь ногі прадзіраю,
Як аддзіраю ад сябе віну.
Стаю, гляджу, як хата памірае
І згортваецца ў чорную труну.

Ёй усяго за век яе хапала.
Было і бед, і шчасця — па страху.
І недзе ўсё згубілася, прапала,
Рассыпалася сумна на труху.

Паплачам, возьмем тытуню зацяжку
І вытрам слёзы, ты ўжо, час, прабач.
Паплакаць для вачэй — зусім не цяжка,
Цяжэй душы даецца гэты плач.

## НАВАЛЬНІЦА

Усе любілі сад, а я арэшнік —
Быў панскі ў нас арэхавы гаёк.
З дзіцячых год вялікі самы грэшнік,
Я усміхаўся Божаньку здалёк.

Мяне самога цешыў грэх мой ранні,
Цягнуў мяне на сена, бы ў нару.
Сам бачыў я, як крыж шчапаў уранні
Агністаю сякераю пярун.

Як асляпіла, ўспыхнула распяцце,
І неба пацякло ва ўсе цуркі.
І хмару, як тваё тугое плацце,
Хтось ірвануў адчайна ў дзве рукі.

Грымела, і хвастала, і агніла,
І секла з дымнай хмары, як з пляча.
І столькі тых арэхаў папаліла,
І ноч маю спаліла на вачах.

Шаптала ты і нешта варажыла
І вуснамі карала і пякла.
Калючая, наскрозь, нібы ажына,
Ты праз мяне балюча прарасла.

Агонь ахутваў скроні і запясці,
І страху раскалоўся ўсё ж арэх
За хвілі, за ўздых адзін ад шчасця,
Якое ўсе завуць чамусьці грэх.

Я мала веру плёткам і павер’ям,
Ёсць і сваёй аж цераз край маны.
І столькі ў грудзі я набраў паветра,
Што й сёння шчасцем поўняцца яны.

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА СЛАВУ

Старайся, брат, ці міла, ці не міла,
За свет у блуд дарэмна не хадзі.
Заблоцкі наш не зарабіў на мыле,
Затое як праславіўся, глядзі…

Хто ёсць ты, слава нават не пытае,
Прыгледзіцца, ўсміхнецца — і ўсяго.
А слава — гэта пані яшчэ тая:
І праз стагоддзі выгледзіць свайго.

Адны багацці трацілі і сілы,
Дзе толькі ні капалі, дзівакі.
А тут і мыла, бачыце, хапіла,
Каб з ёй застацца разам на вякі.

Ніхто ўжо не закрэсліць, не асудзіць,
Не кіне, калі ёсць ужо, на звод.
І будзе, толькі так заўсёды будзе,
Як скажа і захоча сам народ.

Не раю вам усё ж смяяцца з пана,
Няхай сабе і мылам гандляваў.
Жывеш хай бедна,
Беднасць — не загана,
Галоўнае, каб жыў, не гасцяваў.

## ЖАНЧЫНА З ВАНДЗЭЛКАМ

Па Івянецкім бальшаку,
Як між аблокаў аблачына,
Ідзе жанчына з вёскі Куль
З вандзэлкам цяжкім за плячыма.

Скрыпяць марозныя сляды.
Яна ўся з інею, здаецца,
Яна ўся з думак і хады,
Аж думка мне перадаецца.

Яе апошні самы грош
У плюшаўцы старой схаваўся.
Няўжо ёй цёпла?
А няўжо ж —
Мароз з ёй гэтак абдымаўся.

І зараз цісне, цісне ён,
Яе ў абдымках заціскае.

Здалёк, жанчына йдзе, здавён,
І доля ж бо ў яе такая.

Не, не спыніўся, не падвёз
Знаёмы легкавік мардаты.
Брыдзе жанчына ля бяроз
Бярозай белаю дахаты.

І дзень брыдзе, і век брыдзе,
Ужо не слухаюцца ногі.
Вандзэлак смутку і надзей
Як горб той, гне яе да змогі.

Ідзе жанчына праз вайну,
Праз гора,
здзек,
праз нагаворы,
Праз гэту пушчу зеляну,
Падлесак ссечаны ў каторай.

Хай мчыцца вісус малады,
Яна ідзе і ёй не брыдка.
Праз вушка цеснае бяды
Жанчына цягнецца, як нітка.

Хай будзе гэта ўрок усім,
Хай смутак твой цябе пакіне.
Спыніся ўсё ж і паднясі
Вандзэлак мулкі той жанчыне!





Уладзімір МАРОЗ

# ІТАЛЬЯНСКІЯ АПАВЯДАННІ

## Вечны дождж у вечным горадзе

Нічога не паказвала на тое, што апошняя ноч у Рыме выдасца неспакойнай. Акрамя таго, што для мяне і Данілы яна мелася быць бяссоннай. Выбірацца ў зваротны шлях нам трэба было ў тры гадзіны ночы — які тут сон! Каб даць паспаць Вользе, а палове дзясятай вечара мы з сынам пайшлі пагуляць па начным горадзе. Ішлі нетаропка па вузкіх вулачках вечнага горада, назіралі сцішанае жыццё. Дабраліся да Пантэона, аб якім забыліся раней. Натуральна, неба ў праёме купала не ўбачылі, бо храм быў ужо зачынены, пастаялі каля яго. Потым зайшлі ў кавярню, выпілі каля стойкі моцнай і смачнай італьянскай кавы. Усю дарогу размаўлялі аб складанасцях жыцця і яго перспектывах. Здаецца, адгарадзіў бы сына ад жорсткага і няпэўнага свету, узяў бы на сябе ўсё, што можа шкодзіць яму. Але жыццё яго — чым тут можна дапамагчы? Толькі матэрыяльна ды маральна, парадаю. А практычна — аніяк. Яшчэ ў Мінску нешта змаглі б, а тут? Зразумела, пакуль вучоба, пакуль усё добра, шлях наперадзе відаць. Дык, можа, і не варта загадваць так далёка?

На развітанне зірнулі яшчэ раз на Цібр з высокімі сценамі набярэжнай. Калі называем Рым «вечным горадам», то што ўжо гаварыць аб рацэ? Рака вечная па азначэнні. Падумалася, што ў Парыжы набярэжная невысокая, да вады рукой дастаць. А Цібр недзе далёка ўнізе, сцены набярэжнай высокія. Напэўна, пры разліве вада рэзка падымаецца, таму так надзейна і зроблена. Нарэшце павярнулі дадому. Мне здавалася, што трэба браць улева, а Даніла вёў управа. Аказалася, ён не памыліўся. Дома апынуліся ўжо каля дванац-

---

*__Уладзімір Вікенцьевіч МАРОЗ__ нарадзіўся 11 красавіка 1953 года ў горадзе Косава Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1975) і Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве (1983). Працаваў на ВТА «Інтэграл», у інстытуце «Мінскпраект», Дзяржкіно БССР, у рэдакцыі часопіса «Бярозка». Цяпер — вядучы рэдактар студыі «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Голас» (1993), «Рэй» (1993), «Хутаранская зорка» (2002), «Дабрадаць» (2006), кніг эсэ «Мінск старадаўні і малады» (2002), «Беларускі храм» (2003), «За брамай забытых мелодый» (2004) і інш., аўтар сцэнарыяў шматлікіх дакументальных стужак. Як кінарэжысёр зняў шэраг дакументальных фільмаў.*

цатай. А дзверы адкрыць не можам — жонка закрылася на засаўку знутры. Давялося будзіць. Праўда, Вольга адразу зноў прыснула. А мы з Данілам працягвалі сваю гутарку. Словы я ўжо ледзь вымаўляў, бо быў у даволі нервовым перадад'езным і перадразвітальным стане. Разагнала яго крыху ладаванне чамаданаў. Увесь куплены тут абутак хацелі ўпакаваць са скрынкамі, але ўсё не месцілася. Дзве адразу давялося выкінуць. Прыкінулі, што вялікі чамадан не павінен пераважыць пятнаццаць кілаграмаў. На тым і спыніліся.

Час і Вольгу будзіць. Не паленаваліся яшчэ прыняць душ для бадзёрасці ды пакінулі ўтульныя апартаменты, наш прытулак на чатыры з паловай ночы і дні. Цэнтральны рымскі вакзал Тэрміні не так і далёка, аднак ноччу ісці кіламетры тры зусім не хочацца. Але праблем няма, гарадскія аўтобусы ў Рыме ходзяць і ноччу. На прыпынку яшчэ два чалавекі разам з намі. Цікава, для таго, каб аўтобус спыніўся на прыпынку (незалежна дня і ночы), трэба прагаласаваць рукой. Іначай праляціць, не спыняючыся. Чакаем нядоўга, пад'язджае. Людзей у салоне няшмат, восем-дзесяць, спакой. Але яму наканавана перарвацца — праз прыпынак у салон урываецца хлопец, які пачынае паводзіць сябе вельмі агрэсіўна. Ён гучна гаворыць, размахвае рукамі, робіць кульбіты, трымаючыся за верхнія парэнчы. Падбягае да вадзіцеля, нешта крычыць яму, потым дабіраецца да пасажыраў. Найперш да двух індусаў. З-за яго крыку здаецца, што зараз пачнецца бойка. Ты ўвесь у напружанні, асабліва, калі ён падскоквае да Данілы, які сядзіць з іншага боку. «Толькі не ўвязвайся!» — у думках хвалююся за сына. Ды ён і сам разумее, ніяк не рэагуе на кулакі перад вачыма. Потым скажа нам, што гэта, напэўна, італьянец з поўдня, дзе раскашуюць наркотыкі. Наяве я ўпершыню сутыкаюся з наркаманам. Нервы трэба мець сталёвыя. Як ён яшчэ да мяне і майго амерыканскага капелюша не прычапіўся? Нарэшце буян выходзіць з аўтобуса, а недалёка ўжо і вакзал.

Вылет у Вільню з невялікага рымскага аэрапорта Чампіна вельмі рана, а палове сёмай, таму білеты ўзялі на самы першы аўтобус, недзе а пятай. Яшчэ нявыкрутка: да білета трэба ўзяць пасадачныя талоны, калі адкрыецца каса. А талонаў на ўсіх можа і не хапіць. Мы прыехалі аднымі з першых, стаім каля зачыненых дзвярэй, але з часам людзей увачавідкі бóльшае. Сам агромністы сучасны вакзал на ноч зачынены, каб не ператварыць яго ў прытулак для бамжоў. Тут, дзе мы чакаем адкрыцця касы, дзіўная асоба прысутнічае. Жанчына ў доўгай, да самага асфальту, спадніцы, неакрэсленага веку і няпэўнай нацыянальнасці. Яна ўся мокрая, бо ідзе невялікі дождж. За спадніцай цягнецца па чыстым бетоне шырокі след. І не даўмецца — ці ён толькі ад мокрай спадніцы, ці яшчэ і ад іншага. Істота не стаіць на месцы, у зубах цыгарэта, яна падсоўваецца то да аднаго, то да другога, на твары ўсё ж бачыцца запытанне ці патрабаванне — дайце цыгарэту! Таму слізкі след усюды, і ты з агіднасцю пераступаеш яго, каб не абрудзіцца.

Нечакана з'яўляецца яшчэ адзін персанаж — чарнаскуры высокі маладзён, які трымае ў руцэ скручаную газету. Гэты якраз не маўчыць — чапляецца да кожнага, гучна гергеча нешта па-свойму. Прычапіўся зноў жа да Данілы, як і абколаты ў салоне аўтобуса. Стаў усутырч і даводзіць яму нешта, дзе рэфрэнам патрабаванне — ну, стукні мяне! Гэта зразумела з жэстаў. Крычыць, як потым сказаў Даніла, крыху на ламанай англійскай, а больш на нейкай сваёй афрыканскай — зразумець немагчыма. Я стараюся адвесці сына, але афрыканец заступае яго ад мяне спінай. Нарэшце ўдаецца аслабаніцца ад назолы — мы з Данілам адрываемся ў адчыненую кавярню. Афраітальянец за намі, гучны маналог працягваецца і ў памяшканні. Нарэшце гаспадары ўстановы выкліка-

юць паліцэйскага, той з'яўляецца, выштурхвае негра з будынка і адводзіць яго на другі бок вуліцы. А тут ужо і каса адчыняецца. Я аказваюся каля акенца першым у вялізнай чарзе, клічу сына, бо квіткі ў яго. Потым Даніла выказвае здзіўленне — як гэта я апынуўся першым? Проста звычка такая, я і дома імкнуся (без штурханіны, зразумела!) першым апынуцца каля дзвярэй аўтобуса, тралейбуса ці вагона метро. Адпаведна, і прысесці на сядзенне ў салоне. А калі дзе чарга, то неяк абысці яе ўперад. Чаму я павінен прапускаць паперад сябе натоўп? Ніхто з тых, каго ты прапускаеш уперад, ніколі не ацэніць тваю інтэлігентнасць і выхаванасць, наадварот, заштуршаюць. Дык лепш быць першым, няхай калі і пачуеш некалькі злосных слоў наўздагон. Гэта такі псіхалагічны момант, які і растлумачыць дарэшты немагчыма, проста ён існуе ад свядомага і падсвядомага асэнсавання, што жыццё — найперш барацьба. І ўсюды трэба імкнуцца да перамогі, быць першым. Проста чарга найбольш відавочна праяўляе такі стан, астатняе ўсё закамуфлявана, але ад таго і больш жорстка. Прыкладна так тлумачу сыну, у якога жыццё напрадзе, і раю яму браць прыклад. Ён і сам разумее, ва ўніверсітэце адзін з першых студэнтаў па вучобе. Але ў чарзе саступаў бы месца, бо выхаванне не дазваляе паступаць інакш.

Каля дзвярэй аўтобуса, які нарэшце падышоў, таксама штурханіна неймаверная, але ўлазім, уладкоўваемся. У аэрапорце здаецца, што па часе не спазняемся, становімся ў вялізную чаргу. Потым аказваецца, што трэба да іншай стойкі рэгістрацыі, бо ў нас ёсць што здаваць у багаж. А тут перавага амаль на два кілаграмы. Адчыняю свой чырвоны чамадан, выкідваю пустыя скрынкі ад абутку, нешта забіраем у рукі. З рэгістрацыі кідаемся на дагляд. Чэргі агромністыя, нервовасць узрастае, асабліва Даніла хвалюецца, каб мы патрапілі на самалёт. Тут ужо пасажыраў нашага рэйса да Вільні клічуць у асобную чаргу, бо час падціскае. Хуценька распранаемся-разуваемся ды назад усцягваем усё на сябе. І подбегам да самалёта. Уздыхаеш з палёгкай ужо ў салоне, калі сядзіш на сваіх месцах. Потым Даніла сказаў, што яму давялося марнавацца ў гэтым аэрапорце дзве гадзіны, бо назад у горад у гэты час не было ніводнага аўтобуса. А чалавек жа ноч не спаў!

Згадалася, што і наш прылёт у Рым стаў нервовым, але зусім у іншым ракурсе. Найперш, сам шлях звілісты. Для зручнасці вылет у нас быў з польскай сталіцы. Начны цягнік Мінск—Варшава цудоўна падыходзіў, але ж і сэканоміць варта было. Таму білеты ўзялі два — да Брэста і ад Брэста. Ноччу давялося выйсці з цягніка і гадзіны дзве з паловай чакаць на вакзале, пакуль вагоны пераставяць на іншыя калёсы. А колькі тут ужо да Варшавы? Таму прымружыць вочы ўдалося ненадоўга. Ранішні варшаўскі вакзал здаўся агромністым, бязлюдным і няўтульным. Пасноўдаліся крыху, выпілі нетаропка кавы ды селі на электрычку. Яшчэ і аўтобусікам давялося пад'ехаць, каб дабрацца ўрэшце да зусім незнаёмага аэрапорціка Мо́длін. Простая шкляная будыніна сярод поля, параўнання з вялізнымі шыкоўнымі аэравакзаламі аніякага. Ды што чалавеку? — галоўнае, даляцець куды трэба. Так і мы даляцелі да Чампіна, зноў жа невялічкага рымскага аэрапорта. З аўтобусамі праблем няма — не трапілі ў адзін, адразу другі набірае пасажыраў. Але ў тым і здарылася прыкрая неспадзяванка, аўтобус аказаўся іншай кампаніі і прывёз у Рым не на тое месца, дзе нас павінен быў сустракаць Даніла.

Калі ехалі хвілін сорак, гэтага мы яшчэ не ведалі, проста разглядалі краявіды прадмесця і самога Рыма. Даволі часта кідаліся ў вочы парэшткі старадаўніх спарудаў, высокія калоны з порцікамі, якія тырчэлі, як трубы занядбанага завода. Няўжо пасля вайны яшчэ не паспелі ўсё аднавіць? — такое

ўражанне і пытанне найперш у беларусаў, якія з руін паднімалі свае гарады пасля ўсіх войнаў, пасля апошняй асабліва. Каб нідзе і знаку не засталося, аніякіх руін! А тут…

Непаўторна-непрадказальны водсвет знаёмству з горадам надаваў дождж. У Чампіна ледзь крапаў, у Рыме ўжо не спыняўся. Не праліўны, але настойлівы, цёплы, мяккі. У вечным горадзе нас сустракаў дождж, гэтая з'ява таксама з катэгорыі вечных. Калі прыродзе трэба, ён ідзе незалежна прасторы і часу, крызісаў, недародаў ці, наадварот, светлых перыядаў у жыцці чалавецтва. Тым больш незалежна ад настрою асобнага канкрэтнага чалавека — ці радасць у яго, ці гора. Не выбірае чалавек, калі прыйдзе дождж. Вольга насунула капюшон, а ў мяне парасонам стаўся амерыканскі капялюш. Можна трываць, але дзе ж Даніла? Аптэкі, аб якой гаварыў, што насупраць, не відаць. Ёсць нейкая, але значна далей. Нервуемся, чакаем — а вось з'явіцца? Пакрысе прамоклі, зайшлі ў шкляны павільёнчык кавярні, каб выпіць кавы. Ужо, можа, гадзіну чакаем. Пайшоў шукаць магчымасці патэлефанаваць. Спрабаваў у каго папрасіць мабільнік, але не ўдалося, адзін хлопец паказаў, што вось там, маўляў, таксафон. Манеты ў мяне ўжо былі, дазваніцца, на маю вялікую радасць, удалося. Даніла таксама знерваваўся, чакаючы нас. Справа аказалася ў тым, што якраз у гэтага аўтобуса канечны прыпынак не на самым вакзале, дзе і чакаў сын, а проста на вуліцы, зусім недалёка, хоць вакзала з гэтай вуліцы не відаць. Божа, як прыемна была абняць сына, прыгожага юнака ў расшпіленым паліто, з якім не бачыліся паўтара года!

Жытло мы заказалі не ў гатэлі, а знялі апартаменты ў цэнтры Рыма. Слова «апартаменты» прыгожае, насамрэч гэта аказаўся невялікі пакойчык з шырокім ложкам, насупраць якога стол і шафа з кухонным рыштункам, у нішы газавая пліта. Прыбіральня з душам і бідэ. Даніла адзначыў, што гэты сантэхнічны атрыбут у Італіі абавязковы. Але самае прыемнае — даволі вялікая трохкутная тэраса, якая выходзіла на вузенькую брукаваную рымскую вулку. Уласна, у Рыме гэта ўжо называецца кватэраю, проста гаспадару больш выгадна здаваць яе па днях, бо з аднаго жыхара такую суму за месяц ён узяць не зможа. Адразу ўзнікла адчуванне, што ты тут не ў гасцях, а быццам сам жыхар Рыма, бо ў кішэні яшчэ і ключы ад уваходных дзвярэй з вуліцы. Ты ў гэтым сэнсе вольны, нікому абсалютна нічым не абавязаны. Калі ўжо дах над галавою, самапачуванне зусім іншае — ты на месцы, наперадзе велічны горад, які бачыш упершыню, але які па азначэнні не можа не стаць тваім хаця б таму, што даў твайму сыну на студэнцкія гады добры прытулак. Калі ўжо не казаць аб тым, што ўсе значныя помнікі вечнага горада табе вядомы яшчэ з першага курса архітэктурнага факультэта. А тое, што ведаеш па кніжках ды карцінках, вельмі ўжо хочацца згледзець і на свае вочы. І тут не важна, у якую пару жыцця дасць табе такую магчымасць Гасподзь, галоўнае — здарылася.

Нетаропкі шпацыр пад дожджыкам, выглядваем кавярню ці рэстаран, дзе можна было б павячэраць. Балазе, як і паўсюль у Еўропе, праблемы аніякай, яны — на кожным кроку, выбірай, куды павядуць ногі. Вось і атабарыліся за вялікім сталом. Даніла дае заказ, балазе, размоўная італьянская за паўтара года ў яго ўжо на добрым узроўні. Адзінае, што прашу я, каб было мяса, трэба ж хоць раз на дзень добра паесці. Тым больш падплывае белае італьянскае віно. Пад салату ды гарачае каштуем са смакам. Сядзім добра. Нам больш хочацца ўведаць, як тут жывецца сыну, як ідзе вучоба? Ды і аб сваіх справах сказаць колькі слоў, згадаць родныя Мінск і хутар у Мікалаеўшчыне. Гамонка не перапыняецца і ў апартаментах, куды вярнуліся пасля рэстарана. Вечар

блізіцца да ночы, мы ўжо хвалюемся, каб Даніла даехаў дадому. Да таго ж у яго апошні іспыт назаўтра.

Чаму пакінуў яго на канец сесіі, незразумела, звычайна стараецца здаць іспыты яшчэ да новага года. Магчыма, не з шэрагу першых, але ж адолець трэба. Назаўтра недзе да абеду прыходзіць Даніла і гаворыць, што не здаў. Насамрэч не так, проста адзнака ў дваццаць шэсць балаў з максімальных трыццаці яго не задаволіла, бо па астатніх прадметах было дваццаць дзевяць—трыццаць, гэта значыць «выдатна». Няёмка было і нам — як быццам вінаватыя, што збілі рытм сваім прыездам. Да слова сказаць, не павысіў адзнаку па гэтым прадмеце ён і летам, і толькі на пачатку восені за трэцім заходам пагадзіўся на тыя ж дваццаць шэсць балаў. Як не склалася, то не склалася.

Як увогуле наш Даніла трапіў у Рым? Найперш, зразумела, натхняў прыклад старэйшага брата, якога лёс выкіраваў за акіян. Дый амбітнасць! Пасля ліцэя малодшы таксама пасылаў вынік тэста ды іншыя паперы ў заакіянскія каледжы, але станоўчага для нас адказу не было. Вучыцца за мяжою сёння не фокус, былі б грошы. А дзе іх узяць? Таму без гарантыі стыпендыі аніяк. Вось і пайшоў Даніла на эканамічны факультэт нашага ўніверсітэта. Поўбала не хапіла на бюджэт, застаўся толькі платны варыянт. Затое ніхто нікому нічога не вінен. Вучоба ішла нядрэнна, але без імпэту, нават адзін «хвосцік» пасля першага курса працягнуўся праз лета. І тут неяк вясной малодшы сын аб'яўляе, што знайшоў англамоўны ўніверсітэт у Рыме, ёсць магчымасць паехаць туды вучыцца. Тым больш, па выніках яго тэста аплату за вучобу абяцаюць зняць, а ўжо гэта палова справы! Але ж застаецца жытло і харчаванне, што ў сталіцы Італіі зусім нятанна. Хоць і нечаканасць, але думалі нядоўга. Добра ведаю адзін эканамічны, ці проста жыццёвы, закон — калі не ўкладзеш адпачатку ў справу, то і ў выніку анічога не атрымаеш. Ды яшчэ і скажа потым сын: быў у мяне шанс, а вы не падтрымалі. Чаго грэх браць на душу? А з грашыма неяк выкруцімся, не ўпершыню.

Так і паехаў Даніла пасля двух курсаў нашага ўніверсітэта ў Рым, дзе якраз стаў адным з лепшых студэнтаў, выдатнікам. Здаецца, ў пэўнай ступені выпадкова надарылася тая Італія для нашага малодшага. Але ж вядома, што ў Госпада нічога проста так не адбываецца, што выпадковасць ёсць праяўленнем і ўвасабленнем заканамернасці, калі гаварыць філасофскім стылем. У мяне быў сантымент да Італіі, асабліва пасля нашага «летапіснага» дакументальнага фільма «Канікулы для сіраты», які зняла Галіна Адамовіч. Там ішла размова аб аздараўленні ў краіне, якая па абрысах падобна на бот, выхаванцаў Жыткавіцкага дзіцячага дома. Камеру не падманеш — рэакцыя і стаўленне італьянскіх жанчын да нашых дзяцей непадробныя. Ды яшчэ вычытаў недзе меркаванне, што італьянцы з усіх еўрапейскіх народаў найбольш псіхалагічна і ментальна блізкія да беларусаў. А што ўжо казаць аб адметным італьянскім кіно?

Вось і мы тут нарэшце ў адведках. Што ўбачыш за лічаныя дні? Няшмат, але без сабора Святога Пятра ніяк. Пілігрымы са ўсяго свету імкнуцца сюды трапіць, а табе ад твайго часовага жытла цяпер варта толькі перайсці па мосце Цібр — і ты ўжо ў Ватыкане. І храм, і пляц перад ім вельмі знаёмыя па тэлевізійнай карцінцы, але сёння гэта рэальнасць. Нікуды не спяшаемся, кіруемся да ліфта, каб падняцца на купал. Ліфт — справа цудоўная, асабліва для людзей ва ўзросце. Але ж ён падымае толькі да асновы купала! Далей уверх — сваімі нагамі. Па спіралі вакол купала ідзе вузенькая каменная лесвічка, пляцовак для перадыху няма, адно можаш уціснуцца ў нішу акна, якія зрэдчас сустракаюцца, ды перавесці дых. І зноў бясконцая лесвіца ўгору. Не спынішся, бо

ззаду падпіраюць такія ж цікаўныя, як і ты. Здаецца, няма больш сілы, дыханне збіваецца, нагу на наступную прыступку не падняць. Але псіхалагічна перасільваеш сябе і зноў уздымаешся. Бо ведаеш, што Гасподзь не пакіне, дасць сілы. Згадваецца, як мы з Вольгай у Парыжы ўзбіраліся па лесвіцы на Эйфелеву вежу, не так і даўно тое было. Але там лесвічныя пляцоўкі, на якіх можна прысесці, каб адпачыць. Нарэшце, вяршыня, тут кола вузенькай агляднай сцежкі, з якой відаць увесь вечны горад, яго адметная панарама. Сярод камяніц прыкмячаю і кропку праваслаўнага храма. Дождж пакуль ашчаджае нас, таму краявід сонечны, узвышаны. Спускацца назад лягчэй. Потым яшчэ колькі часу ходзім у самым агромністым саборы, любуемся яго манументальным аздабленнем. Божа, чаго толькі не створыць чалавек, калі яго творчыя дзеі адухоўлены высокімі памкненнямі!

Побач з высокімі матывы звычайныя — далей кіруемся пакаштаваць смачнага марожанага. І купіць абутак: на вуліцы безліч абутковых крам. Даніла ў адной вялікай краме цэлы стос адзення набраў для мамы і быў безапеляцыйны — купляйце. А чаму б і не ўзяць, шмоткі сапраўды каштавалі са зніжкамі вельмі нядорага. Прыадзелі крыху і сына. Так што на гэты бок нашай вандроўкі ў Рым скардзіцца не было падстаў.

Зрэшты, як і ва ўсім астатнім. Да дажджу-дожджыку, вечнаму дажджу ў вечным горадзе, які церусіў амаль без перапынку першыя два з паловай дні, змушана прывыклі. Наадварот, гэта падавалася за своеасаблівы каларыт, адметнасць, якую спецыяльна не прыдумаеш. Адно што назалялі практычна на кожным кроку індусы са сваімі прапановамі купіць парасон. У адрозненне ад Парыжа, у Рыме арабаў практычна не відаць, «акупавалі» яго якраз індусы. Але што нам да таго?

На вуліцах вечнага горада раз-пораз кідаліся ў вочы плакаты з анонсам выставы Мадзільяні і Суціна. Вось табе і акраец культурнай праграмы, які варта спажыць, бо твораў нашага земляка ніколі «ўжывую» нідзе не бачыў. Ужо не адзін наш рэжысёр выказваў жаданне зняць дакументальны фільм пра Хаіма Суціна, які нарадзіўся ў Беларусі, а стаў французскім мастаком. Дык што ўжо там такога, за што плацяць мільёны на аўкцыёнах? Было гэта цікава і Данілу, і Вользе. Не ў першы дзень, але знайшлі галерэю, дзе праходзіла выстава. Харошая адпаведная атмасфера, паўзмрок невялічкіх залаў, слайд-фільм з чорна-белых фотаздымкаў першых дзесяцігоддзяў дваццатага стагоддзя ў Парыжы, якія даюць уяўленне аб багемным жыцці мастакоў і дзе мы бачым іх твары. Хаім Суцін нейкага ўсё ж сялянскага беларускага выгляду, хоць твар не беларускі, але і на чыста яўрэйскі не выдае. Выстава не толькі Мадзільяні і Суціна, але і кола іх мастакоў, сярод якіх мне знаёмыя прозвішчы толькі Утрылы ды Кіслінга. А вось з паўтузіна яўрэйскіх прозвішчаў (народжаныя ў Польшчы) бачу ўпершыню. Відаць, што гэта мастакі другога-трэцяга шэрагу, але ж малявалі, неяк зараблялі на жыццё. Дзе было падзецца ў тыя часы беларускім і польскім яўрэям, які мелі нейкі талент? У сталіцах расійскай імперыі іх не вельмі чакалі па прычыне рысы аселасці, вось і шукалі яны долі ў сталіцы французскай, якая прымала ўсіх. Крыху пазней і Шагал пойдзе такім жа шляхам. Розныя гэта мастакі — Шагал і Суцін, у кожнага свая манера, свой стыль. Адно, што кожны быў не вельмі добрым малявальшчыкам у наўпроставым значэнні гэтага слова (умець рабіць малюнак алоўкам). Праўда, у Шагала ўсё ж лінія была. Але што мы аб ім, калі выстава Мадзільяні і Суціна? У першага лінія таксама ёсць, няхай і вельмі абагуленая. А вось у нашага Суціна лініі малюнка практычна няма, у яго адметны каларыт, аб'ём

лепіцца фарбамі, а не трымаецца на лініі. Але якая шыкоўная палітра, багацце фарбаў і іх адценняў! Так, так, за часам яго працы сапраўды шэдэўры, цяпер зразумела, чаму сёння яны каштуюць так шмат. Карцін чатырнаццаць было на выставе, цяпер смела магу гаварыць, што з творчасцю нашага земляка Хаіма Суціна я знаёмы добра.

Адхланне ўтульнай галерэі — і зноў нетаропкая мітусня вечнага горада, які абсалютна ласкавы да цябе, які кліча пагуляць па яго вуліцах, зайсці ў старадаўнія храмы, якіх тут шмат. Калі я першы раз у горадзе, то назвы вуліц і плошчаў не вельмі запамінаю. Проста як былы горадабудаўнік арыентуюся ў прасторы, неяк адкладваю структуру горада ў галаве, каб не заблудзіцца. Так і тут.

Адно запомнілася добра П'яцца дэль Попала. Назва гэтая аднекуль даўно знаёмая. Але справа нават не ў тым, проста мы тут бывалі практычна кожны дзень, бо праводзілі Данілу. Далей ён ехаў трамваем да свайго жытла. Гулялі па Рыме шмат, я для сябе зрабіў візуальную выснову, што на чатырох узвышшах з сямі, на якіх стаіць Рым, мы пабывалі. Чаго яшчэ хацець за такі кароткі час? Нечакана дождж спыніўся, але так ужо цёпла, каб зняць куртку і капялюш, не было. Усё ж зіма яшчэ, што ні кажы. А капялюш мой амерыканскі Індзіяна Джонс Данілу спадабаўся, на сябе прымерваў некалькі разоў.

Ад П'яцца дэль Попала паехалі аднойчы трамваем і мы, каб паглядзець, дзе жыве сын і дзе вучыцца. Прыехалі ў ціхі і акуратны буржуазны, як я акрэсліў для сябе, раён, месца абсалютна не турыстычнае, спакойнае. Жылыя дамы нават не для сярэдняга класа, а вышэй па статусе. Жыллё, дзе Даніла здымае пакой, называецца атэлье, бо ў кватэру ўваход не з агульнага пад'езда, а асобны, з тарца нешматпавярховага будынка. Перад уваходам пляцоўка для машыны пад навесам, тут жа два апельсінавыя дрэвы. Так, так, з ярка-аранжавымі апельсінамі! Вось гэта найбольш здзіўляла Вольгу ў Рыме, ёй, натуральна, хацелася сарваць і пакаштаваць хоць адзін апельсін. Даніла штораз спыняў (так тут не робяць!), не дазволіў сарваць і каля сваёй кватэры, дзе ніхто б і не ўбачыў. Сама кватэра-атэлье ўтульная, у кожнага з кватарантаў свой пакой, вялікая агульная зала, дзе стаіць тэлевізар.

Ад жытла да ўніверсітэта Данілу ісці недзе хвілін дзесяць, зусім недалёка. Сам будынак мы ўжо бачылі на фотаздымках, не падманвае нашых чаканняў універсітэт і цяпер. Неакласіцызм у харошым сэнсе слова, мяне асабліва кранаюць балюстрады і лесвічныя парэнчы з класічнымі балясінамі. Здаецца, можна было б і без такога элемента абысціся, але ж гэта Рым! Адным словам, прыемна ў такім будынку знаходзіцца, адпаведна, прыемна і вучыцца. І добра, што ўсё ідзе як належыць. І сябры ёсць у нашага сына. Як жа не пазнаёміцца, калі столькі ўжо чулі пра іх? Ларэнца, бацька якога трымае конную справу на ўскраіне Рыма, і Сальваторэ з Сіцыліі. Даніла быў у іх і на вакацыях, і так у гасцях, беларускага хлопца бацькі прымаюць гасцінна. Падсвядома згадваецца сітуацыя з Цімохам, у якога за чатыры гады вучобы ў новым свеце амерыканскіх сяброў так і не з'явілася. Сябры былі толькі з кола замежных студэнтаў. У старым свеце, аказваецца, крыху інакш. А, можа, гэта толькі ў Італіі людзі такія гасцінныя? Са свайго боку, Даніла стараецца быць удзячным, дапамагае таварышам з вышэйшай матэматыкай. Хлопцы харошыя, знаёмства і гутарка цяклі нязмушана. Больш гнуткі на язык Ларэнца — і аб літаратуры колькі слоў, і аб мастацтве пагаварылі.

«А калі быў узведзены Калізей?» — пытаюся. Тут замінка выйшла невялікая, але ж інтэрнэт у хлопцаў пад рукою. У сярэдзіне першага стагоддзя

нашай эры. Бач ты, амаль дзве тысячы гадоў таму! А стаіць. Дарэчы, у Калізей мы спецыяльна не ішлі. Трапілі аднаго дня, ужо цёмначы, калі праводзілі Данілу на трамвай у іншы бок, чым звычайна. Абышлі вакол агромністую велічную спаруду, праз арачныя праёмы зазірнулі ўнутр на арэну. Паўцемра начнога горада і дождж дадавалі сваю фарбу ва ўспрыманне такога адзінага ва ўсім свеце помніка дойлідства.

Калі па прыездзе абгаворвалі, што хочам убачыць у Рыме, я прасіўся, акрамя іншага, убачыць мора. Як чалавек, які вырас на Нёмане, нешырокай яшчэ, бо выток недалёка, рэчцы, краявід за якой абавязкова ўпіраўся ў лес, маю сантымент да мора, дзе вока спыняе толькі лінія гарызонту, месца сустрэчы вады і неба. Праўда, у апошнія гады большая сімпатыя да акіяна, але мора гэта ці акіян — справа толькі ў галаве, псіхалагічна, наяве успрыманне бяскрайняй вады аднолькавае. Дык вось — горад фармальна стаіць на моры, быць тут і не ўбачыць яго? Тым больш гэтая з'ява таксама з катэгорыі вечных, як і дождж.

Выбраліся на мора толькі ў апошні дзень. Метро, пасля з гадзіну электрычкай — і мы ў курортным гарадку. Ён акуратненькі, прывабная набярэжная, унізе пляжы. Сонца свеціць, так што можна ўявіць, як тут прыемна летам, у курортны сезон. Але не сёння, бо вецер ледзьве не збівае з ног. Сярод дамоў не так, але мы выйшлі на пляцоўку, якая выступае проста ў мора. Тут вецер з усіх бакоў, трымаю адной рукой капялюш, бо ён умомант можа стаць здабычай стыхіі. Фотасесія захоўвае на памяць гэтакі наш падветраны стан. Вялізныя хвалі бесперапынна з грукатам накочваюцца на бераг. Вада зялёная і мутная, як у такой купацца? Потым яшчэ раз спыняеш сябе — братка, гэта ж яшчэ зіма! А мора тут называецца Тырэнскае, хоць можна і падагуліць — затока Міжземнага. Затое як добра пасля невыноснага ветру паабедаць ва ўтульнай кавярні! Тут жа заходзім у прыстойны ўніверсам, такіх у цэнтры Рыма, дзе мы жывём, няма. Нешта купляем ужо ў Мінск, але граппы так і не знаходжу. Ды і нятанная яна тут, так што асаблівага сэнсу купіць няма, тым больш, гэты напой ты ведаеш яшчэ да Італіі.

Дабіраемся паабедзе да сваіх апартаментаў, потым выходзім яшчэ ў горад на развітальны шпацыр. Чатыры з паловай дні ў вечным горадзе праляцелі вокамгненна. Але нават такога кароткага часу хапіла, каб горад стаў тваім. Калі папраўдзе, то не кожны горад, куды закідваў цябе лёс, рабіўся сваім, нешта трэба яшчэ, акрамя проста прысутнасці. Тут жа і думаць шмат не трэба — у Рыме вучыцца твой сын, як горад можа застацца чужым? І нават неспакойная ноч ад'езду, з якой і пачаўся гэты аповед, не можа збіць пазітыўнага настрою. Як не складзецца потым лёс у сына, і для яго Рым застанецца назаўсёды. Зразумела, у мітусні ад'езду так не думаеш, гэта прыходзіць пасля. А цяпер тры гадзіны палёту — і мы ўжо ў Вільні, практычна дома, хоць яшчэ тры гадзіны цягніком да роднага Мінска.

## Вуліца паэта, кватэра мастачкі

Як быццам спецыяльна мы вырашылі адкрываць для сябе Італію! Спачатку Рым, цяпер вось Мілан. На самай справе ўсё проста — Даніла скончыў тры гады на бакалаўра ў рымскім універсітэце, а магістратуру выбраў ва ўніверсітэце ў Мілане. Па той зразумелай прычыне, што гэтая навучальная ўстанова больш прэстыжная, адна з лепшых у Еўропе па эканамічнай

адукацыі. Мы думалі летам яшчэ ў Рым пераскочыць, але не атрымалася. І планы адведаць у лістападзе Цімоха ў Флорыдзе не спраўдзіліся, хоць жонка спецыяльна два тыдні адпачынку пакінула на гэты час. А я ўвогуле пакуль не браў таго адпачынку. Выйшла як заўсёды — думаеш нешта, плануеш, а рэальнасць незваротная.

Хапіла мітрэнгі і без вандровак. Аб тым, як збіралі безліч даведак дзеля таго, каб Даніла атрымаў стыпендыю ў новым універсітэце, хоць ты цэлы аповед пішы! Нават даведку з ЗАГСа запатрабавалі, што Даніла не жанаты. Як ні дзіўна, такую паперку далі. А выпіскі па нашым з Вольгай банкаўскіх картках, дзе павінны быць адзначаны ўсе транзакцыі за год, — у перакладчыка, як кажуць у такіх выпадках маладыя, дах знесла ад гэтых табліц! Ізноў жа, у амбасаду дзеля візы колькі папер! Дзецца няма куды — сабралі, запыт далі аб візе на два гады. Як на маё меркаванне, усё падыходзіла: віза на год (французская) у нас ужо была, ды і астатніх шэнгенскіх хапала. Ды і ўзрост такі, што імігрыраваць наўрад ці будзеш, тым больш ёсць амерыканскія візы — пры жаданні маглі б там даўно застацца. І галоўнае — вучыцца сыну якраз два гады, не будзем жа мы на кожную паездку зноў афармляць дакументы.

Па пашпарты да італьянскай амбасады прыйшоў за дзесяць хвілін да прызначанага часу. Месціцца яна ў Ракаўскім прадмесці, побач дом дзевятнаццатага стагоддзя на вуліцы Ракаўскай, дзе майстэрня Марыны. Думаю: вось бы ўбачыць дачку, бо знізу якраз відаць яе акно ў паддашку. Як пачула мае думкі — тэлефануе сама і прывітальна махае рукою з акна. Я ў адказ. Выдатнае ў яе ўсё ж месца — стары горад, стары дом, паддашак. Можа, з-за гэтага прыемнага знаку і з візай будзе добра? Дзе там! Калі ўжо на вуліцы зазіраю на патрэбную старонку, бачу, што на паўгода. А, каб на іх! Хоць і разумееш — усім трэба больш грошай сабраць. Нічога асабістага.

Зрэшты, такой бяды, усё роўна сына ўбачым другі раз за чатыры гады. Наперадзе дарога. З тым, як узрост робіцца ўсё больш паважным, неяк цяжэй збірацца ў дарогу. Незалежна ад канчатковай мэты, думаеш: а што ты там забыўся? Але гэтая хвілінная слабасць адольваецца пакуль яшчэ лёгка. Я вельмі люблю вандроўкі, якіх за жыццё было даволі. Як толькі садзішся ў машыну, цягнік, самалёт, практычна адразу забываешся на штодзённыя працоўныя і жыццёвыя клопаты. Яны вернуцца, калі будзеш ехаць назад: тады пачнеш успамінаць недаробленыя справы, зноў нервавацца, але цяпер ты вольны, у цябе наперадзе новыя ўрбаністычныя і натуральныя краявіды, сустрэчы, адкрыцці. Ты нікому нічога не вінны! Гэта самае галоўнае ў падарожжах.

Цягнік да Вільні, потым вельмі кароткая (сем хвілін усяго) электрычка з вакзала да аэрапорта. Час да самалёта ёсць, можна перавесці дых. Дый падсілкавацца, балазе, хатнія бутэрброды з сабою. Мінулым разам, калі ляцелі ў Парыж, узялі ў кавярні па кілішку віскі, каб палёт не здоўжыўся. А цяпер у вочы кінулася «Старка», да якой маю сімпатыю яшчэ з даўніх савецкіх часоў. Першы раз у Вільні плачу еўра — літоўцы зусім нядаўна перайшлі на гэтыя грошы. Сядзім з Вольгай утульна ў куточку, нетаропка даядаем бутэрброды пад «Старку». Неблагі напой, спіртам не патыхае — навучыліся рабіць. Бо адзін час, недзе гадоў дзесяць таму, гарэлка ў Вільні была проста брыдкая. У зале вылету ў дзьюці-фры бяром ужо ў Мілан паўлітровую пляшачку віскі. Вось цяпер можна і ў палёт.

Аэрапорт Бе́ргама не такі і маленькі, бо доўга не можам выйсці. Але нарэшце трапляем да аўтобусаў і пытаемся «стацьоне чэнтральна», як вучыў Даніла. Кіроўца адказвае Вользе па-руску: «Да вакзала, да вакзала!» Якраз

бярэцца на прыцемкі, бо позняя восень, дваццаць дзявятае кастрычніка ўжо, але практычна да горада краявіды з акна аўтобуса яшчэ відаць. Хаця, і глядзець асабліва няма на што — спрэс вытворчыя пабудовы. Мы якраз ведалі, што Мілан — прамысловы горад, больш багаты за сталіцу краіны Рым. Але, адпаведна, і больш дарагі. Ведалі, што там тэатр Ла Скала, які не патрабуе каментарыяў, што гэта сталіца моды. Аб футбольным клубе «Інтэр» і казаць няма чаго, ды і «Мілан» у ліку першых у італьянскім футболе. Знакаміты стадыён Сан Сіро. А сёлета яшчэ і сусветная выстава «Экспо-2015» якраз у Мілане. Праўда, яна ў гэтыя дні зачынялася, у нас і думкі не было яе наведаць. Адразу скажу, што не пабачылі мы і стадыёна, адно каля Ла Скала праходзілі. Фасад аніяк не ўразіў, там галоўнае — непаўторная канцэртная зала ўнутры. Што яшчэ да культуры, то самае важкае ў Мілане — «Тайная вячэра» Леанарда да Вінчы. Але яе паказваюць не штодня, у чаргу невядома калі трэба запісвацца, ды і кошт — самі разумееце. Так што аб гэтым і гаворкі не вялося. Не турысты мы, найперш убачыцца і пабыць з сынам, а ўсё астатняе — як Бог дасць.

На цэнтральным вакзале Данілу чакаць давялося досыць доўга, не раўнуючы як у Рыме. Праўда, тут ён папярэджваў, што можа спазніцца. Стаім мы з Вольгай каля сцяны, я ніяк не магу ўявіць сабе гэты вакзал, у мяне ўражанне, што велічэзная спаруда ў нейкім закінутым стане — рамонт ці што? А жонку асабліва не кінеш пайсці разглядзецца, усё ж мы ў незнаёмым горадзе. Потым ужо зразумеў, што мы стаялі каля бакавога фасада, а галоўны фасад мае шыкоўны пампезны выгляд ды агромністую плошчу перад ім.

А вось і сын у сваім кашміравым палітончыку наросхрыст, з адметнаю фрызураю, дзе чупрына спадае на лоб і кожны раз яе рухам галавы ці рукою трэба адкідваць назад. Твар з выразна вылепленым прыгожым носам. Па вобразе — выліты дзядуля Вікенцій у маладосці, праўда, ад дзядулі Сашы таксама нешта ёсць. Хара́ктарны твар, адным словам, хоць ты ў кіно здымайся, што, зрэшты, і было ў Беларусі. Абдымаемся. Але адразу не спяшаемся ў метро ехаць ў свае апартаменты, бо з пакаёўкай сын дамовіўся на больш позні час. Таму нетаропка перакусваем у вакзальным Макдональдсе ды пакрысе рушым у падземку. Ехаць недалёка, тры прыпынкі. Метро функцыянальнае — ніякіх дарагіх аздабляючых матэрыялаў, як у нас. Усё сціпла, па-вытворчаму, але чысценька і па-свойму ўтульна.

Наверсе ўжо цёмна, таму горад практычна не робіць ніякага ўражання, калі ідзём з метро па вуліцы, якая нам патрэбна і якая цягнецца доўга. Назва ні аб чым не кажа, акрамя таго, што яна — у гонар персоны. У святле ліхтара я ўпэўніваюся, што ідзём правільнай дарогай — чытаю шыльду на сцяне. Яна даволі вялікая па памерах і там пазначана «via Giovanni PASCOLI», а знізу напісана слова «poeta» і даты «1855—1912». Усё зразумела! Мы будзем жыць на вуліцы паэта Джавані Пасколі. Па-праўдзе, я такога, да сораму свайго, не ведаў і, натуральна, не чытаў, але ж гэта класік італьянскай літаратуры! Пачытаю, штуршок ёсць.

Ва ўсе астатнія дні ў Мілане я ўжо з цікавасцю глядзеў на шыльды. Там актрыса, там генерал гадыбальдзістаў, там дзяржаўны дзеяч…

Пацвельваю з сябе: мы невыпадкова пяць дзён жывём у Мілане на вуліцы паэта — а дзе ж яшчэ жыць паэту беларускаму? Вуліца як вуліца, утульная, дамы разнастайныя па архітэктуры, пасярэдзіне агароджаная турнікетамі з абодвух бакоў зялёная паласа (бульварчык), па якой бегаюць трамвайчыкі. Памяншальнае слова тут дарэчы, бо першы трамвай, які ўбачылі назаўтра,

калі выйшлі з дому, быў «рэтра», яшчэ драўляны, гадоў мо пяцідзясятых. «Ён дзеля каларыту?» — адразу запытаўся я ў Данілы. Ды не, ёсць тут такія. Трамвайчык весела грукацеў па рэйках, моцна кляцаў дзвярыма на прыпынку, з гэтакім жа грукам вытыркалася знізу прыступка. Не трэба нічога адмыслова шукаць, каб здымаць рэтра-кіно. Увогуле, трамвайных каляін і трамваяў у Мілане шмат, папулярны тут гэты від транспарту. Трамваі разнастайныя — ад згаданых да сучасных з акруглымі насамі, ад якіх грукату значна менш. Як і ў Рыме, ноччу зрэдку ходзяць дзяжурныя, так што дабрацца дадаму зможаш і без таксі.

Для Данілы гэта было актуальна ў першы вечар, бо доўга не хацелася развітвацца пасля сустрэчы. Мы знайшлі патрэбны дом, пакаёўка (індуска, што для нас было ўжо і не дзіўна) паказала нам кватэру (як жыллё для тых, хто прыехаў, гэта называецца апартаменты), растлумачыла, што і дзе. Думку ісці ў рэстарацыю на вячэру адкінулі найперш з-за эканоміі, проста выбраліся ў краму купіць ежы. Але з крамамі, як і ў іншым еўрапейскім горадзе, невялікая праблема. Вось і тут бліжэйшая ўжо зачыненая (было а дзевятай вечара), давялося пытацца і шукаць іншую. Пасту з вяндлінкай гатаваў сам Даніла, нават маці не падпускаў. Смачна было, ды і віно дадавала да вячэры свой нюанс. За размовамі і расповядамі разыходзіцца не хацелася, але браў сваё наш біялагічны рытм — тут дванаццаць гадзін, поўнач, а ў нас ўжо дзве гадзіны ночы, час моцнага сну. Ніяк не магу прывыкнуць, што мы, як і Масква, перасталі пераводзіць свой час на зімовы ці летні, таму за паўгода і вырастае розніца з Еўропай на дзве гадзіны.

Даніла паехаў дадому, можна разгледзецца, куды трапілі. У нас бы такое называлася аднапакаёвай кватэрай. Насамрэч гэта быў адзін вялікі пакой, больш візуальна, чым фармальна разбіты на жыллёвыя зоны — прыхожую, сталовую з круглым сталом, кухню, дзе стаць можна толькі каля адпаведнага начыння, гасціную з мяккай канапай і тэлевізарам насупраць, спальню з шырокім ложкам. Толькі апошняя была выдзелена шторкай па дыяганалі адносна ўсяго памяшкання. Якраз не перагародкай, а шторкай, няхай і стацыянарнай, бо і не даверху, і да сцяны з абодвух бакоў не далучалася. Дзвярэй нідзе няма. Дзверы толькі ў ванны пакой, што за сцяной, і там ракавіна, бідэ, унітаз і ванна. Ды вузкае акно, дзённае святло ў такіх выпадках абавязковае.

Кватэра стварала поўнае жыццёвае ўражанне, быццам гаспадар толькі-толькі сышоў адсюль. Усё на кухні, адно гатуй, на паліцах кнігі, у асноўным па мастацтве. Сама цікавае — каля трыццаці асобнікаў-персаналіяў сусветна вядомых мастакоў. Выданні няхай і бюджэтныя, але поўныя па наборы ілюстрацый, некаторых карцін нідзе і не бачыў. І сцены завешаныя карцінамі, найбольш рэпрадукцыі Мадыльяні з аголенай натурай. Асабліва шмат іх у спальнай зоне. Уся атмасфера сведчыла аб тым, што гаспадыня кватэры (так сказаў Даніла, ён жа шукаў жытло) ці сама мастачка, ці рупная прыхільніца прыгожага. У ванным пакоі вісела колькі прац не вельмі выразных, але арыгінальных. Мо якраз гэта была графіка самой гаспадыні?

Кватэрка-апартаменты ды і сам горад у хуткаплыннасці чатырох поўных дзён рабіліся ўсё больш знаёмымі. Асноўны час займаў шпацыр па горадзе. Жылі мы не ў самым яго цэнтры, але і не так далёка, каб не прайсціся пехатою. Вось і хадзілі, дзеля чаго ж прыехалі? Мілан — гэта не Рым з яго аскепкамі і флёрам антычнасці, хоць горад таксама старажытны. І вузкія вуліцы звілістыя ёсць, і старыя дамы. У першы дзень дайшлі да Міланскага сабора, Duomo di Milano, як называюць храм жыхары горада. Мы падыходзілі з алтарнай часткі,

але адразу было зразумела, што гэта агромністае збудаванне. Было адчуванне прыплюснутасці яго да зямлі, але палымяная готыка адпрэчвала прыцягненне і клікала ў неба. Кінуўся ў вочы вялізны рэкламны шчыт на бакавым нэфе — такога я яшчэ нідзе не бачыў. Падумалася, што гэта ўжо занадта... Не ўсіх гандляроў выгнаў Хрыстос з храма. Вялікае ўражанне рабіў фасад сабора. На вуліцы было ўжо цёмна, ён сваім белым каменем свяціўся без падсветкі. Перад саборам агромністая плошча. Прыходзілі мы да сабора яшчэ раз, але ўнутр так і не трапілі — чарга, ды яшчэ плаціць, каб патрапіць у храм? І падымацца, каб згледзець Мілан зверху, па той жа прычыне не сталі. Сабора Святога Пятра ў Рыме было, відаць, даволі...

Калі ў цябе новыя ўражанні і шмат вольнага часу, раптам нібы спахопліваешся, ты з шэрагу тых, хто піша, тады хочацца запісаць думку ці ўражанне, каб яны не забыліся. І тут банальнае — сурвэтка на століку ў невялічкай кавярні, дзе мы стомленыя, спыніліся выпіць піва і віна — падыдзе для таго, каб сёе-тое запісаць. Па пунктах двума словамі запісваю тое, што не хацелася б згубіць, аб чым і буду пісаць потым у гэтым аповедзе. Пачынаю з таго, што яшчэ ў самалёце ў думках з'явіўся самы просты, на мяжы банальнасці, постмадэрнізм: *Я не быў ніколі у Мілане, Ды сюды якраз закінуў лёс…* Такімі штрыхамі і астатняе...

Кожны дзень мы вячэралі ў сваіх апартаментах, утульнасць сапраўднага жытла падабалася Данілу, аб чым ён сам сказаў аднойчы. Зразумела было, што засумаваў без бацькоў, што пабыць разам і пагаварыць хочацца. Якім ні быў бы ён мужным маладым чалавекам, але калі адзін у чужой краіне, у чужым горадзе, то сумуе па родным. І якія б ні былі ў яго сябры, бацькі — гэта зусім іншае. Памятаю сябе студэнтам, асабліва ў святочныя дні ў Мінску, калі не было куды падацца, вельмі востра адчуваў адзіноту. Але я мог у любую хвіліну сесці ў цягнік і хутка прыехаць да бацькоў ці да дзеда з бабай. А мой сын такой магчымасці не мае. І шкада яго, але нічога зрабіць не магу. У Данілы сваё жыццё, свае цяжкасці, свае выпрабаванні, але і свае радасці, і засмучэнні. Я магу толькі псіхалагічна падтрымаць яго, часцей слаць электронныя лісты, што ўдаецца далёка не заўсёды. Але гэтыя дні мы разам, і гэта цудоўна!..

Ідзём знаёміцца з яго універсітэтам і інтэрнатам. Першае, што паказвае (іхні корпус), асабліва не ўражвае, але потым накіроўваемся да галоўнага корпуса, гэта ўжо агромністае саліднае збудаванне з выразным фасадам. Вялізны вестыбюль, унізе зала, дзе праходзяць усялякія мерапрыемствы. І студэнцкая сталовая, куды сын пакуль не ходзіць — нятанна. Інтэрнат яго месціцца на невялічкай ужо згаданай вуліцы, недалеч трамвайнае дэпо — вялізная брама ноччу вартуе трамваі. Сам будынак інтэрната сучасны, вельмі цікавай архітэктуры. Асноўны крыжападобны пяціпавярховы аб'ём стаіць на квадратным даволі высокім сцілабаце. Канструктывізм у спалучэнні з манументалізмам — постмадэрнізм, адным словам. Пакой у белых колерах сцен і чорных убудаванай мэблі. Яна функцыянальная і зручная — пісьмовы стол, паліцы, шафы. Уражанне халоднае, тым больш што за прыадчыненым акном позняя восень, няхай сабе і міланская.

Сядаем на ложак, дзе толькі-толькі перасланая пасцель. Сэрвіс харошы, але і кошт неблагі — трыста еўра ў месяц. І ўсё роўна выдатна, што ў Данілы атрымалася з гэтым жытлом, бо зняць кватэру ў Мілане абышлося б значна даражэй.

Не хапае ў пакоі нейкіх цёплых элементаў, якія б псіхалагічна адпрэчвалі б пэўную халоднасць. Адно што кніжная паліца над сталом, дзе ўжо стаялі і

мае кнігі. Калі сын па скайпе папрасіў іх прывезці, мне стала прыемна — ну вось, дачакаўся! Бо дома, у Мінску, не дапрасіцца было, каб прачытаў хоць які мой тэкст. Я не крыўдзіўся (экзістэнцыйная адзінота творцы), але надзею меў, што хоць потым дзецям стане цікава — што ж бацька пісаў? У гэтым выпадку «потым» сталася не такім далёкім. З радасцю сабраў пяць сваіх кніг: «Хутаранская зорка», «Беларускі храм», «За брамай забытых мелодый», «Шляхцянка-восень», «Крыжы на ростанях». Чатыры ў мяккіх вокладках, адна ў цвёрдай. Нават без эмацыянальнай афарбоўкі адзначыў для сябе, што гэта практычна ўсё асноўнае, што я напісаў. За выключэннем аповедаў жыцця, якіх таксама ўжо назбіралася на кнігу. Няшмат як быццам, але мне не сорамна за вершы і тэксты. Яны мае, у іх свая стылістыка, іх не зблытаеш з іншымі. А ў цэлым кніг у мяне нямала, і ўрэшце напісанага хопіць, з улікам «Хутаранскіх згадак», якія яшчэ не друкаваліся, на восем-дзесяць тамоў збору твораў. Што і варта было б ажыццявіць. Там жа, у Мілане, і аўтографы напісаў сыну. Мо дзе і пафасна, але зычэнні былі шчырымі. Галоўнае, знайшоў аб'ядноўчы для ўсіх пяці абзацаў элемент — свой асобны эпітэт перад словам «сыну». Да прыкладу, «мужнаму сыну Данілу».

Кнігі падпісваў там, дзе жылі мы. Калі пабылі ў інтэрнаце ў Данілы, стала зразумелым, чаму яму падабаліся нашы тут вячэры. Бо абжытая хатняя атмасфера, няхай свая толькі на гэтыя дні, але ўтульная. У Рыме ў яго было ўсё ў парадку — кватэра-студыя, харошыя сужыхары. А тут з гэтым інтэрнатам нейкае большае адчуванне адзіноты. На мой погляд. Добра, што толькі два гады. За вячэрамі доўжыліся нашыя размовы. Здаецца, ужо і перагаварылі ўсё, але кожны раз знаходзілася іншая тэма. Сын папрасіў мяне расказаць аб пісьменніках. Падумалася, што я сапраўды шмат з кім знаёмы (быў знаёмы, калі аб тых, хто ўжо ў іншым свеце), шмат якіх выпадкаў здаралася. Добра, што занатоўваў гэта ў «Хутаранскіх згадках». Расказаў Данілу спачатку пра Пісьмянкова. Затым пра некаторых іншых, каго ведаў і ведаю. Бачу, яму сапраўды цікава — усё роднае ж...

Дома мелася мапа, я ўсё разглядваў план Мілана — дзе тут што? Кінулася ў вочы адсутнасць ракі ў цэнтры, што падалося нязвыклым. Толькі недзе бліжэй да ўскраіны ў адным месцы відаць былі ці то каналы, ці рака. Гэта аказалася недалёка ад універсітэта і інтэрната, Даніла павёў нас туды. Бралася ўжо на цемень, пакрысе запальваліся агні, вада адразу надавала іншы каларыт гораду. Мы прайшліся па беразе, дзе шмат кавярняў, якія яшчэ пакуль пуставалі — вечаровы час тут пачынаецца а дзевятнаццатай гадзіне. Ну, і крамы не абміналі, каб дачакацца вячэры — думалі пасядзець недзе тут, але потым передумалі і паехалі трамваем дадому, дзе больш смачна і ўтульна.

На мапе я разабраўся, што ў цэнтры ёсць вялікі замак. Трапілі туды, але маштабу спаруды не адчувалася з-за вечарова-ліхтаровай паўцемры. Адно што плошча перад ім такая ж агромністая, як перад саборам і перад вакзалам. Замак як замак, розныя стылі спалучаюцца, бо будавалі не адно стагоддзе. Пахадзілі мы тут, як і астатнія турысты, да пасунуліся зноў жа дадому. Ці тады, ці ў іншы вечар, але наткнуліся на нешта незвычайнае. Ад той вуліцы, па якой ішлі (народу тут практычна не было), адыходзіла невялікая добра асветленая вулка. Цікава, што машын, не раўнуючы як на ўсіх астатніх, на ёй амаль не было, што давала адчуванне нейкай нязвыкласці. Глянуў на шыльду: «Via private Santa Maria». Вось табе і маеш — прыватная вуліца! Ну, дом — зразумела, але каб цэлая вуліца, няхай і невялікая! Мо і няма нідзе больш такога.

З зялянінай (паркамі і прысадамі) у Мілане, як мне падалося, не вельмі. Зразумела, што мы бачылі невялікую частку горада, але такое ўражанне склалася. Каменны мех, нездарма прыдумана. Ды ніякіх праблем — садзіся ў электрычку і менш чым за гадзіну будзеш на возеры Комо! Даніла прапанаваў зрабіць невялікую экскурсію ў нядзелю, мы і выправіліся. Аказваецца, горы тут зусім недалёка. Швейцарскія Альпы, трэба думаць. І вось пасярод гор, у катлавіне, цудоўнае возера! Больш дакладна, пачатак яго, а за паваротам канца не відаць. Ад горада на беразе адразу ўзнікла адчуванне курортнага мястэчка. Якраз кантынентальнага, а не прыморскага. Падобна Бад-Хомбургу ў Германіі, дзе калісьці ўдалося пабываць. Людзей тут шмат, мо таму, што выхадны дзень? Ніхто нікуды не спяшаецца, ходзяць па набярэжных. Можна на фунікулёры падняцца на вяршыню гары, але ад гэтай думкі адмаўляемся, бо мне здаецца, што цалкам возера не ўбачыш і адтуль. Як адказваемся і ад воднай прагулкі на цеплаходзе. Можа таму, што проста хочацца спакою? Сядзім на лавачцы, глядзім на возера і горы. На схілах гор, на іх вяршынях там і там жылыя дамы. Ну, хочацца чалавеку ўзабрацца вышэй, няхай і нязручна туды падымацца. Як адпрэчыць такое імкненне? Затое высока, вышэй астатніх людзей, ды з відам на спакойнае возера. Дарэчы, як потым згледзелі недзе, жыллё тут (як у горадзе, так і ў гарах) вельмі дарагое, у сярэднім дзвесце-трыста тысяч еўра, а пра катэджы і гаварыць няма чаго. Тым не менш, жыве ж нехта. Пераходзім якраз бліжэй да пачатку гор. Даволі цёпла, хоць першы ўжо дзень лістапада, галоўнае — сонечна. Стан нейкі ірэальны, быццам нічога і нікуды не трэба, ёсць толькі гэты спакой каля вады… Добра, што ўбачылі і гэтую прыгажосць — так думаецца, калі ўжо вечарам вяртаемся на электрычцы ў Мілан, дзе зноў чакае ўтульная сямейная вячэра на вуліцы паэта ў кватэры мастачкі.

А праз дзень ужо і ад'езд, з самай раніцы. І неўзабаве мы ўжо дома, у Мінску...

У першую ж суботу пасля вяртання прыехалі ў Мікалаеўшчыну з раніцы. Я злётаў да бацькоў у Даманава, а Вольгу пакінуў збіраць зялёначкі з падзялёначкамі, якія не зніклі яшчэ і ў лістападзе. Дзіўныя грыбы! Наеліся іх даволі гэтай восенню. Сядзім на лавачцы каля нашага круглага стала пад яблынямі. Ідылія ды рэальнасць, за што мы і любім такія вечары на сваёй роднай зямлі, на сваім хутары. Яны непаўторныя: цёплыя, добрыя... Свае.





Алесь СПІЦЫН

# ПАТОПУ БОЛЕЙ НЕ БУДЗЕ!

## СМОЛКІ

Як густое віно ў палымяным святле,
Як аблокі над захадам сонца,
Зацвітаюць барвовыя смолкі ў траве,
У лугоў размаітай суполцы.

І няхай гэтых кветак у пышнай траве
Не заўважыць нязвыклае вока,
Іх пасеялі тут на Гасподняй сяўбе
Да нябёсаў імкнуцца з пагоркаў.

Хтосьці будзе шукаць на гудкім кірмашы
Прыгажосці краінаў далёкіх,
А камусьці падораць адхланне душы
Паміж зёлак схаваныя смолкі…

## ВЯСНА

Праз леташні жух перамерзлай травы
Раскрыліся сінія майскія сны,
Дні спрэс у блакітным і срэбным святле,
І ночы квітнеюць у маланкавым тле.

Так хочацца жыць абуджэннем лясоў,
І ведаць імёны раслінаў і зор,
І знаць, што наўпрост узгадаюць цябе,
Таемныя запісы ў гэтай вясне.

---

*__Спіцын Аляксандр Аляксандравіч__ нарадзіўся 6 верасня 1979 года ў Мінску. Скончыў біялагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2001). Працаваў у Інстытуце эксперыментальнай батанікі імя В. Ф. Купрэвіча, у Мінскім палацы дзяцей і моладзі, Інстытуце фізіялогіі НАН Беларусі.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Цені верасоў» (2001).*

Ад суму й сумневу за міг акрыяць,
Як дыхаць, у неба малітвы гукаць,
І ўшчэнт ачмурэць ад таго адкрыцця,
Што вечнасць у кожным імгенні жыцця…

## ЗОРКІ І КВЕТКІ

У небе — белыя зоркі,
На зямлі — белыя кветкі,
Ікотнікі ды рамонкі…

Глядзяцца прыветна...
Хаця й непрыкметна...

Паміж імі — месяца бубен!
Паміж імі — святла яго струны...

Шпалы ды рэйкі, холад...
Цягніковы магутны покат...

Стукат...
Грукат...
Заглушылі
Ціхмяныя гукі...

Рукі пад галавою...
Позірк — у неба стралою...

А ў небе — белыя зоркі,
На зямлі — белыя кветкі
Накшталт рамонкаў.

Глядзяцца прыветна...
Амаль непрыкметна...

Паміж імі — месяца бубен
Паміж імі — святла яго струны.

І няхай сабе стукат...
І няхай сабе грукат...

Я ўсё роўна маўчу...
І, павер мне, засну.
Калі захачу...

* * *

Зірну ў нябёсы,
Нап'юся слодычу блакітнага
І паверу,
Што здольны...

* * *

Вераснёвы ранак,
Расшыты расой з павуціннем,
Радуе сэрца...

Цішыня
Пасля тлуму і шуму
Весяліць душу...

Як прыемна
Вярнуцца
З вар'ятні
Гарадскіх бітваў
Сюды
Пад ашчаду лясоў...

* * *

Вось туман вырастае з вады,
Уздымаецца з ночы да ранку.
Ён будуе свае гарады
І свае непадступныя замкі…

І знікаюць у нетрах яго
І лагчыны, і дрэваў абрысы,
Разуменне лугоў і лясоў
І нябёсаў дзівосныя высі…

Толькі дзённае прыйдзе святло,
Вецер мройва раскідае лоўка,
І разыдзецца ўсё, што з яго,
І схаванае з'явіцца зноўку...

**НЕЙКІ ТАРКОЎСКІ**

На стале гарбата,
Тушонка і блін…
Я сяджу ў сваёй старожцы
Адзін.

Пайшоў дождж
І цягнік за плотам...

Восень...

Карацей на яве
Пачаўся нейкі

Таркоўскі...

А я выйду вонкі,
Плашч-накідку
(Чаму не!)
Накіну,
Прайдуся паціху
Сярод прабітых шынаў,
Сярод пакінутых на выходныя
Машынаў,

Сярод бочак і шпалаў,
Паўразбураных драўляных хібараў,
Іржавых дзвярэй паўпустых ангараў,

Занурuся ў травы
У вымушаным бязлюддзі...
Машыны могуць стаяць,
А травы дадуць насенне,
Таму што
(Я веру!)
Патопу болей
Не будзе....

* * *

Золата
З памаранцавым сокам
Сонца ў лужыны налівае…

Кроплі дажджу
Гуляюцца з кольцамі,

Плюхаюць...
Блікі пускаюць...

Я палюбіў гэты момант,
Калі дождж і дзень адыходзяць,

Таямніцу Божай красы
Абвяшчаючы людзям...



**Віктар ШНІП**

# ЗАЎТРА БЫЛА АДЛІГА-3

## Ліпень

*

*1.07.2015.* Чамусьці падумалася, што, калі мы адзначаем Новы год, то чаму б уночы з 30 чэрвеня на 1 ліпеня не адзначаць Новае паўгоддзе. Сёння ж першы дзень Новага паўгоддзя! Усіх са святам!

*

*1.07.2015.* Спачатку цябе выганяюць з краіны, а пасля тваёй смерці ствараюць музей, дзе ты нарадзіўся…

*

*1.07.2015.* Праз дзень буду ў адпачынку. Наперадзе тысячы кіламетраў шляху. Хвалююся, нібыта ў космас лячу…

*

*1.07.2015.* У Мінску прайшоў кароткачасовы дождж, як кароткаметражны фільм, дзе я быў у бясплатнай масоўцы…

*

*1.07.2015.* Над дрэвамі бліснула маланка, загрымеў гром, і з кроны старой ліпы ўзляцелі вароны, як абвугленая лістота…

*

*3.07.2015.* Збіраемся ў вандроўку па Еўропе. Люда пасля Славакіі, дзе была з купалаўскімі музееўцамі па шляху Янкі Купалы, ніяк не ачуняе ад прастуды. Гледзячы на яе і мне кепска. Прыязджала Наста Грышчук. Зрабіла з Людай гутарку для «ЛіМа». Там так хочуць адзначыць яе 50-годдзе. Словам, мы чакаем дарогу…

### *Дзень першы. Мінск. Брэст. Варшава. Гатэль «Нявада»*

*4.07.2015.* Спалася дрэнна. Прачнуўся а чацвёртай. З Людмілай у дарогу сабраліся моўчкі. На вакзал на таксоўцы прыехалі ў ліку першых. Аўтобус

---

[*] Заканчэнне. Пачатак у № 5, 2016 г.

новы. Нашы месцы — 21—22. Вандроўнікаў у Іспанію да мора сабралася крыху больш за трыццаць. Выехалі ў пяць сорак пяць. Выязджаючы з Мінска, наш куратар Зміцер расказаў, што нас чакае ў дарозе. Напомніў пра злодзеяў, якія нас у Еўропе чакаюць, таму трэба грошы берагчы, як жыццё.

З Людмілай у вандроўку выбраліся без асаблівага гарэння. Людміла прастылая, а ў мяне ў вёсцы спраў гара непераробленых…

Сёння ў нас наперадзе тысяча кіламетраў. Зміцер абяцаў, што да адзінаццаці гадзін прыедзем начаваць у гатэль.

На палях збожжа амаль паспела, каб жаць. Стаіць, чакае…

У аўтобусе працуе кандыцыянер. Камфортна. Ні горача, ні холадна. Некаторыя вандроўнікі кашляюць.

Каля дарогі чарада гусей. Ідуць, нібыта ў Рым…

Над полем лятае коршак, нібыта аглядае ўладанні свае…

«Трактир» прачытаўся, як «трактар»…

Маладая кукуруза, як быльнёг, густая…

Буслянка над вёскай расцвіла бусламі…

У Брэсце каля ракі поўна адпачывальнікаў, і не трэба ім Еўропа і бераг турэцкі…

Перад мяжой у Брэсце да нас дадалося яшчэ некалькі чалавек. Зміцер усіх пералічыў, як пастух авечак..

Стаім на мяжы. Горача. Каля машын, зазіраючы пад іх, скача верабей, як памежнік…

Памежніца. Худзенькая. Невысочкая. У форме. З кабурой на поясе. А ці ёсць там пісталет?

Забралі пашпарты, па якіх стала зразумела, што сярод нас чатыры расіянкі і расіянін…

Хто хоча ў дзьюці-фры? Ніхто. Усіх цікавіць прыбіральня…

Варшаўскі мост. Узгадаліся радкі: «Поўненькая рэчка, а над рэчкай мост. На мосце авечка, а ў авечкі хвост. Высахла рэчка, разваліўся мост. Здохла авечка, адваліўся хвост…»

Нашых пагранцоў праехалі за дваццаць хвілін. Палякі трымалі каля дзвюх гадзін. Па новых правілах правяралі адбіткі пальцаў…

На польскім баку сустрэлі нас тры буслы ў небе…

Скошаны луг. Нібыта мой бацька касіў…

Па бульбе ходзіць бусел. Відаць, каларадскіх жукоў збірае…

У Паджэры паабедалі. Павесялела ў жываце і ў галаве…

У збожжы шмат васількоў, як кропелек паэзіі…

У агародах чорныя пудзілы, як манахі…

На балаціне ссохлыя чорныя дрэвы, як скруткі чорных змяюк…

Зміцер уключыў радыёперадачу — дурныя жарты расейцаў з польскай мовы. Паслухалі пару хвілін. «Яшчэ хочаце?» — «Не!!!»

Галубы каля коміна, як вясковыя анёлы каля выхаду з вогненнага пекла…

Варшава. Вісла. Людзі купаюцца і загараюць…

Аэрапорт імя Шапэна. У душы загучала музыка…

Каля дарогі польскі паліцэйскі. Выліты наш Юрась Пацюпа, але толькі ў форме…

Тры ветракі. Два круцяцца, а адзін не. Стаіць, нібы думае, а ці варта сёння працаваць…

Нумары на польскіх машынах з еўрасаюзаўскімі сцяжкамі, але хапае і бела-чырвоных, якія выглядаюць, як савецкія…

Уключылі фільм, каб было весялей. У фільме трахаюцца. І ўсе глядзяць, як гэта робіцца, нібыта забыліся…

«Быў бы я скульптарам, я б пачаў з яе попкі…» — рэпліка з фільма пра Дзюма.

Байкеры, як нячысцікі, гойсаюць па Польшчы…

Адзінокі вятрак у полі, як няспешны мудрэц…

Едзем услед за сонцам…

Неба ціхае, як вечаровае мора …

Ветракі, як прывіды камунізму…

Начаваць прыехалі ў гатэль «Нявада». Ён збудаваны ў выглядзе піраміды. Выдаючы нам ключ, Дзмітрый сказаў: «Нумар 35. Шніп Вікторый і Шніп Людміла…» Пасяліліся а палове дзясятай. Праехалі тысячу кіламетраў…

### *Дзень другі. Амстэрдам*

*5.07.2015.* Прачнуліся ў 6.10. Спалася нармальна. Праўда, было крыху душнавата. Павіншаваў Людмілу з днём народзін.

Сняданне больш-менш нармальнае. Спакавалі свае валізы і зноў у дарогу. Дзякуючы, што аўтобус не цалкам запоўнены, многія рассяліліся на вольныя месцы. Людміла таксама пайшла ад мяне.

Праехалі польска-нямецкую мяжу. Одэр цячэ. Як вечнасць нямецкая…

Вакол дарогі каля 50 ветракоў. Стаяць, як саранча жалезная…

Сосны, як вакол дарогі каля Ракава па дарозе ў Пугачы…

Праехалі каля Берліна…

Узгадалася вайна. Так і бачу на палях падбітыя танкі і трупы…

Праехалі Магдэбург… Узгадалася Магдэбургскае права…

Там, дзе на палях танкі гарэлі, цяпер ветракі стаяць…

Ветракоў у полі, як быльнягу…

У акупацыі ветракоў…

Белая арда ветракоў…

Праехалі былую мяжу паміж ФРГ і ГДР. Стаіць вартавая вышка, як пудзіла…

Паабедалі ў прыдарожным нямецкім кафэ. Не вельмі спадабалася. У аўтобусе градусаў дваццаць, а на вуліцы за трыццаць…

Побач Гановер… Узгадаўся Алесь Разанаў, які там нейкі час жыў і пісаў вершы па-нямецку…

Даведаўся, што наш куратар Зміцер закончыў ЕГУ…

Праехалі праз дождж, як праз невялікую краіну, створаную з дажджу…

На мяжы Германіі з Нідэрландамі горад Асанабрук… Узгадалася ракаўская брукаванка… Бацькі на ракаўскіх могілках…

«Галандскія каровы прыгажэйшыя, чым іх пастушкі…» — паведаміў Зміцер…

Ехалі, ехалі і тут на табе — нас спыніла нямецкая паліцыя. Да Амстэрдама 230 кіламетраў. Зайшоў паліцыянт: «Русланд?» — «Найн! Мы Беларусь!» Нехта дабавіў: «Мы — Лукашэнка!» Паліцыянт забраў пашпарты. Праз дзесяць хвілін вярнуў і сказаў, усміхаючыся: «Аўфідэрзэйн!»

Сонца няма. Змрочна, як часта бывае ў нас дома…

Неба, як шкло, на якім намалявана неба…

Амстэрдам. Навокал ровары, ровары, ровары… Здаецца, што ровараў болей, чым людзей…

Плошча Дам… Як у Рым, сюды ўсе вядуць дарогі…

Па квартале чырвоных ліхтароў нас вадзіў мужчына гадоў пад семдзесят. Прыехаў да сына пятнаццаць гадоў таму. Спадабалася. Жыве і радуецца жыццю. Пра прастытутак расказваў, нібыта пра рай, з якога выйшаў на гадзіну да нас. Хадзілі па вулачках, дзе з вітрын на нас глядзелі прастытуткі, як на пакупнікоў. Не ва ўсіх вітрынах яны былі, бо некаторыя ўжо зараблялі грошы. Каштуюць ад 50 еўра.

Гід расказаў пра дзвюх блізнят прастытутак. Ім па 65 гадоў. Выйшлі на пенсію, адпрацаваўшы пад чырвонымі ліхтарамі па сорак пяць гадоў. Напісалі кнігу ўспамінаў. Па іх падліках праз іх за час працы прайшло 150 тысяч кліентаў.

Прайшлі каля сэкс-шопаў. Ніхто з нас не зайшоў. Гід расказаў гісторыю, якая адбылася некалькі гадоў таму. У Амстэрдам прыехала вялізарная фура з абвесткай, што прымаюцца для абмену на новыя старыя вібратары. Адразу ж ля фуры пачалі хадзіць жанчыны з сумкамі. Адна памяняла, другая і праз нейкі час ля фуры ўтварылася чарга. Такі абмен прыдумаў чалавек, які задумаў стварыць музей секс-прылад. Цяпер музей працуе.

Паблізу Храма стаіць помнік прастытутцы. Пафатаграфаваліся…

Каналы нагадваюць Венецыю… Толькі нагадваюць…

На вуліцы на беразе ракі прыбіральні, як вялікія бочкі, у якіх цябе ўсе бачаць.

Хапае прыгожых дзяўчат, якія не стаяць за шклом…

Чуючы расейскую мову, некалькі разоў на нас мясцовыя паказвалі пальцамі і казалі гучна: «Рускія!»

На плошчы Мадам вакол помніка смецце…

Турыстаў шмат. Ходзяць, разінуўшыся, як галодныя птушаняты, што выпалі з роднага гнязда…

Вада ў каналах брудная, як у канавах…

З Людмілай зайшлі ў індыйскую кавярню і адзначылі дзень народзін…

Начавалі ў прыгарадзе Амстэрдама ў пакоі №14. Ён горшы, чым папярэдні…

### *Дзень трэці. Амстэрдам. Парыж*

*6.07.2015.* Начавалі ў гатэлі ў 50-і кіламетрах ад Амстэрдама. Прачнуліся а сёмай. Паснедалі. Выехалі ў Амстэрдам напачатку дзявятай. На вуліцы змрочна. Неба ў аблоках, як кажухах…

На полі авечкі, як аблачынкі. Пасуцца каровы без пастушак…

Кукуруза, як асака…

Амстэрдам. Веластаянка. На ёй недзе каля дзвюх тысяч ровараў…

У межах горада наведалі сыраварню. Тут і сыры гатуюцца і драўляны абутак робіцца. Паглядзелі на галандскіх кароў, а каровы на нас…

Гаспадар сыраварні вясёлы мужык гадоў сарака. З сырамі, як з дзецьмі…

На сыраварню следам за намі прыехалі кітайцы. Фатаграфаваліся з каровамі. Вакол фермы хоць і чыста, але смуроду хапае. Праўда, мух няма…

Пасля фермы наш куратар Зміцер павёз нас глядзець на брыльянты. Мы з Людмілай прабегліся па залах і пайшлі ў Музей Ван Гога, які быў у метрах ста ад брыльянтаў. Чарга. З намі стаялі яшчэ дзве нашы вандроўніцы, але яны не дастаяліся, бо пасля брыльянтаў была экскурсія па каналах Амстэрдама. У музей трапілі праз хвілін сорак. Тры паверхі. На першым — аўтапартрэты

Ван Гога. На другім — сярод іншых выдатных работ галоўная карціна «Сланечнікі». На трэцім работы мастака і яго папярэднікаў і паслядоўнікаў. Мы з Людмілай да «Сланечнікаў» падыходзілі некалькі разоў. Узгадаўся Язэп Драздовіч. Ён наш Ван Гог, у якога яшчэ няма такога вялікага музея.

У Музеі Ван Гога былі гадзіны паўтары. Сярод наведвальнікаў у большасці немцы і рускамоўныя. Кітайцы, як гаспадары…

На першым паверсе музея ёсць вялікая крама, дзе ўсё прадаецца з партрэтамі Ван Гога і рэпрадукцыямі яго карцін. Тут жа можна набыць вопратку для сабачак з сюжэтамі карцін мастака.

Ад Музея Ван Гога пайшлі на пляц Мадам, арыентуючыся па мапе, шлях на якой нам пазначыў Зміцер.

Прайшлі праз рынак цюльпанаў. Кажуць, што калі хто вынайдзе новы гатунак цюльпанаў, таму адразу ў Амстэрдаме даюць кватэру і для абжытку нейкія грошы.

Прыйшоўшы на пляц Мадам, дзе мы павінны былі сабрацца ўсе, маючы яшчэ шмат вольнага часу, з Людмілай схадзілі ў каралеўскі палац. Білеты па 10 еўра. Чаргі няма…

Хадзілі па Музеі-палацы цэлую гадзіну. Узгадаўся Нясвіжскі палац. Бачылі карціны Клода Манэ, Пісара, Манэ, Радэна, Рафаэля, Дэга, Гагена і іншых цудоўных мастакоў.

Пасля палаца папілі гарбаты. Яшчэ да ад’езду быў вольны час, і я прапанаваў Людміле пахадзіць па квартале чырвоных ліхтароў. На гэты раз у вітрынах прастытутак было шмат. Апрануты, як на конкурсах прыгажосці, у міні-бікіні. Пры нас нейкі мужык гадоў пяцідзесяці спакусіўся і зайшоў у пакой да прастытуткі. Тут жа шкло было заштарана і, думаю, тут жа праца пачалася…

У вітрынах сэкс-шопаў усякай-усячыны. Словам, усё для сэксу, усё для перамогі!

На вуліцах моладзь, седзячы пры сценах дамоў, курыць і, чутна па паху, не проста цыгарэты…

Ровары ў Амстэрдаме ў большасці, як у нас «Запарожцы», паіржавелыя…

У 16.30 стомленыя Амстэрдамам выехалі ў бок Парыжа…

Каровы ідуць на ферму адна за адной, як у чарзе, аддаць сваё малако…

Каля дарогі побач з каналам ходзяць дзікія гусі з гусянятамі, як у казцы…

Цэлае поле цюльпанаў, нібы карціна Ван Гога…

На акне аўтобуса побач са мной уладкаваўся нейкі чорны жучок і ўжо другую гадзіну едзе з намі з Амстэрдама, як нелегал…

Едзем праз Бельгію. Усё змянілася, нават пакрыццё дарогі…

Каля дарогі ветракі, як мёртвыя з космасу, стаяць…

У Бельгіі наш Максім у свой час цэлы месяц жыў…

Чорныя авечкі, як камінары…

Антверпэн. Храмы. Шмат. Едзем, на жаль, не спыняючыся…

У горадзе на ўскрайку сквера заяц сядзіць і думае, як зварыць піва…

Да Бруселя 31 кіламетр. Чорны жучок на акне яшчэ ўсё сядзіць. Куды ж ён з намі едзе? Няўжо і ён у Парыж?

Брусель. Аэрапорт. Самалёты садзяцца і ўзлятаюць…

Праехалі Ватэрлоа. Курган. На ім леў…

Указальнік на Парыж. Да горада 254 кіламетры…

Горад Монс. Храмы…

І тут ветракі… Дон Кіхоту ёсць дзе разгуляцца…

Вось і Францыя. На гадзінніку дзевяць вечара. Жучок усё яшчэ сядзіць на шыбіне…

На полі каровы колеру кавы з малаком…

У Францыі ўжо жніво…

Едзем па дарозе, а следам за намі па палях скачуць мушкецёры з Баярскім. Нас не дагоняць…

Аэрапорт Шарля дэ Голя. Свеціцца, як уваход у іншы свет…

Перад уездам у прадмесце Парыжа Іль дэ Франс Зміцер настрашыў нас: «Беражыце грошы! Тут поўна бандытаў і злодзеяў!»

А палове дванаццатай мы, настрашаныя, заехалі ў прадмесце Парыжа. Змрочна. Едзем. Вулка вузкая. З аднога боку застаўленая машынамі. Прыпыніліся. Побач ішлі індусы. Дзеці пачалі паказваць на наш аўтобус пальцамі, а потым і кланяцца нашаму аўтобусу. Пастаяўшы хвілін пяць, мы пасунуліся далей. Хутка зноў спыніліся. Праз некалькі хвілін адчыніліся дзверцы аўтобуса, і да нас зайшоў невысокі, гадоў сарака мужчына з пісталетам на баку. Апрануты па-спартыўнаму, у бронекамізэльцы. «Відаць, будуць рабаваць!» — падумалася. Паглядзеў на вуліцу. Жучка на шыбіне няма. Саскочыў! Гляджу, а на вуліцы перад намі стаіць машына з мігалкай. Каля машыны ўзброеныя людзі. Праз хвілін дзесяць мы даведаліся, што гэта парыжскія камісары — служба камісарыяту. Пасля таго як наш куратар Зміцер і кіроўцы растлумачылі камісарам, хто мы і чаго тут ездзім сярод ночы, далей мы паехалі следам за машынай з мігалкай. Прыехаўшы да гатэля, мы камісарам аддзячылі гучнымі воплескамі.

З Людмілай пасяліліся ў пакой № 402. Дзверы з кодам, і калі ты ў пакоі, то не зразумела, ці ты замкнуты, ці не. Каб ніхто не ўлез сярод ночы да нас, я падпёр дзверы пляшкай з вадой…

### *Дзень чацвёрты. Парыж*

*7.07.2015.* Спалі добра. Снедалі слабавата. Ёгурты, варэнне, печыва, кава. Навокал чарнаскурыя. «Гэта табе Парыж, дзетка!» — сказала мне Людміла…

Страшны Парыж… Спалоханыя Парыжам…

Экскурсію па Сене ніхто не захацеў…

Каля атэль-дэвіля наша стаянка, як стаянка першабытнага чалавека…

Праляцеў матылёк, як французскі пацалунак…

Вуліцы вузкія. Транспарту не праехаць… Хапае смецця… Да цэнтра, да сапраўднага Парыжа ехалі амаль гадзіну…

З аўтобуса ўбачыў жабрачку каля дрэва. Побач прывязаныя два сабачкі. Большы залез на меншага і, паскуднік, робіць, што яму хочацца…

Вада ў Сене, як мокрая сівая трава, якой сніцца сена…

На мосце замкоў ад маладажонаў, як моху на гнілым дрэве…

Трыумфальная арка. Сярод іншых гарадоў на ёй напісаны нашы Магілёў, Полацк і Краснае. Краснае — гэта мястэчка па дарозе на Маладзечна, і яно непадалёку з Ракуцёўшчынай. У свой час мой бацька з Пугачоў у Краснае ездзіў па брыкет на зіму…

У рэстаране каля Цюільры елі мяса і пілі віно, як парыжане…

Купілі парфуму на Елісейскім полі. Калі заходзілі ў салон, думалі толькі паглядзець і панюхаць…

У Нотр Дам чарга. Людзі праходзяць праз Храм, як праз мінулыя стагоддзі…

Нотр Дам збудаваны ў 1163 годзе… Уяўляўся не такім, якім быў убачаны. Уяўляўся больш духазахапляючым… Як верш Генрыха Гейнэ…

Ішоў дробны дождж, як прывітанне з Радзімы…

Эйфелева вежа, як шкілет Францыі, якая была…

Эйфелева вежа, як лесвіца ў неба, дзе ніхто нікога не чакае…

На фоне вежы ўсе фатаграфуюцца, як моляцца…

У дворыках Луўра ў каменных чашах з вадой спіць звадзянелае мінулае…

У адной з ніш Луўра скульптура апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага. Ён адзін з герояў цыкла раманаў пра Пранціша Вырвіча Людмілы Рублеўскай…

Скульптура. Залатая Жанна д’Арк на залатым кані, як Дон Кіхот, які стаў жанчынай…

Мурыны ў Парыжы са сваімі сувенірамі не такія прыставучыя, як у Італіі…

Вулічная кавярня. За столікамі сядзяць мужчыны з кавай, як напалеоны недабітыя…

Французская мова, як Мірэй Мацье…

Баяўся Парыжа. Цяпер люблю Парыж…

У Парыжы і сёння жыве Напалеон…

Наш Мінск, як далёкі-далёкі прыгарад Парыжа…

Каля Эйфелевай башні ходзяць вайскоўцы са зброяй…

Праехала з дзясятак паліцэйскіх машын. Наш гід па Парыжы сказала, што гэта яны паехалі туды, дзе зараз адбываецца нейкі мітынг…

У Парыжы секлі галовы, як капусту…

Вятрак, як удасканаленая гільяціна…

Гаворым з усімі па-беларуску. Ніхто не пытаецца: «Чаму?» Некаторыя спрабуюць нам адказваць на мове…

### *Дзень пяты. Бардо*

*8.07.2015.* Начавалі ў Пуацье. Прачнуліся ў 6.45. За акном воблакі. Сонца няма. Нехта ўчора вечарам пажартаваў: «Чым бліжэй да мора, тым халадней!»

У Пуацье ў свой час дапытвалі Жанну д’Арк. Нас ніхто не чапаў…

На полі сланечнікі. Маладзенькія. Растуць у чаканні свайго Ван Гога…

Сланечнікі стаяць, адвярнуўшыся ад дарогі, як вінаватыя, што сонца няма…

Нарэшце з’явілася сонца. Аблокі зніклі, нібыта былі цукровыя і расталі ў нябеснай сінечы-вадзе…

Па зжатым французскім полі ходзяць вароны. Чорныя, як мушкецёры кардынала…

Вінаграднік. Маладыя, нібыта толькі што створаны Богам…

Прыехалі ў Бардо. Каля 300 года да н. э. на ўзбярэжжы Антлантычнага акіяна было заснавана кельцкае паселішча Burdigala. Паселішча было заваяванае рымлянамі ў 60 годзе да н. э. і стала цэнтрам гандлю волавам і свінцом. Праз некаторы час горад стаў сталіцай рымскай правінцыі Аквітанія, і найбольшага росквіту дасягнуў у III стагоддзі. У 276 годзе Бардо быў разрабаваны вандаламі. У 409 годзе горад зноў быў узяты вандаламі, у 414 вестготамі, а ў 498 годзе франкамі. У выніку гэтых спусташэнняў пачаўся паступовы заняпад горада.

У канцы VI стагоддзя Бардо зноў пачаў хутка развівацца і стаў адміністрацыйным цэнтрам навакольных земляў і цэнтрам архідыяцэзіі ў складзе Франкскага каралеўства. У канцы VII стагоддзя зноў пачаўся заняпад Бардо. У 732 годзе горад быў разрабаваны войскам Абд эр-Рахмана, пасля таго як ён перамог войска герцага Эда Аквітанскага.

Пад уладай Каралінгаў Бардо стаў важным ваенным цэнтрам, які быў прызначаны для абароны вусця ракі Гароны ад нападаў вікінгаў. У канцы X стагоддзя Бардо быў атрыманы ў спадчыну герцагамі Гасконскімі.

З XII да XV стагоддзя Бардо аднавіў свой уплыў дзякуючы шлюбу герцагіні Элеаноры Аквітанскай і Генрыха Плантагенета, які праз месяц пасля вяселля стаў каралём Англіі — Генрыхам II. У гэты перыяд горад квітнеў дзякуючы гандлю віном. З 1362 да 1372 года, Бардо стаў сталіцай незалежнай дзяржавы, абвешчанай Эдуардам Чорным Прынцам, але пасля таго, як ён быў забіты ў бітве каля Кастыльёна (1453 г.) гэтая дзяржава была далучаная да Францыі. Асноўнай крыніцай развіцця горада ў гэты час быў гандаль віном з Англіяй.

Рэчка Гарон. Узгадаліся нашы пісьменнікі Алесь Гарун і Алесь Гаўрон. У час Другой сусветнай вайны ў Бардо знаходзілася база італьянскіх падводных лодак …

У Гароне вада, як гарчыца. Рака вірлівая, бо рухаецца разам з акіянскімі прылівамі і адлівамі. Купацца нельга.

Спыніліся ў скверыку непадалёку ракі. Праз дарогу побач стаіць вандроўны цырк «AMAR», адгароджаны цыркавымі фурамі ад свету, як жалезнай гарадской сцяной…

Праз хвілін дзесяць пасля нашага прыезду з’явіўся мясцовы экскурсавод. Міхаіл Кротаў. На вялізарнай чорнай сумцы, што ўздзета на плячук, дзве наклейкі. На адной нешта мясцовае, а на другой вялікі маскоўскі Крэмль…

Каля вандроўнага цырка да мяне падышоў мужчына і запытаўся: «Рускія?» — «Не! Беларусы!» — «А я малдаванін!» Усміхнуліся адзін аднаму, як родныя…

Спыніліся каля помніка Мішэлю Мантэню. Захацелася перачытаць яго «Вопыты»…

Міхаіл Кротаў правёў нас па ўзбярэжжы і па невялічкай частцы горада. Час на экскурсію быў абмежаваны, бо наперадзе чакала вінакурня. Міхаілу, мяркуючы па яго выглядзе, хацелася на дэгустацыю він…

Сцены будынкаў чорныя з даўніх часоў. Чорныя ад дыму параходаў і пажараў…

Крыху пахадзіўшы з Міхаілам Кротавым, мы з Людмілай пакінулі нашых сяброў па вандроўцы і пайшлі гуляць па Бардо самастойна…

Зайшлі ў музей-вежу. Паглядзелі на горад з вышыні сарака метраў. Чарапіца на дамах старая, месцамі патрэсканая. Насупраць нас праз расчыненае акно ўбачылі ката. Ён падобны на майго Мурзіка, якога няма ў гэтым свеце ўжо гадоў сорак…

Былі ў саборы Святога Андрэя. Слухалі арганную музыку. Акрамя нас у Храме нікога не было. І я пачаў уяўляць даўніну. У Храме поўна людзей. Моляцца. Заляцеў верабей. Спалохаўся. Шукае, як вылецець. У вітражах агонь, дождж, дым, вецер, крыкі, плач, смех...

Свечкі гараць. Музыка. Агонь свечак ад музыкі гайдаецца, як залаты маятнік у гадзінніку. Мы ў чатырнаццатым стагоддзі. Баімся выйсці на вуліцу. Там узброеныя чужынцы…

Ходзяць манахі. Твары схаваны. Шукаюць нас. А мы сядзім сярод вернікаў…

Чым даўжэй слухаю арган, тым глыбей правальваюся ў мінулае. Толькі фанерныя крэслы (падобныя на крэслы, што былі ў бацькоўскай хаце, калі я быў малым) напамінаюць, што мы ў дваццаць першым стагоддзі…

Каля сабора Святога Андрэя паабедалі ў кавярні старога індуса. Запомнілася гарбата з зёлак. Пазнаў палын і мелісу. Падобнай ніколі не піў…

Потым з Людмілай наведалі яшчэ некалькі Храмаў, што былі на шляху да нашага аўтобуса…

Бардо пакінулі а шостай. Праз паўтары гадзіны пачалася гарыстая Францыя. На гарызонце дзве велізарныя трубы цеплавой электрастанцыі. Дымяцца, як у нас каля Мінска…

Не ўсе французы жывуць у Парыжы…

Праехалі паўз невядомы нам замак. Прыгожы, як намаляваны геніяльным мастаком…

Ехаць да начлегу далёка. Каб прабавіць час, дастаў пісьменніцкі адрасны даведнік. Спіс пісьменнікаў не дачытаў да палавіны…

### *Дзень шосты. Лларэт дэ Мар*

*9.07.2015.* З Бардо прыехалі начаваць у гатэль «BiBi». Амаль дванаццаць. З персаналу гатэля нікога няма. Нейкія кіроўцы сядзяць перад уваходам і п’юць піва. Наш куратар Зміцер захваляваўся, што не можам засяліцца. Недзе толькі праз паўгадзіны разабраліся, што тут да чаго. Пасяліліся. Нумар невялічкі. Вада ёсць, а мыла няма. Інтэрнэт працуе, але з вялікімі перапынкамі. Спалі нармальна. Усталі а палове сёмай. Паснедалі, як і ўчора — слабавата. Выехалі ў восем. Да мора засталося 200 кіламетраў. Сонечна. Адчуваецца, што будзе горача. Навокал горы. Дробныя. Ветракі. Пірэнеі. Прыгожа, як у казцы…

У 9.05 пераехалі мяжу паміж Францыяй і Іспаніяй. Зміцер паведаміў, што да мора засталося 62 кіламетры. Да Барселоны 107. Даведаліся, што прозвішча ў Зміцера Жызнеўскі…

У 10.40 прыехалі ў Лларэт дэ Мар. У горадзе 50 тысяч жыхароў. З іх больш як чатыры тысячы рускамоўныя. Нам з Людмілай і яшчэ дванаццаці чалавекам з нашай вандроўнай групы па сістэме «Фартуна» выпаў чатырохзоркавы гатэль «Гран Гарбі», а астатнія, што заказвалі трохзоркавы, гатэль «Самба». Засяленне пасля дванаццаці. Ёсць вольны час. Пакінуўшы рэчы на захаванне, мы з Людмілай пайшлі да мора. Да яго 350 метраў. На пляжы людна. Пад нагамі драбнюсенькія каменьчыкі. Гарачыя, як вугалькі. Зайшлі ў ваду. Пастаялі. Цудоўна! Вярнуліся ў гатэль. Нашы ўжо засяліліся. Нам выпаў 443 нумар. Адчынілі. Зайшлі, як у лядоўню. Выйшлі на балкон. Пяты паверх. Унізе басейн. Дзеці крычаць. Шумна. Што тут будзе ноччу? Пачалі раскладваць рэчы. Крыху супакоіліся. У пакой з вуліцы зацякло цяпло. Паабедалі. Пераапрануліся і пайшлі да мора. Выбралі месца каля скалы. Не так людна. Побач немцы і рускія. Некаторыя жанчыны з голымі грудзямі. Паблізу купаюцца трое негрыцят. Узгадалася: «Дзесяць негрыцят пайшлі купацца ў мора…» Пасля мора пайшлі па крамах. Купілі сяго-таго на будучыя абеды. Людміла купіла сукенку. Крамнік тут жа пацікавіўся: «Адкуль вы?» — «З Беларусі!» — «У вас там добра!» — «Ага!»

У сем гадзін пайшлі вячэраць. Яды цэлыя горы! Бяры што хочаш і колькі хочаш! Павячэралі добра.

Наш куратар Зміцер паехаў назад у Мінск з вандроўнікамі, якія ўжо адпачылі, а нас пакінуў на мясцовую Алену. Яна прыйшла да нас пасля вячэры. Гаворыць з акцэнтам. Сабрала грошы на экскурсіі і абяцала кантактаваць з намі. Словам, наша жыццё ў Іспаніі пачалося…

### *Дзень сёмы. Лларэт дэ Мар*

*10.07.2015.* Спалі добра. Выспаліся. Праўда, перад сном наслухаліся цыганскіх песень. У гатэлі жывуць цыганы. Іх многа. Мужчыны па кілаграм дзвесце. Жанчыны па сто. Дзеці худзенькія і дробненькія. Усе вясёлыя і шчаслівыя.

Выйшаў на балкон, як на неба. На вуліцы сонечна. Крычаць чайкі. У басейне купаюцца цыганы…

Паснедалі і пайшлі на пляж, але ўжо ў іншае месца, чым учора. Тут глыбей. Вада чысцюткая, як сляза, і вельмі салёная…

Удалечы белы ветразь, як вершаліна марской белай піраміды…

Лянівыя хвалі спакойна б’юцца аб бераг. Яны, як гук вадзяны, які раптам уключаецца і выключаецца. Чамусьці стала сумнавата. Відаць таму, што ўсё роднае за тысячамі кіламетраў…

На пляжы ніхто нічога не прадае. Усе задаволеныя самі сабой, нібыта пясок пад нагамі…

Лётаюць чайкі, як беспілотнікі…

Пасля чатырох пайшлі зноў купацца. Далёка па пляжы не хадзілі. Спыніліся сярод моладзі. Немцы. Іх тут, як пяску…

З боку мора праляцеў голуб, нібыта ўцёк ад некага…

Поблізу з намі прыпляжыліся хлопец з дзяўчынай. Прыехалі на матацыкле. Знялі шлемы, як скафандры. Ёй гадоў дваццаць восем. Яму гадоў трыццаць. У яе доўгія чорныя прамыя валасы. Ён стрыжаны пад нуль. Няголены некалькі дзён. Разаслалі невялічкі дыванок. Ляглі. Абняліся, пачалі цалавацца, нібыта нікога побач няма. Нацалаваўшыся, адсунуліся адзін ад аднаго. Лежачы распрануліся, пераапрануліся для купання. Яна засталася топлес. Грудзі маленькія. Маладыя паабдымаліся. Пайшлі да вады. Хвілін дзесяць стаялі па калена ў моры. Зноў цалаваліся. Потым яна пайшла на глыбіню, нырнула. Праплыла пад вадой метраў пяць. З’явіўшыся з вады, усміхнулася. Чорныя доўгія валасы сталі яшчэ чарнейшымі і даўжэйшымі, а грудзі яшчэ зменшыліся. Ён падплыў да яе. Абняў. Зноў сталі цалавацца. Паплаваўшы разам, паціскаўшыся, выйшлі з мора. Ляглі на дыванок. Працягнулі цалавацца…

Прыйшла маладая пара каталанцаў з дзіцем. Малой недзе з паўгода. Тата, надзьмуўшы басейн для дачушкі, пачаў вядзерцам насіць ваду. Маці пасадзіла ў басейнчык малую, і тая пачала радавацца жыццю. Потым мама ўзяла дзяўчынку і панесла ў мора. Малая не спалохалася. Пачала нешта гудзець і смяяцца…

На вольнае месца і бліжэй да вады прылягла каталанка гадоў пяцідзесяці. Закурыла. Дастала марозіва і пачала яго смакаваць, час ад часу ўспамінаючы пра цыгарэту…

Вярнуліся ў гатэль. Інтэрнэт амаль не працуе. У мяне на смартфоне фэйсбук застыў на сёмым ліпені на інфармацыі са здымкам Адама Глобуса: «Зараз спакую ў гэтую валізу кнігі, накупленыя ў Барселоне, і пачну збірацца ў Мінск…»

Пасля вячэры пайшлі гуляць па горадзе сярод крамак. Людна. Шмат рускамоўных. Прыйшлі да царквы Сант-Рома. Зачынена. У дворыку два хлапчукі футболяць мяч у сцены Храма…

За дзень наш пакой напоўніўся гарачынёй. Ёсць кандыцыянер, але мы ніяк не можам яго ўключыць. У гадзіну ночы Людміла пайшла на рэцэпшэн і папрасіла вырашыць нашу праблему. Праз хвілін пятнаццаць прыйшоў расейскамоўны мужык з велізарнай адвёрткай. Запытаўся пра картку, якой мы адчыняем дзверы. Далі. Ён яе ўставіў куды трэба, зачыніў балкон і кандыцыянер запрацаваў...

Цыганы з гатэля з'ехалі і навокал стала нязвыкла ціха…

### *Дзень восьмы. Барселона*

*11.07.2015.* Субота. Усталі а палове дзявятай. Сонечна. Чайкі, як белыя вароны, каркаюць за акном. У басейне крычаць радасныя дзеці…

Паснедалі. Я без асаблівай асалоды…

Пайшлі купацца. На пляжы сустрэлі траіх нашых з «Самба». Ала з Мінска і сямейная пара Валера і Ала з Ліды. Яны ўжо купаліся. Мы далучыліся да іх. Вада ў моры цудоўная! Зойдзеш і потым выходзіць не хочацца. Каля нас загарала масквічка родам з Самары. Пагаманілі. Побач шмат маладых палякаў. Гавораць пра ўсё, відаць, думаюць, што ніхто іх не разумее…

У 13.30 паехалі ў Барселону. Кіроўцу завуць Педра. Наш экскурсавод паведаміла, што ў Барселоне цяпер мэр жанчына і яна лютуе. Яна супраць турызму.

На многіх дамах нацыянальныя каталонскія сцягі…

Праз хвілін сорак прыехалі ў Барселону. Горад Сонца…

Ідзём праз скверык. Навокал лётаюць зялёныя папугаі. Нешта крычаць па-каталонску…

Прыйшлі да Храма Святога Сямейства, які з 1882 года па праекце Антоні Гаўдзі (25.06.1852 — 10.06.1926) яшчэ ўсё будуецца. Расказваючы пра Храм, экскурсавод паведаміла: «7 чэрвеня 1926 года 73-гадовы Гаўдзі выйшаў з хаты, каб адправіцца ў свой штодзённы шлях да царквы Сант-Фэліпэ-Неры, вернікам якой ён быў. Ідучы па вуліцы Гран-Віа-дэ-лас-Картэс-Каталанес паміж вуліцамі Жыроны і Байлен, ён быў збіты трамваем і страціў прытомнасць. Рамізнікі адмаўляліся везці ў бальніцу неахайнага, невядомага старога дзеда без грошай і дакументаў, баючыся нявыплаты за паездку. У рэшце рэшт, Гаўдзі даставілі ў шпіталь для жабракоў, дзе яму аказалі прымітыўную медыцынскую дапамогу. Толькі на наступны дзень яго знайшоў і апазнаў капелан сабора Саграда-Фамілья Масен Хіль Парэс-і-Віласау. Да таго часу стан Гаўдзі пагоршыўся настолькі, што лепшае лячэнне не магло яму дапамагчы. Гаўдзі памёр 10 чэрвеня 1926 года і быў пахаваны двума днямі пазней у крыпце недабудаванага ім сабора».

Храм Святога Сямейства, як з гразі ластаўкамі злеплены…

Усе дарогі ў Барселоне турыстаў вядуць да Храма Святога Сямейства…

Гляджу на шпілі Храма. Была б шапка на галаве, дык сама б звалілася на зямлю…

Праехалі па праспекце Дыяганаль…

Праспект Гарсія. Дамы збудаваныя па праектах Гаўдзі…

Парк Сьютадзелья. Гэта іспанская «ВДНХ», якая была пабудавана да Сусветнай выставы 1888 года. Прыйшлі да фантана, а ў ім голуб плавае патанулы…

У Барселонскім порце высадзіліся з аўтобуса і ўсе разышліся хто куды хоча. Мы з Людмілай пайшлі блукаць па старых вулачках Барселоны.

Напачатку зайшлі ў сабор Святога Крыжа і Святой Еўлаліі (ісп.: La Catedral de la Santa Cruz y Santa Eulalia), які размешчаны ў гатычным квартале.

Храм з'яўляецца рэзідэнцыяй архібіскупа барселонскага і галоўным саборам Барселоны.

У саборы ішла служба, якая транслявалася на экранах. Сярод выступоўцаў, здаецца, была і мэр Барселоны…

На вуліцы каля Сабора музыка, пад якую танчаць старыя. Пастаялі, падзівіліся, парадаваліся за каталонцаў…

Паблізу Сабора і каля Дома Святой Клары зайшлі ў невялікую кавярню, якая месціцца ў сярэднявечным будынку. Замовілі паесці. Маладая каталонка хуценька ўсё падала. Смачна…

Пайшлі па вулках. Выйшлі на вуліцу, дзе грукалі барабаны і дуды гудзелі. Людзі ў нацыянальных строях на насілках неслі выяву нейкага свайго святога. Усе радаваліся. Натоўп спыніўся. Спыніліся і мы. Побач з намі на тратуары, прыхінуўшыся да сцяны старога дома, сядзеў здаравенны жабрак з вялікім чорным сабакам. Сабака ляжаў і, паклаўшы галаву на зямлю, як на плаху, жаласліва глядзеў на ўсё, што адбываецца побач…

Амаль непрытомных Сабак і Гражданаў за тры гадзіны вандроўкі па гатычным квартале Барселоны мы бачылі некалькі разоў…

Каля бульвара Рамбла стаіць манумент Калумбу вышынёй 60 метраў. Ён быў пабудаваны да Сусветнай выставы 1888 года і размешчаны ў тым месцы, куды Калумб вярнуўся са свайго першага падарожжа ў Амерыку…

Каталонцы на пытанне, куды глядзіць Калумб адказваюць: «Не ведаем! Але дакладна ведаем, што дупай глядзіць на Мадрыд!»

На пачатку дзявятай гадзіны мы ўсе сабраліся ў Барселонскім порце. Тут ад нашай экскурсаводкі даведаліся, што мы з Людмілай хадзілі побач з музеем Пікасо. Доўга шкадавалі, што не натрапілі на музей. Цяпер трэба будзе яшчэ раз ехаць у гэты горад Сонца, каб схадзіць да Пікасо. На жаль, усе экскурсаводы расказваюць падрабязна толькі пра тое, дзе знаходзяцца крамы і прыбіральні…

У порце шмат неграў. Прадаюць усялякую халеру, але не хапаюць за рукі, каб купіў…

Паехалі да Спяваючых фантанаў. Па дарозе бачылі футбольны стадыён, дзе праходзілі алімпійскія гульні. Каля фантанаў сабралася тысячы людзей. У асноўным моладзь. Глядзець было на што, але гэта не Пікасо…

Тут жа непадалёку ад фантана, каля сцяны нейкага адміністрацыйнага будынка на кардоне ляжаў мужчына гадоў сарака. Побач з ім чорны сабака, які, здавалася, вось-вось памрэ…

Сцямнела. Фантаны сталі каляровымі. Прыгожымі. Каля фантанаў я купіў Людміле кастаньеты…

Кажуць, што Барселона — гэта горад, у які хочацца вярнуцца. Па-мойму, Барселона — гэта горад, у якім хочацца жыць…

### *Дзень дзявяты. Лларэт дэ Мар*

*12.07.2015.* Снілася Барселона. Стары горад. Храмы. Гражданы і Сабакі…

Прачнуліся з лёгкасцю. Пайшлі паснедалі. Смачна. Лёгкая дэзарыентацыя ў часе. Які мы тут дзень? Колькі засталося? Адпачываючыя часу не назіраюць…

Пайшлі на мора. Народу, як апалага лісця пад нябеснай бярозай…

Знайшлі больш-менш прасторнае месца. Побач кароткастрыжаны мужчына гадоў сарака. Валасы выбеленыя. У вуху завушніца. Зойдзе ў ваду і тры-

маецца за канат, якім аддзелена тэрыторыя для катэраў. Не плавае. Паводзіць сябе, як дзеўка. Відаць, гэта і ёсць прадстаўнік гей-Еўропы…

На спецыяльнай калясцы ў мора завезлі інваліда. Выкулілі, як мяшок, і ён паплыў. Праз хвілін пяць на гэтай калясцы ў мора ўвезлі старую. Побач з ёй пялёскаліся дзеці. Відаць, яе ўнукі. Праз паўгадзіны старую вярнулі на зямлю, а інвалід некуды паплыў і галавы ягонай не відаць…

Наплаваўшыся, вярнуліся ў нумар. Інтэрнэт не працуе. Не бядую. Адпачываю!

Паабедаўшы, зноў пайшлі да мора. Плаваюць катамараны ў выглядзе рарытэтных машын. Ствараецца ўражанне, што яны паўсплывалі са дна мора…

Побач немцы і палякі. П’юць піва, кураць. Маладыя, шумныя, бессаромныя… Нібыта прыехалі адпачываць з фронту…

Прыгажунь амаль няма…

Пасля вячэры зайшлі ў Храм, што непадалёку нашага гатэля. Якраз ішла служба. Селі ў апошнім радзе. Уставалі, калі было трэба, разам з усімі, садзіліся. Раптам усе пачалі адзін аднаму рукі пацiскаць. Да мяне падышоў каталонец, пацiснуў руку…

Пайшлі па крамках. Поўна рускамоўных. Тавараў поўна, а купляць асабліва няма чаго…

Вярнуўшыся ў гатэль, пайшлі на шоу (танец жывата). Перад намі сядзеў мужчына гадоў сарака пяці. У яго на спіне на майцы было напісана па-беларуску «Крумкачы». Толькі я захацеў загаварыць з мужчынам, як чатыры танцоркі пачалі сыходзіць са сцэны і запрашаць мужчын да сябе танцаваць. Я вырашыў уцячы…

Неба зорнае. Зорка Венера, як далёкая Беларусь…

## *Дзень дзясяты. Лларэт дэ Мар*

*13.07.2015.* Панядзелак. Ноччу час ад часу прачынаўся. Чайкі крычалі, як рагаталі…

На пляжы сёння людзей меней. Мясцовыя на працы…

Разаслалі пакрывала. Селі. Людміла знайшла 50 цэнтаў…

Побач іспанкі загараюць. Пажылая чытае часопіс, а маладзенькая кнігу…

Мора спакойнае, як стомленае…

Да вады прайшоў дзядок гадоў пад дзевяноста. Худы, як з палону. Зайшоў у ваду па калена, пастаяў і вярнуўся да старой. Нешта расказаў ёй і заўсміхаўся…

Пад парасонам рускія гуляюць у карты…

Каменьчыкі, як скамянелы рыс…

Побач дзве сям’і. Культурныя. Бацькі нашага ўзросту размаўляюць па-руску, а іх дзеці паміж сабой і ў звароце да бацькоў па-нямецку…

«Андора адмяняецца! На гэтым тыдні там бастуюць магазіны. Без магазінаў там няма чаго рабіць!» — заявіла экскурсавод, калі мы селі ў аўтобус, каб паехаць у Батанічны сад.

Кіроўца, які першы раз узяўся везці экскурсію, прывёз нас не да Батанічнага саду, а да секс-шопа. Пасмяяліся…

На ўваходзе ў Батанічны сад нас усіх па чарзе сфатаграфавалі з папугаем. Пачуўшы, што людзі гавораць па-руску, папугай пачаў крычаць: «Давай!

Давай! Давай!» Калі мы сталі смяяцца, нашымі галасамі засмяяўся і папугай. Потым, калі выходзілі назад, нам прапанавалі выкупіць здымкі. Купілі.

У Батанічным садзе сотні розных кактусаў. Сярод іх можна было заблудзіцца…

Пасля Батанічнага саду паехалі на вінакурню. Дэгуставалі віны з трыццаці бочак. Мы выбралі віно «Сальвадор Далі»…

Надэгуставаўшыся він, паехалі ў гарадок Санта Крысціна на фабрыку скураных вырабаў. У аўтобусе было чалавек пяцьдзясят. Нашых чалавек дзесяць, а астатнія з іншых гатэляў. Шмат расіян. Яны на фабрыцы сёе-тое і купілі, а мы нічога. Вельмі дарага…

Гарадок нейкі камуністычны. На сценах сярпы з малаткамі і зоркі чырвоныя…

Вяртаючыся ў Лларэт дэ Мар, убачылі аварыю. Машына ўрэзалася ў слуп. Прыехалі пажарныя і хуткая…

Вечар. Па тэлевізары (ёсць расейскамоўны нямецкі канал) паведамілі, што сёння ў прыгарадзе Парыжа адбылося абрабаванне. Магчыма там, дзе мы жылі…

Перад сном пахадзілі па Лларэт дэ Мар. Усё, як у кіно…

### *Дзень адзінаццаты. Лларэт дэ Мар*

*14.07.2015.* Спалася больш-менш нармальна. Каб не кандыцыянер, дык ці заснулі б. Стала вельмі горача. Учора вечарам у 10 гадзін было 25 градусаў…

Чайкі замоўклі, нібыта ў іх, як у цыганоў, што нядаўна з’ехалі з гатэля, закончыўся актыўны адпачынак…

«У доме цішыня, калі муж у Сібіры, а ў Іспаніі жана…» — пажартавалі ў час снядання побач з намі…

Прыйшлі да мора. Выбралі вольнае месца. Селі і тут жа чуем: «Отодвиньтесь подальше от нас!» Гэта нам скамандавала жанчына кілаграм 140, якая загарала з дачкой кілаграм 100. Мы адсунуліся. Побач праз пару хвілін спынілася сямейная пара з каляскай, у якой сядзела дзяўчынка. Зноў чуем: «Отодвиньтесь от нас!» Каталонцы не зразумелі, што ад іх хочуць, таму паставілі каляску, дасталі з яе малую і пайшлі купацца. «В Москве тепла уже не будет!» — паведаміла жанчына дачцэ і, убачыўшы, што каля іх збіраецца прыпляжыцца мужчына гадоў сарака, зноў завішчала: «Отодвиньтесь! Отодвиньтесь! Отодвиньтесь!»

Праз паўгадзіны сышлі мама з дачкой, што ўсім камандавалі, каб адсунуліся, і адразу вызвалілася паўпляжа…

Паабедаўшы з віном «Сальвадор Далі», пайшлі на мясцовыя могілкі. Па дарозе зазірнулі ў краму. Прадавачкі - карэянкі. Купілі сёе-тое дзецям. Далей пайшлі па мапе. Ідзём, ідзём, а могілак усё няма. Звярнуліся да адзінокай жанчыны, якая праходзіла побач. Людміла да яе па-англійску, а яна ў адказ па-расейску. Пасмяяліся. Жанчына расказала нам, куды ісці, дзе могілкі. Горача. Градусаў 30. Могілкам больш як 100 гадоў. Па-іспанску могілкі — цэментэры. Гучыць, як цэмент. Праз хвілін 15 былі на могілках. Прыгожа, а самае галоўнае — памяць на стагоддзі. А ў нас спаляць і ў агароджу могілак умуруюць твой попел…

Пад вечар зноў пайшлі на мора. Побач жанчына цяжарная. У жываце малое стукае ножкамі і па скуры жывата ходзяць хвалі…

Далей мужчына з дзіцем месяцаў дзесяці. Малы ідзе да вады, хістаецца, як п’яны. Падае і паўзе назад, як чарапашка Ніндзя…

Дзве дзяўчыны Людміле прапанавалі купіць парасон ад сонца. Звярнуліся да яе, бо ўбачылі, што мы з крыжыкамі. Значыць, праваслаўныя, значыць свае. Яны заўтра ад’язджаюць, а парасон ім дома не патрэбен…

Калі не ідзеш да мора, мора прыходзіць да цябе… крыкам чаек.

Вечарам хадзілі па чужым горадзе, як па сваім…

### *Дзень дванаццаты. Лларэт дэ Мар*

*15.07.2015.* Апошні цэлы дзень на моры. Заўтра ад’язджаем. І хочацца дамоў, і не хочацца…

Ужо на мора ходзім, як на працу…

Сёння нашымі суседзямі на пляжы былі нармальныя людзі. Мы з Людмілай па чарзе плавалі. Я, каб не згарэць на сонцы, сядзеў у саламяным капелюшы і ў белай кашулі. Чарговы раз выйшаўшы з мора, Людміла сказала: «Ты, як Ван Гог…»

Паабедаўшы, пайшлі па крамах. Усюды кошты немалыя, але можна таргавацца. Сёе-тое купілі дзецям і бабулі.

Днём у час сіесты тэмпература была 35 градусаў…

Пад вечар пайшлі зноў на мора. Поўна моладзі. П’юць піва, кураць і пасля іх застаюцца кучы смецця…

Апошні раз купаемся ў гэтым моры. Крыху сумнавата. Прывыклі да адпачынку…

Непадалёку ляжыць мурынка гадоў дваццаці. Прыгожая. Уся, як дарагая лялька…

Заўтра ў 14 гадзін пакідаем Лларэт дэ Мар, а інфармацыі пра наш ад’езд не маем. Адкуль і на якім аўтобусе? Гэта крыху нервуе, але, думаю, нас тут ніхто не пакіне…

Пасля вячэры з Людмілай доўга хадзілі па вулках. Развіталіся з горадам…

Схадзілі на вечарыну фламэнка. Увесь час здавалася, што зараз у час танца на сцэну выйдзе здаравенны дон Педра з кулямётам і скажа: «Спакойна! Усім заставацца на сваіх месцах! Гэта абрабаванне!»

### *Дзень трынаццаты. Лларэт дэ Мар. Ліён*

*16.07.2015.* Спалася дрэнна. Горача. Уключыш кандыцыянер, холадна. А пад раніцу яшчэ камар аднекуль заляцеў. Укусіў мяне, а я потым, калі развіднела, забіў яго…

Паснедаў без настрою. Ад’язджаем з райскай мясціны…

Пайшлі да мора. Узышлі на гару, дзе скульптура марачкі, якая чакае мужа. Бачна далёка. Там недзе праз мора Афрыка…

Пахадзілі па гарах пад самым небам. Чайкі, як анёлы…

У горадзе яшчэ раз наведалі вулачкі, якія нам спадабаліся. Зайшлі ў Храм. Потым паабедалі ў кавярні, якая непадалёк царквы…

Да нашай вандроўнай суполкі дадалося яшчэ чатыры чалавекі: Васіль («Крумкач»), ягоная жонка і дзве дзяўчыны. Калі мы звярталіся да Васіля, ён з намі гаварыў па-беларуску…



## Валянціна ЯНАВЕЦ

# ФРАУ «КУДЛАТАЯ»

*Апавяданне*

***Солдаты рассказывали, что в подземных убежищах прячется женщина, вооруженная автоматом. С почти суеверным страхом говорили, что она не дает промаха. Потом она исчезает где-то под землей, и так же неожиданно ее выстрелы раздаются уже в другом месте. Все попытки поймать или убить ее оставались тщетными. И каждый раз, когда очередная команда солдат отправлялась на дежурство в крепость, немцы молились и желали друг другу не встретиться сегодня с этой женщиной, которую они называли «фрау автомат» или «кудлатая».***

Из книги Сергея Смирнова «Брестская крепость».

Ксенія добра ведала, што сыходзіць у другі, невядомы свет: рана ў яе была глыбокая, кроў не спынялася. І такі сум, такая журбота агарнулі яе душу, ёй так стала балюча і адчайна шкада сябе, што нясцерпна страпянулася ў грудзях сэрца, замроіліся, палезлі невясёлыя, цяжкія думкі...

Учора ёй споўнілася трыццаць чатыры гады. Яшчэ і не жыла! Яна міжволі ўсміхнулася сваім думкам, бо ўспомніла, што так казала некалі яе старэнькая бабуля Вера: «Я ж яшчэ і не жыла». Але бабулі на той час было далёка за восемдзесят. А яе ўнучка нават не паспела нарадзіць дзіця. А так марыла аб шчаслівым жыцці, аб сваёй сям'і! І каб вакол яе, Ксеніі, весела штурхаліся, бегалі, спявалі, аб нечым гаманілі яе дзеці, многа дзяцей… Каб гучалі, звінелі іх галасы, нібы тыя вясновыя блакітныя званочкі. І яшчэ хацелася шмат чаго жаночага, проста чалавечага. Але разумела, што ўсё гэта нязбыўнае: яна паціху памірае... Ну, што ж цяпер рабіць… Такі лёс, так ёй наканавана.

Дзень выдаўся вельмі прыгожы. Ясны, сонечны, светлы. З раніцы прайшоў невялічкі, цёплы дожджык. Напэўна, пойдуць расці грыбы. Эх, зараз бы ў лес! Прайсціся пад высокімі гаманлівымі соснамі, удыхнуць уволю, на поўныя грудзі ляснога водару…

---

***Янавец Валянціна Іванаўна*** *нарадзілася 3 снежня 1962 года ў вёсцы Бездзеж Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў (1992). Працуе ў Брэсцкім акадэмічным тэатры драмы. Друкавалася ў газеце «Драгічынскі веснік», «Чырвоная змена», у часопісах «Полымя», «Першацвет», у альманаху «Літаратурны экватар».*

Дні чатыры таму Ксенія здзіўлена заўважыла, што ў яе адкрыліся новыя здольнасці. Раней такого не было. Яна неяк па-асабліваму пачала адчуваць пахі. Спачатку пачула пах цыгарэтнага дыму, якім павеяла аднекуль справа ад яе. Яна ўся напружылася. Баялася, што не заўважыць, як да яе будуць набліжацца ворагі: вядома, курылі яны. Але пасля аказалася, што тыя і не думалі ісці сюды, дзе яна стаяла.

Двое аддзяліліся ад ўсіх, спыніліся ў метрах ста пяцідзесяці ад яе, спакойна курылі, ціхенька штосьці гаварылі, пасміхаліся.

Яны не заўважалі яе, таму, хаваючыся за вуглом казэмата, Ксенія падышла зусім блізка да іх.

Ксенія сама трохі курыла, але зараз, паколькі гэта было даўно, ад цыгарэтнага дыму стала млосна, нават падалося, што зямля завагалася пад нагамі. Новы подых ветру ізноў прынёс пах тытуню, ажно стала моташна. Стоячы ў сваёй схованцы, яна змагла разгледзець іх твары. Доўга ўглядалася. Маладыя, хударлявыя, вясёлыя, успаміналі нейкую красуню Ванду, што частавала іх у Кракаве півам. Нямецкую мову Ксенія ведала вельмі добра, вучыла яе з маленства…

Калі не думаць, хто яны такія, дык, між іншым — прывабныя хлопцы. Асабліва той, што стаіць лявей, высокі, з танклявымі вуснамі, але яны не псуюць яго строгі твар з цвёрдым завостраным падбародкам.

Вось ён зняў каску і цёмна-русыя валасы сыпанулі на лоб. Усміхнуўся. Усмешка на хвіліну падалася ветлівай, нават прыемнай. Такія мужчыны, здаецца, вельмі падабаюцца жанчынам…

Зноў наляцеў свавольны вецярок. І Ксенія нечакана адчула знаёмы да дрыготкі пах крыві… Якія ж яны ненавісныя — гэтыя маладыя, здаровыя, загарэлыя твары!..

Ксенія выйшла са сваёй схованкі, зрабіла крок наперад, насустрач прыгожым, ненавісным мужчынам…

Глыбока ўдыхнуўшы даўкае, горкае паветра, адразу адчула нейкі тупы боль у грудзях. Але кроў з раны па-ранейшаму паволі капала на падгарэлую на сонцы, пажухлую траву. Цела здрыганулася, унутры скаваў холад. Колькі яшчэ засталося ёй часу? Гадзіна, дзве, ці, можа, дзень? Думкі блыталіся…

…Побач стаяла Незнаёмка. У вочы адразу кінуўся мудрагелісты крой сукенкі, доўгія чорныя валасы, амаль да пояса, вытанчаныя рукі.

Ксеніі яна падалася нейкай незямной прыгажуняй, якая сышла з нябёсаў. Схіліўшы галаву, Незнаёмка ўважліва, са спачуваннем, разглядала яе. Ксенія зноў глыбока ўдыхнула гарачае паветра.

Незнаёмка па-ранейшаму спагадліва, нават з нейкай пяшчотай, глядзела на Ксенію. Але маўчала. І ў гэтым маўчанні былі такі боль і спагада, такое шкадаванне, што Ксенія не вытрымала: маленькая слязінка па-здрадніцку затрапятала на вейцы, бліснула на сонечным промні… Дзіўна! Яна яшчэ можа плакаць. Толькі ўчора думала, што выплакала ўсе слёзы ў час пахавання Арсенія. Значыцца, не ўсе. І чаму маўчыць Незнаёмка? Хто яна такая? Што яна тут робіць? Так вольна стаіць, не асцерагаецца.

— Прабач мяне. Я зарана прыйшла. Буду апаўдні, — мовіла Незнаёмка і знікла ў кустоўі…

…Насустрач маленькай дзяўчынцы шпарка крочыць, імкліва размахваючы рукамі, высокі, стройны афіцэр. Чорныя з сівізной валасы, што выбіваюцца з-пад фуражкі, і глыбокі шрам праз левую шчаку надаюць яго твару строгасць. А ён — добры, самы, самы… на свеце!.. Убачыўшы дачушку, расчулена ўсміхаецца, падхоплівае яе на рукі, уздымае высока-высока і кружыць, кружыць…

Яна чуе, як парыпваюць ягоныя скураныя вайсковыя боты, як пахне адэкалон… Ксенія асцярожна дакранаецца да бацькавай шчакі, асцярожна праводзіць пальчыкам па глыбокім шраме і шэпча на вуха:

— Табе сёння вельмі баліць?

— Ды не, — адказвае ён. — Я табе ўжо расказваў, што гэта — шабля. Але больш ні слова пра гэта. Дамовіліся?..

Яна ківае галавой у знак згоды і мацней туліцца да таткі.

Пасля ён ставіць яе на зямлю і дастае з кішэні вялікую цукерку. Светлая радасць ахоплівае Ксенію з незвычайнай пяшчотай…

Яна ганарылася, што яе бацька такі смелы і адважны, што ў яго такая прыгожая вайсковая форма. А больш за ўсё ёй падабалася, калі ў яго быў вольны дзень: тады яны ішлі гуляць у парк. А пасля плавалі на лодцы…

Чамусьці прыгадвалася толькі лета. Многа сонца. Мама — такая прыгожая!.. У шыкоўнай белай блузцы з карункамі, якую бацька прывёз з Францыі.

Бацькі добра размаўлялі па-французску і па-нямецку. Таму маленькая Ксенька лёгка вучыла гэтыя мовы. Нямецкая мова давалася ёй найлепш. І ўжо ў гадоў дзесяць яна магла гаварыць на ёй пра ўсё, што хацела. І пры гэтым — пачувала сябе такой дарослай.

А яшчэ тата займаўся з Ксеняй французскай барацьбой. Мама, гледзячы на іхнія заняткі, смяялася: «Ксенька, ты ж дзяўчынка! Навошта табе вучыцца біцца на кулачках?» Але Ксенія хацела быць ва ўсім, як тата!..

…Ксенія раптам пачула гамонку. Размаўлялі двое. Але аб чым — зразумець нельга. Далекавата. Ну, і добра. Вострае жаданне абараніць сябе ад чыёй-небудзь прысутнасці зноў ахапіла яе. На адыход хацелася застацца сам-насам са сваімі думкамі і ўспамінамі. Хацелася ціха і не азмрочана ў думках развітацца з роднымі і блізкімі. Чужыя людзі, што былі навокал, больш яе не цікавілі. Так, яна нямала іх адправіла ў іншы свет… Тата быў бы задаволены дачкой і пахваліў бы сваю Ксю. Яна задорага прадавала сваё жыццё…

І ўсё ж зараз не трэба думаць аб гэтым. Зрэшты, яна была ўпэўнена, што хутка перастане існаваць, таму няспешна чакала гэтага моманту. Хаця да свайго часу Ксенія заўсёды адносілася вельмі беражліва: усё было распісана, добра прадумана. А цяпер ёй даводзіцца толькі чакаць. Не яе жыццёвы прынцып. І, на жаль, не самы лепшы спосаб супакоіць сябе.

…Дзесьці ціхенька, балюча-тоненька загучала скрыпка. Паганіні! Гэтую мелодыю яна можа беспамылкова пазнаць сярод тысячы іншых мелодый!

Ксенія павярнулася ў той бок, адкуль, як ёй падалося, паліліся гукі чароўнай музыкі.

…Пад вярбой, што схілілася над ракой, стаяў музыка. Не звяртаючы ўвагі на вартавых, стаяў спакойна і натхнёна выводзіў на сваёй скрыпцы чароўныя гукі. Гэты капрыс для скрыпкі Паганіні часта іграў Арсеній.

Ксенія падумала, напэўна, ад таго, што страціла многа крыві, ад таго, што няспынны боль туманіць галаву, яна яшчэ і вар'яцее. Як так можа быць? Пад вярбой сапраўды стаяў Арсеній! Гэта ён іграў на скрыпцы! Ксенія выразна бачыла кожную рысачку ягонага, такога роднага, твару, ягоную ўсмешку і схіленую над скрыпкай чарнявую галаву…

Хіба такое можа быць! Яна ж сама закрыла любыя вочы мужа. Сама, каля царквы, пад покрывам ночы, у варонцы з-пад снарада, капала магілку, каб пахаваць яго…

Ксенія зажмурылася. Не, не, гэта ёй падалося! Яна ж яшчэ жывая і пры памяці, разумее, што адбываецца.

А калі расплюшчыла вочы ізноў, Арсеній ужо стаяў побач. На ім была чыстая белая кашуля, а на грудзях, куды пацэліла куля — чырвоная крывавая пляма. Дзіўна, але кроў не цякла. І, увогуле, Арсеній выглядаў вельмі добра. Прыгожы твар, які апошнім часам быў трохі знерваваны ад стомы, цяпер стаў надта светлым, а ў вачах — спакой і раўнавага. Яна даўно не бачыла мужа такім. Ёй так захацелася пасядзець побач з ім, палажыць галаву на яго плячо і не думаць. Ні аб чым!.. Проста сядзець разам!..

Арсеній прысеў каля яе, пагладзіў па галаве, схіліўся ніжэй і дакрануўся да яе вуснаў. У яго пацалунку была такая невычэрпная пяшчота, што Ксенія ледзь не закрычала ад адчаю, ад невыноснасці думкі — гэта ж у апошні раз…

Трывожная, няўлоўная надзея растапілася пад жнівеньскім сонцам і маленькай ручаінкай сцякала ў легкаплынны Буг.

— Не бойся. Я з табой. Усё будзе добра, ты толькі трошкі патрывай. Зараз я пайду, трэба спытацца, дзе твая дарога, а пасля вярнуся і правяду цябе на сустрэчу. Магчыма, нам дазволяць быць разам.

Арсеній павярнуўся і, зноў заіграўшы на скрыпцы, ціха знік у кустоўі. Зноў непрадбачаная слязінка затрымцела на вейцы…

Асляпляльна сонечны дзень. Веснавое сонца гушкаецца ў бяздонных сініх высях. Яно весела зазірае ў вочы. На хвілінку затрымліваецца, а пасля падміргвае гуляючы: «Табе цёпла? А табе прыемна?»

Да акна схілілася тоненькая галінка вярбы, аблепленая маленькімі жоўтымі коцікамі. Яна дробненька дрыжыць на ціхім веснавым ветрыку. І калі добра прыслухацца, то можна нават пачуць, як коцікі ціха і вельмі сур'ёзна аб нечым шэпчуцца…

І сярод гэтай доўгачаканай прыгажосці — сонечныя праменьчыкі апускаюць пад акенца вясёлы прыгожы твар…

Пасля, успамінаючы пра першую сустрэчу з Арсеніем, Ксенія гаварыла, што ўсё было, як у казцы. Чароўны прынц завітаў да яе праз акно на сонечным промні. А зараз казачны прынц сыходзіў ад яе назаўсёды. Сыходзіў, а Ксенія нічога не магла зрабіць, бо гэта ўжо не залежала ад яе…

Быў панядзелак. Раніца. Ксенія ведала — самае лепшае, неверагоднае і векапомнае, адбываецца менавіта ў панядзелак. На такі выпадак — у яе была новая блузка, якую сёння трэба апрануць! Новыя рэчы прыцягваюць да сябе поспех. Для ее — гэта быў рэзкі паварот лёсу ў нязведанае. Ад шчасця яна лётала ў блакітнай вышыні...

Па шырокім калідоры лёгка пастукваюць абцасы Ксеніных туфлікаў. Яна ідзе на сустрэчу з начальнікам школы разведкі. Яна зараз яго пабачыць, будзе размаўляць з ім! Здаецца, яна ўздымаецца, ляціць, лунае пад нябёсамі: у свеце неспакойна, і яна, стаўшы разведчыцай, прынясе карысць сваёй краіне...

Грэта Монс…

Вельмі прыемна! Мяне завуць Грэта!

Цяпер ў яе новае імя — Грэта! Па легендзе — яна немка па нацыянальнасці. Яе бацькі з абруселых немцаў. Яны рана памерлі. Яе выхаваннем займалася бабуля Габрыэла Монс. Бабуля гаварыла, што іх род старадаўні, бо цягнецца ад роду тых самых Монсаў, што прыехалі ў Расію яшчэ пры цары Пятры І…

Табе 28 гадоў, а ў цябе раптам — новае імя, новая радня. Як жа прызвычаіцца да гэтага чужога? Яно надае даволі абачлівае адчуванне сябе самой у акружаючым асяроддзі, з усімі звычкамі, з усімі рэчамі. І самае цікаўнае — з люстэрка на Ксенію паглядае не яна сама, а зусім іншая, незнаёмая жанчына. У гэтай незнаёмкі нават пагляд іншы.

Наперадзе — Германія. Па афіцыйнай версіі, Грэта Монс працуе ў савецкім прадстаўніцтве ў Гамбургу. Усё сур'ёзна. Не тое, што ў Парыжы. Там было нешта такое … прыгодніцкае, магчыма.

З цягам часу ўсе вострыя моманты жыцця, нават хвіліны адчаю, падаюцца вельмі харошымі, нават замілаванымі. А тады Ксеніі, безумоўна, было не да ўсмешак: ёй было вельмі тужліва ад адзіноты і вельмі страшна. Але недарэчныя слёзы і жаданне бегчы ад усіх і ад усяго павольна выцясняў шалёны і дзёрзкі план выкрадання Жоржа Ясінскага. Трэба прызнаць, не гледзячы ні на што — Ясінскі быў чалавекам абаяльным, мужным, але занадта падазроным, да сябе блізка нікога чужога не падпускаў. Яго баяліся. Бо вялікі псіхолаг па натуры, ён адчуваў людзей па адным уздыху. Пасля таго, як некалькі гадоў таму бліжэйшы сябра Жоржа — Даніла Стрыжоў, выдаў яго месцазнаходжанне чэкістам, Жорж аддаліў ад сябе ўсіх сяброў і пакінуў толькі аднаго ахоўніка-кітайца.

Ксенія рыхтавалася да сустрэчы з Ясінскім адказна. Ёсць у яе адна гісторыя, з якой магчыма завітаць да Жоржа ў госці і разлічваць на спатканне. Гэта была адзіная магчымасць растапіць яго недаверлівасць.

Зацікаўленасць асобай Ксеніі аказалася для Жоржа лёсавызначальнай. Праз месяц пасля іх сустрэчы кіраўнік тэрарыстычнай арганізацыі белагвардзейскіх афіцэраў Георгій Ясінскі сядзеў перад следчым у Маскве і расказваў пра сваю сувязь з нацыстамі. А яшчэ праз тыдзень Ксенія таксама была ў Маскве. Яе ўзнагародзілі ордэнам і прысвоілі чарговае воінскае званне…

Тады ж Ксенія атрымала новае заданне і вярнулася ў Германію. Яе група збірала дадзеныя пра будаўніцтва падводных лодак, сачыла за адпраўкай войска ў Іспанію.

А праз месяц быў новы загад, які спачатку нават напалохаў яе — трэба ехаць у Англію на сувязь з адным афіцэрам брытанскай разведкі, вельмі каштоўным агентам і, мажліва, атрымаць ад яго інфармацыю пра тое, якой будзе вайна. І самае галоўнае — Германія будзе весці вайну супраць Савецкага Саюза адна альбо ў кааліцыі з кім-небудзь.

Сустрэча з агентам была прызначана ў маленькім рэстаранчыку са смешнай назвай «Тлустая качка» на Роўз-стрыт. Чакаць яго Ксенія павінна толькі адзін дзень, а пасля вяртацца назад у Германію праз Швецыю і Фінляндыю.

…Роўна а сямнаццатай гадзіне Ксенія сядзела ў рэстаране за апошнім столікам у правым кутку залы. Па дамоўленасці яна апранута ў бела-чырвоную блузку, а яшчэ трэба заказаць сабе яблычны пірог і гарбату з малаком.

Ксенія пачала разглядаць наведвальнікаў рэстарана, але зразумела, што нікога не бачыць, бо глядзіць толькі на дзверы. Раптам ёй падалося, што хтосьці вельмі ўважліва сочыць за ёю. Яна засяродзілася. Магчыма, агент ужо тут, у зале, але яна не ведае, як ён выглядае.

За трэцім столікам ад яе сядзеў мужчына. Было відаць, што ён добра выпіў, бо размаўляў вельмі гучна з жанчынай, што сядзела насупраць. Пасля ён устаў, высокі, падцягнуты. «А ён — ваенны, — падумала Ксенія. — Выдае выпраўка». Мужчына падышоў да наступнага століка, нахіліўся да адной з жанчын, пацалаваў ёй руку — тая нешта незадаволена яму адказала — і накіраваўся да Ксеніі.

— Міс, вы вельмі мне спадабаліся. Дазвольце вас запрасіць выпіць са мной.

Халаднаватай і вельмі ўладарнай рукой ён узяў Ксеніну далонь. Рука ў мужчыны была дасканалая — доўгія пальцы, гладкая скура. Ксенія адчула, што ў яе далоні застаецца маленькі скрутак з паперы. Схіліўшы галаву зусім нізка для пацалунку, мужчына ціха, зусім цвярозым голасам сказаў:

— Мне пара ісці, за мной сочаць. Вы пачакайце хвілін сорак і адпраўляйцеся на вакзал. Перадайце: сустрэчы са мной не шукаць, пакуль сам не выйду на сувязь.

Тут раптам мужчына неяк дзіўна крутануў галавой і грымнуўся аб стол, але ў той жа момант глянуў на Ксенію затуманенымі вачыма і гучна прамовіў:

— Прабачце, міс, я нешта сёння не ў форме. Рады, вельмі рады бачыць такую красуню.

Мужчына ўстаў, хістаючыся пайшоў да дзявярэй, зачапіўся за крэсла каля наступнага століка. Ён ледзь утрымаўся на нагах, да яго жвава падбег афіцыянт, падхапіў пад локаць і давёў да дзвярэй. У той жа час за ім пайшлі двое ў чорных капелюшах.

Усё адбылося так хутка, што Ксенія не паспела апамятацца, а яшчэ ёй падалося, што ў гэтую «Тлустую качку» перамясціліся ўсе пустыні свету — было так горача, а па спіне пацёк струменьчык поту. І падумалася — яшчэ хвіліна і яна будзе трымаць сваё сэрца ў далонях…

Страх пакінуў Ксенію толькі на вакзале, калі яна пераканалася, што «хваста» няма. Агент прыкрыў яе. Ксенія ў думках падзякавала яму і прачытала, каб запомніць, некалькі разоў запіску: «Я гутарыў з нямецкім марскім аташэ пра ўзаемаадносіны паміж Германіяй і СССР — вайна непазбежна. Таксама мне стала вядома, што падпісаны ўказ пра дэзінфармацыю савецкага ваеннага камандавання праз германскіх аташэ ў нейтральных краінах».

…Пасля вяртання ў Германію яна зноў сустрэлася з Арсеніем Нікіфаравічам. Ён стаў новым рэзідэнтам савецкай разведкі. Першы раз у жыцці Ксеніі хацелася быць проста жанчынай. Яна гатова была варыць суп для любага і мыць яго шкарпэткі. І сама з сябе здзівілася — няўжо такое бывае ў жыцці?

Праз некаторы час два разведчыкі — Ксенія і Арсеній — запрасілі ў кіраўніцтва ў Маскве дазволу ажаніцца. І толькі праз месяц прыйшлі і дазвол, і віншаванне.

Свой вясельны вечар Ксенія і Арсеній правялі ў піўным бары, што быў насупраць дома, у якім яны жылі. За суседнім столікам злева сядзелі афіцэры з порта, якія пілі піва, спявалі і многа курылі. Вось тады Ксенія і пачула, як адзін з афіцэраў сказаў: «Па сутнасці, каб пазбавіць рускіх марскога шляху, мы павінны запяспечыць блакіроўку Балтыйскага флоту на яго базе. Для гэтага патрабуецца паставіць у Фінскім заліве міны. Увогуле, я ўпэўнены, германскі вермахт будзе мець перамогу не пазней, чым праз тры, ну, максімум — чатыры месяцы»… Ну, вось — звер бяжыць туды, дзе яго пільнуюць. Не, не так! А як правільна? Зараз не памятаю! Ды цяпер усё не мае значэння. Слухаць, уважліва слухаць!

Ксенія заўсёды прымала рашэнні імкліва. Яна павольна патушыла цыгарэту, дапіла піва і ўзяла за руку Арсенія, які вельмі горача даказваў немцу за суседнім столікам справа, што на паляванне трэба хадзіць толькі на вепрука.

— Нам пара.

— А што здарылася, любая? Ну, яшчэ некалькі хвілінак. Мы са спадаром Гансам…

— Прабачце, спадар Ганс, але нам час ісці, — перапыніла Ксенія.

Калі яны вярнуліся дамоў, Ксенія хуценька захінула шчыльна шторы на вокнах.

— Непланавы выхад на сувязь. Пішы: «Стала вядома, што Германія нападзе на СССР»…

Усё, што датычыла працы разведчыка, Ксенія была надзвычай абачлівай, уважлівай і сканцэнтраванай. Яна нават падумаць не магла, што можна так недарэчна праваліцца з-за суседскай дзесяцігадовай дзяўчынкі, якая нечакана зайшла да іх у госці. Ксенія не зачыніла дзверы! Спадзявацца на тое, што як-небудзь абыдзецца, яны не маглі.

Бегчы! Трэба бегчы, каб перадаць нашым, трэба ратавацца, як мага хутчэй. У Кракаве іх чакаў Анджэй, якога паспеў папярэдзіць сувязны Арсенія. Паколькі новыя дакументы не было магчымасці зрабіць, то яны дабіраліся да савецкай мяжы пешшу.

Калі пераправіліся праз Буг, і да іх падышлі савецкія пагранічнікі, Ксенія з палёгкай уздыхнула. Дома! І няхай гэта толькі Брэст, але — так блізка да Масквы!

— Хутчэй трэба выйсці на сувязь з Масквой. Я — агент Грэта-17.

— Да нас штодзень прыходзяць перабежчыкі. За апошнія тры дні іх было пяць чалавек і кожны прасіў перадаць нешта ў Маскву, — адказаў, маркотна пазіраючы на Ксенію, лейтэнант НКУС. — Я павінен спачатку сам разабрацца. А пакуль пасядзіце ў каземаце і падумайце, які і чый вы агент.

— Але ж вы павінны разумець, што я не магу пра ўсё вам гаварыць. Хутчэй звяжыцеся з Масквой. У мяне важнае данясенне.

— Веру. Аднак, вы павінны сказаць мне ўсё, пра што я пытаюся.

Ксенія не магла зразумець, чаму ёй не вераць і чаму іх разлучылі з Арсеніем. І тым не менш, паслухмяна пайшла за салдатам у каземат. Яна спадзявалася, што лейтэнант патэлефануе куда трэба і іх адправяць у Маскву…

Навокал панавала цішыня. І раптам ударыла маланка. Ксенія скаланулася, падняла галаву ўверх і ўгледзелася — на небе хоць бы аблачынка. Адкуль толькі ўзяўся гром? І ціха, нетаропка пайшоў дождж. Гаючыя кроплі змывалі невясёлыя думкі, журботу душы, лашчылі замурзаны твар, абціралі кроў з раны. Хацелася падняцца, прайсціся, паглядзець, як дождж мые і наводзіць лад ва ўсёй прыродзе. І трэба было б расчасаць валасы, фраў «кудлатая»! Непрыстойна ў апошні шлях ісці непрычасанай…

Здрыгануліся моцныя мураваныя сцены каземата. Ад выбухаў цяжкіх снарадаў са столі пасыпалася тынкоўка. Знадворныя дзверы змяло ўзрыўной хваляй. Дым, пыл, млосны пах узрыўчаткі. Навокал усё палымнела, лязгала, стукала. Паўсюль кідаліся напаўголыя людзі. У задымленым паветры былі чутны нечалавечыя крыкі. Глыбока ў цела, у душу прабіраўся, падпаўзаў вужакай, абвіваўся вакол жудасны страх, які пазбаўляў розуму, які паралізаваў волю і не даваў магчымасці дзейнічаць. Пераадолеўшы страх, Ксенія перавяла дыханне і нерашуча выглянула ў дзвярны праём.

Куды бегчы, яна не ведала. Але хвіліна роспачы была нядоўгай. Ксенія агледзелася. На краю варонкі ад снарада ляжаў мёртвы хлопчык гадоў чатырох. А побач з ім — маладая жанчына ў белай кашулі з вялікай ранай на грудзях. Яна цягнулася адной рукой да маленькага сына, быццам хацела яго засцерагчы ад таго снарада, што ляцеў прама на іх. Але так і не змагла затуліць свайго сыночка, так і не змагла дабегчы з ім да ўратавальнага сховішча і загінула тут, у двары крэпасці.

Ураз Ксенія аслупянела, раптам яе не стала… нідзе, ні ў чым, нібы зрабілася самім небыццём. Але праз хвіліну побач узарвалася граната і ад выбуху Ксенія пачала паступова ўсведамляць сваю прысутнасць і адчула, як усё цела наліваецца злосцю, нейкай невядомай да гэтага рызыкай і нечым яшчэ такім, неакрэсленым, незразумелым, што надавала сілы. Яна ўпарта сціснула кулакі і выйшла ў двор. З-за вугла казармы, наперарэз ёй выбег нямецкі салдат з аўта-

матам. Малады, дужы, чыста паголены, ён чамусьці ўсміхнуўся Ксеніі. Вось калі зноў спатрэбіліся бацькавы ўрокі па французскай барацьбе.

Салдат не чакаў ад жанчыны такога спрыту і напорыстасці. Ён увогуле не разлічваў на такую рэакцыю ад хударлявай жанчыны ў ружовай сукенцы. Ашаломлены, ён неспадзявана вымавіў: «Фрау, што вы робіце?», а Ксенія нанесла апошні ўдар. Хутка падняла аўтамат і стрэліла салдату ў грудзі.

— Я — не фрау, а капітан Чырвонай Арміі Ксенія Аксёнава! Таму ніякіх вольнасцей. Вы павінны размаўляць са мной як са старшым па званні, — сказала ў адказ Ксенія на нямецкай мове, са здзіўленнем пачуўшы свой жорсткі голас. І ёй уявілася, што салдат паспеў кіўнуць галавой у знак згоды…

Піць! Ксенія падумала, што яна вельмі гучна сказала: «Хочацца піць». Колькі яна была ў непрытомнасці, не ведала. Больш за ўсё баялася пачаць трызніць. Тады яе могуць пачуць тыя, каго яна зусім не жадала цяпер бачыць. Ніхто не нясе шклянку з вадой! А бабуля Вера гаварыла: «Ніхто не падасць нават вады»...

— Мая дзяўчынка, баліць табе? Патрывай трошкі. На, папі, лягчэй стане.

— Бабуля, як добра, што ты тут. Дзякуй! Змучылася я, хачу спаць.

— Паспі, мая радасць, паспі.

Ксенія цягне руку да шклянкі, спадзеючыся пасмакаваць халаднай вадзіцы, але рука не слухаецца, падае. І ўжо не можа, як ні намагаецца, дастаць шклянку. Думкі ізноў блытаюцца…

Пакутлівая, нясцерпная спякота разліваецца над крэпасцю. Стогны, апошнія крыкі, лаянка… Даўжэзныя два дні цягнецца бой — цяжкі, жудасны. Адчуванне такое, што бой сапраўды не канчаецца… Немцы то наступаюць, то адступаюць, страляніна, рвуцца гранаты, страшэнна грукаюць гарматы. Хочацца легчы, заплюшчыць вочы і задрамаць, а пасля прачнуцца радаснай, вясёлай і навокал — цішыня!..

Вось сядзяць яны з Арсеніем каля расчыненага акна, удыхаюць бэзавы водар. Арсеній іграе на скрыпцы. І раптам:

— Патроны дзе? Дзе патроны? У цябе ёсць патроны? — гэта трасе яе за плечы паранены ў нагу пагранічнік з незвычайным прозвішчам Рыбаконь.

— Скончыліся! — ледзь чутна адказвае Ксенія.

— Хутчэй бы нашы падышлі! Дзе яны так доўга? Чаму не ідуць на дапамогу?

Рыбаконь шпурляе вінтоўку пад нагі і пачынае біць кулакамі па цаглянай сцяне. Пасля ў знямозе асядае побач з Ксеніяй, па яго замурзаным, шэрым, зморaным твары цякуць слёзы. Ксенія хутка хапае Рыбаконя за руку і што ёсць моцы трасе яго.

— Што за істэрыка? Ты — салдат, а не кісейная паненка. Хопіць ліць слёзы! Зараз мы здабудзем з табой патроны. Злева, насупраць клуба, ляжаць забітыя немцы. Я іх даўно прыкмеціла. Няхай толькі сцямнее і ў нас з табой будзе зброя.

Ксенія сядзіць, прытуліўшыся да сцяны, яе сукенка запэцкана цагельным пылам, падол адарваны: перавязвала Рыбаконя. Валасы зблыталіся, на шчацэ глыбокая драпіна, твар заліты крывёю, калені разбіты аб цэглу. У руках яна сціскае нямецкі аўтамат. І хочацца піць. Так, як ніколі не хацелася. Раней яна нават і не ведала, што так можа хацецца піць… А тут упершыню зразумела, што ад смагі можна звар’яцець. Сёння ноччу яна пойдзе да Мухаўца, каб набраць вады…

«У мяне нестае сілы. Арсеній, каб ты толькі ведаў, як я стамілася. Мне здаецца, што ведаю крэпасць на памяць. Я перакананa ўжо, што менавіта ў

крэпасці нарадзілася і вырасла. Мне ўяўляецца, што я недаравальна ніколі нідзе не была. Толькі тут. І паміраць мне таксама сярод гэтых муроў…»

Немцы загналі яе на абламаную цагельную сцяну. Ксенію было відаць як на далоні. Ну, напэўна, ўсё!.. А жыць хочацца! Нават вось так — у падвале, у голадзе, сярод гэтай страшнай вайны, з нясцерпным адчуваннем нявыкананага задання. Але чаму нявыкананага? Яна аддала сама сабе загад за нумарам два. Паколькі не змагла папярэдзіць сваіх пра такое няшчасце, што абрынулася на яе краіну, яна не сыдзе адсюль, будзе біць немцаў, пакуль хопіць сілы.

Няпрошаная сляза пабегла па брудным твары. І быццам у адказ — сухая, кароткая чарга. Пад нагамі ўзняўся пыл. Ксенія ўскочыла ў бліжэйшы чорны пралом падвала, прабегла па калідоры, пералезла ў суседнія развaліны. Немцы беглі за ёю. Тупат ботаў чуўся побач. Раптам у вочы кінуўся невялікі лаз сярод разбітых цаглін, нырнула хуценька туды. Ледзь паспела перавесці дыханне, як пачула, што немцы спыніліся побач. Ціхенька ўзняла галаву. Яны стаялі, азіраліся, прыслухоўваліся. І тут адзін з салдат загаварыў. Яна даўно не чула, каб столькі многа гаварылі. Яна пачала адвыкаць ад мовы, цяпер жа, як у дзяцінстве, стала ледзь чутна, шэптам па складах перакладаць з нямецкай мовы і здзівілася, што можа гаварыць.

— Гер лейтэнант, яна знікла! Зноў знікла!

— Чаму яна? — папытаўся афіцэр.

— Гер лейтэнант, я вам казаў учора. Гэта — фрау. Я яе бачыў учора зблізку. Гэта страшэнная вядзьмарка, яна такая жудасная, кудлатая. Гэта яна сочыць за намі, за кожным нашым крокам і толькі мы губляем пільнасць, як яна вылазіць з-пад зямлі і страляе, без промаху. Курт на хвілінку адвярнуўся, каб узяць у мяне запалкі, а яна тут жа стрэліла. Вільгельм яшчэ нават не паспеў зняць каску, а яна стрэліла, а Хельмут…

— Ну, хопіць! Пляцеш абы-што. Немагчыма, каб гэта была фрау. Напэўна, які-небудзь камуніст.

Во як! Яна здаецца немцам прывідам з падзямелля. Яна — вядзьмарка. А гэта няблага, вельмі няблага. Вам страшна? Будзе яшчэ страшней! Я вам гэта гарантую, пакуль я жывая.

Кажуць, што смерць заўсёды дарэмная і недарэчная, а хіба яна калі была дарэчы? Не. Проста камусьці ўдаецца знайсці сілы і да апошняга змагацца, а хтосьці толькі крыўдуе, ды злуе.

Ксенія націснула на курок і раз, і два… Двое другіх салдат пабеглі назад з падвала. Яна не стала іх даганяць. Няхай перакажуць сваім пра кудлатую вядзьмарку, што не дае промаху, бо з'яўляецца духам смерці. А няма чаго лазіць па нашай крэпасці, як у сваёй хаце па гарышчы!..

Ксенія брыла ўпоцемку па крэпасці. Яна зусім знясілела. У аўтамаце заставалася два патроны. Адна, яна ўвесь час адна. Страшна, надта трывожна на душы, але інакш ужо нельга! Нейкая жоўтая рысачка кінулася ў вочы наперадзе. Ксенія нерашуча спынілася, узняла аўтамат, падышла бліжэй, угледзелася. Дзьмухавец! Яна прысела перад маленькай кветачкай, што насуперак усяму — жыла, ціхенька дакранулася пальцамі да яе і ўсміхнулася сама сабе ў цемры. Гэта ж трэба такому здарыцца! Дурненькі дзівак, як ты змог тут прарасці і зацвісці? Неверагодна, як ты выжыў? Усё вакол гарэла і плавілася. Уся зямля перарыта, знявечана, пакрамсана асколкамі. І раптам — жоўценькая, сонечная красачка пад самай сцяной клуба. Пагранічнікі казалі, што калісьці тут была царква. Можа, зайсці і памаліцца? Папрасіць веры, сілы і вытрымкі, каб апошні час сустрэць мужна і мудра? Бабуля некалі вучыла яе, маленькую Ксю, розным малітвам. На жаль, яна зусім мала хадзіла ў храм. Апошнім

разам была толькі ў Парыжы. Божа літасцівы, як гэта было даўно! А можа, гэта сталася не са мной, ці цяпер — гэта не я?..

…Ахопленая ўспамінамі, Ксенія не адразу заўважыла, як аднекуль падышлі яе былыя знаёмыя. Не! Яны былі не проста знаёмыя, а таварышы па духу, па жыцці. Вось стаіць Рыбаконь, які ў апошні свой час захіліў Ксенію ад аўтаматнай чаргі. А гэта — Васіль Аксёнаў. Яна ўвесь час пасмейвалася — стрыечны брат па прозвішчы, якому адарвала ногі снарадам… А вось падыходзіць палітрук Мякішаў — чалавек вялікай волі. Бо толькі чалавек з такой воляй, паранены ў спіну, не маючы магчымасці нават паварушыцца, можа адбівацца з кулямёта да апошняга ўздыху…

Усе трое сталі побач з Ксеніяй, сціпла абнялі яе за плечы.

— Ну, як вы тут, таварыш капітан?

— Стамілася нешта я. Здзічэла сярод немцаў. А вы, хлопцы, што тут робіце? Я ж вас, як магла, пахавала. Здаецца, добра пахавала. Вы не павінны крыўдаваць на мяне.

— Мы вас не пакінем. Нельга вам зараз заставацца адной.

Хтосьці тым часам быццам кінуў камень ёй у спіну. Ксенія павярнулася. Цела стала непаслухмяным, неадольна пацягнула да зямлі, захацелася сесці… Дзіўна, чаму баліць пад левай рукой? І адкуль узялася кроў?..

— Таварыш капітан, зірніце, вунь там, ля казармы, стаяць вартавыя. Яны стралялі, — сказаў Рыбаконь…

Удар грому быў асабліва моцны. Усё навокал сцепанулася, асвятлілася маланкай. Мокрая лістота, на якой трымцелі кроплі, шчодра сыпанула іх на Ксенію. Яна схамянулася, падалася наперад ад прахалоды. Дождж стаў яшчэ мацнейшым і пры гэтым ярка свяціла сонца.

Ксенія зажмурылася, узняла руку да вачэй, зірнула ўверх. Струмені былі роўныя, доўгія, прыгожа пераліваліся і зіхацелі на касых сонечных промнях. Залаты дождж! Яна ледзь усміхнулася, правяла рукою па твары, нібы зняла з яго нябачную павуцінку. Пад залатым вадзяным россыпам яе бледны, змучаны твар быццам ажыў. У вачах мільганула загадкавае святло.

Яшчэ раз ударыла маланка, а там, дзе яе зубец дакрануўся да зямлі, стаяла прыгажуня Незнаёмка. Яна зноў уважліва прыгледзелася да Ксеніі.

— Думаю, што ты не будзеш крыўдаваць на мяне і не будзеш сумаваць. Ты ўжо ўсё зрабіла, і нават больш чым усё.

Да Ксеніі падышоў Арсеній, ласкава ўсміхнуўся.

— Час няўмольны. Нам пара. Я прынёс табе новую кашулю, трэба пераапрануцца ў чыстае.

Арсеній падаў руку, і, на здзіўленне сабе самой, яна хуценька ўстала. Ён падвёў яе да ракі. Над вадой слаўся лёгкі туман, а наперадзе ледзь-ледзь віднелася постаць Незнаёмкі.

Ксенія схілілася, асцярожна пагладзіла вільготную ярка-зялёную траву. Нясцерпны боль, роспач, адчай, невясёлыя, цяжкія думкі адразу пакінулі яе. Яна моцна сціснула руку мужа, прыгарнулася да яго і ступіла ў ваду Буга…

Тумановая заслона яшчэ доўга калыхалася над маўклівай ракой вечнасці.





**Яўген ШЫШКІН**

# ДОБРААХВОТНІКАМ У ШТРАФБАТ

*Раздзелы з рамана «Д’яблава душа»*

* * *

Вясной сорак трэцяга года на расійскіх чыгунках напружана пыхкалі паравозы. Дзень і ноч выдыхаючы ў неба чорна-шызы дым, яны везлі на заходні рубеж вайны ў вагонах і на адкрытых пляцоўках безліч зброі і апранутых у вайсковую форму людзей.

Сярод вагонаў з жывой сілай, якую везлі на фронт, траляліся асаблівыя людзі. Ехалі яны пакуль не ў вайсковай уніформе, усе як адзін апранутыя ў ватоўкі. Вось і зараз на адным з чыгуначных паўстанкаў у цэнтры Расіі спыніўся на нейкі час састаў з той жа катэгорыі.

У адчыненых дзвярах таварных цяплушак, аблакаціўшыся або наваліўшыся грудзьмі на дошкі, што адгароджвалі выхад, цесна прыціснуўшыся адно да аднаго стаялі людзі, апранутыя ў аднолькавае шэранькае. Яны курылі махорку, жмурыліся на сонца, што вісела ў чыста-блакітным майскім небе, шумна жартавалі. Бесклапотныя, ахвочыя на жарты, яны, здавалася, едуць на вясёлую пагулянку, на якой іх чакае добрая выпіўка.

Уздоўж вагонаў праходжваўся высокі худы салдат з вінтоўкай, рэмень якой быў перакінуты праз вузкае плячо, у шырокіх штанах, у запыленых ботах, брудна-белых анучах.

Вінтоўка, да якой быў прымкнуты штык, здавалася, рабіла яшчэ больш доўгай тонкую фігуру вартавога. На вастрыні штыка час ад часу асляпляльна

---

*__Яўген Васільевіч Шышкін__ нарадзіўся ў 1956 годзе ў г. Кіраве (цяпер Вятка). Скончыў філалагічны факультэт Горкаўскага ўніверсітэта імя М. І. Лабачэўскага і Вышэйшыя літаратурныя курсы (Масква).*

*Выкладаў рускую літаратуру і філалогію ў ВНУ Ніжняга Ноўгарада, працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Нижний Новгород», вёў майстар-клас па раздзеле прозы на Вышэйшых літаратурных курсах. Цяпер — загадчык аддзела прозы часопіса «Наш современник» (Масква). Яўген Васільевіч шмат робіць для папулярызацыі і прапаганды ў Расіі сучаснай беларускай літаратуры: пад яго рэдакцыяй у гэтым выданні надрукаваны дзясяткі твораў нашых празаікаў розных пакаленняў.*

*Аўтар кніг прозы «Погода на завтра», «Только о любви», «До самого горизонта», «Монстры и пигмеи», «Южный крест», «Правда и блаженство» і інш., шэрагу п’ес, пастаўленых у маскоўскіх тэатрах.*

*Лаўрэат расійскіх літаратурных прэмій імя В. М. Шукшына, А. П. Платонава, І. А. Ганчарова.*

ўспыхвалі сонечныя промні. Ажыўлены натоўп з вагона з'едліва, але не злосна пакрыкваў на салдата, раздражняючы яго.

— Гэй, каланча! Ты адкуль будзеш родам?

— Эйч! Не прызнаецца. Тайна ваенная.

— А ты колькі на вайне немцаў забіў, аглобля?

— Ды дзе ён іх бачыў? Гэты з запасных палкоў.

— Такіх даўгалыгіх толькі да нас прыстаўляюць.

— А глядзіць сур'ёзна, як герой!

— Штаны якія — як ветразі...

— Чаго маўчыш, напільнік?

Салдат спачатку не зважаў ні на што, на правакацыі не адказваў, але потым чамусьці рассмяяўся і крыкнуў у адказ:

— Я не ведаю, што будзе са мной, а вам, братва, немца ўбачыць давядзецца хутка. Штрафнікоў у запасных палках не трымаюць. Адразу на перадавую. Так што вам спатрэбяцца штаны шырокія, каб пасля нельга было заўважыць...

Але салдату не далі дагаварыць: тыя, што былі ў вагоне, абурыліся, пачалі крычаць яшчэ гучней.

— А нам вайна — да аднаго месца!

— Нам пасля цюрагі і немец брат!

— А ты, рашпіль, лох несусветны...

Гудок паравоза змяў галасы, смех. Зашыпела пара, бразгнулі буферы, цяплушка кранулася з месца.

Доўгі, некрыўдлівы салдат, паклаўшы пальцы ў рот, гучна свіснуў, перамовіўся з другім каравульным і ўскочыў на падножку адчыненага ваеннага тамбура. Тых, што былі каля адчыненых дзвярэй вагона, злёгку пахіствала.

Сярод тых, хто ціснуўся да выхаду ў адной з цяплушак, быў Фёдар Заўялаў. Перад самай вайной ён прыраўнаваў да сваёй дзяўчыны Вольгі гарадскога хлопца Савельева, камсамольскага сакратара, і пырнуў яго нажом — дзякуй богу, не да смерці. А то была б Заўялаву «вышка».

Трымаючыся за дошку-папярочку правай рукой, на якой сінела няхітрая татуіроўка — захад ці ўсход сонца (аднолькава можна трактаваць гэты растыражыраваны зэкаўскі сюжэт), Фёдар жмурыўся на маладую зялёную, прасторную лугавіну пад яркім паўдзённым сонцам. Як і ўсе, хто гаварылі, жартавалі, крычалі і незнарок адціскалі яго ад дзвярэй, ён таксама адчуваў імгненні зыблівай насалоды дафрантавой свабоды, ён радаваўся легкакрылым марам.

Чалавек аб кепскім марыць не здольны, гэта не дазваляе яму сама існасць, забараняе прырода. Калі думаеш пра нешта кепскае, ганебнае або страшнае — дык гэта ўжо не мара, а карыслівы разлік або хвароба. Мара для чалавека — самая светлая сяброўка на ўсё жыццё! Смерць — верная сумная спадарожніца, заўсёды блізкая. Мара ж легкадумная, няўлоўная, але добрая і жыццярадасная. І ўсёдаравальная за сваю нязбыўнасць. Таму што патрэбна чалавеку да скону...

— Ідзе, значыць, служывы па лясной сцяжынцы і сустракае бабульку з вязанкай голля. — Фёдар, як і ўсе, прыслухаўся да анекдота аднаго з суседзяў-жартаўнікоў. — «Як мне, бабулька, на вялікую дарогу выйсці?» — пытае. «Дык жа нам з табой разам ісці, паўз маю хату», — адказвае бабулька. «Тады садзіся да мяне на плячо, я цябе разам з вязкай і данясу».

Забралася бабулька на плячо, і панёс ён яе.

Выходзіць на палянку, стаіць хатка, на вільчыку сава сядзіць, на ганку чорны кот ходзіць.

— Ты, бабулька, не вядзьмарка? — пытае служывы.

— Так, вядзьмарка. А за тое, што дапамог мне, выканаю тры тваіх жаданні. Што ты хочаш?

— Каня хачу добрага з дарагой збруяй, дом-пяцісценак і жонку прыгажуню!

— Так яно і будзе, служывы. Як з лесу выйдзеш, там каля бярозы чакае цябе конь. А ў роднай вёсцы ўжо стаіць для цябе дом з пабудовамі, і жонка прыгажуня чакае...

— Дык дзякуй табе, бабулька. Век не забуду.

— Пачакай, служывы, у мяне да цябе таксама адна просьба ёсць. Прыгалуб мяне, старэнькую, перад смертачкай. Не адмоў.

— Эх-ма, ды бабулька! Яшчэ тая! — пачуўся голас некага са штрафнікоў.

— Але такой палец у рот не пакладзеш! — азваўся другі.

— Старая распусніца! — засмяяўся трэці.

Апавядальнік усміхнуўся і працягваў:

— А служываму што? Ён, значыць, за такія яе падарункі і рады старацца. Прыгалубіў... А потым, значыць, хутчэй сабраўся бегчы па тым маршруце, які яна яму ўказала. Хочацца каня забраць, хочацца ў новы дом увайсці, жонку прыгажуню прыгалубіць.

Пабег, спяшаецца, а бабулька яму ўслед крычыць:

— Такі вялікі, а ў казкі верыць...

Мужчыны дружна засмяяліся.

Чыгунка нахілілася дугой, выводзіла састаў з зялёных узбочын лесу, ужо зусім не таёжнага, дзе ўперамешку бярозы, клёны, дубы, выводзіла на стэпавы прастор.

Наперадзе ад сонечных бліскавак іскрылася рака, вілася сярод вербалоззя, якое акаймоўвала яе берагі, бегла ўдалечыню. Яна прыцягвала да сябе пагляд, і галасы каля адчыненых дзвярэй цяплушак змоўклі. Рачны плёс, цячэнне пасярэдзіне, знешне ледзь прыкметнае кустоўе па берагах — усё гэта прымушала засяродзіцца ў сабе, памаўчаць-падумаць, успомніць тое, што было з табой раней, чаго ўжо не вярнуць.

Вада вабіла да сябе ўсіх, здавалася, несла нейкую агульную думу: сумненні і надзеі.

Як і ўсе рэкі, што цякуць па раўнінах, сціплыя і глыбока задуменныя, гэтая рака была падобна да Вяткі, быццам яе сястра, быццам галіна адзінай рускай ракі.

Вербалоззе па берагах... Светлыя пясчаныя косы... Цёмная непафарбаваная лодка, нос якой выцягнуты з вады на пясок... Удалечыні была бачна паромная пераправа... Белыя бакены, быццам вялікія паплаўкі, абазначалі рэчышча для суднаў...

Ды няўжо гэта ўсё можа дастацца нейкаму там немцу? Таму, які тут не жыў. Таму, які ніколі не працаваў каля гэтай ракі. Таму, які не можа вымавіць рускага слова...

Састаў прастукаў коламі па гулкім чыгуначным мосце, рака засталася ззаду, а перад вачыма на пагорку з'явілася невялікая вёска з цэркаўкай з чырвонага каменя. Над глінабітнымі хатамі са стрэхамі, пакрытымі саломай, высока ўзнімаліся піраміды таполяў. Сады раскашоўваліся ў бела-ружовай квецені вішняку і яблынь. Недзе далёка, за спінай, роднае Раменскае, мабыць, таксама прыбралася ў нявесціны колеры.

Далей састаў поўз міма могілак. Святочныя ад светлай зеляніны, ад майскай белай квецені, яны здаваліся своеасаблівым астраўком спакою, дзе ўсе

роўныя, дзе пануе парадак. У кожным крыжы — напамінак і дакор. Да чаго імкнешся, за што пакутуеш, дурань-чалавеча? Жыццё такое кароткае! Вазьміся за розум і навучы розуму ворагаў сваіх...

З боку могілак па сцежцы ішоў мужчына з рыдлёўкай на плячы, у шапцы, у цёмнай касаваротцы, у ботах.

Магчыма, ён ішоў капаць магілу — калі з рыдлёўкай.

Фёдар памкнуўся крыху наперад з адчыненых дзвярэй цяплушкі. Мужчына быў вельмі падобны да яго бацькі. Нават дзіўнае сумненне на імгненне закралася да Фёдара. Ці не бацька ідзе, які невядома як сюды трапіў. Куды ідзе, навошта?.. Няма больш яго. Цяпер па ім ужо гадавіна. Яго якраз у маі забіла.

* * *

Пахавальную прынесла ў дом Заўялавых паштальёнка Дуня. Аддала яе Лізавеце Андрэеўне моўчкі, выцерла ражком хусткі, што пакрывала галаву, вусны і заспяшалася выйсці, каб не бачыць чужых пакут.

«Смертную» паперу Лізавета Андрэеўна чакала падсвядома з першага дня расставання з Ягорам Мікалаевічам. Пакутуючы ад пачуцця, якое ні на хвіліну не пакідала яе, праклінаючы сябе за гэта, чакала як наканавання — чакала цераз перашкоду запаветнай надзеі, праз заслону малітвы, якую пастаянна чытала.

Ці то само развітанне з Ягорам Мікалаевічам прадказвала ёй лёс удавы, ці то чулае жаночае сэрца ведала наперад аб такім зыходзе — хто ведае... Яшчэ не прачытаўшы тэкст у лісце, Лізавета Андрэеўна ў тым, як паводзіла сябе паштальёнка Дуня, прачытала сэнс. І папера ўжо была не звесткай, а пацвярджэннем. Імя. Прозвішча, пяць літар, злітых у кароткае злавеснае слова «погиб».

— Ягор! — ускрыкнула яна, быццам паклікала мужа. Але на справе аклікнула сусветную пустату.

Танька падскочыла да маці, зазірнула ў пахавальны ліст, адшаснулася, недаверліва гледзячы на плечы маці, якія затрэсліся ад плачу. І раптам закрычала:

— Не!.. Не-е-е! — стрымгалоў выбегла з хаты.

Толькі падвечар Лізавета Андрэеўна, на дапамогу якой прыйшла бабулька Аўдоцця, апытаўшы людзей, адшукала Таньку каля ручая.

Танька сядзела на паваленым дрэве, абхапіўшы рукамі калені, глядзела на ваду чыстымі, незаплаканымі вачыма. Анямелая, нібы звярок.

Лізавета Андрэеўна, бабулька Аўдоцця ледзь угаварылі яе вярнуцца дадому. Танька ўвесь час маўчала, а калі да яе дакраналіся, то спалохана адхіналася і касавурылася дзікаватымі вачыма.

А на наступны дзень здарылася горкая інтрыга — нібы едкая соль на рану, якая не паспела зажыць, крывавіла. Услед за пахавальнай прыйшло пісьмо ад жывога Ягора Мікалаевіча. Паштальёнка Дуня аддала яго Таньцы. У ім бацька сцісла пісаў пра сваю ваенную службу, усім слаў паклоны, перадаваў прывітанні.

Танька, нібы сама не свая, бегала па хаце, размахвала лістом, напісаным бацькам, выкрыквала матулі:

— Пахавальная маніць! Маніць! Тата жывы! Ён проста на вайне згубіўся недзе, а яго палічылі мёртвым. А ён жывы! Жывы! Вось бачыш! Піша!

Танька ўскрыквала, скакала, нібы вар'ятка, вельмі спалохаўшы Лізавету Андрэеўну. А калі шалёная радасць выплеснулася, Танька кінулася да маці, прытулілася да яе грудзей, заплакала, захлынаючыся слязамі...

Нарэшце яна зразумела, што бацькава пісьмо-трохкутнік, якое ён пісаў жывы, затрымалася ў дарозе, а вось для пахавальнай шлях аказаўся больш прамым.

У пісьме да сына Фёдара ў лагер Лізавета Андрэеўна апісала ўсё падрабязна і мужна. Разам з тым паведаміла — зноў жа без слёзнай крыўды — што «пера-кідваюцца» яны з Танькай «сяк-так», што «сапраўднага хлеба» даўно не пяклі.

Але ў канцы пісьма Лізавета Андрэеўна быццам не ўтрымалася, зламала тон, і радкі, здавалася, заплакалі голасна: «Забілі, Федзечка, бацьку. Забілі. Ты хоць сябе зберажы. Зберажы, ці чуеш? Вярніся дадому!»

Год таму, у лагеры, звестка аб гібелі бацькі не абудзіла ў Фёдары, як у сына, глыбокага смутку. Бацька ўсё яшчэ заставаўся нейкім далёкім, хоць і родным, але да сэрца, як кажуць, ён так і не прырос.

У Фёдара не было на яго ніякай крыўды, ніякага папроку, але і асаблівага гора, што бацька загінуў, чамусьці не было.

Але цяпер, калі сам ехаў на фронт, пра бацьку Фёдар успамінаў часта. Часам яму здавалася, што бацькоўскія дарожныя пачуцці перадаюцца яму. Пра што думаў бацька, куды глядзеў, калі вось так, як зараз, пастуквалі вагонныя колы?

Фёдар заўсёды здзіўляўся таму, як бацька любіў працаваць. Бывала, прачнуўшыся, раніцою, расплюшчыць вочы — гляне, а бацька як шыў вечарам боты, так і цяпер шые іх. Здавалася, спаць не клаўся — шыў некаму на заказ абутак. Каб не вайна і цяпер шыў бы людзям боты. Але ж пачалася вайна. Ён жа яе не прасіў. А яму ўзялі і падсунулі яе... І няма чалавека. Навошта тады было спяшацца — начамі абутак шыць? Можа, на зямлі і грудка не засталося з пазнакай пра яго? Можа, і па ім, па Фёдару, не застанецца нічога?..

А неўзабаве Фёдар будзе сам сабе капаць магілу...

Ужо вельмі маўклівы і неразгаданы лёс! Гэтаксама маўклівы і неразгаданы, як плынь ракі, як шырокае поле і бяскрайні стэп, як дарога, што заўсёды імкнецца да далягляду. І што ў гэтым неразгаданага? Чаму задумлівы і засяроджаны ў сабе рускі чалавек, калі глядзіць на рэчку, у поле, у стэп, на прасёлкавую дарогу, што ідзе да гарызонту? Хто, калі знойдзе гэтаму сапраўдную прычыну і апраўданне?

* * *

Паравоз запыхкаў ухаластую — састаў спыніўся. Дзверы з шумам адчыніліся.

— Выходзь! Усе выходзьце! — пачуўся голас звонку, і прамень ліхтара прабег унутры цяплушкі.

Ясная зорная ноч пакрывала месца, куды прывезлі «штрафнікоў», і дзе іх павінны былі высадзіць.

Іх адразу ж адвялі ў батальённую казарму. Казарма — не лагерны барак: тут не нары, а койкі з ватнымі матрацамі, з падушкамі і суконнымі коўдрамі. На наступны дзень, як зводзяць у лазню і пераапрануць у вайсковае, пабяцалі і пасцельную бялізну. Былыя зэкі гэтаму ўзрадаваліся. І сапраўды амаль воля!

— Адбой! Усім адбой! — сказаў афіцэр, які іх суправаджаў, праверыўшы людзей па спіску.

Строй рассыпаўся. Быццам дзеці, усе кінуліся займаць ложкі. Тут ужо блатар не ўраднік — усім раўнапраўе.

Фёдар лёг скраю, на ніжні ярус, пад акном, завешаным нечым чорным для светамаскіроўкі.

Ён некалькі разоў прыемна зыбнуўся на сетцы-ложку, падклаў пад шчаку далонь і неўзабаве, быццам шчаслівае дзіця, якое нагулялася ў лапту, заснуў.

Фёдару снілася, што ён апынуўся на вяселлі ў бацькоўскім доме. На стале — салёныя рыжыкі, бліны з маслам, свежыя гуркі ў пупырках, яечня на вялізнай патэльні. У застоллі — госці, самыя блізкія, па-святочнаму апранутыя. Фёдар сярод іх у чырвонай сарочцы. Бацька тут жа на тапчане. Маці каля печы завіхаецца. Усе весяляцца, выпіваюць з гранёных стопак, смяюцца, хорам зацягваюць песню.

За нявесту, на галоўным тарцы стала, у белай, як лілея, сукенцы — Танька. Радасна Фёдару за яе: бачна, паправілася сястрычка, маці ж пісала, што і ў першую, і ў другую ваенную зіму Танька хварэла моцна, ледзь не памерла...

Але незразумела толькі: малая яна яшчэ замуж ісці, ды і суджанага яе не відаць. «Дзе ж жанішок твой?» — дапытваўся Фёдар у сястры. «Прыйдзе зараз. Пайшоў мне па падарункі...»

Шумна піруюць званыя госці, зноў песня ліецца. Нават Вользін голас, якой не бачна за сталом, здаецца, чуецца ў агульным хоры.

...Тым часам з суседняга крыла будынка, дзе размяшчалася ротная канцылярыя, у казарму прыцягнуліся двое п’яных. Капітан Падрэльскі, высокі, адкормлены, быццам бык, ледзь перастаўляў ногі, ікаў, ускідваючы ўскудлачаную галаву.

Старшына Касар, таксама не малой камплекцыі, чырвоны ад гарэлкі, з тлустымі ад нядаўняй закускі вуснамі, глядзеў па баках асалавела-строга.

Унутраны казарменны народ: сяржант Буркоў, які часта маргаў, круглатвары карантышка, і зусім маладзенькі радавы Лёшка Кротаў, з малочна-ружовымі вуснамі і канарэечнымі вусікамі, — абодва аслабелыя ад недасыпання — узняліся з табурэтак. Неахвотна выпраміліся перад старшымі па чыне.

Падрэльскі плюхнуўся на табурэтку, Касар, шырока расставіўшы ногі, каб не ўпасці, утрымаць раўнавагу, пачаў гаварыць, тыцкаючы пальцам у радавога:

— Слухай сюды, бярэш вядро, швабру... Шоб канцылярыя таварыша капітана блішчэла! Пытанні ёсць? Пытанняў няма.

— Таварыш старшына, — сказаў Лёшка Кротаў крыўдліва, — я ўжо і так усю казарму памыў. Для канцылярыі з папаўнення вазьміце.

— Так, так, таварыш старшына, — у знак салідарнасці падтакнуў Буркоў, падлашчваючыся да Касара. — Новенькіх падыміце, што ім? Мы ў нарадзе сваю службу нясём.

Касар паглядзеў на капітана, які крывабока і няцвёрда сядзеў на табурэце, і стараючыся не пагойдвацца, пайшоў да ложка папаўнення, якое спала, напускаючы на сябе начальніцкі выгляд.

— Устаць! Пад’ём! — Касар таўхануў Фёдара ў плячо, перабіваючы каляровы салодкі сон.

Жмурачыся ад святла дзяжурнай лямпы, Фёдар прыўзняўся на локці, убачыў спярша штаны, рэмень, а потым — тоўсты корпус мужыка ў пагонах, і, яшчэ не разгледзеўшы твару, адшахнуўся ад пякучага перагару, што патыхаў з яго глоткі.

— У канцылярыю! Устаць!

Фёдар пазяхнуў, пачухаў патыліцу, падумаў з асцярогай: «Тут табе не зона: гэта не наглядчык. Зноў у лагер не адправяць. Прысяг я ніякіх не прымаў. Абавязкаў у мяне перад гэтым чырвоным рылам няма...» І паслаў мацюком таго далей:

— Пайшоў бы ты, грамадзянін начальнік...

— Шо? — аслупянеў Касар. — Шо ты кажаш, хад? Шо? — Ён схапіў Фёдара, сцягнуў з ложка.

Апынуўшыся на падлозе, Фёдар таксама не на жарт раззлаваўся.

— Ідзі прэч! — ускочыў ён і кулакамі таўхануў Касара ў грудзі.

Старшына пакаціўся назад, не ўтрымаўся, упаў на падлогу. З грукатам збіў галавой пустое вядро каля сцяны.

Сяржант Буркоў і радавы Кротаў стаялі, вытарашчыўшы вочы і разявіўшы раты. Капітан Падрэльскі нялоўка, не трапляючы пальцамі на засцежку, стаў адшпільваць кабуру.

Касар мыкаў, пераварочваючыся са спіны на бок, а стаўшы на чацвярэнькі, выкрыкнуў:

— Узяць хада!

Падначаленыя нібы апамятаўшыся, кінуліся да Фёдара, закруцілі яму назад рукі.

Ён не супраціўляўся, толькі падбрыкваў, каб не выглядаць перад імі баязліўцам.

Касар узняўся, няўцямна паглядаў па баках вачыма, налітымі п’янай гнеўнай чырванню, паволі сціскаў кулакі. Але на шчасце, пабіцца Фёдару са старшыной не атрымалася. Падрэльскі ўсё ж выцягнуў з кабуры пісталет. З’ядаючы літары ў словах і запінаючыся з-заікаўкі, выцiснуў:

— Расстраляем, нягодніка! Магілу сам выкапае...

Зямля трапілася пясчаная, лёгкая. Месца пакарання вызначылі за казармай, на ўскрайку рэдкага ліставага лесу, які межаваў з размяшчэннем часці. Разлік п’янага капітана і старшыны быў просты, тупы і разумны адначасова. Загані чалавека ў магільную яму, настаў рулю ў лоб — дрогне паджылкамі, тады і здзекуйся з яго колькі хочаш.

Пазней Фёдар даведаецца, як аднойчы гэтаксама вытваралі з адным з непаслухмяных. Інсцэніравалі расстрэл, і хоць непаслухмяны на калені не ўпаў, затое вылез з ямы, якую выкапаў для сябе, з сівымі пасмамі на маладой галаве.

Лёшка Кротаў, якога ўзялі вартавым, стаяў у некалькіх кроках ад Фёдара, вачыма і руляй вінтоўкі сачыў, як той капаў сабе магілу.

Падрэльскі з пісталетам у руцэ сядзеў на зямлі і ўсё яшчэ ікаў. Каля яго ашываўся старшына, адводзячы душу ад лаянкі.

— Ды шоб мяне нехта... Ды такі шчыпачок, які яшо фронту не пакаштаваў...

Але ўсё гэта ён ужо вымаўляў паўтараючы, і гэта не было так пагрозна, як раней. Лёшка Кротаў пераступаў з нагі на нагу, пацепваў плячыма ад прахалоды, і нарэшце лісліва выпрасіў у старшыны дазвол збегаць па шынялёк, але, мабыць, каб быць далей ад граху. Каб не сведчыць, калі здарыцца ўсур’ёз.

Фёдар капаў не спяшаючыся. Маўчаў. Забіць, мабыць, пабаяцца. Хаця хто ведае. Прыстрэляць і «спішуць» як здрадніка. Або як героя. Не выканаць загад — значыць, здрадзіць. Выступіў супраць п’янага самаўpraўства — герой. І так, і гэтак павярні — усё праўда. Атрымліваецца, усё праўда, што ёсць на свеце! Што чалавеку зручна, то для яго і праўда.

Ён на хвіліну перастаў капаць, агледзеўся. Пачынала світаць. Зоркі пабляклі, некаторыя і зусім расталі. У лесе зусім блізка спяваў салавей. Без перапынку, доўга заліваўся. Майскі, самы галасісты, закаханы да ачмурэння...

— Шо спыніўся? — крыкнуў на Фёдара старшына. — Капай!

Фёдар усміхнуўся. Ён не баяўся. Галоўнае — ім не адказваць. Але калі пачнуць распускаць рукі, ён не сцерпіць. Не сцерпіць, д'яблава душа! Падкароціць ім рукі рыдлёўкай. Тады і сапраўды застрэліць могуць. Атрымаецца, што і магіла спатрэбіцца... Мабыць, трэба яшчэ ўзяць на штык глыбей... «Эх, як цудоўна спявае салавей! Як стараецца! Ці не адхадную мне завёў? Спявай, спявай, салавейка! Не шкадуй голасу!»

На павароце з'явілася машына, асвяціла фарамі людзей каля лесу і накіравалася прама да іх.

Старшына замітусіўся, пачаў зашпіляць на каўняры гімнасцёркі гузікі, зашаптаў капітану:

— Начальнік штаба едзе. Падпалкоўнік Ісаеў! Сюды накіраваўся. Шоб яго...

«Эмка» спынілася. З кабіны вылез чалавек з ручным ліхтарыкам, адрывіста крыкнуў:

— Што такое? — накіраваў святло на твар капітана.

— Таварыш папалкоўнік... — сп'яну каверкаючы словы, зарапартаваў Падрэльскі, узнімаючыся з зямлі.

Але Фёдар перабіў яго:

— Магілу сабе капаю, таварыш начальнік! Будуць расстрэльваць! — святло ліхтарыка перакінулася на Фёдара. — Сярод ночы п'яныя паднялі і цяпер куражацца. Вось такія ў вас камандзіры Чырвонай Арміі.

— Шо? Ды ты што брэшаш, хад? — загарачыўся старшына.

— Маўчаць! — абсек яго падпалкоўнік. — Старшына Касар, за п'янку — трое сутак арышту! Кругом, шагам арш!

Старшына буркнуў: «Ёсць!», пакорна апусціў галаву і паплёўся да казармы. Дайшла чарга і да капітана.

— Зноў напіўся, Падрэльскі? Мала табе непрыемнасцей? Ты ж баявы афіцэр, а не... — падпалкоўнік змоўк, не дазволіў сабе пры Фёдары мацюкацца. — Марш спаць! Пасля з табой разбяруся.

Незадаволеныя, пахістваючыся Касар і Падрэльскі пайшлі. Падпалкоўнік Ісаеў падышоў бліжэй да магілы, асвяціў яе ліхтарыкам, паківаў галавой. Ён дастаў партсігар з папяросамі і прысеў на кукішкі. Фёдар не курыў, але адмовіцца ад пачастунку не мог. Падпалкоўнік крутнуў колца запальнічкі. Фёдар дрыжачай рукой паднёс папяросу да агню, няўмела зацягнуў у сябе першы дым. Добра што не закашляўся, не паказаў сябе слабаком.

— Адкуль ты, салдат? — па-добраму спытаў падпалкоўнік.

Фёдар яшчэ ніколі не чуў ад чалавека ў вайсковай форме такога душэўна-чыстага тону. Хацеў адразу ж растлумачыць таму, што родам ён з Раменскага, што недалёка ад Вяткі-ракі, але нечакана сказаў іншае:

— З Кайскіх лясоў я. З поўначы. З турмы прыбыў.

Падпалкоўнік ніколькі не здзівіўся, кіўнуў галавой, маўляў, разумею, і больш нічым не цікавіўся. Яны прыязна памаўчалі.

— Спаць ідзі, салдат. На перадавой усе пра адно мараць: выспацца, — Ісаеў зрабіў глыбокую зацяжку. Ад агню папяросы зыблівая чырвань легла на яго стомлены, у ранніх маршчынах, твар.

Машына крута развярнулася, асвяціўшы бліжэйшыя ствалы дрэў фарамі. Падпалкоўнік Ісаеў павярнуўся, глянуў на салдата (нават яшчэ не салдата —

на хлопца з нейкай крымінальнай старонкай), які яшчэ ні разу не ўступіўшы ў бой, ужо стаяў — у магіле. Што гэта, сімвал? Недарэчная рэпетыцыя? Апераджаючы знак?.. Штрафны батальён — на некалькі гадзін бою. У лепшым выпадку — на некалькі сутак. Першы эшалон у наступленні. Першая траншэя ў абароне. Назад — ані кроку. Смяротнікі.

— Давай у штаб, — загадаў Ісаеў шафёру і зноў палез у кішэню па партсігар.

Ноч ужо адышла. Нядоўгая майская ноч, раскалыханая раннім святлом! Неба ўзнялося над зямлёй, увабраўшы ў сваю глыбіню зорны россып. Толькі яркія адзіночкі яшчэ трымалі лёгкую сіняву на светла-фіялетавым фоне.

Салавей змоўк, а іншая птушка яшчэ не абудзілася, і цішыня была першароднай, здавалася, такой, якой была з часоў незаселенага свету. Здавалася, што было чутна, як асядае раса, і як пад ёй ледзь шавеліцца трава... Ад лесу, які пачаў ужо прасвечвацца і скідваць імглу, павейвала прахалодай. Над казармамі і пабудовамі вайсковай часці ўзвышаліся таполі, падобныя на вялізныя, павернутыя ўніз камлём, мётлы. Іх цёмныя абрысы мянялі колер — прамалёўваліся зялёным лісцем. Усё больш матавай жаўцізной азначаўся ўсход...

Фёдар сядзеў на краі магілы, якую выкапаў сабе. Галава ў яго дурманна кружылася ад выкуранай папяросы. Ён усміхнуўся. Пачуццё радаснай ціхамірнасці і лёгкасці валодала ім у гэтую хвіліну з невядомай яму дасюль сілай. Ніхто яго не вартуе. Не вельмі голадна яму і не страшна. І вось яна, раніца, усё такое свабоднае! Ён нават чалавечае слова ад ваеннага начальніка пачуў! Мабыць, пад кожным мундзірам нешта чалавечае ўсё ж ёсць! Усім бы голымі хадзіць, як у агульнай лазні. Глядзіш, сэрца ў кожнага было б больш адкрытым для іншых...

Ён рассмяяўся і ўздыхнуў на поўныя грудзі. Салавейка ж як цудоўна спяваў!..

Радуючыся раніцы, Фёдар сядзеў на краі магілы, — захмялелы ад салаўінай песні, ад волі, ад добрага слова і маўклівасці падпалкоўніка, ад жахлівай сутычкі са старшыной і капітанам, якая добра скончылася, ад выкуранай папяросы. Ён часта задзіраў галаву, і перад ім раскрываўся неабдымны свет. Напэўна, у гэтым свеце на гэты час не было больш шчаслівага чалавека. Кожнаму — хоць на долю хвіліны — выпадае высокае шчасце!

Пасля гэтай папяросы, якой яго пачаставаў падпалкоўнік, Фёдар пачне курыць пастаянна. Быццам яго арганізм толькі і чакаў гэтай горкай насалоды. І не растлумачыць: чаму раптам з’явілася такое жаданне, як і нельга вызначыць, адкуль у чалавека іншыя пачуцці...

Калі ён вяртаўся ў казарму, неба зусім высвецілася. Раніца стала больш расквечанай: лісце на высокіх таполях — выразным і ярка-зялёным. Фёдар нягучна напяваў песню, даўно знаёмую, якую пачуў сёння ў «вясельным» сне. Буйная раса на траве, нібы нізавы дождж, аблівала яго боты.

У казарме, нязручна сагнуўшыся, седзячы на табурэце спаў сяржант Буркоў.

Фёдар грубавата расштурхаў яго і, калі той, нічога не разумеючы, ускочыў, перадаў яму як баявую зброю, рыдлёўку.

— Вось табе, воін! Я тваіх абаіх камандзіраў забіў і закапаў там, у лесе. Тэрмінова бяжы да начальніка штаба Ісаева і далажы, што здарылася. Рыдлёўку нікому не аддавай! Гэта твой галоўны рэчавы доказ.

Карантышка-сяржант спалохана і часта заміргаў мутнымі вачыма і паспешліва сцёр з падбародка сліну.

* * *

Яшчэ да вялікай сутычкі на Курскай дузе зямля пакутавала ад цяжкага гарматнага і бронетанкавага металу. Толькі з нямецкага боку на адзін кіламетр фронту натрамбавалі да паўсотні танкаў і самаходак, сотні артылерыйскіх гармат і мінамётных стваloў. Дзве тысячы бамбардзіроўшчыкаў і знішчальнікаў павінны былі амаль адначасова ўзляцець у курскае неба. Нямецкая Стаўка ў Растэнбургу, Гітлер, «свастыкавы» германскі генералітэт выношвалі грандыёзную аперацыю «Цытадэль». З поўдня, з боку Белгарада, і з поўначы, з боку Арла, стальныя сківіцы, вытачаныя з нямецкіх танкавых армій, павінны былі самкнуцца і раздавіць Курскі выступ, — стаць пачаткам поспехаў у летняй кампаніі сорак трэцяга года. Скалечанае, замарожанае нямецкае наступленне пад Масквой, паражэнне і разгром Паўлюса на Волзе — трэці збой ваеннай машыны зламаў хрэбет «трэцяму» славутаму рэйху.

Масква таксама не бяздзейнічала. Уладарны Вярхоўны Сталін, патрабавальна-нястомны Жукаў нашпігавалі франты Курскага выступу не меншай колькасцю ў параўнанні з ворагам ствалоў і людзей. Уніклівы ваенны гісторык праз гады падлічыць, што адных траншэй і акопаў на мяжы абарончых раёнаў было выкапана пяць з нечым тысяч кіламетраў. Значыць, калі скласці ўсё ў адно, — ад Масквы да Байкала. Ішоў трэці год вайны, і ваяваць з немцамі ўжо навучыліся. На самым горкім, пякельным вопыце...

Прадчуваннем навальніцы жыў курскі лесастэп. Туды, на цэнтральны фронт Ракасоўскага, на перадавую, у падтрымку супрацьтанкавым падраздзяленням і перакінулі штрафны батальён, у спісках якога значыўся радавы Фёдар Заўялаў.

Цяжкі, з двайным падбародкам, з тоўстымі, у цёмнай парослі рукамі, у ботах апошняга памеру, камандзір батальёна капітан Падрэльскі выступіў перад строем:

— У баі назад не глядзець! Пры любой спробе драпаць — сам, вось гэтай рукой, — камбат падняў уверх вялізны кулак, — прыстрэлю! Кроўю змыць віну перад радзімай! — узнёсла выкрыкваў ён.

Выгляд камбата, калі ён закрываў свой квадратны рот, станавіўся ваяўніча-цвярозы і па-волатаўску пераканаўчы. Але варта было яму загаварыць, здавалася, што камбат зноў моцна выпіў. Тады з яго геркулесавых грудзей вырываўся прапагандысцкі крык.

Кожны раз, паглядаючы на Падрэльскага, Фёдар успамінаў, як той скасабочана сядзеў на табурэце і ікаў. У штрафбаце капітан і апынуўся з-за п’янства, хоць і з пахмелля ў ваеннай справе разумеў добра, меў рэпутацыю бясстрашнага камандзіра.

У батальённым страі былі не толькі былыя зняволеныя, але і тыя, хто лагернай баланды не каштаваў, а паспытаў нямецкага свінца: разжалаваны лейтэнант з выдатнай выпраўкай, які выйшаў з акружэння адзін, а «ўзвод паклаў»; разухабісты марак з чорнымі вачыма, які пайшоў з базы ў самаволку і спазніўся ў баявы рэйс; сяржант Буркоў, танкіст-механік, які незнарок раздавіў гусеніцай свайго; з канарэечнымі вусікамі, ні разу не голены, Лёшка Кротаў, які апынуўся ў штрафбаце за спробу згвалтаваць жанчыну.

У тым жа страі займаў месца старшыны Касар, чалавек, калі цвярозы, дык з тых, што ведаюць справу, які навучыў Фёдара страляць з вінтоўкі. «Я жа табе ўказую, а ты мінэ не чуеш. Шо, мішэны не зрыш? Шо, пад мушку зенкі ставіць не магёш? Гэта табэ не рыдлёўка. Шо, зноў магілу капаць хочаш?»

Касар прайшоў Сталінград, быў паранены і ўзнагароджаны, але трапіў пад трыбунал за марадзёрства: звёз з калгаснага свірна некалькі мяхоў мукі для сваёй роты.

Некаторыя, хто раней нямала чаго чуў пра штрафбаты, выжыць і не марылі. Усё іхняе імкненне да жыцця было ў бессвядомай цікаўнасці, дзе і як заб'юць, і ў жаданні што-небудзь зрабіць такое, каб даражэй прадаць сябе смерці. Але большасць спадзявалася атрымаць «удалае» раненне і выжыць. «Гвалтаўнік» Лёшка Кротаў, з якім пасябраваў Фёдар, марыў здзейсніць подзвіг і «залапіць» віну.

— Таварыш капітан! Гарэлкі мала выдаюць! Толькі аблізнуцца! — выкрыкнуў з задняй шарэнгі нейкі вясёлы нахабнік. — Фрыцам, кажуць, больш наліваюць!

— На гарэлцы перамогу не пабудуеш! — зноў жа ўзнёсла адазваўся капітан, не вызначаючы, хто асмеліўся на такое.

— А без гарэлкі нам не перамагчы!

— Колькі ім, столькі б і нам. Тады б мы былі на роўных!

Строй пахіснуўся ад смеху, страціў раўнавагу.

— Адставіць размовы! Вунь там не са мной будзеце размаўляць! — капітан Падрэльскі махнуў вялізнай рукой у бок сонца, быццам хацеў пасадзіць яго за гарызонт.

Сонца тым часам, ужо абышоўшы дзённы круг, апускалася да зямлі на захадзе. Адтуль і павінен быў накочвацца галоўны гітлераўскі вал.

Нейкі час на дузе, што замыкала Белгарад і ваколіцы Арла, у раёне скаплення войска, усталявалася адноснае зацішша. У зводках Саўінфармбюро адзначаліся толькі баі мясцовага значэння і агаворваліся неістотныя змены на франтах. Усе чакалі лёсаноснага бою — быццам бы на кон між двух ігракоў пастаўлены не папяровыя грошы, не золата, а само жыццё, і засяродзіцца на гэтым кану загадана ўсёй існасцю. У стане чакання для войск Курскага выступу была радасць перадышкі. Нягледзячы на цяжкасці салдацкай працы (капалі акопы, ладзілі бліндажы, падвозілі боепрыпасы і г. д.), людзі не гінулі, не галадалі і не мерзлі. Але ў гэтым стане была і моташнасць няўпэўненасці і жаданне прыспешыць час. Быццам карты ўжо раздалі, і хочацца хутчэй узяць іх у рукі, каб аспрэчыць рашаючы кон.

Вецер трывожна шапацеў лісцем высокіх таполяў. Падманліва спакойна свяціла сонца. Вочы, напружваючыся да слёзнай плёнкі, нешта пакутліва намацвалі там, дзе быў вораг — за нейтральнай паласой, за міннымі палямі, за лініяй, дзе знаходзіўся вораг.

* * *

Цярпенне лопнула ліпеньскай ноччу.

Артылерыя цэнтральнага фронту, каб прыпыніць наступленне немцаў, якое яны меліся пачаць на наступную раніцу, адкрыла шчыльны апераджальны агонь. Залпы дальнябойных гаўбіц, «кацюш», мінамётаў разбівалі і запальвалі варожыя лініі, і здавалася, што пасля такога калёнага смерчу, які абрынуўся на ворага з пякельным грукатам, ні адзін фрыц, ні адзін жук гнойны не можа выбрацца са сваіх шчылін, з-пад абломкаў расстрэльнага наступальнага плана... Аднак усё атрымалася не так. З пралікамі. Апераджальны ўдар быў не такім, як трэба. Снарады часам падалі на не канкрэтныя тэрыторыі пазіцыі. І калі ранкам пасвятлела, фрыц, укамплектаваны адпаведна ўсім ваенным патрабаванням, някепска асвоіўся ў новых для сябе абставінах і збіраўся

атакаваць. Цяпер ужо на рускай палове фронту ўздыблівалася зямля. Гарматна-мінамётны рой снарадаў вухнуў на пярэднія рубяжы абароны, і ўсё жывое і нежывое застагнала, ахутанае агнём ад узрываў, дымам, пылам, брыдкім пахам толу. А калі ў небе над пазіцыямі з ровам праляцелі бамбардзіроўшчыкі, а паласа абароны ператварылася ў рыхлае пекла, дык нават параскідвала бліндажы ў некалькі накатаў.

— Пачалося. Дачакаліся, — шаптаў Лёша Кротаў, часта аблізваючы вусны і сплёўваючы на пясок.

— Ого, як малоцяць, сволачы! — злосна здзіўляўся марак.

— Танкам пракладваюць дарогу. Зараз папруць, — папярэджваў Буркоў.

— Усё па тактыцы, — не весела дадаў разжалаваны лейтэнант, які ўжо нямала пабыў на вайне.

Аддзяленне сяржанта Буркова перачакала налёты ў бліндажы. Пясок і пыл сыпаліся паміж бярвенняў накату. Зямля калацілася ад узрываў. Людзі ціснуліся адзін да аднаго.

Для Фёдара гэта быў першы дзень сапраўднай вайны. Ён напружваўся ўсім целам і мацней сціскаў аўтамат, калі чуў, як чарговы снарад, завываючы ляцеў на пазіцыю батальёна, і здавалася, менавіта на яго…

Фёдар ведаў ад «абстраляных» салдат, — яны расказвалі, што адбываецца пры артналётах і танкавых атаках, але калі сам апынуўся ў самым пекле фронту, стаў вельмі разгубленым, маўклівым, засяроджаным — быццам страціў розум. Ён не памятаў усяго таго, што адбывалася навокал, і машынальна выконваў загады, або рабіў тое, што і іншыя.

Пакуль не пачуў першыя ўзрывы, думаў, што на вайне можна выжыць, калі ваяваць цвяроза і асцярожна. Пасля першага артабстрэлу і авіяцыйнага налёту ён зразумее, што загінуць можна ў любое імгненне... У свае маладыя гады Фёдар і да вайны бачыў, як паміраюць людзі. Найперш у турме, з яе жорсткімі нечалавечымі законамі.

На зону смерць прыходзіла нямая, ціхая, часам асцярожна падкрадвалася. Дахадзягі адыходзілі з жыцця без ніякіх крывавых раненняў. Туташняя смерць была лютай, краважэрнай.

Хвацкаму чарнавокаму мараку асколкі міны вывернуць наружу шлункі, ператвораць у слізістыя лахманы цяльняшку, чырвона-шэрым месівам стануць трое былых зэкаў, якіх накрые ў зямлянцы авіябомба. Разжалаванага лейтэнанта куля параніць у галаву, яго перавяжуць, але ён неўзабаве памрэ...

…Узрывы чуліся радзей. Жалезную залеву немцы перанеслі ўглыбіню, на другую лінію абароны.

— Здаецца, сціхае.

— Цяпер жа самае цікавае…

— Танкамі гладзіць пойдуць.

— Удобрылі глебу, гады!

Сяржант Буркоў перахрысціўся дробнымі рухамі і нейкім незнаёмым голасам, загадаў:

— Па тран-шэ-э-ях!

Першыя промні сонца коса падалі на нічыйную зямлю, не захопленую аднымі, і не адваёваную другімі. Яна ляжала паміж схіламі і па ўскрайках лашчыны. Па схілах і ўскрайках лашчыны віхурыліся кусты бружмелю і арэшніка. Гэты нешырокі па фронце, але стратэгічна прывабны ўчастак, немцы абавязкова павінны былі заняць. Тут іх абавязаны былі стрымаць дзве супрацьтанкавыя батарэі і батальён штрафніка Падрэльскага, у якім служыў Фёдар.

Справа да лагчыны падступаў лес. На ўскрайку ўкапалася ў зямлю адна з батарэй. Злева, за рэдкім беразняком, праз які далёка ўсё было відаць, ляжала міннае поле, — могілкі без магіл. Туды ніхто не спрабаваў бы і ступіць. Астатнія артылерыйскія гарматы размяшчаліся па цэнтры, каб разам з агнявікамі «лясной батарэі» трымаць мясцовасць пад перакрыжаваным агнём. Узводы дальнабойшчыкаў і агнявой падтрымкі размясціліся недалёка ад траншэй і акопаў, якія былі злучаны між сабой хадамі.

Рубеж, аднак, ужо быў патрапаны. Некалькі гармат разбіта. Пралілася першая кроў.

— Вунь — пакацілі, гадзёнышы!

— Нейкія дужа ж вялікія. Я гэтакіх яшчэ не бачыў.

— «Пантэрамі» называюць, «тыграмі».

— Назвы ж як звярам далі.

Каля гармат завіхаліся батарэйцы. Бранябойшчыкі прыціснуліся да даўгаствольных ружжаў. Над траншэямі замільгалі каскі. Усе ведалі, што будзе далей па даўно адпрацаванай ваеннай схеме. І ўсё было неяк нечакана, — быццам сама смерць ішла сюды. Але смерць, якую заўсёды чакаюць, як нешта немінучае, і разам з тым, яна заўсёды не ў час.

Па схіле паўзлі нямецкія танкі — пляміста пафарбаваныя, быццам былі яны ў шэрых і зялёных лапіках. Пагойдваючыся на купінах і варочаючы ствaламі гармат, яны разарваным ланцугом рухаліся па лагчыне. Часам стралялі сходу, часам — спыняючыся: са ствалоў вырывалася полымя, а на лініі абароны паўсюль уздымаліся камякі зямлі і разляталіся асколкі. Шызы дым выхлапных газаў, лязгат гусеніц і гул матораў, чэргі кулямётаў на вежах, наводзілі жудасць...

Пяхота высадзілася.

— Эх ты, як іх шмат!

— Папаўзлі, сучары!

Услед за танкавым ланцугом у лагчыну скаціліся бронетранспарцёры. З іх пасаскоквалі і разгрупаваліся па баках чорныя фігуры аўтаматчыкаў.

Сонца асвятляла бакі жалезных пачвар, іх доўгія цені слізгаліся па траве. Кусты арэшніка, бружмелю ўздрыгвалі і траплялі пад гусеніцы.

Прайшло яшчэ некалькі хвілін, а можа, секунд. Час стаў няўлоўным — і, здавалася, секунда магла доўжыцца хвіліну, і хвіліна магла сціснуцца да секунды. Адлегласць паміж танкамі і пазіцыямі батальёна катастрафічна скарачалася. Танкі ўжо былі добра відаць, прамалёўваліся сілуэты нямецкіх пехацінцаў. Але артылерыйскія гарматы маўчалі.

— Чаго артылерысты чакаюць? Чаго марудзяць?

— Бліжэй падпускаюць. Каб прамой наводкай, каб ужо без промахаў.

— Эх...

— Ну давайце ж, давайце ж, хлопчыкі! Жахніце па гэтай поскудзі!

Чым бліжэй пад’язджалі танкі, тым бліжэй былі хвіліны, калі адчай і страх пачыналі авалодваць людзьмі. Пачулася:

— Ды што яны? Заснулі там, чэрці!

— Здурнелі! Зараз задавяць!

— Агонь!!! — пачуўся моцны голас.

Па схіле лагчыны адзін за адным узняліся фантаны ўзрываў. Радасныя галасы пракаціліся па траншэі.

— Агонь!!!

— Ну вось, нарэшце!

— Ага! Завяліся!

— Касі іх, хлопцы!

Агнявікі стралялі з усіх гармат. Наводчыкі, яшчэ не змучаныя ад грукату і стомленасці, былі вельмі дакладныя. Вось ужо галаўны танк ахапіла полымя... Вось ужо з другога паваліў дым і ён па інерцыі папоўз, нібы нікчэмная жалезная туша, спыніўся... Яшчэ ў аднаго разарвала гусеніцу, ён рэзка крутнуўся на месцы і спыніўся, нахіліўшыся на бок. Заляскалі ружжы бранябойшчыкаў, зачасціў станкавы кулямёт, расстрэльваючы экіпажы з падбітых плямістых машын і ланцугі пяхоты. Здавалася, усё, што магло страляць, заклацала затворамі.

Зялёны схіл, дзе некалі быў добры выган для жывёлы запаўнялі і забруджвалі знявечаныя машыны, трупы людзей, ямы ад узрываў, з якіх уздымаўся чорна-шызы дым. Над лагчынай разлівалася шалёная «музыка» першага для Курскай бітвы бязлітаснай какафоніі: узрывы, грукат гармат, выццё самалётаў, кулямётныя і аўтаматныя чэргі... І тым больш бязладна-гучнай і дзікай станавілася гэтая «музыка», тым больш у гарачай азвярэласці бою згасала чалавечая свядомасць, і страх пераходзіў у самазабыўную радасць нянавісці: страляць, страляць, страляць...

У гэты дзень Фёдар амаль не вымавіў ні слова. Толькі нейкае ўскрыкванне — ці то ад адчаю, ці то ад здзіўлення — і невыразныя мацюкі час ад часу вырываліся з яго вуснаў. Здавалася, што ён нічога не разумеў. Фёдар абы-як страляў доўгімі чэргамі з аўтамата — наўздагад, у кірунку праціўніка, кудысьці бег па траншэі за Лёшкам Кротавым і кідаў у танк бутэльку з запальнай сумессю... Па нейчым загадзе замяняў падносчыка снарадаў і бачыў, як пот градам ліецца з твару зараджаючага, а гімнасцёрку на ім хоць выкручвай... Ён з жахам глядзеў, як з падбітага рускага знішчальнікаываліўся лётчык і пад купалам парашута апусціўся на замініраванае поле і там падарваўся... Уткнуўшы падбародак у бруствер, стаяў каля кулямётчыка і, не чуючы на адно вуха — аглушылі кулямётныя чэргі, глядзеў, як азвярэла, быццам у п’яным одуме, немцы падымаліся ў атаку, падалі ў кусты і варонкі, і раптам зноў падымаліся, і зноў падалі, і зноў атупела падымаліся...

Ён бачыў, як загінуў камандзір аддзялення, карантышка Буркоў. Калі да перадавых акопаў батальёна дарваўся нямецкі танк, сяржант часта заміргаў, а потым са скрыўленым ад злосці тварам, схапіў гранату і кінуўся да яго. Буркова зрэзаў асколак яго ж гранаты, якую ён кінуў: адрыкашэціў ад брані. Але і танк апусціўся адной гусеніцай у траншэю, зачыхаў маторам, спыніўся — яго закідалі гранамі і бутэлькамі з запальнай сумессю.

З падбітага танка выскачыў немец, на ім гарэла вопратка. Немца застрэлілі, ён упаў побач з сяржантам Бурковым. Над целам ворага яшчэ доўга віўся дымок, як ад згаслай свечкі, а наўкола разносіўся ванітны пах палёнага цела...

З данясення начальніка штаба дывізіі падпалкоўніка Ісаева ў штаб арміі:

*«...данный участок противник в течение дня атаковал шесть раз. Дважды оборона была прорвана. Но противнику закрепиться не удалось. Благодаря самоотверженным действиям противотанковых батарей и подразделения Подрельского, при поддержке авиации, противник был отброшен на исходные рубежи. При этом потерял несколько танков и большое количество живой силы. Наши подразделения тоже понесли большие потери личного состава и техники. Для того, чтобы противник не смог прорвать оборону, считаю целесообразным перебросить на этот участок танковый полк».*

Лёшка Кротаў сядзеў у траншэі і зашываў сабе штаны. Асколкам снарада пад каленам яму прабіла штаніну, а нагу, на шчасце, нават не шкрабнула.

«Мабыць, доўга Лёшка сабраўся жыць, — думаў Фёдар. — Швы часта кладзе. На стагоддзе хопіць. Але ж яшчэ адна такая іхняя атака і ад нас нічога не застанецца».

Прыхінуўшыся спінай да земляной сцяны, Фёдар стомлена заплюшчыў вочы. У вушах па-ранейшаму гуло ад дзённага грукату, перад вачыма ўвесь час поўзалі танкі, а за імі ішлі цыбатыя, жылістыя, з моцнымі падбародкамі, у кароткіх ботах, з арламі на касках Курты і Гансы (ды чорт ведае, як іх яшчэ там), ашалелыя, свята адданыя нечаму.

— Лёшка, — нягучна пазваў Фёдар (за сённяшні дзень ён упершыню гаварыў складна і асэнсавана). — Вось сядзім мы з табой тут, пад Курскам, у полі. Гэта мне зразумела. Мы тут на сваёй зямлі. Тут такія ж рускія мужыкі жывуць, як у цябе на Ацы, як у мяне на Вятцы. А яны навошта тут? Вунь трупаў колькі! Навошта? Ты, Лёшка, ведаеш, чаму яны тут?

Лёшка перастаў шыць, усміхнуўся малочна-ружовым ротам і паціснуў плячыма...

У лагчыну напаўзаў туман. У тумане пачварнымі трунамі цямнелі падбітыя танкі. Старшына Касар прыехаў на пазіцыю з палявой кухняй, карміў кашай тых, хто застаўся ў батальёне жывым, выдаваў гарэлку і сухпайкі на заўтрашні дзень. Паўтаратонка з чырвоным крыжам забірала параненых, каб адвезці ў тыл. Пахавальная каманда закопвала ў зямлю забітых.

Цямнела. Салдаты ад стомленасці падалі з ног.

Ноччу над нейтральнай паласой час ад часу ўспыхвалі асвятляльныя ракеты... Нямецкі кулямётчык страляў у цемру доўгімі трасіруючымі чэргамі... Здаралася, з якой-небудзь гарматы з выццём вырывалася дзяжурная нямецкая міна... Далёка за лесам на небасхіле калыхалася барвовае зарыва нейкага гіганцкага пажару... Час ад часу ў небе то з захаду, то з усходу нарастаў і кудысьці знікаў гул матораў: самалёты ляцелі на начную бамбёжку...

З дзесяці салдат аддзялення сяржанта Буркова ацалела двое: Фёдар Заўялаў і Лёшка Кротаў. У бліндажы аддзялення ім гэтай ноччу было прасторна.

* * *

На другі дзень байцы батальёна, якія засталіся жывымі, сабраліся разам недалёка ад камандзірскага наглядальнага пункта. Ім пашанцавала крыху адпачыць перад боем.

Тым часам немцы сціснулі фронт наступлення, прабілі абарону на суседнім участку і, як вада ў запрудзе, прасачыўшыся праз насып, імкнецца ў прамывіну, кінуліся ў прарыў. Гэта па-першае. Па-другое: за спінай прытаіўся танкавы полк з новенькіх «трыццацьчацвёрак»: іх сюды перакінулі, як і прасіў Ісаеў. Гэты полк быў гатовы заняць абарону або кінуцца ў контрудар. Па-трэцяе, быў жывы сам капітан Падрэльскі.

Ва ўчарашнім баі Падрэльскі амаль не аддаваў загадаў, але яго прысутнасць надавала салдатам смеласці і ніхто не панікаваў. Ён не мог кіраваць дзеяннямі ўсіх салдат, гэта было немагчыма ды і не патрэбна, але ўвесь час быў недзе блізка.

Часам Падрэльскі не спяшаючыся праходзіў па траншэях, камусьці ківаў галавой, паціскаў руку кулямётчыку, размаўляў з сапёрам, лаяўся і нават замахваўся кулаком на сувязіста, але пазней паблажліва ляпаў таго далоняй па плячы... Ён увесь час заставаўся сярод сваіх падначаленых. Наўрад ці рабіў

ён гэта толькі згодна псіхалогіі ваеннай навукі. Ён рабіў гэта яшчэ і па прыроднай схільнасці вялікага, моцнага чалавека, якім быў — апекаваць меншых і слабых. Дзе знаходзіўся камандзір, там было спакайней, там салдаты цвярдзей стаялі на зямлі, былі ўпэўненыя ў сабе. Так бывае, калі побач бацька...

Падрэльскі доўга глядзеў у бінокль, які здаваўся вельмі маленькім у яго вялікіх руках, і гаварыў сам з сабой:

— За лес пайшлі. Як бы не адсеклі. Не хапала нам трапіць у акружэнне.

Ён азірнуўся і, убачыўшы Фёдара Заўялава, паклікаў да сябе.

— На, — камбат зняў з шыі бінокль і падаў Фёдару. — Глядзі туды, дзе бяроза двухствольная. Бачыш?

Фёдар прыклаў акуляры да вачэй і радасна адказаў, уражаны ўбачаным:

— Здаецца, рукой бы дацягнуўся да бярозкі.

— А прасеку?

— І прасеку бачу, таварыш капітан.

— Прасека замініравана, яе не пераходзь. Правей трымайся. Пяройдзеш лес і паназірай там як след: ці няма якога руху. Дарогу агледзь уздоўж лесу, сляды паглядзі. Не заблудзішся?

— У гэтых лясах і блудзіць няма дзе. Я не такія бачыў.

Падрэльскі скасавурыўся на татуіроўку на Фёдаравай руцэ, кіўнуў галавой, маўляў, ведаю...

— Таварыш капітан, — да камбата падскочыў Лёшка, выцягнуўся ў струну. — Дазвольце і мне з Заўялавым. Што два вокі не дагледзяць, чатыры заўважаць.

— Я і аддзяленне паслаў бы, але ў мяне вас усяго што... Ладна, ідзіце. У старшыны бінокль вазьміце і боепрыпасы. Скажыце, я загадаў.

— Ёсць! — па-вайсковаму адказаў Лёшка.

Перабежкамі, а дзе і паўзком ад ямы да ямы, ад куста да куста, асцерагаючыся абстрэлу, Фёдар і Лёшка перабраліся ў рэдкі пералесак. Потым — ужо ў поўны рост — у глыбіню лесу. На адной палянцы селі адпачыць.

Тут, пад аховай лесу, захоўвалася мірная цішыня і чыстая, не задымленая, не апаленая порахам духмянасць зеляніны. Аддалены грукат кананады, здавалася, чуўся слабей, чым надакучлівы камарыны піск і зумканне авадня. На паляну слупамі падалі промні паўдзённага сонца; у даўкай спякоце над кветкамі кружыўся паласаты чмель, не перастаючы, трашчалі конікі; у верхавінах дрэў спявалі птушкі. Нават не верылася, што за лесам — вогненныя краі фронту.

Лёшка, нібы цацкай, забаўляўся біноклем: то з аднаго боку, то з другога падносіў яго да вачэй. Фёдар, паглядаючы на Лёшку, жартаўліва спытаў:

— Скажы, Лёшка, праўду: згвалтаваў ты жанчыну ці не? За што цябе ў штрафнікі кінулі?

— Вось яшчэ! — абурыўся Лёшка. — Я і не думаў яе гвалтаваць. Яна, разумееш, у лазні мылася, а я паглядзець хацеў. Яна прыгожая, пульхная, грудзі... — ён засмяяўся. — У мяне недалёка ад лазні пост быў. Я і віну сваю прызнаў, што з паста адлучыўся. А гвалтаваць не хацеў... Спалохалася яна моцна.

— Ты што, нават і не абняў яе? — з усмешкай спытаў Фёдар.

— Ёй халоднай вады ў лазні не хапіла. А побач — возера. Яна і пайшла, голая, з вядром. Завярнула за вугал, а там я. Яна як закрычыць на ўсю глотку. Я за ёй: не крычы ты, не выдавай мяне! Рот ёй заціснуў і зноў у лазню пацягнуў. Растлумачыць хацеў, супакоіць. А тут з’явіўся камендант, злы як сабака... — Лёшка падняўся з зямлі. — Мне цяпер абавязкова вызначыцца трэба.

Хай з мяне абвінавачванне здымуць. У мяне, разумееш, мама настаўніца. Калі да яе дойдзе — які будзе сорам! Таму я з табой і вызваўся пайсці, каб на віду ў камандзіра быць. Разумееш?

— Разумею.

— А з той жанчынай я і не саўладаў бы. У мяне, — чырванеючы і гледзячы ўбок, прызнаўся Лёша, — ні адной жанчыны не было... Пайшлі, Федзь, камбат будзе чакаць.

Лёшка ішоў наперадзе, круціў галавой, часам паглядаючы ў бінокль, які яму спадабаўся. Гімнасцёрка на ім уздулася, нібы ён быў гарбатым. Ногі ставіў мудрагеліста: здавалася, што вось-вось зачэпіцца за свае ж пяткі — корпус «выкідваўся» наперад, а ногі адставалі. Аўтамат трымаў наперавес, сумка з гранатамі, перакінутая праз плячо, калі ішоў, біла яму па баку.

Фёдар выпадкова заўважыў у яго на штаніне шоў, падумаў: «Доўга паслужыць, моцна зашыў...»

— Стой! — Лёшка рэзка спыніўся, Фёдар нават наткнуўся на яго спіну. — Чуеш, здаецца, саляркай пахне.

У духмяную насычанасць лесу аднекуль чужародна струменіўся машынны пах. Далей ішлі ціха. Бясшумна ныралі пад голле, азіраліся, прыслухоўваліся. Наперадзе, у прагалах паміж дрэў, паказалася поле. Лес скончыўся, яго акаймавала дарога. На сонцы жаўцеў дарожны пясок, узрыхлены танкавымі гусеніцамі. Крыху воддаль — прымяты і павалены малады прыдарожны беразняк. Стаяла сасна з абадраным ствалом — свежы след, сакаўны, яшчэ не прыхоплены смалой.

Расхіліўшы голле, Фёдар і Лёшка прабраліся да таго месца, адкуль даносіўся пах саляркі, і абодва быццам задыхнуліся: на паляне стаяў нямецкі танк. Быў ён пафарбаваны ў шэра-зялёныя плямы, здаваўся агромністым. Збоку на вежы — белы, складзены з трафарэтных вугалкоў, крыж.

У Лёшкі дрыжалі вусны, але ў светлых вачах гуляла нешта адчайна-шальмаватае, як у хлапчука-гарэзы, які збіраўся абтрэсці суседскі сад.

— Мабыць, па дарозе калона танкаў прайшла. Гэты адстаў. Напэўна, сапсаваўся, звярнуў у лес, каб тут адрамантавацца. Рамантуюць... Давай бліжэй падбяромся.

Двое немцаў з бруднымі рукамі аб нечым перагаворваліся, паказваючы адзін аднаму на заднюю хадавую частку і на прымацаваныя да вежы тракі.

Яшчэ адзін немец з аўтаматам у руках сядзеў на вежы танка, аглядваўся па баках, мабыць, гэта быў вартавы.

За некалькі крокаў ад машыны быў чацвёрты немец, ён глядзеў на планшэт, мабыць, вызначаў па ім месца, дзе яны знаходзіліся. Быў ён апрануты ў скураную куртку з вузкімі, светла акантаванымі пагонамі — мяркуючы па ўсім, афіцэр.

— Nun aber tempo! Wir haben keine Zeit![1] — выкрыкнуў ён падначаленым і паглядзеў на гадзіннік.

Фёдар упершыню бачыў жывых немцаў так блізка, упершыню чуў іх хуткаслоўную мову. Дрыготкі страх на імгненне ахапіў яго.

— Што будзем рабіць? — шэптам спытаў ён, адчуваючы, як па-здрадніцку дрыжыць голас.

— Гранату адсюль дакінеш да іх? — спытаў у адказ Лёшка.

— А ты?

— Я дакіну. Я біту, гуляючы ў гарадкі, ведаеш як кідаў... Ты давай адсюль, а я з таго боку падбяруся. Гранаты кінем, потым страляй.

[1] А зараз у тэмпе! У нас няма часу! (*нем.*)

— Далёка не заходзь, а то адзін па адным страляць будзем.

Лёшка выцягнуў з сумкі гранату і ціхенька нырнуў у густалістыя кусты. Фёдар з-за ствалоў дрэў паглядваў нааграмадны «тыгр». Адзін немец, што займаўся рамонтам, крыкнуў свайму напарніку:

— Moment mal! Ich bringe Wezkzeug mit![1] — і хутка забраўся ў адчынены люк.

«Эх ты, схаваўся, падла! — мацюкнуўся Фёдар. — Трэба люк на прыцэле трымаць. А гэтых — хутчэй кокнуць. Чаго Лёшка маўчыць? Хутчэй бы...»

Ён трымаў у руцэ гранату і рыхтаваўся вырваць чаку. Але ў гэты момант чарга нямецкага аўтамата ўзарвала лясную цішыню. «Ф’юць! Ф’юць!» — праненесліся над галавой кулі.

Фёдар кінуўся на зямлю. Каля яго ўпала галінка, збітая куляй. Экіпаж «тыгра» — пяцёра (аднаго фрыца яны адразу не заўважылі, ён стаяў на варце з іншага боку паляны), заўважыў Фёдара.

Немцы перапалохаліся, нешта закрычалі. Але тут адзін за адным пачуліся два выбухі гранат, якія кінуў Лёшка.

Фёдар адскочыў убок са свайго абстрэленага месца. На хаду вырваў чаку і нарэшце кінуў гранату.

Калі граната ўзарвалася, вызірнуў з-за дрэва, убачыў, як нямецкі афіцэр, цягнучы параненую нагу, спяшаўся схавацца ў гушчары.

Фёдар кінуўся ўслед за ім, націснуў на курок аўтамата. Немец упаў тварам уніз, выкінуўшы наперад рукі. Па другі бок паляны ўсчалася перастрэлка: рускі і нямецкі аўтаматы абмяняліся агнём... І ўсё змоўкла.

Пыл, асядаючы мутным воблакам, слаўся па паляне. Два немцы ляжалі каля танка. Той, што яшчэ некалькі хвілін таму рамантаваў яго, адкінуты выбухам, ляжаў пад тракамі гусеніцы, якая навісала над ім. Другі, які зусім нядаўна сядзеў на вежы, ляжаў скурчыўшыся каля варонкі. Усяго трое забітых... А астатнія дзе?

Фёдар імгненна перабег у іншае месца, з-за ствала бярозы даў кароткую чаргу па крышцы люка. Кулі шчоўкалі як арэхі. І зноў цішыня. Пах гары, саляркі, трывога зацішша яшчэ больш абвастрылася.

— Лёшка! Дзе ты? — крыкнуў Фёдар.

— Ціха ты! Не крычы! — зусім блізка пачуўся адказ.

Лёшка выскачыў з кустоў. Галавой круціць туды-сюды, вочы ашалелыя, голас узбуджаны.

— Адзін у лес збег, зараза. Не паспеў я яго. Яшчэ адзін быццам там сядзіць. У танку. Не вылазіць.

— Чаго ён там будзе сядзець?

— Аглушыла. Або чакае падмогу. Можа, і няма яго там, — Лёшка выцер пот з твару. — У мяне бутэлька з палівам ёсць. Прыкрый мяне, а я яе прама ў люк кіну.

Азіраючыся, яны выскачылі на паляну. Лёшка, не гледзячы на сваю касалапасць, імгненна кінуўся да танка, шпурнуў у адкрыты люк бутэльку. Унутры танка глуха бабахнула — з люка слупам вырвалася полымя, затым паваліў чорны дым.

— Змываемся! — махнуў рукой Фёдар.

— Трэба ў афіцэра дакументы ўзяць, каб нам паверылі, — Лёшка падбег да афіцэра, схіліўся над ім, стаў абмацваць кішэні.

Адчуваючы за спінай грамадзіну танка, з люка якога ўзнімаўся дым,

---

[1] Хвіліну! Я прынясу інструмент! (*ням.)*

Фёдар ліхаманкава аглядаў лес. Нарэшце пусціў чаргу з аўтамата па кустах, каб парушыць нервовую цішыню. Рукі гудзелі ад напружання, палец нібы машынальна цiснуў на гашэтку. Затвор клацаў, апошнія кулі, нібы восы, выляцелі ў пустату...

— Ты чаго страляў? — ужо выскачыўшы з паляны, спытаў Лёшка.

— Так, на ўсялякі выпадак. Для храбрасці, — і вінавата, і радасна адказаў Фёдар.

Адыходзілі хутка, пад нагамі трашчала сухое голле. Ззаду чорным дымам чадзіў «тыгр».

Вырашылі, што няма сэнсу далей абследаваць дарогу каля поля. І так усё бачна. Непатрэбны бінокль целяпаўся ў Лёшкі на грудзях. Вырашылі далажыць камбату так: па дарозе, хутчэй за ўсё прайшла калона нямецкіх танкаў. Адзін з іх спыніўся на рамонт, з ім і расправіліся: машыне нанеслі такія пашкоджанні, што яна зараз проста металічная аграмадзіна. Чатырох членаў экіпажа забілі, пяты — збег.

Такі рапарт сачыніў Лёшка, хаця, дзе быў чацвёрты немец — невядома. Той, што збег, дык збег. А гэты... Можа, у час перастрэлкі змог таксама ўцячы ў лес, а можа, згарэў у танку.

У доказ свайго подзвігу прынеслі дакументы і планшэт нямецкага афіцэра.

— Двое тваіх, двое маіх, — падзяліў Лёшка мёртвых танкістаў. — Цяпер з мяне павінны зняць абвінавачанне. Не сільнічаў я тую жанчыну. І ў прыдачу двух фрыцаў паклаў. А галоўнае — танку хана...

— Павінны, — пагадзіўся Фёдар. — Значыць, кажаш, двое маіх?

— Усё чэсна, пароўну.

Фёдар задаволена кіўнуў галавой, дрыжачымі пальцамі выцягнуў з кішэні пачак махоркі.

— Лоўкі ты хлопец, Лёшка. Адразу і не падумаеш. Пры жаданні любой жанчынай мог бы завалодаць.

Яны вярнуліся ў акопы батальёна, адчуваючы сябе сапраўднымі героямі. Адразу пайшлі шукаць камбата, каб расказаць як усё было і аддаць дакументы нямецкага афіцэра, што павінна засведчыць праўдзівасць іх справаздачы.

Але камбата ўжо не было. Яго ўжо наогул не было. Капітан Падрэльскі памёр. Недарэчнай для вайны бытавой смерцю. Падрэльскі стаяў на назіральным пункце пад спякотным сонцам, з цяжкім азызлым тварам і стомленымі чырвонымі вачыма, — і раптам ногі яго падкасіліся, ён упаў ад кровазліцця ў мозг.

Салдаты, якія былі каля яго, спачатку і не здагадаліся, што паваліла капітана, таму шукалі месца, куды трапіла куля. Але старшына Касар, здымаючы з галавы фуражку, растлумачыў, што ў камандзіра лопнулі кравяныя сасуды. «Што ж ён не пахмяліўся своечасова?» Усе былі здзіўлены і шкадавалі: «Не па-геройску загінуў».

Фёдар і Лёшка свой рапарт перадалі старшыне, яму ж аддалі планшэт і «аўсвайс» нямецкага афіцэра.

Касар, як камандзір, аб’явіў ім падзяку, потым па чарзе паклаўшы на плечы руку аднаму, затым другому, сказаў:

— Кепска, што камбатавай галавы ў нас цяпер няма. Цяпер нас хады акружаць. Падрэльскі моцна стаяў...

Старшына, канечне, не ведаў, што батальён праз некалькі гадзін канчаткова ляжа ў няроўным баі. Нямецкая пяхотная часць, якая была адкінута ў час папярэдняга наступлення, будзе прабівацца да сваіх і выйдзе на штрафнікоў.

Пазней яе раздавяць трыццацьчацвёркі, але батальён Падрэльскага фактычна перастане існаваць. Аднак Фёдара і Лёшкі гэта ўжо не будзе датычыць.

— Памянуць трэба камбата, — сказаў Лёшка, калі яны з Фёдарам адышлі далей, засталіся ўдвух у траншэі. — Заадно і нашых фрыцаў «абмыем». Я з афіцэра зняў пляшку са шнапсам. Пакаштаваць бы, што яны п'юць, гады. — Ён дастаў з-за пазухі пляшку, стаў разглядаць гравіроўку: «Zu meinem lieben Bruder Heinrich» — «Майму дарагому брату Генрыху», напісана, я іх мову крыху ведаю, у мяне ж мама настаўніца. І вежа намалявана. Эйфелева. Самая высокая ў Парыжы. — Ён адкруціў корак, удыхнуў пах і прыклаў пляшку да рота.

Фёдар чакаў і бачыў, як па Лёшкавым загарэлым горле рухаецца кадык. Потым, убачыўшы, як грэбліва скрывіліся Лёшкавы вусны, над якімі бязладна тырчаў першы пушок, засмяяўся.

— Ну і атрута! Затхлым пахне, — хрыплым голасам сказаў Лёшка, трасучы галавой. — Лепш было б у старшыны гарэлкі выпрасіць.

Фёдар у сваю чаргу паднёс пляшку да рота, і яму таксама не спадабалася нямецкае пітво, хаця гэта быў не шнапс, а дарагі французскі каньяк. Але яны каньяку ад шнапсу не маглі адрозніць, ды і пілі каньяк упершыню.

Неўзабаве захмялелі. Пачалі ўспамінаць лясны рэйд, адзначылі, дзе дапусцілі памылкі. Але трэба было дзейнічаць больш дакладна, каб ні адзін немец не схаваўся. У рэшце рэшт сышліся на тым, маўляў, калі той фрыц і выслізнуў з танка, ён усё адно рана ці позна трапіць да іх, або зойдзе на замініраванае поле.

У гэтую ж хвіліну, калі нямецкі асколачны снарад вылеціць са ствала гарматы, намеціўшы на фінішы траекторыі палёту адну з траншэй рускай абароны, ап'янелыя ад трафейнай выпіўкі, параднёныя баявым поспехам радавыя Фёдар Заўялаў і Лёшка Кротаў зусім не думалі аб смерці.

* * *

...Жанчыны касілі недалёка ад вёскі ў доўгім Пляшкоўскім лозе. Трэба было раней касіць. Два тыдні таму: трава перастаяла, сонца і сухавей выпалілі з яе сокі. Але жанчыны не паспявалі спраўляцца ўсюды, дзе трэба было, а мужчынскіх рук — калі не браць у разлік дзядоў ды хлапчукоў — у Рамянскім заставалася ўсяго дзевяць. Чаму не цотна? Дык Максім-гарманіст вярнуўся з фронту з кульцяй замест правай рукі. І назаўсёды змоўкла ягоная двухрадка, запылілася, ссохлася без дыхання пявучых мяхоў. Максім, каб не вярэдзіць душу, схаваў яе чым далей.

Раніцай, калі яшчэ прахалода, калі трава расіста-мяккая, касілася лёгка і хутка. Цяпер лісце і сцяблы абсохлі, сталі пругкімі, паветра было спякотнае, на потны твар ляпілася машкара, над галавой віліся павукі.

— Новы пракос, Воль, з таго краю пачынай. Насустрач пойдзем, — выціраючыся хусткай, сказала Ліда.

— Сама адтуль пачні, — не згадзілася Вольга. — Я тут прывыкла.

Ліда хацела штосьці сказаць, але пасля, здагадліва ўсміхнулася і пайшла на другі край лугу далей ад Дар'і.

Былыя разлучніцы, Вольга і Дар'я, цяпер не варагавалі, рэўнасць не ўзнімала ні ў адной, ні ў другой злосці, але на працы яны стараліся не быць разам.

Вопытная ў любоўных справах Дар'я, якая некалі прывячала ў сябе Фёдара, ведаючы, што ён заляцаецца да Вольгі, цяпер акруціла Максіма. Прыгалу-

біла-прывадзіла ўсур'ёз і абацяла быць яму вернай да канца. Вясковая гулёна, у якой да вайны перабыло нямала мужчын і хлопцаў, што шукалі ўцех, дрыжачым голасам казала яму: «Ты, Максімачка, мінулага не ўспамінай. Як бруд са шкла сцерлі, дык шкло зноў чысценькае...» Перад Максімам пабажылася Дар'я, што і з Фёдарам, як вернецца, у яе ўжо не будзе ніякага кахання. Свой выбар яна растлумачыла і сабе, і жанчынам абдумана: «Няхай Максім — аднарукі, затое малады, целам моцны. Дзеўкі нашы дурныя, спадзяюцца, што да іх з вайны прыйдуць рыцары ў медалях. Як бы не так! Пахавальная за пахавальнай, быццам галкі ляцяць. Паглядзі: ужо з вёскі на вайну няма каго забіраць. А калі яна, гадаўка, скончыцца? Ды колькіх скалечыць?.. Пражывём і без рукі, дасць Бог. Пасля вайны і дзіцятка народзім. А пакуль нам дваім з Максімам не шмат чаго трэба...» Горкія слёзы перацiскалі Дар'іна горла: не давалі спакою думкі пра юродзівую дачушку Кацьку, самую блакітнавокую на свеце. Не перажыла яе дачушка голаду першай ваеннай зімы... У дачушчыну труну паклалі яе верную сяброўку — драўляную лялъку...

Вольга не толькі з-за таго, што не хацела касіць побач з Дар'яй, перайшла на другі канец лога: ёй хацелася быць бліжэй да Лізаветы Андрэеўны. Раптам яна, калі выпадзе хвіліна перадыхнуць, скажа што-небудзь пра Фёдара. Сама пачынаць размову з Лізаветай Андрэеўнай Вольга не асмельвалася: і па сёння, калі здаралася сустракацца, віталася і адразу, апусціўшы вочы, ішла далей. Але цяпер усё мянялася. Ад Танькі, Федзькавай сястры, не злапамятнай, даведалася, што «турма Федзьку скончылася», і што ён «паехаў у салдаты». Гэта з Вольгі быццам здымала віну за тое, што Федзька трапіў у турму — а вайна, фронт — не, тут Вользінай віны няма! Ад вайны гора ўсім хапае. У Вольгі таксама бацьку ў акопах забіла і старэйшы брат на фронце пад агнём служыць.

Але гэта з-за яе, Вольгі, перад вайной Федзька пырнуў нажом гарадскога камсамольскага сакратара, з якім яна стаяла. Федзька палічыў, што яна здрадзіла яму. Не, не здрадзіла, проста так, цікава было. Ды і Федзька да Дар'і хадзіў...

Вольга часта думала пра Федзьку. Ды і не забывала яна яго. Вырашыўшы, што яе грэх перад ім не такі ўжо і цяжкі, яна шмат разоў намервалася напісаць Фёдару на фронт. У думках выпакутавана «абкатвала» кожны радок пісьма, нумара аднак не ведала палявой пошты. Даведацца яна магла ў Танькі, але ўсё стрымлівала сябе. Лепш было б, калі б яна нейкім чынам прымірылася з Лізаветай Андрэеўнай, тады можна было б спытаць у яе дазволу напісаць пісьмо Фёдару і даведацца яго адрас.

«Добры дзень, ці вечар. Фёдар! Гэта я табе пішу — Вольга. Колькі разоў ужо збіралася табе пісьмова растлумачыць, бо атрымалася, быццам я цябе туды і адправіла. Але пра турму давай не будзем успамінаць. За ўсё мінулае даруй мяне, не кляні. Калі б ведала, што так атрымаецца, я б кроку з дому ў той вечар не зрабіла б. Цяпер ужо, калі прайшло столькі часу, магу табе прызнацца шчыра: не было ў мяне ніякага кахання да Савельева. Так. Цікавасць нейкая дзявочая ды зазнайства. Быццам у лялькі пагуляць захацелася. А сапраўднага — не было. Пасля суда над табой я з ім ні разу не размаўляла. Усё з душы адвалілася...»

У гэтым пісьме Вольга збілася: ці то землярыйка трапіла пад касу, ці то цвёрдыя сцяблы, ці то рукі самі па сабе аслабелі на гладкім касільне... Успомніла з горкай пяшчотай і сумам, як яна танцавала вальс з Савельевым... Пакалыхваецца хвалямі музыка, кружыцца Вольга, цягнецца ўверх, прыхіліўшыся да статнай фігуры Вікенція... Твары вяскоўцаў мільгаюць у шчаслівым кругавароце — яна замірае... Але зноў, глыбока ўздыхнуўшы, Вольга пачынае касіць, зноў у галаве гучаць словы яе пісьма Фёдару.

«...на яго, Фёдар, на Савельева, зла не трымай. Ён табе нічога кепскага рабіць не хацеў. Незнарок падвярнуўся. Ды і мёртвы ён ужо. Кажуць, яго паліцаі ў палоне пакаралі. Нельга таго, хто загінуў, кепскім словам памінаць.

А тыя вячоркі, якія былі ў нас, ужо ніколі не паўторацца. Людзей ужо тых няма. Самы галоўны завадатар, сябрук твой Паня, загінуў. Ліда па ім ужо адгаласіла. Максім вярнуўся без рукі і гармонік свой схаваў. Ды і наша любімае месца, дзе ладзілі танцы, зарасло бур'яном. А дашчатую падлогу і лаўкі разламалі на дровы...»

Тут зноў абарвалася нітачка, лопнула на самым тонкім месцы. Каса ў руках Вольгі заўпарцілася, уткнулася дзюбкай у дзёран. На Вольгу накацілася пачуццё, быццам пражыла яна шмат гадоў, але гады гэтыя змясціліся ў кароткі пробліск. Быццам ужо ёй ніколі не давядзецца адчуць нічога новага ў жыцці — няма сілы. Нават заліхвацкая частушка, тапатуха, заляцанні з хлопцамі і пацалункі — усё для яе ўжо ў ахаладзелым мінулым.

За два гады, што прайшлі з таго часу, Вольга і сапраўды змянілася. Некалі пульхная і румяная, з вясёлымі вачыма, яна цяпер зрабілася сумнай: пахудзела, абрэзала касу, і ні аб чым светлым не марыла.

У яе руках, у размовах з'явілася жаночая стомленая сур'ёзнасць, яна часта і задумліва ўздыхала, смяялася неяк коратка, быццам вымушана. Нават з Лідай рэдка зацягвала песню і часта замаўкала недарэчна на паўслове. Толькі адна, пастаянная і салодка-пакутлівая надзея на Фёдара надавала ёй святла і сагравала. Але і гэтая надзея патрабавала апоры...

Вольга ўкрадкай паглядала на Лізавету Андрэеўну. Падысці б да яе, пагаварыць, распытаць пра Фёдара. Дзе ён? Што з ім? Напісаць бы яму хутчэй. Можа, дарэмна яна сябе сагравае? Ці адгукнецца ён?

Але зараз пад кулямі Фёдар... Раптам заб'юць. Раптам не паспее яна сказаць яму тое, што хоча... так і прыйдзецца жыць з каменем на сэрцы.

Вольга кінула літоўку — срэбрам бліснула на сонцы каса. І пабегла ў лес.

— Куды ты, Воль? Што здарылася? — крыкнула Ліда.

— Ды нічога! На хвіліну я! — адмахнулася Вольга.

Яна забегла ў лес, пераскочыла сухастой, зацягнуты павуціннем хмызняку, выбралася на светлую паляну да высокай бярозы. Запыхаўшыся, прыхілілася да белага ствала, абняла яго, прыціснулася шчакой да цёплай кары. Заплакала бязгучна, кусаючы вусны, драпаючы пазногцямі кару.

Яна плакала аб сваёй адзінай маладосці, аб нязбыўным каханні, аб той маладосці, якая знікае, і якую ніхто ніколі не верне, аб тым каханні, якое ўжо не паўторыцца... Яна плакала ад таго, што не ведае мужчынскай ласкі, яна плакала ад нечага невытлумачальнага ў яе лёсе, ад няяснага хвалявання, што сціскала грудзі...

Слёзы цяклі па яе твары. Сонечныя промні пранізвалі лісце бярозы, плямамі падалі Вользе на шчокі, асушалі яе слёзы...

Вольга ўжо ніколі не ўбачыць Фёдара. Ён памрэ ў шпіталі вясной сорак пятага.

* * *

Сонца свяціла ўсім, не разбіраючыся, дзе хто. Яно вісела ў небе над Парыжам і гуляла блікамі на лакавым казырку фуражкі, на начышчаных гузіках і на крыжы, якім быў узнагароджаны штандартэнфюрар Ота Дзюрынг.

Ён толькі што сытна паабедаў у рэстаране пана Лефена і, выпіўшы на дэсерт чарачку каньяку, выйшаў з цыгарэтай на набярэжную Сены.

Ота Дзюрынг узяў накірунак да ўстановы «масье» Кроша, які трымаў публічны дом для старшых нямецкіх афіцэраў.

Да прызначанага спаткання заставалася пятнаццаць хвілін — нямецкая пунктуальнасць не дазваляла яму прыйсці крыху раней, або крыху пазней, — і штандартэнфюрар, адпусціўшы сваю машыну, вырашыў прагуляцца па беразе Сены... Настрой быў узнёслы.

Увогуле ж настрой па ўсім, што на яго ўздзейнічала, мог бы лічыцца выдатным, калі б не адна акалічнасць: справы на Усходнім фронце, куды з заходняга кірунку перакінулі малодшага брата Генрыха і куды неўзабаве меліся перакінуць самога Ота Дзюрынга, прадказвалі Германіі ўсё больш паражэнняў, чым перамог.

Усе, хто збіраўся ў Расію, дакладней, каго адпраўлялі ў Расію, пачыналі моцна піць і не праміналі магчымасці адзначыцца ў такіх установах, у якую ён ішоў.

«Ужо трэці год кешкаюцца з гэтай Масквой! Колькі можна? Колькі можна!» — у думках упікаў некага Ота Дзюрынг, жмурачыся ад едкага дыму цыгарэты. Ён разумеў і не разумеў, у чым пралікі фюрара. Ды некаторыя сталіцы Еўропы бралі сіламі веласіпеднага палка! Але чаму так легкадумна падрыхтаваліся да кампаніі на ўсходзе? Расія ж — гэта не цывілізаваная Еўропа. Гэта краіна варвараў, азіятаў-фанатыкаў. Russische Schweine! Гэтым жывёлам ніколі не зразумець, што арыйская нацыя нясе ім парадак і культуру! І нічога ім не зразумець — варварства трэба знішчаць сілай! Еўропа на гэты конт хутка ўсё разумее і бездакорна падпарадкоўваецца моцнаму. Тут фюрар не памыліўся. Еўропа як прыгожая наложніца, якая сарамліва закрывае вочкі, адверне ўбок носік і пакорна аддасца ўладару...

Штандартэнфюрар усміхнуўся спантанна прыдуманаму дасціпнаму параўнанню і страсянуў за парапет набярэжнай попел з цыгарэты. А потым раптам раздражнёна кінуў у ваду і цыгарэту: «Смярдзючы трафейны тытунь! Няма нічога лепшага, чым нямецкія цыгарэты!»

Ён спыніўся, быццам забыўся, куды ідзе: стаяў і час ад часу хмыкаў, гледзячы ўдалечыню — за парыжскія дахі. Яму ўспомніліся сяброўскія пагулянкі саракавога года, — года германскіх перамог, якія ішлі адна за адной.

Сяброў цяпер параскідвала. Многія апынуліся на франтах праклятай Расіі. Толькі таму-сяму нечувана пашанцавала. Напрыклад, Карл па-ранейшаму багацее, наладзіў падпольны бізнес: тайна збывае музейныя рэліквіі Усходняй Еўропы амерыканскаму гандляру антыкварыятам, арганізатару прэстыжных аўкцыёнаў Джону Крэмеру, па сутнасці, сапраўднаму прайдоху.

Студэнцкі сябра Эрнст таксама няблага ўладкаваўся: пад выглядам швейцарскага эксперта-хіміка ашываецца ў Нью-Ёрку, застаючыся рэзідэнтам разведкі, вывучае магчымасці адкрыцця Другога фронту ў Еўропе. «Хм, якое там вывучае! Нечага вывучаць! — падумаў Ота Дзюрынг. — У бліжэйшы час рускія могуць не спадзявацца на гэта! Баязлівыя, меркантыльныя янкі ніколі не пададуць руку дапамогі чырвонаму Сталіну, пакуль трыста разоў не пралічаць, якая ім ад гэтага карысць. А гэты вяпрук Чэрчыль не зробіць надвор'я на кантыненце. Ды і не такі ён дурань, ён не скранецца з месца, пакуль мы ў Расіі канчаткова не зламаем зубы...»

Апошнія думкі здаліся штандартэнфюрару блюзнерскімі, ён паморшчыўся. Думаць пра вайну на Усходнім фронце не хацелася, — гэта вельмі раздражняла Ота Дзюрынга. А так усё было цудоўна. Свяціла сонца. Бабулька Сена спакойна цякла ў каменных берагах. І Парыж заставаўся Парыжам. І здавалася, што наогул можна было б абысціся без вайны.

Ота Дзюрынг крыху прыспешыў крок, каб пераступіць парог установы «масье» Кроша дакладна ў вызначаны час. Штандартэнфюрар ведаў, што сёння «масье» Крош забраніраваў для яго белакурую мамзель Антуанету, і ён цудоўна правядзе час, а пасля адзін будзе вельмі сумаваць па любімай жонцы Гертрудзе. Гертруда з дзвюма дачушкамі чакала яго ў Кёльне, часта пісала яму пяшчотныя пісьмы, у якіх расказвала, што падоўгу моліцца з дочкамі на ноч, каб Ота не адправілі на Усходні фронт. Туды, на Усходні фронт, ужо адправілі з акупіраванай Францыі яго брата Генрыха.

І так, сонца свяціла ўсім. Усім жывым. Яно назаўсёды гасла толькі для мёртвых. Гадзіну таму яно пагасла для Генрыха Дзюрынга, камандзіра нямецкага «тыгра», чый каньяк выпілі ў траншэі двое рускіх салдат, што захапіліся размовай пра свой нядаўні першы бой.

...У нейкае імгненне Лёшка заўважыў, як снарад чорнай маланкай пранёсся над галавой і ўрэзаўся ў бакавіну траншэі. Ад узрыву скаланулася зямля, і выбуховая хваля з неймавернай сілай падкінула яго, здавіла грудзі гарам, пасекла цела зямлёй і асколкамі. Здавалася, хваля ўзняла яго высока над зямлёй, і ў тое кароткае імгненне, у мёртвай кропцы, калі ўзлёт пераломваецца ў падзенне, ён з усяе сілы крыкнуў: «Мама!» Але крык яго быў не знешнім, бо Лёшку перабіла лёгкія і перарэзала горла, і ён не мог вымавіць і гуку. Гэта быў крык унутраны — самы апошні. Потым усё абрынулася ўніз. Асколкі снарада, камякі зямлі, трэскі і камяні. І задымленае сонца.

Лёшка незнарок засланіў сабой Фёдара, выратаваў яму жыццё. Ён знаходзіўся бліжэй да таго месца, дзе ўзарваўся снарад, і большасць тых асколкаў, што наканавана ім было падзяліць пароўну, па-чэснаму, як падзялілі забітых фашыстаў, Лёшка прыняў на сябе. Не паспеў Лёшка дабіцца, каб з яго знялі абвінавачванне.

Варта было толькі заплюшчыць вочы — і ва ўяўленні зноў капашыліся залатыя чарвякі. Невыносна балела галава. Унутры ўсё вываророчвалася...

У палявы палатачны медсанбат Фёдар трапіў паранены некалькімі асколкамі і моцна кантужаны.

— Ну як, салдацік? Не памром? — падбадзёрвала Фёдара лейтэнант медслужбы Сізова, смяшлівая пульхная дзяўчына, ад якой пахла кветкавымі духамі. Яна аглядала яго, абмацвала раны, усміхалася, скрыўляла вялікія рухавыя вусны. — Да наступнага бою падлапілі. Загаіцца... Чаго маўчыш? Чуеш мяне кепска? Ведаю, салдацік, што кепска.

— Не памром, — шэптам азваўся Фёдар на яе добрыя словы і, перамагаючы слабасць, паспрабаваў усміхнуцца. — Не памром, д’яблава душа!

— Са смерцю, салдацік, трэба як з фрыцам, як мага больш нахабным быць. Гані яе, вядзьмарку, прэч! — вучыла Сізова, ідучы да іншага «салдаціка».

«На вайне, хлопец, трэба быць як мага больш нахабным, — гэтыя словы, сугучныя з наказам жыццялюбівай лейтэнанткі, належалі Сямёну Волахаву. — Нахабства і адвага — дзве сястры. Без іх у баі холадна. А з імі, калі і заб’юць, то на страшным суддзе стаяць не сорамна. Не дарэмна галаву паклаў. Калі ў цябе зайцава душа, то і перад сабой, і перад Богам сорамна».

Сямёна Волахава, сялянскага грамацея і кавалера «Георгія», праўдалюбца і па натуры більярднага іграка, Фёдар яшчэ ўбачыць. Гэта будзе наперадзе, зімой сорак чацвёртага года, на фронце. Ён ўбачыць яго не наяве. Але Волахаў, быццам па-сяброўску, працягне яму руку для выратавання.

...Вакол ляжаў светлы і пульхны снег. Ветру няма, і нават на чаратах трымаліся дробненькія белыя шапачкі.

Чарот стаяў тонкім частколам каля берага невялікага возера. Сярод возера ззяла палонка, на лёдзе ўзарвалася бомба. Высокія сосны за возерам, засыпаныя снежнай кудзеляй, выразна адлюстраваліся на цёмнай гладкай вадзе; а паўсюль навокал — ненатаптана, чыста: ніводнага чалавечага следу, ні варонкі, ні гільз.

— Касцёр разгараецца, схадзі прынясі вады, — сказаў Захар і падаў Фёдару кацялок.

Фёдар машынальна ўзяў кацялок, але нікуды не пайшоў. З невялікага пагорка ён глядзеў уніз — на азёрную ваду, у якой адлюстраваўся лес і на сам лес, на калматае белае сасновае галлё. Першародная бель снегу, сасновы лес і цёмныя абрысы палонкі з адлюстраваннем дрэў нагадвалі нешта з дзяцінства. Быццам усё гэта ўжо ён бачыў. Але не мог успомніць калі, дзе, магчыма, і не наяве, а на нейкім зімнім малюнку або паштоўцы да навагодняга свята.

— Глянь, зямеля, лес намаляваны! — сказаў Фёдар і глыбока ўздыхнуў. — На лесапавале ўсялякіх дрэў пабачыў, але на прыгажосць іхнюю не заглядваўся. Прыгажосць радуе, калі ёсць свабода. Эх, каб зараз не вайна — пайшоў бы на лыжах катацца!

Захар, які не любіў шмат гаварыць, падклаў у касцёр сушняку, паглядзеў на жывы малюнак заснежанага лесу. Ён нічога не сказаў, але галіначкі маршчын у куточках вачэй выцягнуліся ад сціплай усмешкі. Відаць, і яму перадалося натхнёнае пыродай Фёдарава пачуццё. Не малады. Ён нямала пахадзіў па мірных працоўных дарогах і дастаткова па франтавым шляху, Захар быў чалавекам памяркоўным і ўмелым. Ужо адно тое, як ён згортваў «казіную ножку», сведчыла пра гэта. Іншы так яе закруціць, што і глядзець непрыемна: ці тытуню насыпе зашмат, або, наадварот — вельмі мала і нераўнамерна, ды і папера расклеіцца, прапускаючы паветра, непатрэбнае, калі зацягваешся.

У Захара тытунь роўненька ляжыць, аднолькава, шчыльна па ўсёй закрутцы, і яго якраз столькі, каб хапіла накурыцца: лішку не перасыпле, але і няма такога, каб недасыпаў. І ва ўсім Захар быў такім — няспешным, простым, тым чалавекам, які ўсяму ведае сутнасць. «Людзі шмат чаго робяць задужа мудра. А жыццё ж простае, — чуў аднойчы ад яго Фёдар. — Хочаш есці — хлеб сей. Вопратка патрэбна — лён церабі. Холадна табе — запальвай агонь. Ленасць і зайздрасць усюды перашкаджаюць. Адкінь іх — і ўсё стане на сваё месца».

Ён і вайну прымаў як непазбежную працу, якую за яго ніхто не зробіць.

Разаслаўшы плашч-палатку, Захар выцягнуў з салдацкага рэчмяшка бляшанку тушонкі, сухары, з анучы — два белыя драбочкі цукру. І пачаў круціць «казіную ножку», каб перакурыць, пакуль будзе закіпаць вада.

— Мне таксама скруці, — папрасіў як звычайна яго Фёдар, збіраючыся ісці да возера. Але глянуўшы на газету, якую Захар пачаў паласаваць, крыкнуў: — Стоп! Ну-ка пачакай-ка, Захар! — Ён кінуў кацялок на снег і выхапіў газету: — Мама родная! Гэта ж Сямён!.. Ды мы з ім... Я ж учора яго ўспамінаў!

Разгладзіўшы газету, Фёдар уважліва глядзеў на фотаздымак. Гэта ж ён! Сямён Волахаў уласнай персонай! З ордэнам на грудзях! Тоўстыя бровы ўразлёт, у вачах — гонар! Ну маршал, не інакш! І форма на ім афіцэрская: на пагоне прасвет і маленькая зорачка. Мабыць, таксама з штрафнікоў выпаўз. Нават да афіцэрскага чыну вярнуўся. «Бесстрашна б'е ворага артылерыйская батарэя младшага лейтэнанта С. Волахава, патлумачыў тэкст пад фотаздымкам. — За апошнія аперацыі асабісты састаў батарэі і слаўны камандзір адзначаны ўзнагародамі Радзімы...»

— Паглядзі, зямеля, які арол! Колькі ён на вырубцы гарбаціўся! Колькі за блатароў работы перарабіў! Яму неяк Артыст — быў у нас такі злодзей у заключэнні — сіняк на паўтвару паставіў. Цяпер бы Сямён гэтага Артыста ў гарматны ствол засунуў бы. — Фёдар усміхнуўся і нават быццам пачуў, як Волахаў пацвердзіў: «Эх, хлопец! Я б яго так засунуў, каб у яго... Суччына семя!» — Начальства ён, зямеля, не вельмі любіў. Крыў усіх. Казаў, не шанцуе ў Расіі на начальнікаў. У іншых народаў разумных людзей менш, але яны разумныя, паперадзе дурняў стаяць. А ў нас і разумных хапае, але дурні паперадзе іх. Моцны мужык Сямён — моцны розумам і целам моцны. А папаўся на глупстве: більярдныя шары з адным ваякам не падзяліў.

— Ты калі, Федзька, вады прынясеш? — перабіў яго Захар. Касцёр ужо добра разгарэўся. Полымя цягнулася да рагаціны, падрыхтаванай для кацялка.

— Ды пачакай ты! Дай мне з Сямёнам пабачыцца! Пра яго тут у газеце — не хухры-мухры! — кінуў Фёдар, як дзіця радуючыся, што ўбачыў «аддрукаванага» даўняга знаёмага.

Захар паглядзеў на Фёдара як на не зусім разумнага, моўчкі падняў кацялок і пайшоў, каб прынесці вады.

Ён спусціўся з пакатага схілу і накіраваўся паўз зараслі чароту да палонкі.

Фёдар усё яшчэ глядзеў на армейскую шматтыражку з гонарам за Волахава. Здзіўляўся: вось як чалавека круціць жыццё! То пакаранне яму, то — пашана! А ён жа ўвесь час адзін і той жа. Галава на плячах тая ж, і рукі-ногі ніхто яму не памяняў. Атрымліваецца, яго па-рознаму ацэньваюць. Або ў ім самім сядзяць і д’ябал, і праведнік...

Стрэл быў нягучны. Гук кароткі, не раскацісты. Нібы на тым беразе возера, у сасняку, трэснула ад напругі пад снегам сухая галінка. Захар раптам спыніўся, выпусціў з рукі кацялок, пахіснуўся і ўпаў на спіну. З галавы зляцела шапка, і з ілба, з адтуліны ад кулі, на чысты снег пацякла кроў. Ён ляжаў нерухома, адзінокі, на белай пустэчы берага, не дайшоўшы да возера і палонкі ў ім некалькі метраў.

Спачатку Фёдар не зразумеў: што за сіла паваліла Захара? Кінуўся да яго — наперад, але тут жа спыніўся, атарапеў. Гэта ж ён павінен ляжаць на месцы Захара! Яго чакаў аптычны прыцэл снайперскай вінтоўкі! Захар жа замест яго пайшоў.

Фёдар кінуў газету з партрэтам Волахава, схапіў аўтамат і з калена, з-за ствала дрэва, стаў расстрэльваць лес, што на заазёрным беразе яшчэ хвіліну таму зачароўваў яго, лес, у якім схавалася нямецкая «зязюля».

Голле на соснах перапалохана дрыжала і скідвала з сябе снег. Навокал гуло ад частай бескарыснай страляніны, чулася доўгае рэха.

Даруй, зямеля. Далібог, не хацеў цябе пад кулю пасылаць. Даруй!.. Так Фёдар, не на яве сустрэўшыся з адным таварышам, з якім у мінулым яго многае звязвала, страціў другога, які ў яго быў цяпер.

Аднак усяму гэтаму наступіць свая чарга. Пакуль жа Фёдар, летам сорак трэцяга, ляжаў у медсанбаце.

Свінцовы абруч кантузіі сціскаў галаву, у вушах невыносна гуло, быццам ён знаходзіўся на глыбіні пад вадой. Асколачныя раны, хоць і былі зашытыя, гнаіліся, і бінты, калі рабілі перавязкі, аддзіралі з мясам.

— Не бойся, салдацік! Страшнае ззаду. Астатняе ў шпіталі далечаць, — аглядаючы Фёдара чарговы раз казала аптымістычная лейтэнант Сізова.

— Ты б мяне, начальніца, дамой папраўляцца адправіла. Там хутчэй бы ажыў, — думаючы аб доме, казаў Фёдар.

— Ха! — з усмешкай ускрыквала яна. — Усіх бы параненых да спадніц адпусціць — ваяваць не будзе каму. Ты ў нас, салдацік, і так шчаслівы. Ад вашага батальёна, мабыць, і пер’я не засталося.

Пасля лячэння ў шпіталі Фёдар наіўна думаў, што яго могуць адпусціць дадому праведаць родных. Але памыляўся. Ужо восенню, калі франты падышлі да Дняпра і рыхтаваліся яго фарсіраваць, чырвонаармеец Фёдар Заўялаў, які крывёй змыў судзімасць, апынуўся на перадавой у складзе асобнага пяхотнага батальёна.

* * *

У зямлянцы на бервяне сядзіць хмурны і не паголены камандзір батальёна маёр Грышын. Шынель на ім расшпілены, пагоны падламаныя. Побач з ім, паклаўшы нагу на нагу, сядзіць другі маёр, нампаліт Якаў Ільіч. Перад імі на пустой скрыні з-пад патронаў разгорнута карта, якую збоку асвятляе язычок полымя, што слепа трапечацца з прыплюснутай снараднай гільзы. Грышын раздражнёна касавурыцца ў вугал зямлянкі, дзе валяецца разбітая рацыя.

— Наступа-а-аць! Уварва-а-ацца на пляча-а-ах праціўніка... — перакрыўляе ён кагосьці са штабных армейскіх чыноўнікаў. — Не падумаўшы сунуліся, вось і трапілі ў акружэнне. Батальён рассечаны. Гарматы ў балота пасадзілі, сувязі няма, начальніка штаба і двух ротных забіла. Загрымім мы з табой, Якаў Ільіч, пад трыбунал. І колькі іх там засела, фрыцаў гэтых, у гэтай Селязнёўцы? Прарвёмся ці загубім тых, хто застаўся? А раптам і праз балота дарога ёсць, абыдзем?

Якаў Ільіч таксама заклапочана глядзіць маленькімі вачыма на тапаграфічныя загагуліны. Мяккія маршчыны на яго ілбе засяроджваюцца. Але свае рэкамендацыі не выказваў: кадравым ваенным ён сябе не лічыў — паставілі кіраваць ідэалогіяй.

Да вайны Якаў Ільіч працаваў майстрам на ткацкай вытворчасці. Яму падпарадкоўваліся два дзясяткі жанчын і некалькі наладчыкаў — мужчын. Яны яго звалі паважна і іранічна «Калабок». Такая мянушка прыліпла да Якава Ільіча не толькі за тое, што ён быў тоўстым, але і таму, што душа ў яго была своеасаблівай. З усімі ён размаўляў лагодна. А калі трэба было за якую правіннасць правучыць, дык гаварыў з чалавекам доўга, як кажуць, праходзіўся па ім з усіх бакоў, ды так, што той бачыў усе свае недахопы, пачынаў дакараць сябе за іх, а потым казаў: «Ужо лепш аблаялі б апошнімі словамі, чым так...»

Як пачалася вайна Якаў Ільіч трапіў на курсы камісараў і па ваенна-партыйнай лініі дайшоў у нампалітах да маёра...

Камандзір батальёна Грышын, гледзячы на карту, вырашыў:

— Першае, — стукнуў ён кулаком па калене, — выцягнуць з балота гарматы і боепрыпасы. Другое: накіраваць у тыл сувязных. Хай скрозь зямлю пройдуць да нашых і вытрабуюць дапамогу. Трэцяе... Ты, Якаў Ільіч, выберы добрых хлопцаў, якія разам з намі трапілі ў акружэнне. Выберы разумных, каб спрацавалі так як трэба.

Якаў Ільіч усміхнуўся, радуючыся такому даверу. Байцоў падраздзялення ён вывучаў добрасумленна, ведаў амаль усіх па прозвішчы. Заўсёды звяртаючыся да іх паблажліва ды з усмешкамі, выклікаючы давер, нібы ўніверсальным ключом адкрываў кожнае салдацкае сэрца.

— Ды загадай ім: у бой без асаблівай неабходнасці не ўступаць. У ворага не павінна быць звестак, што мы тут у пастцы. Выканаюць заданне — узнагародзім як след.

— Зразумела, — заківаў галавой Якаў Ільіч, узняўся, выйшаў з зямлянкі.

Неўзабаве Якаў Ільіч хадзіў туды-сюды перад салдатамі, якіх адабраў для выканання задання. Загад Грышына быў зразумелы, але Якаў Ільіч не мог не правесці выхаваўчую работу. Сцісла, але чаканячы кожнае слова, ён сказаў, якія задачы, пастаўленыя таварышам Сталіным, трэба выканаць, і толькі потым перадаў інструкцыі камандзіра, заўважыўшы, што, магчыма, салдат чакаюць узнагароды.

— Усё добранька зразумелі? — удакладніў Якаў Ільіч, не сумняваючыся, што пачуе правільны адказ. А закончыў ён сваю прамову па-сямейнаму, з цеплынёй: — Давайце з Богам, хлопчыкі!

Атрымаўшы загад, салдаты сышліся, каб абдумаць, як будуць дзейнічаць.

— Дзіўны ў нас нампаліт. Пачаў пра Сталіна — Богам закончыў.

— Ён на папа і падобны. У нас у вёсцы панамар быў — копія нампаліт...

— Самі батальён сюды загналі. Цяпер падавай ім «языкі». За іншага «языка» цэлы ўзвод пакладуць.

— Мы неяк дваіх прывялі. Румынамі аказаліся. Абое недавяркі, нічога не могуць расказаць.

— Ночы цяпер асеннія, цёмна. Возьмем як міленькага. Галоўнае — вытрымаць.

— Немец ночы не любіць. Усё ракеты пускае. Гэтыя, па ўсім бачна, не палоханыя яшчэ, — нампаліт сказаў: пра нас, падобна, не ведаюць.

— Пра ўзнагароды шмат нагаварыў.

— Ордэн нікому не перашкодзіць. Грудзі не цягне.

— Давай-ка ўсё па парадку...

Фёдар таксама быў у тым салдацкім гурце. Сачыў, як Захар, якога прызначылі старшым аперацыі, маляваў на пяску падыходы да Селязнёўкі. Фёдар запамінаў, услухоўваўся, але думкі былі не толькі пра разведку, сігалі ў заўтрашні дзень. Вось прывядуць яны «языка». Камандзір прадставіць Фёдара да ордэна. А ён возьме ды адмовіцца ад яго! Ордэн яму не патрэбен. Замест ордэна дайце яму...

— Заўялаў і Комаў будуць па правую руку. Раптам што, прыкрыеце з фланга. Гуму не цягнуць і не спяшацца.

— Зразумела, зямеля, — ні да месца паблажліва ўсміхнуўся Фёдар, на што Захар паглядзеў не зусім зычліва.

— Усё зробім, як загадваеш. Усё акуратна, — запэўніў Вася Комаў, былы малатабоец з маленькага ўральскага гарадка. Ён паклаў Фёдару на плячо вялікую далонь.

Калі закацілася сонца і сіні вечаровы маскіровачны халат страціў празрыстасць, група выбралася з лесу, дзе, затаіўшыся, доўга разглядвала мясцовасць у кірунку Селязнёўкі.

Прыгнуўшыся, салдаты спускаліся ў нізіну, ахутаную па-асенняму сырой і непрагляднай цемрай. Гэтая нізіна вяла да вёскі.

Сапёр папоўз наперад, астатнія чакалі, перагаворваючыся шэптам.

— Па вокнах святло мажацца. Знаць, вёска не спусцела.

— Каля канцавых хат, несумненна, знаходзіцца пост.

— Дот у іх там. Немец любіць, каб усё было як трэба.

Цемра спрыяла разведчыкам. Аднак ноч аказалася не вельмі цёмнай: у небе з’явіліся бледныя праплешыны, выкаціліся зоркі, і сярод аблокаў прабег зыркі месяц.

Неўзабаве вярнуўся сапёр. Ён далажыў Захару, што ў калючай агароджы «перакусіў» праход і вакол яго абмацаў зямлю — мін не выявіў. Яшчэ больш пасвятлела: месяц ачысціўся ад аблокаў. Бачылі: на краі вёскі ў зямлю па самую вежу закапаны танк.

— Умацаванне магутнае. Іх там узвод, не менш. Бяром толькі паставога — і назад. Мы — у засадзе. Вы — злева. Вы — справа. Больш ні гу-гу, — наказваў Захар.

Праз праход у калючым дроце пралезлі недалёка ад нямецкага ўмацавання. Разышліся, як дамовіліся раней. Нямецкі пасты сам выдаў сябе. Цішыню ўспарола кароткая аўтаматная чарга. Ёй адказала другая — недзе сярод вёскі, і яшчэ адна — на супрацьлеглым канцы. Так, час ад часу страляючы, часавыя нібы пераклікаліся паміж сабой.

Фёдар ляжаў каля Васі Ломава ў цемры, каля канавы, зусім блізка ад сцежкі, па якой праходзіў маршрут паставога. Немец быў высокі, крокі рабіў шырокія, але часта спыняўся, азіраўся, гучна пазяхаў.

Часам месяц высвечваў нават гузікі на яго шынялі, варанёную сталь аўтамата і авал каскі. Часам наплывалі хмаркі, станавілася цёмна, паставога не было відаць. Тады агортвала трывога: ён недзе блізка.

— Захару трэба было б ладзіць засаду з нашага краю, — ціха-ціха прамовіў Вася Ломаў. — Тут немца было б лепш за ўсё шмякнуць.

— Як ты яго шмякнеш? — спытаў такім жа шэптам Фёдар.

— Скокнуць да яго, і за морду. Каб ні гуку... Нічога, пачакаем.

«Чаго чакаць? — у думках запярэчыў Фёдар. Унутры яго ўспыхнула вяр'яцкае жаданне: хутчэй! — Вось-вось часавы падыдзе бліжэй, і трэба яго браць. Васька ж вялікі дужа, яму цяжка павярнуцца, нялоўкі. Пакуль узнімецца, пакуль падбяжыць, пакуль размахнецца... На сябе вазьму. Нечага марудзіць...»

У прамоіны між хмар зноў выкаціўся месяц. Навокал стала відна, як днём. Бачна была кожная прымятая травінка. Профіль паставога ўзвышаўся на фоне неба, а далей за ім тырчаў ствол танкавай гарматы.

Немец засунуў руку ў кішэню шыняля. Фёдар не проста прадбачыў рухі яго рук, а, здавалася, сам у яго кішэні намацаў пачак цыгарэт. Зараз возьме адну, разамне, ткне ў рот. Потым будзе прыкурваць, засланяючы жменяй аганёк запальнічкі. Калі прыкурваеш — на імгненне асляпляешся: увесь свет быццам на канцы цыгарэты.

Хвіліна выдалася не спрыяльная: месяц свяціў ярка. Але нейкае вар'яцкае жаданне неадкладна накінуцца на немца, і асляпляльны аганёк ягонай запальнічкі нібы падхапілі Фёдара і кінулі на фашыста. Імгненне — і Фёдар з дзікай ад страху сілай ашчаперыў немца за падбародак, сціснуў рот, завярнуў галаву назад. У наступнае імгненне праз калена пераламаў паставому пазваночнік, паваліў на зямлю.

Немец нават не пікнуў, толькі нешта хруснула ў яго шыйных касцях, ды праз ноздры, ужо калі ляжаў на зямлі, вырвалася паветра.

Да іх падбег Вася Ломаў, адразу ж усунуў у рот немцу кляп, звязаў вяроўкай рукі. Вочы немца, быццам шкляныя, жудасна blішчэлі на месячным святле і, здавалася, выкаціліся з арбіт.

Паставога зацягнулі ў канаву. Да іх падскочыў Захар, зняў з немца аўтамат. На немца нацягнулі мех. Калі хмары завалаклі месяц, Захар даў кароткую чаргу з нямецкага аўтамата. Яму адказалі на іншых пастах. Вася Ломаў тым часам ужо нёс на плячы жывую здабычу да нізіны.

Па дарозе назад гаварылі ўзбуджана, перабіваючы адзін аднаго. Фёдара нахвальвалі, як імянінніка, казалі, што атрымае ён узнагароду, як і абяцаў камандзір. Толькі Захар ішоў моўчкі, быццам не верыў, што ім выпала такая ўдача і не адабраў Фёдара.

— Адкормлены немец трапіўся.

— Неўзабаве стане худым…

— Чаго яго на сабе валачы? Няхай сам ідзе.

— Ком! Ком! Пайшоў, табе кажуць!

— Прыкідваецца дурнем, не хоча ісці...

Палоннага немца спрабавалі паставіць на ногі, прыкрыквалі на яго, але той падаў.

— Нічога, на сабе дацягнем. Як прыйдзем, на галаву выльем вядро вады — ажыве.

Група ледзьве ўціснулася ў невялікую зямлянку камандзіра батальёна. Агеньчык над гільзай асвятляў шчаслівыя твары. Якаў Ільіч усміхаўся, стаяў побач з маёрам, таксама прымаў даклад.

— Заданне выканана. Вярнуліся без страт. Вызначыўся радавы Заўялаў. Ён яго… — дакладваў Захар.

— Малайцы, хлопцы. Развяжыце, — камандзір адышоў убок, каб святло падала на «языка».

Вася Ломаў сцягнуў з немца мяшок, вырваў з роту кляп, скручаны з анучы. Галава немца з цёмна-сінімі плямамі на твары (сляды жалезнай Фёдаравай пяцярні) абвісла.

Якаў Ільіч падышоў бліжэй, за чуб прыўзняў абвіслую галаву немца, глянуў у твар і з агідаю адвярнуўся:

— Таварышы, ды ён ужо мёртвы.

Усе недаўменна пераглянуліся, абступілі немца, які безжыццёва сядзеў на зямлі, раскінуўшы ногі. Фёдар ажно задыхнуўся ад крыўды.

— Эх, д'яблава душа! — вырвалася ў яго. — Перастараўся. Перагнуў башку…

— Нябожчыка ўбраць і ўсім спаць! — суха загадаў Грышын.

Усе Фёдаравы мары рушыліся.

З камандзірскай зямлянкі пайшлі ў кепскім настроі.

— Дарэмна нёс гэтага вепрука. Плячо зводзіць, — казаў Вася Ломаў. — Казаў табе, Федзь, трэба было каб я яго шмякнуў. Я б яго акуратненька. Ты яму шыйны храшч зламаў.

— Казаў, казаў, — агрызаўся Фёдар. — Не надарваўся. Сам загадзя накудахкаў: пашанцавала, пашанцавала… Хіба я хацеў, каб ён здох?

Захар па-ранейшаму адмоўчваўся, і Фёдара гэта больш за ўсё прыгнятала. Няма горш, калі ты вінаваты, а растлумачыць не можаш. Ды і вінаваты ты перад тым, з кім ясі з аднаго кацялка.

На кароткі адпачынак салдаты прытуліліся ў хліпкім шалашы, які спешна зладзілі. Фёдар не спяшаўся залазіць па яго страху, пабітую шчылінамі, паклікаў Захара:

— Чуеш, зямеля, пачакай хвіліну. Два словы сказаць хачу.

Фёдаравы шчокі гарэлі ад сораму, але поцемкі забалочанага асінніка, куды трапіў батальён, непрадумана наступаючы, былі густымі: у метры ад сябе нічога нельга было разгледзець. І добра, так з Захарам гаварыць было прасцей.

— Адпусці мяне, зямеля, яшчэ раз да іх. Адзін схаджу. Раптам нешта атрымаецца.

— Не атрымаецца, — сумна адказаў Захар. — Чаго цябе панесла? Сказана было: сядзець прыкрываючы. Добра, што Васька цябе за азадак не зачапіў. Нашумелі б, іншых страцілі б… Узнагароды, ці што, захацелася?

— Дамой мне, зямеля, захацелася, — прызнаўся Фёдар. — Думаў, камандзір мне — узнагароду, а я замест яе пару сутак выпрашу. Вёска родная вабіць… Калі б я адразу на вайну паехаў, можа, і не было б так. А то я ж цэлы круг даў… Ад судзімасці я ўжо адмыты. Мне б сваім паказацца. А потым, як кажуць, з чыстым сумленнем зноў сюды. — Фёдар замоўк. Здаецца, амаль усё жыццё дома не быў… А башку я немца са страху скруціў. Месяц яшчэ свяціў, не разлічыў.

— Ды гэта я ўжо зразумеў. Але дадому ўсё роўна не паехаў бы. Мы на перадавой. У наступленні, — прымірэнча сказаў Захар. — Да дому толькі дзве дарогі. Праз шпіталь — калекам. І праз Берлін. Ты пра дом лепш не думай, дарэмна будзеш пакутаваць.

— Я і не думаў бы, калі б не думалася.

Раніцай, калі заспанае мутнае сонца выбралася на бляклы асенні небасхіл і па шэрых пасмах туману, між голых асін, заслізгаў ружовы досвітак, перадавы атрад батальёна, сціскаючыся і мацней заціснуўшы рамяні на шынялях, рушыў праз балота ў тыл Селязнёўкі, якую занялі немцы.

Паперадзе ішоў Якаў Ільіч. Камандзір прызначыў яго старшым.

— Вёску акружым, — перад гэтым казаў маёр Грышын, паклікаўшы ў штабную зямлянку ўсіх батальённых афіцэраў. — Перадавы атрад ударыць у тыл. Астатнія б'юць у лоб. Праз балота прайсці можна. Правядзе мясцовы жыхар. Сігнал да атакі — белая ракета. — На карце, на якой кубікамі была пазначана Селязнёўка, сціснуўся цвёрды кулак камандзіра.

На чорнай балотнай вадзе, месцамі цалкам зацягнутай зялёнай раскай, ляжала апалае гнілое лісце. У топкай нізіне стаялі чахлыя, з пацямнелай карой дрэвы. Яны здаваліся амярцвелымі: іх паставілі тут, каб палохаць тых, хто асмеліцца наведаць гэтыя месцы. Шэрыя сцяблы травы і мох, што чвякаў пад нагамі, скідвалі на салдацкія боты ледзяную расу. Ішлі адзін за адным, у руках трымалі жэрдачкі. Над балотам чуўся гулкі стук дзятла, — насцярожваў.

Праваднiком ішла мясцовая жанчына. Яе галава была ўхутана ў цёплую хустку, на плячах — тоўстая ватоўка, падпяразаная вяроўкай, як стары фурман, які баіцца холаду. Аднак, не гледзячы на тое, што жанчына была моцна пераціснута вяроўкамі, можна было зразумець, што яна цяжарная, і неўзабаве павінна нарадзіць дзіця. На маладым твары — бледна-чырвоныя плямы, вялікія цёмныя вочы здаваліся нейкімі вадзяністымі і крыху згаслымі, сведчанне таго, што стан у яе перадродавы.

Жанчына ішла моўчкі, стараючыся ні з кім не сустракацца паглядам, ні разу не ўсміхнулася, толькі ківала галавой і коратка адказвала на пытанні Якава Ільіча, які ішоў за ёй след у след.

Ніхто іншы не асмельваўся загаварыць з ёй, пажартаваць, нават сказаць прыемнае жанчыне слова. Недзе ў калектыўнай салдацкай падсвядомасці былі цяжкія пытанні: ад каго яна зацяжарыла — жыла ж у акупацыі? Ад немца-гвалтаўніка? Ад здрадніка-паліцая? Чаму яе не выгналі ў Германію? На што спадзяецца, як прыйдзе (калі ён ёсць) муж-салдат, як паставіцца да чужога нямецкага дзіцяці? І чаму яна зусім не ўзрадавалася, калі набрыла на батальён маёра Грышына, даволі такі патрапаны, хоць і не зусім разбіты?

Не, ніхто не задаваў гэтых пытанняў ёй, жанчыне, якая несла пад сэрцам дзіця, а ў сэрцы тайну...

— Туды, цераз вёску. Цераз поле. На Селязнёўку, — паказала жанчына на чорныя палі, што віднеліся наперадзе і павярнула назад.

Апусціўшы галаву, яна прабіралася між салдат па натаптаных балотных купінах. Салдаты расступаліся перад ёй, вінавата апускалі вочы, і ніхто не адважыўся зачапіць яе хоць словам.

Наперадзе ляжаў маленькі хутар, усяго некалькі двароў — цалкам спалены, без адзінай цэлай пабудовы. Амярцвелы — ніхто і нішто не зварухнецца, не ўскалыхне цішыню ні брэх сабакі, ні крык пеўня — хутар балюча чарнеў абгарэлымі печамі, акружаных руінамі і смеццем. Нібы надмагільныя стэлы, тырчалі над былымі сядзібамі пячныя коміны. Сярод галавешак, пакрыты тоўстым слоем сажы, стаяў жалезны ложак, скамечаны самавар, бляшаная аправа выгаралай іконы, сялянскі плуг.

— Э-э! Э! — вырвалася ў Васі Ломава. Ён паказаў рукой у кірунку студні з паваленым жураўлём. Там бялела голае чалавечае цела.

Гэта была забітая дзяўчына. Голая. Побач з ёй комам валялася парваная сукенка. Рукі дзяўчыны, у крывападцёках і ранах, былі раскіданы ў бакі, і на аголенай грудзі вакол саскоў — сінюшныя сляды здзекаў. Нават мёртвая дзяўчына быццам саромелася знявагі і хавала твар — яго прыкрывалі пасмы доўгіх валасоў. Здавалася, што ёй холадна, голай, на гэтай халоднай асенняй зямлі. Салдаты сарамліва адводзілі вочы.

Васіль Ломаў спачатку накрыў дзяўчыну парванай сукенкай, потым, убачыўшы недалёка салому, прынёс бярэмя, і прыкрыў ёй ногі.

На ўскрайку паселішча, каля памыйнай ямы, убачылі яшчэ адну гаспадыню з хутара — мёртвую старую. Маленькая, як дзіця, яна згорблена ляжала на баку, прыкрываючы старэчай карычневай рукой скроню. Здавалася, старая і зараз імкнецца абараніцца ад некага. Каля яе на схіле памыйніцы ляжала дохлая курыца з брудным пер’ем, з белым абмарожаным грэбнем.

— Вось вам... — пачуў Фёдар асобныя фразы нампаліта, які ішоў пападзе. — Тут уся мая агітацыя... Забіты салдат — вайна. Дзяўчыну згвалтавалі і забілі — не вайна! Бабульку застрэлілі — таксама не вайна!.. Хоць і пішуць у царкоўных кнігах, — спачатку было слова. Не! Спачатку быў учынак! Па ўчынку, усё зразумееш... Ніякіх слоў не патрэбна!

— Мая вёска, — пачуў Фёдар з-за спіны чыйсьці салдацкі голас, — яшчэ наперадзе. Кіламетраў сорак адсюль...

Сонца ўжо ўзнялося высока, але яго ўсё яшчэ прыкрывалі шыза-светлыя хмаркі. Святло яго было матавае, не грэла.

Атрад выйшаў да поля, за ім быў беластвольны бярозавы гай. Жоўтае, туманкава-светлае лісце яшчэ не апала на зямлю, навейвала спакой.

Селязнёўка была недалёка за гаем, разумелі, што яна не сустрэне спакоем...

Калі атрад пайшоў па адкрытай мясцовасці, міжволі з’явілася пачуццё безабароннасці, здавалася, што нехта наглядае за ўсім гэтым.

Усю раніцу, колькі ішлі паходным строем, Фёдар маўчаў, усё яшчэ дакараў сябе за тое, што ў разведцы зрабіў так неабачліва — забіў немца, стараўся не трапляць на вочы Якаву Ільічу. Але калі выйшаў на поле і ўбачыў над галавой вялікую птушку, сказаў Захару:

— Глянь, зямеля, ястраб ляціць. Вялікі. Стары, мабыць. Добра быць птушкай! Ляці куды хочаш. І вайна табе ні па чым...

Захар, жмурачыся ад сонечнага святла, таксама паглядзеў на вялікую птушку.

* * *

Ястраб, рэдка б’ючы крыламі па тугіх хвалях ветрагоннага паветра, лунаў над полем, выглядаючы сабе мыш. На полі, куды ён углядваўся вострым паляўнічым вокам, расло жыта-самасейка ўперамешку з лебядой і асотам. Ястраба здзіўляла: чаму людзі не апрацоўваюць гэтае ўрадлівае чарназёмнае ўрочышча, якое раней заўсёды карміла іх?

Ён здагадваўся, што з людзьмі на зямлі адбываецца нешта надзвычайнае: там, унізе, вельмі шмат грукату і дыму, руін і папялішчаў, смярдзючых непахаваных трупаў, вочы якіх выклёўвае вараннё.

Ястраб мог растлумачыць усю людскую сумятню і пагромшчыну толькі ўсеагульнай чалавечай хваробай, аднак пра існаванне такой эпідэміі ён нічога не ведаў і наступствы яе бачыў упершыню.

Гэтую смелую птушку, якой па сіле і гонару не было ў акрузе роўных, цяпер як і ўсе паднябесныя стварэнні да смерці палохала артылерыйская стральба. Паветра са свістам пранізвалі снарады, зямля ўзнімалася пыльнымі грыбамі, а з варонак пасля ўзрыву патыхала даўкім гарам.

Калі снарад трапляў у рэчку або возера, то ўзнімаўся шумны вадзяны слуп, пасля чаго аглушаная рыба мёртва блішчала луской.

Але артылерыйская стральба была не самым жахлівым у жыцці птушкі. Жудасна было ястрабу, калі пачыналася бамбёжка. У паднябессі, там, дзе плылі аблокі, з’яўляліся крыжападобныя птушкі, з іх, аглушальна выючы, сыпаліся чорныя балванкі, даляталі да зямлі і ўзрываліся там з неймавернай сілай. Цэлыя дамы ператвараліся ў руіны, а векавыя дрэвы разляталіся на трэскі.

У апошні час з’яўленне людзей таксама не зычыла ястрабу спакою і небяспекі. Калі раней ён лунаў над полем і ніхто яму не перашкаджаў, — людзі, што прыходзілі сюды, жалі жыта і вязалі яго ў снапы — то цяпер яны ішлі гуртам, ішлі не працаваць, а толькі паляваць адзін на аднаго.

З’яўляліся яны — усё навокал гарэла, а яшчэ — людзі забівалі людзей.

Не давяраючы тым, хто выйшаў на поле з боку спаленай вёскі, ястраб магутна ўзмахнуў крыламі і падняўся высока-высока, дзе мог адчуваць сябе ў небяспецы.

Адсюль ястраб зоркім вокам, агледзеўшы вялізную прастору, убачыў, што з другога боку бярозавага гаю, ад ацалелай вёскі (Селязнёўкі), наперарэз узброеным людзям, што ішлі па полі, спяшаюцца таксама ўзброеныя людзі — у шэра-зялёных шынялях, у кароткіх касках з эмблемамі.

Ён уважліва наглядаў, як тыя і гэтыя, яшчэ не бачачы адно аднаго, набліжаюцца да гаю, і здагадаўся, што там паміж імі адбудзецца бойня. Зноў парадуецца вараннё!

Неўзабаве ў руках людзей застракаталі аўтаматы, пачуліся ўзрывы гранат, дзікія крыкі.

Зверху ястраб бачыў, як між бярозамі сышліся ланцугі і тых, і гэтых, людзі пераблыталіся, і ўжо менш стралялі, біліся на штыках, кулакамі, з крыкамі накідваліся адны на другіх, стараючыся задушыць.

Захоплены відовішчам рукапашнай, забываючы ўзмахваць крыламі, ястраб плаўна плыў, зніжаючы свае кругі. Але калі ў неба з гаю ўзляцела белая ракета, пакідаючы за сабой хвост дыму, ястраб спалохана затузаў вострай гарбатай дзюбай і хутчэй, патрапляючы пад спадарожны струмень высокага ветру, паляцеў да дальняга лесу.

* * *

Фёдар доўга адплёўваўся і адхаркваўся. Яму яшчэ доўга будзе здавацца, што смак сліны ў яго саленаваты ад чужой крыві. Ад крыві нямецкага рыжага салдата, што ляжаў побач мёртвы, уткнуўшыся тварам у апалае лісце. Цяжка дыхаючы, выціраючы далонню вусны, Фёдар падпоўз да бліжэйшай бярозы, прываліўся спінай да ствала. Неймаверная стомленасць, здавалася, расціснула яго. Ён не чуў і не заўважаў бою вакол сябе, і калі б на яго выскачыў другі немец, наўрад ці змог бы супраціўляцца.

…Гэты рыжы немец, расчырванелы, потны, ужо без каскі і ўжо з акрываўленым штыком накінуўся як звар'яцелы і імгнення: Фёдар быў ад яго усяго за некалькі крокаў, нават не паспеў направіць на ворага аўтамат. Але паспеў засланіцца локцем, адхіліць штык.

Немец збіў Фёдара з ног і сам паваліўся на яго, крэкчучы і ашчэрыўшыся. Цяпер яны валтузіліся на зямлі. Рыжы немец роў і, засяродзіўшы ўсю сілу на штыку, давіў Фёдара.

Фёдар, лежачы пад немцам, выкручваў яму рукамі запясце, адводзячы джала, што навісла над ім. Рыжы вельмі захапіўся сваім штыком, спадзеючыся даціснуць яго да цела праціўніка. Але звар'яцелы Фёдар, у якім чалавечае ўступала месца жывёльнаму, раптам рвануўся галавой наперад і ўчапіўся зубамі ў спацелую, у вяснушках, шыю немца.

Рыжы завыў ад болю, адразу аслабеў і выпусціў штык. А потым ужо захрыпеў, калі яму ў спіну ўвайшло яго ўласнае лязо, заціснутае рукой з татуіроўкай.

Фёдар выкараскаўся з-пад немца, якога спачатку прыйшлося абняць, каб затым забіць і, выплёўваючы горкую сліну, папоўз на каленях да бярозы.

Рыжы ляжаў носам у зямлю, вакол штыка ў спіне налівалася бурай вільгаццю зеленаватае сукно шыняля. На шыі, усыпанай дробнымі вяснушкамі, заставаліся чырвоныя адбіткі ад зубой: сям-там з пракусаў сцякала жоўтая сукровіца.

— Чаго сядзіш? Паранены? — да Фёдара выскачыў Захар.

— Не-е… З гэтым вунь валтузіўся. Давялося зубамі, як хлопцу ў бойцы.

— Ты не першы. Я таксама неяк фрыцу руку кусаў. Пайшлі, Федзька! Падымайся!

У далечыні, на другім канцы Селязнёўкі, грымела кананада батальённых саракапятак. У гаі недзе блізка дзікавата закрычаў «Ура!» нампаліт Якаў Ільіч.

Фёдар азірнуўся на фрыца, якога забіў, на яго спіну, у якую ўваткнуў штык, на пакусаную шыю, на рыжыя валасы, узлахмачаныя на патыліцы. Праз агіду, разумеючы, што інакш і быць не магло, што ворагу адплачана за тыя злачынствы, якія ён здзейсніў на чужой для яго зямлі, у Фёдара ўсё адно ўскалыхнулася шкадаванне да гэтага нямецкага хлопца. «Ты сам мяне зверам зрабіў. Навошта прыйшоў? Я цябе не зваў… Цьфу!» І ён заспяшаўся да Захара.

Нямецкую мотапяхоту, што блакіравала Селязнёўку, абклалі спераду і ззаду, добра пабілі і выціснулі. Не столькі ваеннай сілай, колькі сілай духа, бо наступленне было шырокамаштабнае, па ўсёй лініі фронту немцы не вытрымалі.

Пасля курскага паражэння фрыцы разумелі: трэба адступаць на захад. Невядома дзе замацуюцца далей, але ўжо дакладна не па мерыдыяне Селязнёўкі, а значна бліжэй да роднай Германіі.

Чацвёра немцаў — афіцэр і трое салдат, — якіх акружылі ў адной з хат, вырашылі, што лепш здацца ў палон, чым загінуць. Яны выходзілі на ганак, кідалі зброю, паднімалі рукі ўверх.

— Вось яны, «языкі», — усміхнуўся Фёдар і дакрануўся локцем да Васі Ломава.

Але, на здзіўленне, Вася Ломаў не згаджаўся з ім. Звычайна пасля бою ён любіў паразважаць, як «вакуратна» або «невакуратна» дзейнічаў, а цяпер стаяў моўчкі. Немцы тоўпіліся каля сцяны хаты з выбітымі вокнамі і, як шайка жулікаў, баяліся і ненавідзелі тых, хто ўзяў іх у палон.

Вася Ломаў уважліва глядзеў на іх, быццам хацеў апазнаць таго, хто горш за іншых яму напаскудзіў... Фёдар адышоў, у Васі Ломава свой рахунак да немцаў. Хто ведаў, чаму Вася Ломаў так іх ненавідзіць! Можа, яму час патрэбен, патрэбна выспацца або шклянка гарэлкі, каб пераламаць тыя цяжкія гідлівыя ўспаміны пра немцаў, што ляжаць на душы? Фёдар і сам яшчэ час ад часу ўздрыгваў, успамінаючы рыжага фрыца.

Палонных немцаў пасля кароткага допыту, які ўчыніў ім Якаў Ільіч, зачынілі ў хлеў. Вася Ломаў добраахвотна выступіў наперад і папрасіўся іх ахоўваць. Калі побач нікога з саслужыўцаў не было, ён двойчы абышоў хлеў, уважліва агледзеў вуглы, фундамент. Затым запоўніў дыск аўтамата патронамі і праверыў — каб не заклініла. Ён яшчэ колькі часу пастаяў каля дзвярэй, аб нечым думаючы, потым адчыніў іх.

Святло праз расчыненыя дзверы лінулася на немцаў, якія сядзелі на саломе. Вася Ломаў увайшоў у хлеў.

— Устаць! — крыкнуў ён. — Штэен, падлюгі! Штэен! — і праз зубы, абзываючы паасасобку кожнага немца і ўсіх разам, доўгімі чэргамі расстраляў увесь аўтаматны дыск.

На стрэлы да хлява збегліся салдаты. Прыбег і сам нампаліт. Вася Ломаў стаяў каля дзвярэй, якія зной чамусьці зачыніў на клямку.

— Ты чаго? — накінуўся на яго Якаў Ільіч. — Пад суд захацеў?

— Чаго я? — панура адказаў Вася Ломаў. — Падкоп рабілі. Вунь як пад бёрнамі падкапалі! Давялося прымяніць зброю. Я — па статуце, таварыш маёр.

Якаў Ільіч пахітаў галавой:

— Зразумела, па статуце ты... Афіцэра трэба было пакінуць.

Вася Ломаў няўцямна пацiснуў плячыма, і ўжо калі нампаліт пайшоў, услед яму запярэчыў: «Як бы не так — пакінуць. З яго, вылюдка, я і пачаў. Гэта ім за дзяўчыну. Мне даравальна».

Праз некалькі гадзін па Селязнёўцы калонай ішлі вёрткія самаходкі. З-пад гусеніц — пыл слупамі. З люкаў выглядалі вясёлыя самаходчыкі. Іх твары і шлемы былі запыленыя. Самаходчыкі выкрыквалі штосьці насмешлівае, але бяскрыўднае, па-франтавому таварыскае першым стралкам, што расступаліся, даючы ім дарогу. Батальён маёра Грышына таксама пакідаў вёску. Селязнёўскія старыя жанчыны і мужчыны, якім пашчасціла застацца ў жывых, глядзелі ім услед...

* * *

...Зіма заспела батальён маёра Грышына ў Беларусі. Туташнія маразы былі не такімі моцнымі, як на вяцкай поўначы, калі калючая стынь абпальвае твар. Салдаты, калі не траплялася на шляху якое прыстанішча, размяшчаліся проста ў лесе. На начлег кладліся папарна. На лапнік расцілалі плашч-палатку,

прыціскаліся адзін да аднаго, зверху — яшчэ адну плашч-палатку, — і ніхто не прастуджваўся.

— Служба, зямеля, як бачна, усе соплі вымарожвае. У звычайным жыцці адзін раз паспаў бы так і ляснуўся б, — весела казаў Фёдар Захару, калі яны з апетытам елі кашу з аднаго кацялка.

Смачны дымок ад палявой кухні стаяў па ўсім лесе сіняватай мірнай плёнкай, зліваючыся з раннімі прыцемкамі.

— Заўялаў! Эй, Заўялаў! Дзе падзеўся, д'яблава яго душа?! — шукаў Фёдара Вася Ломаў, не заўважаючы таго за ствалом сасны.

— Чаго крычыш? — азваўся Фёдар.

— Нампаліт цябе патрабуе. Казаў: хутчэй.

— Бач ты! Хутчэй яму падавай. Кашу пакінуць? — абурыўся Фёдар.

— Загадана перадаць, — пацісnuў плячыма Вася Ломаў. — Я на пасылках, мне важна, каб вакуратна загад данесці.

Хутчэй бегчы да нампаліта, вядома, трэба было б. Як-ніяк маёр, і чалавек паважаны. Але і пакінуць гарачую кашу, не даесці яе — вось ужо не! Усялякай ежай Фёдар даражыў, моцна засвоіў галодны турэмны ўрок. Ды і навошта да начальства спяшацца? Або павучаць будуць, або прымусяць працаваць. Салодкімі пернікамі не накормяць.

— Правініўся ў нечым? — пацікавіўся Захар.

— Дальбог, не ведаю.

— Ну, калі віны за сабой не адчуваеш, дык і няма чаго хвалявацца. — Захар памаўчаў, потым дабрадушна ўсміхнуўся: — Д'яблава душа... Хітра неяк сказана. Якая ў д'ябла можа быць душа?

— Гэтыя словы мне дзед Андрэй прыляпіў. Даўно ўжо яны на мне трымаюцца. І мянушка — не мянушка. І прыказка — не прыказка. Нешта пасярэдзіне. Раней, кажуць, гэтыя словы казалі гандляры — з гарачкі, калі што ў іх не атрымлівалася. А ўжо пры новай уладзе іншыя прыказкі пайшлі... Ды і хто ведае, можа, і ў д'ябла душа ёсць, калі пашкрэбці яго добра? Або трэба па-іншаму разумець. Гэта душа, якую д'ябал часцей за іншых на выпрабаванні водзіць.

— Жывы дзед?

— Памёр нядаўна. Ён у вартоўні, на ўскрайку лесу жыў. Маці напісала, што яго сабака ў вёску прыйшоў. Пад акенцам сеў і завыў. Спачатку спалохаў усіх. Думалі воўк. Пасля разгледзелі і здагадаліся, што проста так ён у вёску не прыйшоў бы. На другі дзень пайшлі ў вартоўню, а дзед мёртвы ў сенцах ляжыць. Магільны крыж сабе рабіў. Труну ён даўно сабе зладзіў, а над крыжам памёр. Пахавалі дзеда, і сабака некуды знік. Ці то ваўкі загрызлі, ці то акалеў недзе. Ён ужо таксама стары быў... Цяжка жыў дзед, а выходзіць, лёгкай смерцю памёр. Замаліў, мабыць, грахі. А іх за жыццё ў кожнага шмат назбіраецца.

Фёдар задумаўся. Перастаў есці.

Захар дакрануўся да яго пляча, — асцярожна, быццам будзіў дзіця:

— Не злуй начальства. Ідзі да нампаліта.

Свой кацялок, аднак, Фёдар вышкраб да апошняй ячневай крупінкі.

Нампаліт Якаў Ільіч сядзеў у палатцы на калодзе. Быў ён у новым белым паўкажушку, з новымі пагонамі, туга перапаясаны новай партупеяй, — святочны, быццам бы вось-вось выйдзе на страявы агляд. Пры святле «лятучай мышы» ён уважліва чытаў тэкст, напісаны на паперы, і нешта выпраўляў чырвоным алоўкам, мабыць, «адточваў» словы свежага «Баявога лістка».

— Дазвольце, таварыш маёр? — у трохкутніку разгорнутых палатачных шліц паказаўся Фёдар.

— Чаму ж не дазволіць? Нават вельмі дазваляю, — дружалюбна сустрэў яго Якаў Ільіч. Узняўся, пацiснуў руку, запрасіў сесці на суседнюю калоду.

«Сварыцца, падобна, не будзе, — падумаў Фёдар, сагрэты цыплынёй, з якой сустрэў яго маёр. — Але паслухаць палітінфармацыю — гэта нам не цяжка». Ён падрыхтаваўся слухаць нампаліта, падрыхтаваўся пры гэтым утойваць іронію, бо было ў Якаве Ільічы нешта цікаўна-вясёлае. Ёсць людзі, якія самі прыдурвацца не могуць, і з імі не папрыдурваешся. А ёсць і іншыя: тыя і самі любяць папрыдурвацца, і табе гэта не забараняюць. Нампаліт, як меркаваў Фёдар, быў з апошніх.

Якаў Ільіч «запрагаў» не спяшаючыся.

— За фарсіраванне Дняпра і за тое, што вызначыўся ў апошніх баях, Заўялаў узнагароджаны ордэнам «Чырвонай Зоркі». Гэтая ганаровая ўзнагарода Радзімы. Яна павінна яшчэ мацней абуджаць тваю ненавісць да ворага... Зараз наступленне Чырвонай Арміі разгарнулася на ўсіх франтах, яшчэ некалькі гераічных намаганняў, і выйдзем да мяжы Савецкага Саюза. Мы павінны быць яшчэ больш рашучымі ў барацьбе з ворагам.

Фёдар па-прастому кіўнуў галавой: так-так... Круглы твар нампаліта, на якім амаль не было броў, з шэрымі вочкамі і тоўстымі вуснамі, якія ён для значнасці выцягваў наперад, выяўляў казённую сур'ёзнасць. На высокія словы Якаў Ільіч асабліва не акцэнтаваў і пры гэтым мацней сціскаў у кароткіх пальцах чырвоны аловак. Ён і не ўтойваў сваёй аратарскай манернасці, а быццам запрашаў пабыць у ягоным становішчы, якога патрабуе пасада і падпарадкавацца, слухаючы тое, што кажа.

«Як па газеце чытае», — утойваючы ўсмешку падумаў Фёдар. Падумаў і ўспомніў вясковага камсамольскага Кольку Дронава, які таксама любіў узнёслыя прамовы, начытаўшыся палітбрашурак. Здаралася, загудзіць, загудзіць у хаце-чытальні пра партыю, пра Леніна, пра таварыша Сталіна, рукамі махае, адзін лозунг другім перакрывае, і не зразумець, што ў яго ідзе ад сэрца, а што ад пасады. Забілі, праўда, важака. У сорак другім. Недзе на Каўказе.

— ...Наша падраздзяленне чакаюць адказныя задачы, і баявы дух нашых воінаў павінен быць...

«Нешта нампаліт вельмі доўга гаворыць. Можа, справу на каго заводзяць. Не хапае даносаў, што пішуць на паперы, — апасліва падумаў Фёдар. — Сцеле і сцеле».

— Я да цябе, Заўялаў, даўно прыглядаюся. Смелы баец. Узнагароджаны ордэнам. Карыстаешся аўтарытэтам... Адным словам, давай уступай у партыю!

«Ах, вунь яно што! Вунь куды ён загнуў!» — з палёгкай зразумеў Фёдар сэнс нампалітавага манеўру.

— Справа гэта сур'ёзная. Але камандаванне на цябе спадзяецца. Парторг батальёна «за». Я цябе, як у будучага камуніста, веру. Рэкамендацыі табе дадзім. — Якаў Ільіч адкрыта і дапытліва глядзеў Фёдару ў вочы. — Чаго маўчыш? Вось папера. Я табе дапамагу. Прадыктую.

— Яшчэ ж і год не прайшоў, як я з турмы. У мяне турэмнага тэрміну на тры вайны хопіць, грамадзянін нампаліт, — сказаў Фёдар, спадзеючыся, што апошнімі словамі адаб'е ў маёра ўсялякае жаданне агітаваць яго ў партыю.

Але Якаў Ільіч, пачуўшы «грамадзянін», толькі шчыра засмяяўся, шчоўкнуў сябе па грудзях тугімі рамянямі партупеі.

— Ад турмы, Заўялаў, ды ад сумы... А яшчэ людзі кажуць: за аднаго бітага двух нябітых даюць. Мы зараз вялікі партыйны набор робім. Нам моладзь асабліва патрэбна. Вось табе папера — пішы.

Нампаліт быў настойлівы. Фёдар нават разгубіўся і не ведаў як выкруціцца. Хацелася і нампаліта не пакрыўдзіць, і не пісаць пад яго дыктоўку.

— Не маю я права ўступаць да вас у партыю, — нарэшце сцішыўшы голас, схітрыў ён. — У Бога я веру, а з верай мне, таварыш маёр, у камуністы нельга.

— Можна, — ціха, амаль шэптам запярэчыў няўмольны Якаў Ільіч. — Ты сваю веру не выстаўляй напаказ. Не той з Богам, таварыш Заўялаў, хто гатоў ікону цалаваць, а той, хто жыве па-боску. Я табе вось прыклад прывяду. У мяне ў ткацкім цэху розныя жанчыны працавалі. Адны ў рускую царкву хадзілі, другія — у татарскую мячэць. Былі быццам і сектанты, дома чарнакніжнічалі, шапталіся... Адкажы мне, дарагі таварыш Заўялаў, яны аднаму Богу маліліся, або розным?

Фёдар перасмыкнуў плячыма, да такога складанага пытання ён не быў падрыхтаваны.

— Вось так! — сціснуў чырвоны аловак Якаў Ільіч. — Людзі на зямлі як былі язычнікамі, так і засталіся. Бог для іх не адзіны.

— Кім былі?

— Язычнікамі. Раней шмат багоў напрыдумвалі. Іх і зараз хапае. Так што ты, таварыш Заўялаў, свайго Бога ў сабе беражы. Хай твая вера нябесным сумленнем будзе. А партыйны білет — сумленне людское. Па зямлі ідзі з зямным сумленнем. З тым, якое ў партыі ёсць. А на небе паказвай сумленне нябеснае. Колькі іх, хто ў царкве паклоны б’е, а па-за царквой нехрысцямі жывуць. Ты ў такіх не вер, не паддавайся іх прыкладу. — Якаў Ільіч мякка ўсміхнуўся. — Я, можа. І сам у душы без Бога кроку не ступлю. Але спіны перад папом гнуць не стану. Сумленне вышняе сумленню зямному не перашкода.

Фёдар недаверліва разглядаў нампаліта: «Яму б бараду ды рызу — і выліты поп. Толькі Евангелле ў яго іншае...»

Нампаліт у сваю чаргу, не адводзячы вачэй, глядзеў на яго. Вельмі сур’ёзна. Толькі мяккая складачка вуснаў нібы падказвала, што той нешта задумаў.

Якаў Ільіч і сапраўды казаў шчыра. Сын фабрычнага інжынера і ткачыхі, ён выхоўваўся тады, калі модным было па-рэвалюцыйнаму не верыць у Бога. Але неяк яшчэ хлапчуком заблудзіўся ў лесе і ледзь не памёр са страху. Абліваючыся слязьмі і ахрыпнуўшы ад гукання, ён кідаўся з боку ў бок. Але паўсюль толькі густы хвойнік. Вось ужо ноч набліжаецца. Холадна — у адной сарочцы. Неймаверна хочацца есці. Яша заходзіўся ў плачы, абхапіўшы галаву рукамі. Падрыхтаваўся паміраць. І тут адбыўся цуд. Заплюшчыў вочы, а перад ім — не цемра, а лук са стралой. Цеціва напялася — і страла вырвалася. Яша самлеў і як лунацік, пайшоў у той бок, куды паказвала страла. Усю дарогу маліўся: «Выратуй, Божа! Выратуй мяне, Госпадзі!» І выйшаў з цёмнага гушчару. Ні бацьку, ні маці пра той выпадак не сказаў, але ў свайго Бога паверыў на ўсё жыццё.

— Ікона ды крыж, Заўялаў, не кожнаму патрэбны. Некаму і тут крыжа хапае, — Якаў Ільіч пастукаў сабе тоўстым пальцам па лбе, пад абрэз шапкі, на якой чырванела зорка.

Фёдар не разумеў: ці жартуе нампаліт і хітра вядзе чырвоную прапаганду, ці сапраўды знайшоў двух багоў: аднаго на зямлі, а другога на небе і ўмудрыўся параўнаць іх. Ды не жартуе, і ніякі ён не блазнюк! Фёдар на свае вочы

бачыў, як Якаў Ільіч, учапіўшыся за бярно разбітага плыта перабіраўся праз Днепр. Калі ж выскачыў з ледзяной вады, адразу ж закрычаў, як апантаны: «Камуністы, наперад!» і, не азіраючыся, ці бяжыць хто за ім, кінуўся наперад з пісталетам у руцэ.

Фёдар не аднойчы бачыў, як салдаты без прынукі пісалі заявы ў партыю. Вунь і Вася Ломаў, дубіна, пісаць як трэба не ўмее, па складах чытае, яму б толькі жалеза молатам плюшчыць, туды ж — перад боем напісаў загагулінамі: «Калі заб'юць, лічыце мяне партыйным…» А ён жа хрышчоны! Іконку, якую дала яму маці, бласлаўляючы на вайну, носіць побач з чырвонаармейскай кніжкай…

Нешта ва ўсім гэтым хавалася невытлумачальнае, ужо вельмі незразумелае, што, здавалася, і злучыць немагчыма. А па жыцці — злучалася! Стаіць у родным Раменскім сельсавет з чырвоным сцягам на доўгай жэрдцы, а насупраць царква з крыжам над купалам. Адно аднаму быццам ненавісныя, а стаяць. Божая ўлада аказалася не такой ужо і магутнай, калі столькі людзей новай верай заразіліся. Але і бальшавікі, мабыць, ад Бога адракліся, але пра яго памятаюць і, здаецца, пабойваюцца. Дынаміту ім, ці што, не хапіла, каб і Раменскую царкву знесці? Ды не, знайшоўся б і дынаміт. Духу, відаць, не хапіла. Вось і стаяць сцяг і крыж насупраць. Сцяг усё імкнецца крыж аспрэчыць, ды не атрымліваецца. Жанчыны з горада цішком ад сваіх партыйных мужыкоў вязуць у Раменскае немаўлят хрысціць. Нават апантаны камсамолец Колька Дронаў не мог паўздзейнічаць сваім «опіумам» на родную сястру: яна сваё дзіця — Колькавага пляменніка — рукамі раменскага бацюшкі ў купель апусціла. Спачатку Колька ад яе нос адвярнуў, а потым прымірыўся. Пляменніка любіў, усё на назе калыхаў… Вось і нампаліт Бога помніць, і цэрквы, што раней пазачынялі, у вайну адчынілі, каб паніхіды праводзіць. Няўжо паразумеліся? Чаму ж тады сцяг і крыж паміж сабой ваявалі?

— Дыктуйце, таварыш маёр! Напішу заяву, — сказаў Фёдар. — Эх, д'ябла душа! Пахаджу і ў камуністах.

Калі патрэбны тэкст лёг на паперу, Якаў Ільіч узняўся з калоды, з гонарам пацiснуў Фёдару руку. Словамі, вычытанымі ў газетах, нешта прагудзеў накшталт адвагі байцоў і абароны Радзімы. Але амаль на тым жа дыханні перайшоў на па-бацькоўску простае:

— Нашу размову, Заўялаў, у сабе трымай. Ясненька? А то і я магу па тых месцах прагуляцца, па якіх ты год таму хадзіў.

— Так точна, таварыш маёр! — адказаў Фёдар так, як патрабаваў статут.

Цемнавата і ціха пад покрывам лесу, над палянамі, якія часова абжыў батальён…

Захар ужо наламаў сасновых лапак, разаслаў плашч-палатку — падрыхтаваў начлег сабе і Фёдару.

— Дамовіліся з нампалітам? — спытаў ён Фёдара.

— З ім дамовіўся. Мне іншы раз працей бывае дамовіцца з кім-небудзь чужым, чым з самім сабой, — задуменна сказаў Фёдар. Ён сядзеў каля Захара на плашч-палатцы, нялоўка падцiснуўшы пад сябе ногі ў валёнках. — На мяне і раней такое находзіла. Усё бывала, здаецца, нечага самага галоўнага ў жыцці не магу зразумець да канца. Нібы сам сабе не гаспадар. Заракаўся ўсялякія заявы пісаць, а напісаў. Ды які я камуніст? Душой бы трэба да веры цягнуцца, ды і ў ёй у мяне сапраўднага разумення няма… Нябожчыца бабуля Ганна ўсё мяне да рэлігіі прывучала. Казала, Бог усім кіруе, усё бачыць, усім адплаціць па іх учынках. А растлумачыць, што ёсць Бог не магла…

Дзед Андрэй таксама з крыжам на шыі жыццё пражыў, нават Пісанне ведаў. А жыў грэшнікам. У чым яго вера? Я таксама не зразумеў. — Фёдар памаўчаў, хмыкнуў. — Помню, у дзяцінстве мы ў хованкі гулялі. Завяжуць табе вочы, раскруцяць, каб не зразумеў, дзе ў хаце які кут, а ты растапырыш рукі і ловіш. Ведаеш, недзе побач ён, нават дыханне яго чуеш, а рукамі схопіш, а там нікога няма… Чуеш, Захар, ты ў Бога і сапраўды верыш? Або так, калі здарыцца выпадак, калі давядзецца?

— У гэтым, Федзька, вера і ёсць. Убачыць не ўбачыш, злавіць не зловіш, — адказаў Захар. — Давай лажыцца, пакуль ціха. А то глядзі і ноччу ў дарогу паднімуць.

— Вось і ты мне як трэба не адказаў. Для цябе асабіста ў чым яго сіла? — не адступаў Фёдар.

— З Божай верай, Федзька, чалавеку пра смерць думаць лягчэй. І паміраць не так страшна. Да апошняй хвіліны ўсё ж нейкая надзея на Бога ёсць. Або выратуе, або пасля смерці да сябе на неба возьме… Вунь зорка між галінак свеціцца. Яна вечная. З Божай верай і маё жыццё здаецца такім жа вечным. Без веры пуста. Жыць пуста і паміраць холадна.

Яны леглі на матрац, які зладзілі ўжо разам, спіна да спіны, накрыліся плашч-палаткамі. Абое змоўклі. Захар неўзабаве пачаў дыхаць роўна, заснуў. А Фёдар не спаў — глядзеў у шэрую цемру лесу, у нябесную сіняву. Над галавой паміж голлем мільгалі зоркі. Здавалася, яны скакалі з галінкі на галінку… Фёдаравы думкі, быццам машкара вакол лямпы, віліся, абпальваліся, адпускалі і зноў віліся вакол Божай меры.

Дык хто ж прыгажосць стварыў? Няўжо толькі людзі? Можа, Бог ім у гэтым дапамагаў?..

Вось Сямён Волахаў разумны ж. І ліха добра зведаў, усялякую ўладу кляў. Над апошнім царом пасміхаўся, Сталіна распякаў, а ў Бога верыў. Ды ў тым жа Пісанні, кажуць, сказана: любая ўлада небам паслана. Выходзіць, і Сямёнавы вочы завязаны… Сядзіць які-небудзь недавярак у штабе арміі, стрэлку не туды па карце правёў — і батальён загінуў у няроўным баі. На каго Боскае пакаранне? Недавярак жа — антыхрыст, а хто загінуў — людзі праваслаўныя. Перад кім вінаватаму вініцца? Чаму ён іх жыццямі так распарадзіўся, а сам — бязбожнік? Перад кім яму адказваць?.. Немцы пад Курскам ішлі, на бляхах «З намі Бог» выбіта. Хіба Бог іх на такую пагібель вёў? Гітлер — падла! Як жа Бог такога д’ябла прагледзеў? Можа, і на небе вайна ідзе, калі тут такое творыцца? У тых жа немцаў — у кожнага ёсць маці, жонка, дзеці малыя…

Фёдар страпянуўся. Забыўся, што Захар ужо спіць, паклікаў:

— Эй, зямеля! Эй!

— Чаго табе? — азваўся раздражнёна спрасонку Захар.

— Усё забываю спытаць: у цябе дзяцей колькі?

— Пяцёра сыноў, — незадаволена, што разбудзіў, прабурчэў Захар.

— Пяцёра?

— Колькі пальцаў на руцэ…

— Вялікія?

— Старэйшаму шаснаццаты, а маленькаму чацвёрты. Не трывож больш.

Фёдар больш і не трывожыў яго, але яшчэ доўга здзіўляўся. Пяцёра, і ўсе сыны — ці жарт… Палова пяхотнага аддзялення! Калі б усё па-добраму, Вольга, напэўна, яму столькі б нарадзіла…

Каму гэта падуладна? Яму, Фёдару? Не яму — гэта ўжо так! Як ні круці, жыццё несправядлівае. А калі яно несправядлівае, як тады ў Праведнага Госпада верыць? Эх, д’яблава душа!

Ён ціхенька ўздыхнуў, каб і ўздыхам не збіваць Захарава роўнае сапенне. «Адпачывай, зямеля. Больш не патурбую», — падумаў Фёдар і, адчуваючы цяпло Захаравай спіны, заплюшчыў вочы.

Хоць Фёдар называў Захара земляком, той земляком яму не быў. Родам ён быў з Сібіры, з Енісея, але прозвішча меў гучнае — Вяткін.

Назаўтра раніцой, на беласнежным беразе возера, недалёка ад чарота, нямецкі снайпер выстралам у галаву заб'е Захара Вяткіна.

* * *

Фёдара параніла асколкамі ў плячо і ў ляжку. Пасля хірургічных швоў месцы, куды трапілі асколкі, сталі цвёрдымі па краях, а пасярэдзіне шрамамі ўзялася тонкая новая скура.

Цяпер ён ужо хадзіў без мыліцы, не надламаны ў паясніцы, і мог свабодна размінаць суставы рукі. Але перад ваенурачамі «касіў», казаў, што «ў баку яшчэ не рассасалася» і, што «парушанай» рукой валодае не так як трэба. Чаго спяшацца на фронт? Перадавая — край вайны, край магілы, у якую зваліцца працей простага — край жа вельмі слізкі, быццам раскіслы ад доўгіх залеў. Лепш яшчэ тыдзень-другі паваляцца ў тылавым шпіталі на белых прасцінах!

Стаяў малады, зялёны, квітнеючы чэрвень. Цёплая і светлая пара жыцця!

— Фёдар Ягоравіч, давайце мераць тэмпературку, — ласкава будзіла раніцай медсястра Галя. Яна падавала градуснік, але Фёдар заўсёды браў не яго, а Галіну руку і цягнуў да сябе. — Не гарэзнічайце, — усміхалася яна, вызваляючыся з яго рукі і ішла да іншага параненага. — Хрыстафор Аляксандравіч, ваш градуснік… Гэта вам, Мікалай Паўлавіч.

Астатнія ложкі ў палаце пакуль пуставалі: тых, хто вылечыўся, днямі выпісалі.

Абяцаючы неўзабаве вярнуцца, Галя выходзіла, але ў палаце заставалася нябачная, бесцялесая жаночая прысутнасць. Яна ўсялякі раз быццам прыносіла свежы букет палявых кветак, рамонкава-васільковы, гледзячы на які і адчуваючы пахі якога, у светлай мары паплыве розум. Светлавокая, з русымі, коратка пастрыжанымі валасамі, са здаровай маладой ружовасцю на шчаках, Галя ўвогуле злівалася з бела-апранутай масай медперсаналу. І ўсё ж салдацкае вока выбірала яе сярод усіх дзяўчат і жанчын шпіталя. Адзіная, у каго такая адкрытая ўсмешка, такая лёгкая рука!

— Як падыдзе — у мяне ажно ва ўсім целе стаўбняк. Да чаго ж бабская баба! — казаў Фёдар. — Усё ў ёй вытачана. Такую пагладзіць — і то шчасце.

— Я, галубочкі мае, жанчын за сваё жыццё зведаў нямала, аднак у медсястры нашай, я вам зазначу, ёсць нешта такое асаблівае, як у яблыку, налітым сокам. І калі правесці з такой жанчынай ноч, то задавальненне, асмелюся заўважыць, атрымаеш найлепшае, — напышліва казаў Хрыстафор, таўсташчокі, з вялікай залысінай і сівізной на скронях старшына з забінтаванымі нагамі — ён быў з інжынерных войск. — Асабіста я ў такую ноч не заснуў бы ні на хвіліну. Паўночы, паверце мне, галубочкі, я стаяў бы перад ёй на каленях, казаў бы ёй найпрыемнейшыя словы. А другія паўночы мілаваўся б, — ганарыста закончыў ён.

— Ну! Во! Панеслі, паехалі, ёлупні! Адзін — хай, малады, шалапутны. Ну а цябе, Хрыстафор, лысіна на ўсю рэпу, і ў тыя ж калёсы… На чужы каравай — рот не разяўляй! — перахопліваў ініцыятыву Палыч, галава якога была заматана бінтамі, з-пад якіх тырчалі тоўстыя вушы. Ён служыў фурманам у артпалку, нарваўся на міннае поле, ламавую кабылу забіла, а сам трапіў у шпі-

таль. — Галіна — жанчына выключная. З культурным падыходам. Кожнага па імені і па бацьку заве. Добрая жанчына! Але для вас, зайздросных, адрэзаная. Замужам яна. Малады яе муж на балтыйскім флоце ваюе. Яна яго з вернасцю чакае. Так што вашаму брату… — спачатку Палыч грозна трос кулаком, а потым з асалодай закручваў мазолістую пяцярню ў вялікую дулю: — І вашаму брату — во! І — во! — задаволены тым, што крыху астудзіў Фёдара і Хрыстафора, пачынаў смяяцца.

Смяяўся і Фёдар. Смяяўся і Хрыстафор, выціраючы слязу са шчакі: калі ён смяяўся, станавіўся слязлівым. Смяяліся як дзеці, і ўсе крыху любілі адзін аднаго: за час, што ляжалі ў палаце зблізіліся. Але больш за ўсё чакалі медсястру Галю, калі яна прыйдзе.

Шпіталь размясціўся на ўскраіне невялікага гарадка ў старым трохпавярховым доме з пілястрамі і мезанінам. Ляпныя косы выгіналіся пад вокнамі на цьмяна-зялёнай тынкоўцы. Шырокі каменны ганак трымаў на сабе дзве тоўстыя белыя калоны. Перад фасадам ляжаў круглы басейн, фантан якога не працаваў. Здзічэлы ябланевы сад з альтанкай, у якой правалілася страха, і дубовая цяністая прысада таксама выяўлялі сляды панскага гнязда, якое зараз мела ваенна-медыцынскае прызначэнне.

Калі было цёпла і не ішоў дождж, прысаду запаўнялі «хадзячыя» хворыя. Старыя разложыстыя дубы слухалі іх размовы, смех, удыхалі дым салдацкай махоркі.

Фёдар, акрэпнуўшы, таксама хадзіў па прысадзе. Садзіўся на скамейку, каб згуляць у шашкі, слухаў братоў-франтавікоў, бесклапотна жартаваў…

Вяртаючыся ў шпіталь, Фёдар імкнуўся ўбачыць Галю. Ён шукаў выпадкаў, каб застацца з ёю сам-насам. Калі гэта ўдавалася, падбіваў на сустрэчу. «Толькі помні, Галечка, на край свету са шпіталя да цябе збягу…»

Галя весела дакарала яго за тое, што заляцаецца да яе, пасмейвалася.

У тыя ночы, калі Галя дзяжурыла па паверсе, Фёдар не мог заснуць. У думках ён зацалоўваў яе да паўсмерці. Тым часам яна нічога пра гэта не ведала, сядзела за сталом дзяжурнай медсястры за сцяной.

Зараз ноччу — той жа выпадак. Урэшце Фёдару надакучыла зводзіць сябе, у думках цалуючы Галю. Ён узняўся з ложка, пайшоў да яе.

— Чаму вы не спіце, Фёдар? Гадзіна ночы, самы сон. Хутка ўжо і світаць пачне. Чэрвеньскія ночы кароткія. Кладзіцеся, міленькі, бай-бай, — клапатліва казала Галя і яшчэ мацней распальвала Фёдарава жаданне.

— Па табе сумую, Галечка. Вочы заплюшчу, а ўсё цябе бачу, — усміхаўся Фёдар і стараўся злавіць у свае далоні яе руку.

Галя хавала рукі пад стол, казала:

— Па сваёй нявесце сумуйце. Ёй без вас таксама сумна. Вось вы пра яе і думайце. Але сумаваць вам трэба днём, а ноччу параненым што трэба рабіць?.. Так! Хочаце, я вам таблетачку дам, каб заснулі?

Галя ўзнімалася з-за стала, адчыняла шкляную шафу, нахілялася да скрынкі з медыкаментамі. Шалёнае Фёдарава сэрца палала агнём. Ён асцярожна падкраўся ззаду і, вар'яцеючы ад жадання быць з ёй, дакрануўся вуснамі да яе шыі, абняў…

— Не, не, не, Фёдар! Не трэба, — выслізнула яна з яго абдымкаў. — Ідзі спаць, калі не хочаш непрыемнасцей. Паскарджуся начальніку шпіталя… Зразумей: у мяне муж на фронце. Мы з ім перад самай вайной распісаліся! Не, Фёдар, — часта дыхаючы, казала яна. — Як ты не разумееш!

Фёдар расчырванеўся ад узбуджанасці, прысаромлены, маўчаў, у думках дакараў сябе за няўмелы падыход.

— Спірту тады налі! Вып’ю, можа, сон, прыйдзе. І цябе, і сябе даймаць не буду, — каючыся папрасіў ён.

Галя пахітала галавой, наліла ў мензурку роўна пяцьдзясят грамаў спірту, развяла ў шклянцы з вадой. Для закускі дастала са скрынкі стала карамельку.

— Эх, д’яблава душа! Не дае мне лёс нежанатым пабыць. Гэтак бы раставарыцца ў пяшчоце, самыя салодкія словы нагаварыць бы. Ды ніяк… — Фёдар залпам выпіў, карамелькай не закусіў, ваб вастрэй адчуць унутры горыч. — Калі ты дзяжурыш, мне хоць са шпіталю перасяляйся.

Як бы засланяючы сябе і зноў называючы Фёдара на «вы», Галя дапыталася:

— Самі аднойчы прагаварыліся, што нявеста чакае. Яна, напэўна, прыгожая?

— За прыгожую і плата большая, — адказаў Фёдар. — Вось беленькі на табе халат, дык да яго ўсялякі пыл ліпне. А пастаў хоць маленькую плямку, ужо ўвесь халат чыстым не назавеш. — Ён з-пад ілба паглядзеў на Галю, нявесела думаў: «Ламаецца, ламаецца, а потым уступіць. Не мне, дык некаму іншаму. Афіцэру якому-небудзь пагляднаму. Вось яна якая — яблык сакаўны! Хоць і кажа, што мужа чакае, ды без яго і ёй не мёд. Тварык як загарэўся! Эх!»

Крыху ап’янелы Фёдар пайшоў…

Засынаў не адразу. Варочаўся. Цёрся шчакой аб падушку. Да ўсяго, што здарылася, быццам несціхаючы боль ад раны, дадалася незабыўная Вольга.

«Вольга твая зноў здурнела. Ездзіла ў абласны ваенкамат. На фронт прасілася. Кажа, адпраўце на курсы медсясцёр, а потым на вайну. Буду параненых з поля бою выносіць. Праўда, у ваенкамаце ёй адмовілі. Кажуць, для цябе калгасная праца — і ёсць фронт. А калгасны старшыня наш, калі даведаўся пра такую справу, аблаяў Вольгу. Сказаў, што нікуды яе не адпусціць. Усіх мужыкоў забралі, а яшчэ калі дзяўчаты і жанчыны пойдуць, усе з голаду памром. Я таксама з ёй колькі разоў гаварыла. Маўляў, што ты выдумала! А яна кажа, тут мне ўсё пуста стала. Я разумею, што з ёй творыцца. Цябе яна чакае, а ты маўчыш. Горш няма, калі так. Ты напісаў бы ёй, Федзь. Яна жывы чалавек. Пра цябе кожную гадзіну, мабыць, думае…»

Гэта былі радкі з Лідзінага пісьма, якое Фёдар атрымаў незадоўга да таго, як яго параніла. А пісьмо ад Вольгі беражліва ляжала ў кішэні гімнасцёркі ўжо некалькі месяцаў, а ён так і не адказаў ёй.

Яшчэ раней, знаходзячыся ў войску першыя месяцы і атрымліваючы з дому паштовыя трохкутнікі, Фёдар чакаў пісьма ад Вольгі. Чакаў то з радасцю, то з апаскай. Ён баяўся самаго сябе. Раптам усё кепскае, што перажыў, згіне, і зноў яго нібы кандаламі прыкуе да Вольгі. Зноў жыві і кожную хвіліну думай пра яе, падпарадкоўвайся каханню і пякучай рэўнасці. Зноў за кожны яе ўчынак бойся. Што-небудзь зробіць яна — сыдзецца з кімсьці — ідзі, зноў расхлёбвай. Хіба не нахлябаўся? Дзявочае сэрца не зразумець. Сам сабе часам непадуладны, быццам д’ябальская сіла вядзе. Значыць, такая сіла і на іншых распаўсюджваецца. А на жаночыя пачуцці ніхто не можа паўздзейнічаць.

«Куды яна там засабіралася? На фронт, ці бачаш, ёй захацелася. Параненых выносіць. На подзвігі, дурніцу, пацягнула. Шукаць сабе прыгод…» — у думках дакараў Фёдар, хоць разумеў яе памкненні. Чалавек у адзіноцтве шкадаваць сябе не хоча. Чаго яму сябе шкадаваць? Ісці па сумнай прамой дарозе? Яму востранькага падавай. Прэсным ён і так сыты. «Хай, у яе свой розум. Хай жыве як хоча. Перашкаджаць не буду!» — здавалася, Фёдар вырашыў цвёрда. Здаралася, прымушаў сябе не ўспамінаць Вольгу. З’едліва тыцкаў сябе: «мала

табе, ёлупню, дасталася? Хіба лагерныя вошы ды злодзей Артыст нічаму не навучылі? Выжывеш на вайне — будзе табе дзясяткі, сотні дзевак. Адна прыгажэйшая за другую, адна яшчэ больш адданая, чым другая!» У такія хвіліны азлобленасць да Вольгі валодала ім. Але ўсё часцей і часцей хацелася сустрэць Вольгу. Хацелася хоць на імгненне ўбачыць яе! Хоць адным пальчыкам дакрануцца да яе!

Да цяперашняга часу Фёдар пакутаваў, што не разгадаў Вольгу і не зрабіў кроку да яе на той спякотнай вырубцы, дзе аднойчы збіралі суніцы. На вырубцы Вольга спаткнулася аб корань пня, ягады з кошыка высыпаліся. Суніцы былі сакаўныя, нават крыху пераспелыя — падымай іх з дробнага хвойнага смецця — яны ўжо як чырвонае месіва, а не ягады.

Вольга села на пень каля кошыка, уся бледная, уся дрыжыць ад прыкрасці. У вачах слёзы. Быццам не ягады рассыпала, а гора горкае яе напаткала.

— Набяром, — суцяшаў Вольгу Фёдар, нагнуўшыся да яе. — Няма чаго перажываць, Вольга. Ягад яшчэ шмат.

У гэта імгненне Вольга моцна абняла Фёдара, прыціснулася да яго, як напалоханае дзіця ціснецца да дарослага, пранізліва зашаптала:

— Ніхто цябе так любіць не будзе, як я. Мацней за ўсіх буду цябе любіць. Удваіх мы з табой горы адолеем. Ты не прадавай мяне толькі. Адну не пакідай. Падманам не жыві. Падман жа ўсялякую любоў падточыць. Не хадзі да Дашкі, калі ласка, не хадзі. — І ўжо зусім слёзным, ледзь чутным шэптам: — Я сама цябе любіць буду. Уся любіць буду. Душу і цела аддам... Вось уся я твая і ты маім увесь будзь!

У той момант Фёдар нават разгубіўся і Вользіна пачуццё не зразумеў... Яму проста было шкада яе. І сапраўды, яна як дзіця. Толькі пагладзіў яе па галоўцы. А потым заўсёды, калі праходзіў паўз вырубку, нават зімняй снежнай парой, глядзеў на гэта месца з дзіўным вінаватым пачуццём. У той час, калі Вольга дрыжачым голасам прызналася яму, што кахае яго, ён толькі пачынаў хадзіць да Дар'і. А сама Вольга яшчэ і не ведала Савельева. Хто каго падмануў? Яшчэ невядома. Усё магло б растлумачыцца дзявочай зменлівасцю, ды чамусьці не растлумачвалася так, каб было зразумела. А калі помста? Так, помста кахнню — не сястра, не сяброўка, не далёкая радня. Помста — што той пень на дарозе, аб яго корань зачэпішся і папсуеш добрыя ягады... Ды і што такое чалавечае каханне? На што яно абапіраецца? З чаго сыходзіць? Або ўсё гэта — вецер? Ці ўсё гэта дурнота? З турмы каханне наогул здаецца забавай для свабодных і сытых. Любоў над галодным і прыніжаным улады не мае! Але вось вайна. Вайна яшчэ больш крывавая, яшчэ больш страшная, чым няволя, але ўсялякі на вайне любоўю жыве. Ды чаго перамога будзе варта, калі за ёй не будзе любові? Кожны салдат марыць аб каханні. Іншы слова пра яго не скажа ўслых, але каханнем жыве. У сне імя каханай шэпча... Тым больш цяпер, калі фашысцкіх сабак паршывых гналі з усіх франтоў, калі ўсе верылі, ужо хутка дабяруцца да шыбеніцы, на якой павесяць Гітлера — гэтага клятага супастата...

«Што будзе, тое і будзе, Вольга! Не тваёй Лідзе за мяне вырашаць. Я цяпер нікому, апрача сябе, не веру...» Буянілі, хадуном хадзілі, як хліпкія аканіцы пад ветрам, аблітыя то злосцю, то алеем начныя Фёдаравы думкі...

Раніцай зноў узыходзіла сонца, даючы чарговы круг шпітальнай перадышцы ўдалечыні ад перадавой. Галя разносіла градуснікі. Ёй гаварылі кампліменты. Потым яна сабірала градуснікі. Ёй зноў гаварылі кампліменты. З нічога не азначаючай балбатні пачынаўся новы дзень...

* * *

Праз некалькі дзён Фёдар дабіўся, каб яго выпісалі са шпіталя. На гаспадарчым двары ён адшукаў шафёра — цёзку Фёдара Назарава. Гэта быў мітуслівы, арцельны мужчынка ў запэцканым маслам афіцэрскім кіцелі без пагон, і разам з ім пусціўся ў загул...

Па-мужчынску клапатлівы Фядзюня Назараў не пакінуў Фёдара начаваць у сябе — прывёў да ўдавы-суседкі. Суседка доўгая, худая жанчына, паглядзела на госця, падміргнула:

— Вазьму цябе за тое, што прапануеш крыху выпіць ды закусіць...

Фёдар расплюшчыў вочы — адразу не зразумеў: дзе ён? Няма высокай шпітальнай столі, ложак не такі мяккі і ад падушкі незнаёмы дух. Ён павярнуў галаву, убачыў жанчыну і ўспомніў, як гулялі ў Фядзюні Назарава, які і прывёў яго сюды. У галаве гудзела. Ён зноў заплюшчыў вочы. Але ўжо не заснуў.

Гаспадыня таксама прачнулася, паглядзела на Фёдара з тонкай лісінай усмешкай. Ён апрануўся, падышоў да рукамыйніка, моўчкі доўга мачыў галаву, шыю, плечы. Потым хуценька сабраўся, закінуў за плячо шынель у скатку, рэчмяшок і, не гледзячы гаспадыні ў вочы, развітаўся, пайшоў на станцыю.

На станцыі даведаўся, што цягнік «назад» адпраўляецца каля пяці гадзін пад вечар. У яго быў амаль цэлы дзень вольнага часу. Ці то каб скаратаць час, ці то каб убачыць знаёмых па шпіталі Фёдар накіраваўся туды.

На лесвіцы шпіталя сустрэў Галю.

— Фёдар Ягоравіч! Думала, не ўбачу. Учора была не мая змена. Я ўжо пра вас успомніла, — узрадавалася яна.

У свежым халаце, ранняя, яна стаяла перад ім недасяжная... Фёдар у нечым адчуваў сябе перад ёй вінаватым. Ён узяў Галіну руку, прыклаў да сваёй шчакі, нялоўка пацалаваў.

— Даруй мяне, Галечка, за ўсё. Раптам пакрыўдзіў.

— Нікольні вы мяне не пакрыўдзілі. Мне з вамі вельмі цікава было, — яна рассмяялася, пачырванела ад Фёдаравай пяшчоты.

— Абняў бы цябе, Галечка, ды брудны я зараз.

— Ніякі вы не брудны. Толькі гарэлкай ад вас пахне... Пасля вайны да нас прыязджайце, — казала яна. А Фёдар у думках павучаў яе: «Беражы сябе, Галечка. Чакай свайго мужа... мужчыны больш капрызныя, чым жанчыны. Сэрцы ў іх слабейшыя. Не дай божа табе перад мужам апраўдвацца». Але ўслых гэтага не сказаў.

У палаце на койцы, на якой Фёдар праляжаў больш як месяц, ляжаў паранены танкіст, якога толькі што прывезлі сюды.

Фёдар падсеў бліжэй да Палыча і Хрыстафора.

— Шклянкі давайце, я прынёс...

Палыч і Хрыстафор не з тых, хто адмаўляецца ад гарэлкі. Па шклянцы гарэлкі выпілі, смачна крэкнулі ў знак мужчынскай салідарнасці. Танкіст піць пабаяўся — новенькі.

Пагаварыўшы з мужчынамі пра сёе-тое, Фёдар дастаў з рэчмяшка яшчэ бутэльку гарэлкі:

— Мне хопіць, а вы схавайце. На вечар. Памяніце каго трэба...

Днём Фёдар бадзяўся па незнаёмых вулачках горадка, ад няма чаго рабіць. Усё ўглядаўся ў твары людзей, быццам хацеў убачыць некага са знаёмых. Нарэшце прыйшоў на станцыю. На пуцях стаялі пасажырскія вагоны, цяплушкі, адкрытыя таварныя платформы. Закопчаны манеўровы паравоз з мур-

затым машыністам у акне збіваў саставы. Лязгалі вагонныя буферы. Тут Фёдар абвострана ўспомніў, што перадышка яго скончылася, наперадзе — дарога на захад, і зноў — фронт.

Абышоўшы станцыйны будынак і вагоны бліжэйшай платформы, Фёдар перайшоў чыгунку і выйшаў на схіл рова. Унізе, губляючыся ў зеляніне, бег ручай. На шкляной паверхні вады адлюстроўваліся нябесны блакіт і аблокі.

Фёдар спусціўся да ручая, знайшоў роўнае месца, разаслаў шынель. Яшчэ не разумеючы навошта гэта трэба, ён збіраўся перабраць усё, што ляжала ў рэчмяшку, усё, што насіў у кішэнях. Але рэвізію толькі пачаў, а да канца не давёў. Лёг спінай на шынель, стаў глядзець у неба.

Белыя аблокі плылі высока над ім, іх перакрэслівалі вастракрылыя ластаўкі, што снавалі над ровам. Аблокі плылі паволі. Яны быццам глядзелі на зямлю, глядзелі ўважліва, каб ведаць пра ўсё, што тут робіцца. Фёдар чамусьці ўспомніў казку пра Снягурку, якую ў дзяцінстве расказвала яму бабуля Ганна. «...Вырашыла яна скокнуць праз касцёр. Тут і не стала яе. Ператварылася яна ў аблачынку. І плыве гэтая аблачынка недзе і цяпер...» Казка вечная, і Снягурка вечная. Недзе яна сярод іх?.. Аблокі былі воблачкамі, не хмарамі. Белыя і прыгожыя. І нечым нагадвалі далёкія гронкі белага бэзу.

Было ціха. Фёдар паднёс руку да твару і сцёр са шчакі першую слязу, што нечакана выкацілася. Але твар ужо саланавата падпальвала другая сляза... Ён ужо нічога не бачыў перад сабой — ні неба, ні аблокаў, ні ластавак. Ён заціснуў рукавом вочы і сціснуўся на шынялі, нібы хацеў схавацца ад усіх, хаця тут ніхто не мог бачыць яго слёз, чуць, як ён плача...

Калі ён вымыў твар у ручаі — і вадой, і блакітным небам з белымі аблокамі, — раптам здагадаўся, чаму хацеў перагледзець свае пажыткі: думаў, што знойдзе маленькі агрызак хімічнага алоўка, які дастаўся яму ад Захара. Адшукаў аловак.

На схіле рова Фёдар знайшоў кавалак фанеры. Паклаў на яго лісцік паштовай паперы, паслініў аловак і пачаў пісаць:

«Дзень добры, Вольга!

Вось і наступіла мая часінка напісаць табе! Усё разлічваў, што пусцяць на пабыўку, ды гэтаму ўжо не бываць. Іх тут няма.

Чуў я, што ты прасілася санітаркай на вайну. Гэтага не рабі. Хопіць і таго, што я тут. Цяпер ужо, мабыць, надоўга. Справімся і без вас. Чакай мяне дома. Як адваююся, вярнуся да цябе. (У гэтым месцы ён спыніўся. Зноў паслініў аловак.) Я ж, Вольга, цябе па-ранейшаму моцна люблю. Ужо нікога мне ў жыцці не палюбіць, акрамя цябе, Волечка...»

Фёдар ніколі не ўбачыць Вольгу, а Вольга — яго. Ён сканае ўжо ў іншым шпіталі вясной сорак пятага года...

***Пераклад Уладзіміра САЛАМАХІ.***



# МЫ ЎСЕ — ДЗЕЦІ...

*Пакістан — краіна ўсходняга рэгіёна са сваёй багатай загадкавай гісторыяй і культурай. У гэтай краіне суіснуюць шмат народаў, носьбітаў каля 70 моў: урду, пенджабі, сіндхі, пушту, белуджы, брахуі, сараікі і іншых. Гэта цяжка ўявіць нам, жыхарам Беларусі, дзе мовы нашых суседзяў збольшага родныя.*

*Рэдакцыя «Полымя» наладзіла сувязі з Акадэміяй літаратуры Пакістана пасля наведвання Выдавецкага дома «Звязда» старшынёй гэтай арганізацыі, прафесарам Касімам Бугія на пачатку 2016 г. Акадэмія літаратуры Пакістана — дзяржаўная арганізацыя, мэтай якой з'яўляецца папулярызацыя літаратуры ў грамадстве, а таксама фарміраванне міжнародных культурных стасункаў.*

*Характар пакістанскай літаратуры ва ўсёй яе разнастайнасці, шматпластавасці, спалучае спрадвечныя веды з агульначалавечымі каштоўнасцямі, жаданнем міру і спакою ў неспакойным свеце.*

*Сучасная пакістанская паэзія нагадвае духмяную кветку з цудадзейным водарам. Яна шчымліва-лірычная і летуценная. Гэтай якасцю вылучаюцца вершы пакістанскіх жанчын. «Я — рака падаючых зорак, / Ты — недасяжная мэта» (Балрай Комал).*

*Чытаючы пакістанцаў, разумееш, што жыццё чалавека кароткае. «Кветкі свежыя прарастаюць... на мёртвых галінках эмоцый», — адзначае Саміна Раджа. Іх аўтары сродкамі паэзіі прыцягваюць увагу да асобы чалавека, яе пачуццяў. Бо цела, як слушна адзначыла Васір Агра, «кволае, хворае» (верш «За заслонаю слёз»). Фаціма Махджуба звяртаецца ў вершы да самой сябе: «О Фаціма Махджуба, / у стане падобным / да бедных вятроў, / не адкрывай свае раны, / не адкрывай свайго смутку / гэтаму вар'яцтву».*

*У сучасным грамадстве вельмі мала любові. У чалавека ёсць свае абавязкі: «Я павінна стаяць у пакоі. / Людзі выклікаюць мяне. / <...> Горад пылу, малюнак у маёй руцэ», — сцвярджае Фаціма Хасан. Усе справы — гэта пыл, пыл у кватэры пераходзіць у пыл вуліц горада, справы нашыя таксама пыл...*

*Зэхра Ніхаг прысвячае свой верш сляпой дзяўчынцы, якая была пакараная згодна з правіламі адату: «Вязень, / вольная я / і ў маленькім пакоі; / за акенцам у столі / ходзіць сонца». Др. Максуд Джафары піша верш «Праслаўленне міру»...*

*Мы ўсе дзеці, усе мы ніколі не вырасцем, «вочы, якія ніколі не вырастуць», як піша Насрын Анджум Бхаці. Мы будзем змагацца, бо жыццё прызначанае для змагання.*

*Шчыра прызнаюся, калі мне ў рукі трапілі кнігі пакістанскіх аўтараў, дасланыя Акадэміяй літаратуры Пакістана, я апынуўся пад уладай трагічных успамінаў. Адна з былых супрацоўніц Выдавецкага дома «Звязда», Кацярына Безмацерных, загінула ў гэтай далёкай спякотнай краіне. Дзяўчына працавала ў часопісе «Бярозка», а потым, апантаная Азіяй, выправілася ў жаданае падарожжа. Пасля свайго вяселля яны з мужам, Аляксеем Ільюшыным, праехалі праз Грузію, Арменію, Іран, меркавалі завітаць у Індыю, а далей — у Камбоджу... Маладая сям'я трапіла ў аварыю: машына, у якой яны знаходзіліся, перакулілася ў абрыў.*

*Таму шчыра, прапускаючы праз асабістае і часам балючае, здзяйсняліся пераклады з літаратуры краіны багатай і самабытнай культуры. Спадзяюся, што чытачы змогуць пашырыць геаграфічныя, сацыяльныя, культурныя ўяўленні пра Пакістан праз літаратуру...*

***Адам ШОСТАК***

**Разак НАДЗІР**

## МАЛІТВА

Супакой майго сэрца,
Мілыя дзеці!
Вы бязвінныя і маладыя,
Вы не ведаеце,
Вы не зналіся з
Варажнечаю праўды й хлусні,
Як знішчае род чалавечы яна
І робіць слабым чалавека.
Пахавайце у праху яе.
Хай вас Бог абароніць
Ад болю й пакутаў!
Хай вас Бог уратуе
Ад бязладдзя гэтага свету!
Але я не шкадую,
Што прайшоў па жыцці,
Як распалены камень з гары.
Не шкадую таксама,
Што зблукаў
Караван маіх чыстых жаданняў.
Не шкадую й аб тым,
Што не змог назбіраць
Вам багацця ці скарбаў якіх,
Як дзяды ў прамінулыя дні.
А шкадую,
Што не здолеў пакінуць
Лепшай будучыні для вас.

**Др. Максуд ДЖАФАРЫ**

## ПРАСЛАЎЛЕННЕ МІРУ

Мір — гэта дар, што яснее дабраславеннем.
Мір — пышны сад разнастайных пачаткаў.
Мір — гэта кветка, але без калючага церня.
Мір — нібы ціхі й рахманы сардэчны каханак.
Бог любіць мір, за Богам пайшоў і Прарок.
Міру пасланне — шанаваць чалавечнасць.
І духоўнасць ніяк не магчыма без міру.
Мір — гэта ружы духмянасць і жар.
Мір каштоўней любое раскошы смарагдаў.
Ператворыць зямлю ён у месца вышэй за нябёсы.
А любоў да яго дабрабыт нам прыносіць і лад.
Мір — сарцавіна і сутнасць вучэнняў усіх мудрацоў.

## Анджум САЛІМІ

### Я — ПРАЎДА

О бязвінная доля
Усяго, што на сэрцы!
Не пытай,
Не рушай цішыні
І звычаю трымайся.
Расчырвонь маю кроў
Скамяні, дай атруты, павесь!
Сідхартха![1]

Рушма, любы мой спадарожнік,
Будзем жыць адзінока.
Сонца ўткнем над галовамі нашымі,
Сядзем разам у ценю старога баньяна.
Жыхары места гэтага ўсе
Сляпыя, нямыя, глухія.

То каму мы пакажам уласныя раны
Ці раскажам пра мроі дзівосныя сэрца?

## Зэхра НІГАХ

### ПРАВЫ СУД

***(сляпой дзяўчынцы,***
***якая была асуджана згодна з адатам[2])***

Вязень,
вольная я
і ў маленькім пакоі;
за акенцам у столі
ходзіць сонца,
пакуль не садзіцца;
светлапромні
пяшчотна сыходзяць
і па гэтай сцяжынцы
я вандрую дамоў;
тата мой акурат
вяртаецца
з места,
несучы для мяне
грэбень, шаль, бранзалеты, сурму
і мноства драбностак;
абодва браты
пры мячэці

[1] Сідхартха — імя Гаўтамы Буды, дадзенае яму пры нараджэнні.
[2] Адат – звычайнае права ў некаторых мусульманскіх народаў.

вучацца, як і раней;
Божыя прыказанні
завучваюць і чытаюць;
сёстры маю долю хлеба
складаюць у кошык:
аддадуць вераб'ям
на світанні;
матуля амаль звар'яцела,
каменне збіраючы,
гаворачы з вераб'ямі,
што дзёўбаюць зерняткі;
кажа:
вераб'і, спасцігнуўшы праўду,
ва ўласных дзюбках і капцюрках
расціснуць каменне;
а затым уздымецца бура,
знішчыць творцаў закону
і зруйнуе амбоны;
правы суд Самому Сабе Ён даверыць,
Усявышні,
адзіны для кожнага з нас,
Усяхвальны, Вялебны.

Ці ж магу загадаць я матулі,
хіба я Кааба,
Госпадаў Дом?

**Вазір АГА**

## ЗА ЗАСЛОНАЮ СЛЁЗ

Смех спыніўся.
І зноўку кот,
Стаючы на дыбкі,
Слізгаціць па ядвабнай руцэ,
Прамінуўшы даліну шыі.
На сцяну ўзабраўшыся вуха,
Робіць скок у веранду нутра.
А цела...
Кволае, хворае цела —
Ўсё яно —
З сарцавіны катастрафічнае радасці,
Гэтай нарастаючай плыні смеху,
Прапішчэла:
«Досыць, тата!
Тата, спыні ката!
Хай гэты кот не ідзе далей!»

І тата
Спыніў свой палец,

І кот
Нырнуў у ягоныя грудзі скачком.
І затым
На дыбках
Па расцягнутых венах ягонага цела
Пранік да вачэй.
Зрабіўшы засаду,
Ён сядзіць
За заслонаю слёз!

**Шахзад АХМЕД**

## ВЭЛЮМ ЦЯМРЭЧЫ

Адчуванне гаркоты наплывае штохвілі.
Хто яна, неспакойная гэта істота,
Што ўвесь час не спыняе ў мяне ўзірання
І ніколі не стане на вока?
Ды яе існаванне льга адчуць за заслонай цямрэчы,
Што хаваецца
Не адна, а з мільёнамі злыбедных духаў,
З незлічальнаю лічбай вачэй,
Летучы унутры,
Вокал сценаў цямрэчы.
То задушлівыя светлякі,
Што не могуць памерці.
Хай сабе й нежывы,
Я вандрую навокал
І кажу да людзей:
Слухайце сваіх пашанотных.
І думаю ў сэрцы:
Ці гэтыя людзі адчувалі калісьці гаркоту?
Гаркоту...
Якая таварыш мой штохвілінны,
Загорнуты ў вэлюм цямрэчы.

**Саміна РАДЖА**

## ХРЫЗАНТЭМА

Хто прынёс хрызантэмы на сходы гэтага дома?
Подых ветрыку лёгкім прайшоў шапаценнем!
Кветкі свежыя прарастаюць... на мёртвых галінках эмоцый.
Хто прыходзіў, прынёс... і ні поступу крокаў, ні стуку
Не знаходжу на лісці... ні імя, ні паслання
У атмасферы халоднай... з цеплыні прахалоднай жадання
І напругі здзіўлення на сэрцы
Выбухае ўваччу колер мноствам іскрынак.
То было таямніцай глыбокай... як жа нехта пасмеў пра яе распавесці!

Там, за сметнікам цішыні гэтага дома,
Цела згарае ў агні ледзяным развітання!

**Сахар ІМДАД**

## ЯК ССОХЛАЕ ЛІСЦЕ

Неспадзявана сёння
страх абудзіўся
на сэрцы:
знік мой твар.

На сцяне — прама —
люстра;
падышла —
там нічога, пустэча.

Страх у сэрцы
стаіўшы,
я рукамі
абмацала твар:

вусны,
вочы,
і нос,
і аблічча,
і бровы

Нічога няма,
толькі мур;
а кранула яго —
мае пальцы,
як ссохлае лісце,
апалі.

**Насрын Анджум БХАЦІ**

## ЗАПАЛІЛА ЛІХТАР

Запаліла ліхтар
І паставіла ў склепе,
Засталася на стражы.

Я, вада і сасуды.
Дасі мне прытулак,
І я існавацьму.

Той, для каго сузірала,
Незаўважаны ўперад пайшоў.

## Пушпа ВАЛАБХ

### СЛОВА МІЖ СЛОЎ

Я вада.
Не знявольвай мяне ў невялічкай пасудзіне.
Дай мне плысці.
Прызначэнне маё — рух наперад,
Пракладанне ўласнага шляху.

Я каханне.
Не разглядвай мяне за адценнямі колеру —
Стану тым,
Які абярэш самастойна.
Не вышуквай мяне
У вачах толькі пэўнага з іх —
Я прысутнае ў кожным адразу.

Я малітва.
Не чакай ад мяне адназначнага кшталту —
Буду тым,
Які абярэш самастойна.
Не шукай па абліччах,
Бо пэўнага з іх не прымаю.

Я і Біблія адначасна, і Гіта,
Толькі ў кнігах мяне не шукай:
Я слова,
Што ляжыць паміж слоў.

***Пераклаў Алесь БРАЗГУНОЎ.***

## Шахэн МУФЦІ

### ПРАТАКОЛ

Момант развітання Евы
Нямы, бы падмуркі сценаў.
Мігаценне зорак запрашае
Патлумачыць ім мовай звычайнага
Вінаватага, усміхнуцца, ашчэрыцца,
Здзейсніць апошнія мары —
Выхавання перад адчаем.

## Азра АББАС

### ВЕРШ

Тыя, хто не загінуў
падчас
перасячэння дарогі ў сваім дзяцінстве,

паглыналіся
эпідэміямі.

Тыя, хто ацалеў
падчас
эпідэмій,
трапілі
пад нечаканую бяду
і памерлі.

Тыя, хто ацалелі,
збітыя іншымі ацалелымі,

І тыя іншыя ацалелыя
потым
памерлі ўласнай смерцю

**Парвеен ШАКІР**

## СУЦЯШАЛЬНАЕ

Цяпер, калі я зачыніла дзверы
горада кахання
перад сабою
і закінула ключы
ад кожнага з варотаў
у мора нефрытавага забыцця,
цяпер са мною баязлівае пачуцце,
такое суцяшальнае.

За нерухомымі сценамі вязніцы
маленькай дзірачкай
у старым абнесеным сцяною горадзе
невялічкае акенца,
дагэтуль адкрытае мною.

**Насрын Анджум БХАЦІ**

## ВОЧЫ, ЯКІЯ НІКОЛІ НЕ ВЫРАСТУЦЬ

Ці забаронена ўвесну марыць?
Усё паглынаецца агнём,
шлях счырванелы гіяцынтаў
дабіраецца даўгімі шляхамі мегаполісаў.

Хто прыгожы, як Венера ў горадзе,
пазычае колер сезонны?
Адзіны, хто робіць цацкі з агню,
што стварыў сэрцы.

Адзіны, хто вышыты вадою,
сее самотнае семя,
плача ў сваім сэрцы.

Але вочы ніколі не вырастуць.
Пра які перыяд жыцця ты гутарыш?
Пытанні, толькі пытанні.

Калі я малюся за цябе ад цябе,
з кім ты застанешся,
падлічваючы на сваіх пальцах?

Ты павінна быць высакароднай.
Ты павінна быць
Голасам кахання.
Я не пабачу павагу ў тваіх вачах.
Я не зараблю дурную славу сабе —
імя для тваіх вачэй.
Дазволь ім быць без імя —
Дзвюм кроплям дажджу,
што ззяюць часова.
Часовае пройдзе, і яны загінуць.

Твае вочы прыгнятаюць мяне,
І я трываю іх.
Дазволь ім застацца са мною.

**Фаціма МАХДЖУБА**

## ЗАВЕЯ

Гэта быў звычайны дзень
у звычайны сезон.
Няцотная гадзіна была,
калі завея пачалася.

Як антылопа,
павольна адскоквала,
дыхала жахам,
але калі датыркнулася
да маёй далоні,
стала спакойнай.

Завея з'явілася,
як сонечны сон,
які робіць шчаслівым
спадарожніка
палаючае сэрца.
Вербаў вышыні.
Хмарнае неба.

Пабачыўшы мяне,
яна пайшла туманным шляхам.
І надвор'е таксама.
І завеі свіст.

О Фаціма Махджуба,
у стане падобным
да бедных вятроў,
не адкрывай свае раны,
не адкрывай свайго смутку
гэтаму вар'яцтву.

**Салма ШАХЭН**

## МАЕ ЖАХІ

Увосень начны напад
На мае шчаслівыя мары. Мая мара
Збудаваць гняздо абрынулася кашмарам.
Ён, праўда, прайшоў.
Я ведаю, дзе ты размяняў сваё каханне.
Але прыліў вясновы
Нядоўга трымаўся.
Ты хочаш ведаць, хто я?
Я — палаючае полымя ў цемры часу.
Я смяюся з таго, што ты зрабіў
Мне.
Дыханне майго жыцця
Не мае шматспадзеўнага
Месца прызначэння.
Караван задаволены мною.
Пакажу яму дарогу.
Ты пакінуў мяне; для цябе я засталася невядомай
Ты думаеш, што я бескарысная.
Але я карысная свету.

**Кунвар НАРАЙН**

## НА ВОСЬМЫМ ПАВЕРСЕ

Я жыву на восьмым паверсе
у маленькай кватэры
ўсё адна.
Пара вокнаў у кватэры
адчыняюцца вонкі.
Гэта жахліва.
Я павесіла важкія фіранкі
на вокны.
Не, я не прадчуваю небяспеку

звонку. Уся гэтая вышыня
не паспее ўварвацца звонку.
Небяспека жыве ўва мне,
жахлівыя рэчы здараюцца наўкола,
гэта ізаляцыя і нудота —
у акне на восьмым паверсе.

**Азра АББАС**

## РУКІ НА СТАЛЕ

Рукі адпачываюць на стале,
я падымаю іх,
але яны застаюцца на стале
і смяюцца.

Раблю высілкі
падняць абедзве рукі
уласнымі рукамі
са стала.
Я адрываю іх зубамі,
але яны не рухаюцца,
застаюцца там,
на стале,
з адбіткамі зубоў на іх,
прыглушаныя, зафіксаваныя, узіраюцца.
Я гляджу на іх;
колер стала
насычае мае вочы,
засынаю на руках,
якія застаюцца
на стале.

**Балрай КОМАЛ**

## РАКА ПАДАЮЧЫХ ЗОРАК

Я — рака падаючых зорак,
Ты — недасяжная мэта.
Ты зорка, сонца
ці чароўнае акно ў далёкай краіне,
горад, што гарыць на нейкім беразе,
повязь джунгляў праз даўгія стагоддзі.
Я тэлефаную да твайго духа жыцця,
а ты дрыжыш, атакаваны ўсмешкай.
Ці пустэча ты,
вецер, безыменны вецер?
Чаму маці дала табе цела,
калі ты быў богам;

калі ты быў пачуццем;
чаму ты ганарышся поглядам і вуснамі
сваёй рамантычнай далікатнай хады
калі ты толькі водар;
чаму ты жадаеш пакінуць маляўнічы сад?
Я — рака зорак, што падаюць пры першай магчымасці.
Я падаю, лятаю струменьчыкамі твайго лёсу.
Пазбаўленая і самотная, я застаюся падарожніцай,
але я не ў чоўне.
Калі ты прыплываеш да берага,
велічна, рамантычна,
я пагляжу на твае пачуцці, якіх не існавала,
на думкі, водар, апошнія мары,
я пагляжу на цябе з адлегласці.
Я — рака падаючых зорак.
Я пакіну і размяркую глыбіню турбуленцыі цёмных акіянаў.

**Фаціма ХАСАН**

## ІНШЫ ДЗЕНЬ

Людзі хаваюць мяне ад памяці,
калі я аднойчы жадаю ўзгадаць,
калі я аднойчы павінна выцягнуць са сваёй пустой сутнасці,
рассейваю яе бясплоднасць.
Сэрца, пакой
упрыгожаны малюнкамі;
немажліва сцерці пыл у ім, збіваецца
пыл у новы пыл,
дадае яшчэ і яшчэ бруду.
Я павінна стаяць у пакоі.
Людзі выклікаюць мяне.
Я пакідаю малюнкі пад слоем пылу,
забываю на ўсе дамоўленасці.
Горад пылу, малюнак у маёй руцэ.
Пылінкі
засланяюць мае вочы,
адзенне забруджваецца,
я выходжу.
Дзверы зачыняюцца.
Іншы дзень, па-за межамі пакоя,
я жадаю, каб настаў у жыцці.

*Пераклаў Адам ШОСТАК.*



# Ірына КАЧАТКОВА: «ПРЫВАБЛІВАЕ ПЕРАКЛАД ТВОРА САМАБЫТНАГА...»

***Ірына КАЧАТКОВА — перакладчык твораў мастацкай літаратуры, якія сёння друкуюцца на старонках часопісаў «Полымя», «Белая Вежа», газеты «Літаратура і мастацтва». Чым кіруецца творца, прадстаўляючы замежных пісьменнікаў па-беларуску? Пра гэта і не толькі — наша размова з перакладчыцай.***

**— Ірына Львоўна, з чаго ўсё ж такі быў пачатак вашай творчай працы як перакладчыцы?**

— Відаць, гэта наканаванне. Пра перакладчыцкую дзейнасць марылася яшчэ ў юнацтве, аднак доўгі час я не адважвалася брацца за такую адказную справу. Але вось аднойчы ў перакладным зборніку, які мне тады выпала рэдагаваць, выпадкова засталося неперакладзеным адно з апавяданняў, і я асмелілася перакласці яго самастойна. Аўтар з тэкстам пагадзіўся, а пазней прапанаваў узяцца за пераклад рамана «Вочы і сон». Праз некаторы час мне давялося перакладаць таксама на рускую мову раман Вольгі Іпатавай «Залатая жрыца Ашвінаў» і аповесць «Чорная княгіня». Пасля да мяне «прыйшлі» казкі, навелы, замалёўкі, буйныя празаічныя і публіцыстычныя творы іншых аўтараў, у тым ліку Вячаслава Адамчыка, Казіміра Камейшы, Івана Навуменкі, Юрыя Станкевіча, Кастуся Цвіркі, некаторых беларускіх навукоўцаў. Вось так і пачаўся мой шлях перакладчыцы…

**— І чаму абраны пераклад як асноўны занятак? Вы ж, здаецца, выступаеце і як празаік?.. Праўда, не ўсе гэта ведаюць, бо апавяданні друкуеце часцей пад псеўданімам...**

— Праца перакладчыка, на маю думку, — найцікавейшы занятак, асалода для душы і сэрца. Пераклад — магчымасць не толькі перастварыць той ці іншы твор, але і шанц для перакладчыка «перастварыцца» самому, на некаторы час «пераўвасобіцца» ў іншага чалавека, пранікаючы ў яго псіхалогію, апынуцца ў ментальнай стыхіі іншага народа, а яшчэ спроба спасцігнуць аўтарскі стыль, судакрануцца са своеасаблівым падыходам да рэчаіснасці, з нечаканымі меркаваннямі, філасофскімі прынцыпамі творцы — трапіць у «іншы свет», нешта зразумець, з чымсьці пагадзіцца, штосьці адпрэчыць, набыць пэўны досвед, шукаючы адпаведныя словазлучэнні і выразы для перадачы аўтарскай думкі. Калі ж аўтар з замежжа — гэта яшчэ і магчымасць пагрузіцца ў чужую культуру, «павандраваць» па чужых краінах, больш даведацца «знутры» пра тамтэйшыя рэаліі, якія часцей за ўсё карэнным чынам адрозніваюцца ад звыклых. Заўсёды выклікае інтарэс пераклад навуковых матэрыялаў: гэта знаёмства з новымі

ідэямі, незвычайнымі думкамі, арыгінальнымі прапановамі, адпаведным ладам мыслення.

Што да ўласнай прозы, сапраўды, апавяданні пішу, і хоць часам іх публікуюць у перыёдыцы, былі прадстаўлены яны і ў калектыўных зборніках «Самая чароўная кветка» і «Повязь», а летась пабачыла свет нават невялікая кніжка — дзесяць апавяданняў — вынікі сваёй працы ў гэтым накірунку лічу сціплымі.

**— Што становіцца найчасцей прычынай увагі да таго ці іншага аўтара — замова рэдакцыі часопіса ці газеты, выдавецтва альбо ўласная ініцыятыва?**

— У кожным канкрэтным выпадку бывае па-рознаму — часам замова рэдакцыі ці выдавецтва, часам — жаданне аўтара, часам — мая прапанова. Галоўнае, каб твор, незалежна ад формы і памераў, — буйны раман, вялікая аповесць, мініяцюрная навела ці эсэ — закрануў, зачапіў сваім зместам, узрушыў, прымусіў хвалявацца і спачуваць. Літаральна ў віры эмоцый давялося апынуцца, напрыклад, перакладаючы апавяданне Рэваза Мішвеладзэ «Маквала»: трагічная гісторыя старой, якая праз пэўныя прычыны страціла родных, а цяпер цураецца людзей і жыве на адзіноце ў атачэнні катоў ды сабак, па-своему высветліла той жахлівы маральны стан сучаснага грамадства, у якім «ніводнага… у жывых не пакінулі ні чалавек, ні Бог, ні Бог, ні чалавек, хай будзе блаславёнай іхняя справядлівасць». Адпаведныя маральна-этычныя праблемы ўзнімаюць Сяргей Трахімёнак, Мехмон Бахці, Харун Такак, Тахміна Эмін, Кяміль Афсараглу, Фетхулах Гюлен, творы якіх таксама перакладаліся на беларускую мову. Кожны пісьменнік пры гэтым імкнецца акрамя таго паказаць нацыянальны каларыт сваёй краіны, расказаць пра яе людзей, супрацьстаяць негатыўным, найперш агрэсіўным, праявам жыцця. Увогуле, хацелася б сказаць, што ў мяне заўсёды былі добрыя аўтары і цікавыя творы для перакладу. Мне, відаць, пашанцавала.

**— Пераклаўшы шмат што на рускую мову з беларускай прозы (апавяданні, аповесці, раманы Георгія Марчука, Вольгі Іпатавай, Алеся Камароўскага, Барыса Пятровіча, Алеся Петрашкевіча, Янкі Галубовіча), Вы досыць актыўна ўзяліся за прадстаўленне ў Беларусі публіцыстыкі, прозы краін Цэнтральнай Азіі... Як сфарміравалася такая зацікаўленасць?**

— Уласна кажучы, інтарэс да Усходу быў заўсёды і тут многа «вінаватых» — усіх не пералічыць, — але найперш Леў Гумілёў і хуны. Да таго ж лічу, што ўсходнія краіны валодаюць неабмежаванымі стваральнымі і творчымі рэсурсамі і ў будучым будуць адыгрываць пэўную ролю ў жыцці народаў. Дзякуючы ж правядзенню ў Беларусі Дзён пісьменства і Лютаўскага кніжнага кірмашу з’явілася магчымасць пазнаёміцца з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі краін Цэнтральнай Азіі, у прыватнасці з Ато Хамдамам, аўтарам шматлікіх апавяданняў, аповесцей, драматычных твораў. У хуткім часе пачалося творчае супрацоўніцтва, у тым ліку пераклады. У мяне на той час ужо былі «ўсходнія» напрацоўкі — грунтоўныя працы Нурсултана Назарбаева «У плыні гісторыі», «Крытычнае дзесяцігоддзе» і Аскара Акаева «Кыргызская дзяржаўнасць і народны эпас «Манас» у перакладзе на беларускую мову, праз якія адкрываецца ўнікальны сваёй культурай свет Усходу. Гісторыя вялікага рэгіёна падаецца не толькі ў сваім старажытным складніку з яго сусветнымі дасягненнямі, але і разглядаецца з пункту гледжання непарушнай і цалкам натуральнай лучнасці з агульначалавечай будучыняй, дзе ў новых умовах знойдуць працяг дзеянні папярэдніх пакаленняў, напрыклад, адновіцца функ-

цыяніраванне Вялікага шаўковага шляху, адраджэнне якога сёння стаіць у парадку дня і ажыццяўляецца досыць актыўнымі тэмпамі, бо «не войны з'яўляюцца спосабам забеспячэння шчасця і росквіту народаў, а гандаль і добрасуседскія адносіны». Прыгожае ж пісьменства ўсходніх краін прываблівае незвычайнай паэтычнасцю і ўзнёсласцю, глыбокай філасафічнасцю, якія робіць яго ўнікальнай з'явай сусветнай літаратуры.

**— У полі зроку вас як перакладчыцы — казахская, кыргызская, туркменская, таджыкская, турэцкая літаратуры. Вы таксама перакладаеце азербайджанскую і грузінскую прозу. Наколькі Вы валодаеце звесткамі, уяўленнямі пра сучасны стан спраў у гэтых нацыянальных літаратурах? Ці не баіцеся, што Ваш выбар можа аказацца выпадковым?**

— Трохі баюся. Каб глыбока вывучыць літаратуру ўзгаданых краін — патрабуюцца дзесяцігоддзі. Заўсёды раюся з аўтарам твора, які збіраюся перакладаць, абапіраюся не толькі на свае асабістыя ўражанні і меркаванні, на свае веды, але і на аўтарскі густ, аўтарскія парады, аўтарскі выбар, стараюся ўлічыць «характар» краіны, з прадстаўніком якой працую. Напрыклад, з вялікай цікавасцю перакладала апавяданне Юрыя Іванова з Малдовы «Пра кума Івана і куму Марусю»: воляю аўтара кум і кума — фальклорныя персанажы — жывуць і дзейнічаюць у наш час, вылучаючыся ўласцівымі толькі ім адметнымі рысамі, якія ператвараюцца ў станоўчыя ці адмоўныя ў залежнасці ад сітуацыі. Чорт, які нязменна прысутнічае ў казачных аповедах побач з кумам і кумою, падбухторваючы на сумніўныя ўчынкі, у дадзеным выпадку выступае пад выглядам грошай, адсутнасць якіх у рэшце рэшт прыводзіць да… шчаслівага кахання — такая вось трансфармацыя сюжэта ў адпаведнасці з сённяшнімі рэаліямі. Сучаснае гучанне і новае прачытанне набыла таксама вядомая казка «Дзяўчынка і Месяц», пакладзеная ў аснову апавядання Амантая Ахетава «Сауле»: сумны спеў стэпаў змяніўся жыццярадасным пераасэнсаваннем падзей, перспектыва ўдала спалучылася з рэтраспектывай, атрымліваючы аптымістычны працяг.

**— Калі б былі нябмежаваныя выдавецкія магчымасці, то за якую самую галоўную перакладчыцкую работу вы ўзяліся б?**

— Хацелася б зноў звярнуцца да Усходу, да літаратуры Ізраіля, з якой наш чытач, на маю думку, амаль не знаёмы. Прываблівае пераклад твора самабытнага, яркага, каларытнага, прасякнутага нацыянальным духам і колерам. Праўда, тут у мяне даволі абмежаваныя магчымасці, бо, як мне падаецца, такія якасці ўласцівыя найперш паэзіі.

**— І мне хацелася б вам пажадаць заўсёднай руплівасці на перакладчыцкай ніве. Менавіта дзякуючы такой вашай самаахвярнай рабоце літаратуры не такіх і блізкіх ад нас краін Цэнтральнай Азіі становяцца болей знаёмымі беларускаму чытачу.**

*Гутарку вёў Максім ЖАЛЕЗІНКА.*



Алена БЕЛАЯ

# «ЦЕМНАТА ГЕРАКЛІТА»: РАМАН «ЯЗЭП КРУШЫНСКІ» ЯК АБ'ЕКТ АНАЛІТЫЧНЫХ ІНТЭРПРЭТАЦЫЙ

Даследчыкі літаратуры заўсёды паўстаюць перад антыноміяй аб'ектыўнага і суб'ектыўнага, рацыянальнага і інтуітыўнага. І гэта заканамерна: без устаноўкі на дакладнасць няма навукі, а без эмацыянальна-ацэначнага ўспрымання твора цяжка пракладваць шлях да яго зместу, г. зн. ажыццяўляць інтэрпрэтацыю. Пэўны недавер да навуковасці інтэрпрэтацыі выкліканы тым, што яна ўключае пачаткі эмацыянальныя, інтуітыўныя, пазарацыянальныя (у тым ліку такія, як улюбёнасць у твор). Безумоўна, мастацкі твор можа быць зразуметы толькі з яго самога. Аднак ён, адзначае Ю. Лотман, пабудаваны так: кожная дэталь і ўвесь тэкст у цэлым уключаюцца ў розныя сістэмы адносін, набываючы адначасова больш чым адно значэнне. У выніку складаная інфармацыя ў мастацкіх творах не толькі захоўваецца ў ёмкай і ашчаднай форме, а і можа колькасна павялічвацца. Гэтая ўнікальная якасць ставіць творы мастацтва на адметнае месца сярод усяго створанага чалавекам. Яны «выдаюць карыстальніку менавіта тую інфармацыю, у якой ён мае патрэбу і да засваення якой падрыхтаваны» [9]. Як адзначае польскі літаратуразнаўца і семіётык Е. Фарыно, інтэрпрэтацыя ставіць пытанні: што азначае дадзены элемент тэксту; які сэнс узнікае ў выніку наяўнасці той ці іншай уласцівасці тэксту. Таму яна ўяўляе свайго роду пераклад з «мастацкай мовы» на «мову даследчыка, чытача». Твор дазваляе розныя інтэрпрэтацыі, розныя асэнсаванні, якія, аднак, не зусім адвольныя. Здольнасць заўважаць імпліцыраваныя сэнсы залежыць, па-першае, ад ведаў і ўяўленняў суб'екта ўспрымання пра агульныя ўласцівасці мастацкага тэксту, а па-другое, ад канкрэтыкі твора: «некаторыя яго элементы могуць быць падкрэслены настолькі моцна, што самі прыцягваюць увагу рэцыпіента» [14]. Назавём іх сігналамі аўтарскай пазіцыі.

Сэнсы, якія мы схільны прыпісваць асобным элементам тэксту, залежаць або ад таго, якое значэнне яны ўвогуле маюць у нашых уяўленнях (і гэта хутчэй пазнаванне), або ад таго, у якім кантэксце гэтыя элементы лакалізаваны (а гэта бліжэй да рэканструкцыі). І калі ў першым выпадку мы падпарадкуем тэкст сваім уяўленням, то ў другім мы падпарадкоўваемся самому тэксту, але ў абодвух выпадках улічваем яго аўтаномію. У некаторых тыпах культуры, адзначае Е. Фарыно, «больш дарэчным быў бы першы падыход — апазнаванне ўжо вядомага, знаёмага (так, дзеці не заўсёды патрабуюць новых казак і ахвотна слухаюць ужо чутыя, да таго ж часта «папраўляючы», калі казачнік нешта дадаў ад сябе)». Але «з пунту погляду сучаснай культуры, «...якая на першае месца вылучае паняцце арыгінальнасці, непаўторнасці, больш плённы другі тып падыходу, бо з твора мы пазнаём нешта новае, перабудоўваем нашы паняцці і ўяўленні пра свет» [14]. Падмурак аналітычных інтэрпрэтацый складае інтуіцыя. А. Скафтымаў, нашмат апярэджваючы навуку свайго часу, пісаў у 1923 годзе: «Даследчыку мастацкі твор даступны толькі ў асабістым эстэтычным вопыце. У гэтым сэнсе, канечне, яго ўспрыманне суб'ектыўнае. Аднак суб'ектывізм не ёсць самавольства... Даследчык аддае сябе ўсяго мастаку, але не паўтарае яго ў эстэтычным суперажыванні; ён толькі апазнае тыя факты духоўна-эстэтычнага вопыту, якія разгортвае ў ім

аўтар» [15, с. 13]. У працы «Дзве галоўныя метафары» Х. А.-і-Гасэт піша: Платон прыйшоў да перакanання, што ісцінная не тая зменлівая рэальнасць, якая адкрыта воку, а другая — «непарушная, нябачная, але прадчуваемая ў форме дасканаласці: непараўнальная белізна, вышэйшая справядлівасць» [5]. Выраз «непараўнальная белізна», зусім у духу аналітычных інтэрпрэтацый, цягне за сабой асацыяцыю з іншым метафарычным выразам — «цемната Геракліта». Пры гэтым не «цемра», не «цьмянасць», а менавіта «цемната». Старажытны філосаф, аўтар адзінай кнігі «Аб прыродзе», Геракліт Эфескі быў празнаны Цёмным за мнагазначнасць, сімвалічнасць, афарыстычнасць сваіх выказванняў. Адзін з яго афарызмаў — «Патаемная гармонія лепшая за яўную». Для нас істотна тое, што адметнасць мыслення Геракліта вызначалася пераходным станам грамадства, у якім рысы народнага агульнажыцця спалучаліся з патрыярхальна-мастацкім ладам мыслення (падобная пераходнасць экстрапалюецца намі на першую трэць ХХ стагоддзя). А народны стыль жыцця і мыслення якраз звязаны з мнагазначным (з пункту філасофіі — цьмяным, двухсэнсоўным) словам. Цыцэрон лічыў, нібыта Геракліт наўмысна пісаў так цёмна. Выказвалася і думка, што гэтая цемната ёсць вынік нядбайнага словаспалучэння і нявыпрацаванасці мовы. «...Гэткае ж і меркаванне Арыстоцеля, які... у граматычных адносінах бачыць гэтую нядбайнасць у недахопе знакаў прыпынку: «Не ведаеш, адносіцца слова да папярэдняга ці да наступнага» [6, с. 146]. Імплікацыя ўласнай пазіцыі была вымушанай мерай для пісьменнікаў ва ўмовах вульгарызацыі грамадска-культурных з'яў. У сваёй «казцы жыцця» «Кучаравае дрэва», прысвечанай З. Бядулю, Я. Колас піша: «...многа цяжкіх хвілін перажыло Кучаравае дрэва! У глыбі, дзесь у нетрах гэтай глыбі, ёсць нікому невідочныя скрыжалі, а на іх запісаны мукі і боль, аб якіх часам ніхто не ведае і не здагадваецца» [8, с. 408]. Як успамінаў Б. Мікуліч, у перыяд іх знаёмства Бядуля якраз дапісваў другі том рамана «Язэп Крушынскі». Першы выклікаў намёкі, што, маўляў, напісана выдатна, «але вобраз кулака зацьміў усё і ўся (зноў Бэндэ, хай гэта не сыдзе ад гісторыі)». З. Бядуля «...хваравіта перажываў усялякія нападкі на яго літаратурнай драбязы. «Што яны хочуць?» — бывала, пытаўся ён пранікнёным шэптам» [10, с. 30]. Разнастайнасць мастацкіх рашэнняў магчымая толькі на аснове свабоднай думкі і свабоднага слова. Аднак даводзіцца прызнаць, што многія з іх адбыліся якраз ва ўмовах творчай несвабоды, як рэалізацыя свядомага намеру аўтараў паставіць вострыя пытанні сучаснасці і асэнсаваць супярэчлівую рэчаіснасць. І. Навуменка прыводзіць словы Ф. Гінтаўта пра тое, што раман З. Бядулі «...мы да канца не разгадалі...» [11, с. 161]. Думаецца, што адным з ключоў да яго разгадкі можа служыць філасофія «перакуленага свету», паводле старога каваля Лейбы: «Мы ўсе цяпер ходзім дагары нагамі...» [4, с. 149]. «Перакулены свет» — адна са стратэгій мастацкага кадзіравання зместу З. Бядулем.

У структуры кодаў мастацкага твора асаблівае месца займае камунікатыўны, які рэалізуецца сродкамі не толькі лексічнага, а і граматычнага, і фанетычнага, і стылістычнага ўзроўняў. Ён фарміруецца на аснове прадметнага кода, які ўключае і ўзровень персанажаў. Кіруючыся думкай Е. Фарыно, заўважым, што ў рамане «Язэп Крушынскі» адзін з персанажаў падкрэслены настолькі моцна, што несумненна служыць сігналам аўтарскіх інтэнцый. Гэта выкладчык рабфака — «чалавек без знакаў прыпынку». Адсутнасць асабовага імені пазбаўляе героя суб'ектыўнасці і ўзводзіць у «статус прынцыпу» [14]. Яго «лекцыі... былі вельмі цягучыя. Здавалася, што ўся лекцыя ў працягу гадзіны цягнецца адным — доўгім-доўгім — сказам.... Пры такой будове гутаркі словы здаваліся часта двухсэнсоўнымі, што выклікала сярод студэнтаў непаразуменні». Вось узор яго маналога: «Я наогул у палітыку не ўмешваюся і толькі тэарэтычна разважаю і паводле маёй тэорыі толькі незалежная Беларусь патрэбна паводле ходу гісторыі і не трэба пераскакваць і абмінаць гістарычных шляхоў як праз гнілыя калоды пабачым што з усяго гэтага выйдзе я толькі спец па беларусазнаўству пры чым тут палітыка» [4, с. 87]. Не меншую значнасць сёння набыў і наступны дыскурс «чала-

века без знакаў прыпынку»: «... на кожным кроку нам перашкаджаюць у працы і вытыкаюць марксісцкі метад... мяне перабівае камсамолец Мікола Ярэмчык мой вучань і крычыць мне «няправільна» ва ўвесь голас і такіх ... многа і яны над намі гаспадарамі, а інтэлігенцыя павінна кіраваць разам з партыяй» [4, с. 89]. Вульгарызатарская крытыка наўрад ці была схільна ідэнтыфікаваць пазіцыю аўтара з пазіцыяй адмоўнага або недарэчнага, як у дадзеным выпадку, персанажа, дзівака. Аднак ён выявіўся прыватным сродкам эфектыўнай рэалізацыі прагнастычнай функцыі літаратуры. Нягледзячы на знешнюю адпаведнасць дыскурсаў героя маўленчай формуле «Пакараць нельга памілаваць», увасобленая ў іх аўтарская пазіцыя адрозніваецца гуманістычнай вызначанасцю. Прынамсі, ход гісторыі ўрэшце прывёў да ўтварэння незалежнай Беларусі. А небяспечнасць абсалютызацыі «марксісцкага метаду» (як крытыка нядаўнім рабфакаўцам Міколам «прац Інстытута за некалькі год...» [4, с. 236]) даказала, у прыватнасці, «культурная рэвалюцыя» ў Кітаі, што пацвердзіла галоўную памылку многіх грамадстваў адносна інтэлектуальнай і творчай эліт.

«У вяршыні самых вялікіх дрэў маланка заўсёды б’е...» — зазначаў У. Караткевіч, сам біты неаднойчы. У тэксце рамана З. Бядулі ёсць фрагмент, які дазваляе звязаць семантыку прозвішча «Крушынскі» з сімволікай дрэва (яе, мы згадвалі, скарыстаў Я. Колас, пішучы пра самога аўтара). Як кажа Язэпу айцец Дзімітры, «у часы вялікай завірухі... дуб крушыцца і ломіцца ў трэскі, а траўка застаецца цалюткая» [3, с. 448]. Гэта вызначала і трагедыю творцаў ва ўсе «сцюжныя» часы. М. Асаргін, расійскі пісьменнік-эмігрант, з горыччу пісаў: «Так хочацца думаць і ўяўляць сябе непарушнай скалой, каржакаватым ствалом, які ні сагнуць, ні зламаць немагчыма. <…> Але душа ўсё ж спустошвалася на кожным этапе, воля ўсё-такі надломвалася, і скрыўляўся жыццёвы шлях… скрыўляўся не толькі знешне, але і ўнутрана» [12, с. 113]. Прозвішча Крушынскі і сапраўды прыналежна чалавеку, які, насуперак сацыяльнаму вопыту нацыі, вымушаны сам крушыць свой свет: рэзаць скаціну, псаваць інвентар, уцякаць з вёскі ці хутара. Сам З. Бядуля пасля выхаду першай часткі рамана мусіў істотна пераасэнсаваць сюжэт і сістэму персанажаў, у выніку чаго зламаўся і «скрушыўся» яго герой — як сацыяльна, так і канцэптуальна.

У працэсе інтэрпрэтацыі важна трымаць пад увагай, што раман створаны пісьменнікам, «блізкім да Бібліі» (Я. Карскі), і гэта не магло не адбіцца на адметнасці яго эстэтычнага кода, што выяўляецца ўжо ва ўніверсальна-прэцэдэнтных вобразах травы і дрэва, але імі, канечне ж, не вычэрпваецца. Традыцыйна загалоўкавы герой не можа быць адмоўным, а ўсякі паўнакроўны вобраз, як правіла, амбівалентны. Адзначым, што насуперак усім неспрыяльным варункам З. Бядуля не змяніў назвы рамана, і гэта робіць яе адным з «ключоў» да кода твора. Асаблівым відам тэкставай імплікацыі з’яўляецца алюзія, якая падключае да перадачы сэнсу іншыя семіятычныя сістэмы. Апусціўшы некаторыя прамежкавыя этапы дэталі пошуку, адзначым: у асобе Язэпа Крушынскага бачыцца алюзія на постаць Іосіфа Арымафейскага. Важна пры гэтым пазбегнуць небяспекі, па словах М. Бярдзяева, «гвалтавання» Евангелля, імкнення «праз шэраг апасродкаваных звёнаў дыскурсіўнай думкі... вывесці з Евангелля тое патрэбнае нам, што там не раскрываецца» [1]. Абапіраючыся на спецыяльныя даследаванні Евангелля [7], мы прыйшлі да наступных высноў. Вядома, што Іосіф быў багатым чалавекам, хутчэй за ўсё землеўладальнікам [Мф. 27:57]. Кажучы, што багатым цяжка ўвайсці ў царства Божае, Хрыстос не адмаўляў асабістай уласнасці, а меў на ўвазе ўнутраныя адносіны да зямных скарбаў, тое, што людзі «служаць ім, а не Богу» [Мф. 6; Лк. 16:13], прымаюць іх у сваё сэрца і «спадзяюцца» [Мк. 10:24]. Толькі апосталам Хрыстос раіў зусім адрачыся ад маёмасці, а іншым запаведваў міласэрнасць і шчодрасць. Боская ласка напоўніла душы многіх багатых людзей, у тым ліку і Іосіфа Арымафейскага, патаемнага паслядоўніка Хрыста, які да апосталаў не належаў.

Канцэпцыя вобраза Язэпа Крушынскага, у самых агульных рысах, павінна была ўвасабляць гуманістычныя каштоўнасці, якія не выключаюць і ўласнасці: НЭП лічыцца перыядам самага вялікага лібералізму ў гісторыі СССР. У рамане адзначана: «Каб жыў Ленін, дык трымаўся б за нэпу. Добрая была і разумная, гэта самая нэпа!» [4, с. 199]. Асоба Крушынскага была як аб'ектыўна запатрабавана эпохай, так і атрымала ў спадчыну ўсе яе «радзімыя плямы». Аднак вобраз Крушынскага і пасля змен у яго канцэпцыі ўвасабляе не толькі заганныя, а і станоўчыя рысы «капіталістычнай» асобы: рост самасвядомасці, развіццё здольнасцей у сувязі з раздзяленнем працы; большую ступень свабоды адносна прадметаў уласнасці.

Іосіф Арымафейскі належаў да тых, хто «чакаў Царства Божага» [Мк. 15:43]. Лёс Язэпа Крушынскага ў час згортвання НЭПа можна назваць своеасаблівай «дрэннай весткай» — «Какангеллем ад Самуіла». («Какангеллем ад Маркса» М. Валошын назваў у вершы «Чвэрць веку» «Маніфест камуністычнай партыі», які абвяшчаў пагібель капіталізму ад рук пралетарыяту.) Менавіта Іосіф пасля смерці Хрыста ўзяў у Пілата яго цела, абвіў плашчаніцай «і паклаў у труну, якую сам высек у скале» [Мф. 27:57]. Дзякуючы Іосіфу Хрыстос, распяты як злачынца, быў годна і з пашанай пахаваны. Аднак гэтым Іосіф мог парушыць пастановы закона аб рытуальнай чысціні і моцна рызыкаваў становішчам у грамадстве. З. Бядулю, наадварот, у «перакуленым» свеце давялося зрабіць свайго героя Язэпа Крушынскага ліхадзеем, каб самому не апынуцца парушальнікам тагачасных ідэалагічных канонаў. Вульгарызацыя і вымусіла пісьменніка імплікаваць сваю гуманістычную пазіцыю праз творчае выкарыстанне Пісання, і яму гэта ўдалося. З «ключом», мэтазгоднасць якога даводзілася вышэй, мы падступіліся і да іншых фрагментаў рамана. Іосіф звычайна малюецца стоячы, часта босым, на прыхіленай да крыжа лесвіцы і падтрымліваючы цела Хрыста. З. Бядуля піша, што ў гарадскім доме дзядзькі больш за ўсё Язэпку вабіла лесвіца, «з паліраванымі, гладкімі, як шкло, парэнчамі», якія давалі «ілюзію замілаванага прастору». Хлапчуку здавалася, што «ўсходы канца-краю не маюць...» [3, с. 303]. Вельмі любіў ён глядзець з лесвічнай пляцоўкі ўніз. Эпізод з аголеным Крушынскім на беразе ракі, дзе ён пакідае сляды босых ног на гладкім, пяшчотным, як падушка, пяску, — адно з «цьмяных» месцаў твора, якое таксама можна разглядаць як алюзію на евангелічны лёс Іосіфа Арымафейскага. Святар параўноўвае стан Язэпа з галізной Адама пад райскім сонцам. Крушынскі «ставіць... уласнымі нагамі сляды побач з воўчымі: «Няхай і чалавечыя тут будуць!», але чамусьці яны падаюцца слядамі «не чалавека, а нейкага незнаёмага драпежнага звера» [3, с. 430—431]. У гэтым бачыцца адзін са знакаў дэфармацыі гуманістычнай канцэпцыі вобраза героя. Нездарма І. Навуменка пісаў, што раман «даўся пісьменніку пакутліва» [11, с. 162]. Вось З. Бядуля апісвае, як Крушынскі любаваўся на жытнія снапы. «Яны ляжалі на іржышчы, нібы заснуўшыя дзеці... гаспадар нагінаўся над імі, пробаваў зерне зубамі, вокам мераў вялікае нязжатае поле... тапіў зрок у сярповым срэбным імгненні і па-дзіцячаму ўсміхаўся». Але тут жа нагадвае пра сябе «перакулены свет», і пісьменнік змяняе пафас апісання: «У гэты час яго шырокія буратыя далоні то рассоўвалі ад сябе пальцы, нібы хацелі загрэбсці ўвесь свет, то сціскаліся ў кулакі, быццам усё жывое за нейкі нявыплачаны доўг схавана ў яго руках» [3, с. 432—433]. Нягледзячы на складанасць творчай гісторыі і супярэчлівасць героя, раман заслугоўвае той жа ацэнкі, якую даў Сакрат кнізе Геракліта Цёмнага: «Тое, што я зразумеў у ёй, выдатна, а пра тое, чаго не зразумеў, я мяркую, што яно гэткае ж выдатнае, але яна патрабуе смелага плыўца, каб пераплысці яе» [6, с. 146].

Лёс Іосіфа заўсёды прываблівае творцаў. Першы мастацкі прэцэдэнт — рыцарскі «Раман пра Грааль» бургундскага паэта Р. дэ Барона, напісаны на мяжы XII—XIII стст. [13]. У празаічнай версіі твор называўся «Іосіф Арымафейскі» або проста «Іосіф». Ёсць падставы думаць, пішацца ў прадмове да апублікаванай часткі твора, што выкладзеная дэ Баронам гісторыя ніадкуль у цэлым выглядзе запазычана не была. Ён, як вазу з чарапкоў, склаў усё вядомае яму, а недастаючае дапоўніў сілай таленту і духоўнага зроку, больш абапіраючыся на апокрыфы і розныя варыянты Царкоўнага Падання, багатага на дэталі, шмат з якіх выкарыстаў у рамане Р. дэ Барон.

Як паказвае праведзенае даследаванне, камунікатыўная сутнасць мастацкага тэксту выяўляецца ў тым, што яго структура, семантыка і прагматыка можа быць падпарадкавана як выяўленню аўтарскай інтэнцыі і і яе эксплікацыі, так і наадварот, яе «зацямненню» [2, с. 377]. На думку Б. Ярхо, «пры адкрыцці найбольш верагодных палажэнняў інтуіцыя, фантазія, эмацыянальны тонус адыгрываюць, побач з інтэлектам, велізарную ролю» [16]. Падводзячы вынік сказанаму, выкажам цвёрдае дапушчэнне, што зыходны суб'ектыўны вопыт інтэрпрэтатара можа выступіць асновай уласна даследавання і служыць інтарэсам самога твора.

## Спіс літаратуры:

1. Бердяев, Н. А. Смысл творчества (Опыт оправдания человека) [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://psylib.ukrweb.net/books/berdn01/index.htm. — Дата доступа: 12.09.2015

2. Болотнова, Н. С. Филологический анализ текста / Н. С. Болотнова. — М.: Флинта: Наука, 2009. — 520 с.

3. Бядуля, З. Язэп Крушынскі: Раман. Кн. 1. / З. Бядуля. Збор твораў. У 4 т. Т. 3. — Дзярж. выд-ва БССР; Рэдакцыя маст. л-ры. — Мінск, 1953. — С. 167—522.

4. Бядуля, З. Язэп Крушынскі: Раман. Кн. 2. / З. Бядуля. Збор твораў. У 5 т. Т. 5. — Мінск: Маст. літ., 1989. — С. 5—249.

5. Гасэт, Х. А. Дзве галоўныя метафары / Х. А.-і-Гасэт [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.rulit.me/books/dve-glavnye-metafory-read-104851-1.html. — Дата доступу: 10.12.2015.

6. Гачев, Г. Д. Содержательность художественных форм. Эпос. Лирика. театр / Г. Д. Гачев. — М.: Изд-во Моск. Ун-та; Изд-во «Флинта», 2008. — 288 с.

7. Иосиф Аримафейский: Православная энциклопедия / Под ред. Патриарха Московского и всея Руси Кирилла [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://www.pravenc.ru/text/673659.html. — Дата доступа: 10.02.2016.

8. Колас, Я. Вершы. Паэмы. Апавяданні. Аповесці. Трылогія «На ростанях» / Якуб Колас; прадм. М. Мушынскага. — Мінск, 2007. — 1168 с.

9. Лотман, Ю. М. Тезисы к проблеме «Искусство в ряду моделирующих систем» / Ю. М. Лотман [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://philologos.narod.ru/lotman/thesis.htm. — Дата доступа: 21.12.2015.

10. Мікуліч, Б. Аповесць для сябе / Б. Мікуліч — Мінск: Маст. літ., 1993. — 238 с.

11. Навуменка, І. Я. Змітрок Бядуля / І. Я. Навуменка. — 2-е выд. — Мінск: Бел. навука, 2004. — 227 с.

12. Осоргин, М. А. Времена: Автобиографическое повествование. Романы. / М. А. Осоргин. — М.: Современник, 1989. — 622 с.

13. Робер де Борон. Роман о Граале [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://coollib.com/b/196565/read. — Дата доступа: 08. 09.2015.

14. Фарино, Ежи. Введение в литературоведение: Учебное пособие / Е. Фарино [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.imli.ru/upload/elibr/teoriya/Farino_E._Vvedenie_v_literaturovedenie._2004.pdf — Дата доступа: 14. 11. 2015.

15. Хализев, В. Е., Холиков, А. А., Никандрова, О. В. Русское академическое литературоведение: история и методология (1900—1960-е годы): учеб. пособие. — М., СПб.: Нестор-История, 2015. — 176 с.

16. Ярхо, Б. И. Методология точного литературоведения / Б. И. Ярхо [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://thelib.ru/books/b_i_yarho/metodologiya_tochnogo_literaturovedeniya_izbrannye_trudy_po_teorii_literatury.html. — Дата доступа: 03.01.2016.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 15 сакавіка 2016 года.

## Рэзюмэ

**Алена БЕЛАЯ**

### «Цемната Геракліта»: раман «Язэп Крушынскі» як аб'ект аналітычных інтэрпрэтацый

Творчасць Змітрака Бядулі — адметная старонка гісторыі беларускай літаратуры. Раман «Язэп Крушынскі» дае багатую глебу для аналітычных інтэрпрэтацый, якія сведчыць пра «ценявую» прысутнасць у ім схаваных сэнсаў. Імплікацыя абумоўлена сімвалічнасцю, метафарычнасцю, афарыстычнасцю аўтарскага маўлення. Важную ролю адыгрываюць таксама інтэртэкстуальныя элементы: алюзіі, прэцэдэнтныя вобразы, — якія ў сукупнасці рэалізуюць творчыя і грамадзянскія намеры аўтара, яго гуманістычныя каштоўнасці, служаць прагнастычнай функцыі мастацтва.

**Ключавыя словы:** эстэтычны код, аналітычная інтэрпрэтацыя, аўтарская інтэнцыя, алюзія, імплікацыя, прэцэдэнтны вобраз.

## Summary

**Alena BELAYA**

### «Heraclitus's Darkness»: the Novel «Yazep Krushinsky» as the Object of analytical Interpretation

Z. Byadulya's literary heritage is an extraordinary fact in the history of Belarusian literary. His novel «Yazep Krushinsky» provides fertile ground for the analytical interpretation which indicates the «shadow» presence of some hidden meanings in it. The implication is conditioned by symbolism, metaphors, aphorisms in author's speech. An important role is also played by such intertextual elements as allusions, precedent images that collectively expose creative and civic intention of the author, reveal his humanistic values and implement the predictive function of art.

**Keywords**: aesthetic code, analytical interpretation, author's intention, allusion, implication, precedent image.



Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# МАСТАЦКАЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ МІНУЛАГА Ў ПРОЗЕ ТЭАДОРА ШТОРМА І ЯНА БАРШЧЭЎСКАГА: ПАРАЎНАЛЬНА-ТЫПАЛАГІЧНЫ АСПЕКТ

Гістарычная тэма ў творах нямецкіх і беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя вызначаецца адлюстраваннем сэнсава блізкай праблематыкі, тыпалагічным падабенствам аўтарскай інтэрпрэтацыі мінулага. Сацыякультурныя абставіны ў нямецкім прыгожым пісьменстве склаліся такім чынам, што цікавасць да гістарычнага жанру, выкліканая папулярнымі творамі Вальтара Скота, актывізуецца ў 1820—30-я гады. Другая палова XIX стагоддзя прадстаўлена ўжо значнай колькасцю творчых персаналій, якія распрацоўвалі гістарычны жанр і стваралі разнапланавыя ў эстэтычных адносінах мастацкія тэксты: Й. В. фон Шэфель, В. Раабе, Р. Хамерлінг, Г. Борн, Э. Вернер, Э. Экштэйн.

Па-свойму спрыяльны гэты перыяд і для беларускай літаратуры: у XIX стагоддзі актуалізуецца грамадска-культурнае жыццё, адбываецца зварот да фальклорнай спадчыны, яе прадуктыўная мастацкая распрацоўка, паскоранае засваенне традыцый іншых літаратур. Як адзначыў В. Каваленка, паскоранасць «суправаджаецца сціжэннем і нават выпадзеннем асобных перыядаў эстэтычнай эвалюцыі, змяшэннем метадаў і стыляў, іх недастатковай выяўленасцю» [1, с. 54]. Паводле канцэпцыі даследчыка, з першай паловы XIX стагоддзя паскоранасць прадвызначае ідэйна-мастацкае развіццё айчыннай літаратуры. Заканамерна, што ў такіх умовах пачынае эстэтычна распрацоўвацца і тэма гістарычнага мінулага. Звяртаюцца да мастацкай інтэрпрэтацыі беларускага гістарычнага мінулага А. Міцкевіч, Я. Чачот, Г. Жавускі, Ю. Крашэўскі, І. Ходзька, В. Савіч-Заблоцкі. Думаецца, паказальны прыклад станаўлення новай літаратуры і, у прыватнасці, гістарычнай прозы — творчасць Яна Баршчэўскага. У нямецкай паэзіі і прозе гэтага перыяду прыкметнай асобай быў Тэадор Шторм — майстра навелы, яркі прыхільнік так званага краёвага патрыятызму.

Нямецкага і беларускага аўтараў збліжае рамантычнае бачанне мінулага — ідэалізаванага патрыярхальнага свету, супрацьпастаўленага аўтарскай сучаснасці, непрыманне капіталістычных адносін і маралі, услаўленне малой радзімы, якое, аднак, узвышаецца да выяўлення пачуцця нацыянальнага патрыятызму.

Для рамантычнага мастацтва было прыярытэтным асэнсаванне гістарычнага мінулага. Рамантызм як літаратурны напрамак узнік у замежнай літаратуры ў канцы XVIII стагоддзя, у Расіі — у 10-х — першай палове 20-х гадоў XIX стагоддзя, а на Беларусі прынцыпы рамантызму сцвярджалі А. Міцкевіч, В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля. Прадстаўнікі рамантызму шукалі ў мінулым духоўнае падабенства са сваёй уласнай эпохай, са сваімі сучаснікамі. У выніку аўтарская ацэнка станавілася суб'ектыўнай, канцэптуальна актуалізаваліся пэўныя перыяды гісторыі, блізкія «па духу» сучаснасці. Мастацтва для рамантыкаў было адлюстраваннем суб'ектыўнага свету творцы, які часта ідэалізуе мінулае, імкнецца прадбачыць будучае. Менавіта з трактоўкі мінулага як гісторыі некалькіх блізкіх пакаленняў пачыналася ўсведамленне гістарычнага працэсу. Такім шляхам рамантыкі здзяйснялі місію пазнання законаў развіцця ад старога да новага часу, ад мінулага да сучаснасці і будучыні. Пры гэтым блізкае сучаснасці мінулае насычалася імі нацыянальным зместам, гісторыя асэнсоўвалася праз духоўнае развіццё героя, які для выяўлення запатрабаваных рэчаіснасцю аўта-

ра маральна-этычных прыярытэтаў асучасніваўся пісьменнікам. Гістарычныя звесткі і гістарычная храналогія нярэдка выкарыстоўваліся дзеля літаратурнай містыфікацыі. Персанаж як спараджэнне аўтарскай фантазіі надзяляўся рысамі асобы выбранага пісьменнікам часу і ў выніку ствараўся варыянт нацыянальнага гістарычнага міфа. Рамантызм прапагандаваў крэатарскае стаўленне да ўвасаблення гістарычных рэалій, ён упершыню ў рамках класічнага мастацтва з такой завостранасцю аб'явіў права мастака на адначасовае ўвасабленне разнастайных прасторава-часавых модусаў у адным творы.

У чатырнаццаці раздзелах асноўнай сюжэтнай лініі «Шляхціца Завальні...» Ян Баршчэўскі найперш звяртаў увагу на гісторыю выпадкаў і здарэнняў з жыцця паўночнага краю — Полацкага, Невельскага, Себежскага паветаў, — сваёй малой радзімы. Такія творы Тэадора Шторма, як навелы «Aquis submersus» (з лацінскай «Паглынанне водамі») (1876), «Да летапісу роду Грызхус» (1884), «Вершнік на белым кані» (1888), апавядаюць пра адносна блізкае мінулае краю, важнае найперш для яго насельнікаў. Праз паданні і легенды, дзённікавыя запісы і нататкі, успаміны, што перадаваліся з пакалення ў пакаленне, ён аднаўляе каларыт XVII—XVIII стагоддзяў, асэнсоўвае тагачасныя норавы і звычаі, якія прадвызначылі лёс герояў твораў. Важныя гістарычныя падзеі згадваюцца Штормам эпізадычна. Напрыклад, мастацкае дзеянне твора «Да летапісу роду Грызхус» адбываецца на фоне шведска-польскай вайны (1655—1660), у якую былі ўцягнуты і іншыя еўрапейскія краіны. Тэатр ваенных дзеянняў закрануў і Шлезвіг-Гальшцінію — родны край пісьменніка. Са значных ваенных падзей пачатку XVIII стагоддзя ён звяртае ўвагу на бітву пры Клішове, бітву пад Палтавай і на падзеі Паўночнай вайны (1700—1721), у прыватнасці, на акупацыю дацкімі войскамі Шлезвіг-Гальшцініі. Галоўны герой — Гінрых Грызхус — удзельнічаў у ваенных паходах Карла XII, аднак Шторма цікавіць менавіта яго прыватнае жыццё і гісторыя яго роду. Увага акцэнтуецца на тым, што Гінрых пакахаў і ажаніўся з дзяўчынай недваранскага саслоўя, а гэта прадвызначала сямейную трагедыю ўладальнікаў маярата: блізкія Гінрыха не жадаюць прызнаваць такі шлюб. Па віне малодшага Грызхус памірае жонка Гінрыха, і ён, помсцячы, забівае роднага брата, а пасля выпраўляецца ў шматгадовае выгнанне. Калі ж вяртаецца, то ўжо бачыць падлеткам свайго ўнука.

Тэадор Шторм па-мастацку інтэрпрэтуе прыватнае мінулае і лакальную гісторыю, раскрытыя праз любоўную інтрыгу, праз асэнсаванне сацыяльных узаемастасункаў у маленькім грамадстве. Шырока выкарыстоўваецца вымысел пры ўвасабленні гістарычных персанажаў і кампаноўцы драматычных па характары сюжэтаў. Пры гэтым дасягаецца пераканаўчы, высокаэстэтычны паказ. Так, пра навелу «Aquis submersus» сам аўтар зазначаў, што толькі некаторыя факты запазычаны з летапісаў яго горада, кільскіх і гамбургскіх крыніц. Штуршком для напісання твора «Да летапісу роду Грызхус» сталі некалькі радкоў з малавядомай італьянскай навелы. Як сведчыць эпісталярная спадчына, Шторм сам казаў пра гэты твор як пра плён чыстага вымыслу, аднак вядома, што творца перад напісаннем «летапісу» прачытаў шмат гістарычных прац і хронік. Фальклорныя крыніцы паслужылі асновай для аднаго з лепшых твораў Шторма — «Вершнік на белым кані». Пісьменнік добра ведаў як розныя варыянты літаратурных апрацовак, так і само народнае паданне пра вершніка-прывіда, што з'яўляецца з мора на белым кані і выступае прадвеснікам хуткага няшчасця. Як вынікае з аўтарскага раскрыцця падзей, з вершнікам у народным уяўленні асацыюецца галоўны герой твора — наглядчык дамбы Хаўк Хайен. Таленавіты сын селяніна-бедняка, ён не толькі дамогся высокай пасады наглядчыка дамбы, але і паспяхова здзейсніў смелы праект пабудовы новай, якая, паводле апавядальніка, стаіць ужо больш за стагоддзе. Хайен, яго жонка і дачка трагічна гінуць у навальнічную ноч, калі мора прабівае старую дамбу. На белым кані ў ноч сваёй смерці паехаў Хаўк, і ў працэсе апавядання гэты вобраз пачынае атаясамлівацца з папярэджаннем пра небяспеку. Пасля смерці Хаўка Хайена яго аднавяскоўцам стаў з'яўляцца вершнік на белым кані. Звычайна яго бачылі менавіта тады, калі мора пагражала людзям.

І Шторм, і Баршчэўскі пазбягалі непасрэднага выкарыстання або ўвядзення ў мастацкі тэкст дакладных гістарычных крыніц, але абодва звярталіся да стылізацыі пад архаізаванае маўленне апавядальніка. Галоўны апавядальнік, якім у Баршчэўскага выступае шчыры хрысціянін, у Шторма — гэта можа быць творчая асоба (мастак), святар, — паводле легенд і паданняў узнаўляе мінулае, каб усвядоміць яго маральна-этычную вартасць. Апавядальнік у Шторма — чалавек, які з дзяцінства цікавіўся мясцовымі гісторыямі, быў чуйным да прыгажосці роднага краю. Для гэтага героя-апавядальніка настае час маральнай сталасці — даведацца праўду, якая хаваецца за легендай ці паданнем. Як гаворыць ён ад імя аўтара ў навеле «Да летапісу роду Грызхус», «в нашем краю нивы не перемежаются лесами, как в иных местах; кое-где заросли кустарника нарушают однообразие полей, ибо к югу тянутся лишь марши, необозримые луга, изрезанные каналами. Но к востоку, у северо-фрисландского побережья, поднимается совершенно безлесное песчаное плоскогорье; нет тут ни леса, ни деревца, лишь на высоких валах, разделяющих отдельные возделанные полосы, пробиваются редкие кусты терновника или боярышника. И все-таки мое мальчишеское воображение находило в этом ландшафте своеобразную прелесть: дух тайн, витавший над степью, будоражил моё любопытство» [2, с. 319]. Далейшы аповед пра непагодлівы кастрычніцкі дзень, які быццам напоўнены духам паўночных легенд, стылёва збліжаюць Шторма і Баршчэўскага. Апошні паэтызуе някідкую прыгажосць свайго паўночнага краю, які Адам Кіркор трапна называў краем, дзе ледзь не на кожным кроку сустракаюцца сляды мінулага ў помніках, сказаннях, песнях.

Тэадор Шторм паказвае, што ў пошуках праўды яго галоўны герой сустракаецца з тымі, хто памятае сведкаў даўніх падзей, знаходзіць старыя дзённікавыя запісы, зробленыя непасрэднымі іх удзельнікамі. Калі мастацкае дзеянне дасягае кульмінацыі, то рукапіс нечакана абрываецца, і толькі праз шмат гадоў апавядальніку ўдаецца знайсці працяг, які раскрывае найчасцей драматычны фінал раней пададзенай гісторыі. Напружанасць дзеяння, трагічнае гучанне гісторыі маленькага чалавека сведчаць пра тыпалагічнае падабенства твораў нямецкага і беларускага пісьменнікаў. Баршчэўскі працягваў традыцыю гісторыкаў-летапісцаў, якія надавалі народнай творчасці сілу доказу праўдзівага паказу мінулага. Помнікі фальклору аўтарам надзяляюцца такой жа высокай аўтарытэтнасцю, як і думка носьбіта народнай мудрасці пана Завальні.

Увасабленне мінулага ў XIX стагоддзі вылучыла на першае месца пытанне пра пераадоленне «часавага бар'ера», які размяжоўвае мінулае (час дзеяння) і сучаснае (час апавядання). Кнігу «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» варта разглядаць як працяг ранейшых напрацовак мастацкай рэцэпцыі гістарычных матываў і вобразаў у спадчыне філаматаў (напрыклад, балады «Наваградскі замак», «Радзівіл, альбо Заснаванне Вільні» Яна Чачота). І разам з тым гэтая кніга — прыклад перанясення моманту апавядання ў мінулае, пераадолення «часавага бар'ера». Далёка невыпадкова ў лісце да Юліі Корсак ад 19 снежня 1838 года пісьменнік заўважыў: «Чалавеку, што мінулае забывае, а пра будучае не думае, краіна пачуццяў і думак — чужая» [3, с. 412]. У кнізе Баршчэўскага ўвасоблена праблема пераемнасці розных часоў. Калі ён падае кнігу навел «Шляхціц Завальня…» у спецыфічнай тэмпаральнай «рамцы», то Шторм для сваіх навел выкарыстоўвае падвойныя ці патройныя тэмпаральныя «рамкі», якія дазваляюць супаставіць мінулае і аўтарскую сучаснасць. Героем, што нязменна выступае носьбітам аўтарскай сімпатыі, з'яўляецца добрасумленны, высокамаральны чалавек, што змагаецца з несправядлівасцю, жорсткасцю, абыякавасцю.

Тэадор Шторм больш паслядоўна, у адрозненне ад Баршчэўскага, майстра паэтычна-метафарычнага адлюстравання акаляючага свету, перадае гістарычны каларыт тых часоў, якія сталі прадметам увасаблення. У лірычнай сюжэтнай лініі галоўны герой беларускага пісьменніка імкнецца асэнсаваць лінеарны гістарычны рух, дзеля чаго згадвае і ўключае ў аўтарскую канцэпцыю сучаснасці і мінулага рэальныя гістарычныя падзеі, у прыватнасці, войны, якія пракаціліся праз Беларусь. У лірычным творы «Думкі самотніка» згадваецца вайна Пятра І са шведамі.

Аснову «аповесці даўніх часоў» утвараюць гістарычныя звесткі: калі на беразе Балтыйскага мора сышліся дружыны шведаў з велізарным войскам паўночнага Цэзара, дрыжала Нарва і іншыя фартэцыі ад зброі пераможцаў. Вайна ўвасабляецца ў сімволіка-алегарычным плане: «Зарава страшных пажараў, плывучы ў аблоках ад марскіх берагоў, няраз апоўначы залівала крывёю неба над усёй Беларуссю. Люд, дрыжучы, паглядаў угору, дзе ў хмарах, што дыміліся крывёю, змагаліся палкі конных і пешых волатаў, і няраз гэты прывід трываў на небе да ўзыходу сонца» [3, с. 200]. Падчас тае вайны, паводле Баршчэўскага, валадарылі па ўсёй Беларусі голад і чума. Зямля ў гэты год, названым годам Лебяды, была без снегу, гінула на палях рунь, ад моцных маразоў трэскаўся дол. Прыйшла вясна, ажылі дрэвы і лугі, але палі былі пакрыты лебядой. Гэта сумная рэчаіснасць дапаўнялася страшнымі цудамі: апоўначы сонных абуджаў моцны крык дзіцяці, але калі хто выходзіў з хаты, то нікога не бачыў і плачу не чуў, толькі брахалі ля суседніх дамоў сабакі. У навелу «Да летапісу роду Грызхус» Шторм увёў канкрэтна-гістарычныя звесткі: «…Тяжёлая година настала для нашей страны; об ужасах тех дней, дней так называемой «польской войны», ещё долгие годы вспоминали и за кружкой пива, и за прялкой. Наш герцог, правда, не вел войны, он ратовал за мир; но дочь его была замужем за одним из участников войны, шведским полководцем, а недоверчивый датский король был сорегентом и не щадил ни страны, ни герцога, сына сестры своей. Но наихудшим злом были не разорительные контрибуции, а шедшие на помощь королю чужеземные войска, которые наводнили всю страну» [2, с. 331—332]. Створаны цэласны малюнак трывожнага жыцця раней мірнага краю, праз які пастаянна праходзяць чужаземныя войскі.

У лірычнай сюжэтнай лініі кнігі «Шляхціц Завальня...» даецца мастацкая рэканструкцыя асобных момантаў гістарычна-легендарнага мінулага. У «Нарысе Паўночнае Беларусі» Баршчэўскі звярнуўся да «аднаго простанароднага падання» пра волата Княжа, які разрабаваў горад, што стаяў калісьці на паўднёвым баку возера Нешчарда. Там цяпер гара, якую з трох бакоў амывае вада, а на той паўвыспе і быў некалі горад, што пацвярджаецца канкрэтна-гістарычнымі звесткамі: «Там часта знаходзяць у пяску сцёртыя вякамі срэбныя манеты, шкляныя аздобы, якія насілі бабулі нашых бабуляў, іржавыя рэшткі разнастайнае старасвецкае зброі» [3, с. 84]. Легендарная гісторыя апавядае, што, прываблены да берагоў Нешчарды надзеяй на багаты рабунак, Княжа адужаў слабую абарону, пазабіваў жыхароў. Далейшы аповед пра падзеі насычаны згадкамі пра цудадзейныя рэчы. Затопленыя на дне возера званы штодзень падавалі голас на захадзе і ўсходзе сонца, ад якога ўсё жывое хавалася ў далёкіх пушчах. Гэты звон — папярэджанне пра чуму, якая, падобная да чорнага шара, лятала апоўначы па спустошаным горадзе, і, дзе яна дакранулася да сцяны дома, адтуль ніхто не выходзіў жывы. Так вымерла ўся дружына Княжа. Ён сам, пакінуўшы ўсе багацці, з некалькамі сябрамі ўцёк з горада, але за возерам і яго напаткала смерць. Волат быў пахаваны ў вялікім кургане, які, апавядае Баршчэўскі, ёсць і цяпер і называецца Магілай Княжа. Міфалагічныя павер'і насычаюць і мастацкі тэкст навелы «Да летапісу роду Грызхус». Гінрых Грызхус і яго ўнук, адзіны спадчыннік роду, трагічна гінуць пры загадкавых абставінах. Пасля гэтага пайшлі чуткі, што вышэйшыя сілы адплацілі Гінрыху за забойства роднага брата: «После погребения опять всплыли толки о «чёрных днях»: призрак убитого всё-таки настиг юнкера Гинриха, свернул ему шею и уничтожил с ним весь его род. Я же повторяю и сегодня то, что твердил всегда: все это nugae и несовместимо с бесконечной благостью господней» [2, с. 424]. Курган, які называецца Магілай Княжа, маярат Грызхус, ад якога засталіся толькі руіны, — сведчанні пра даўніну, важную для пісьменніцкай сучаснасці.

Праз сваіх персанажаў і Шторм, і Баршчэўскі ў рэчышчы хрысціянскага ўсведамлення часу імкнуліся выявіць пачатак і канец агульнабыццёвых працэсаў, раскрыць іх у гістарычным кантэксце, паказаць сувязь і пераемнасць часоў. Абодвума аўтарамі падкрэсліваецца, што найбольш важныя для адлюстравання пераемнасці мінулага і сучаснага не матэрыяльныя гістарычныя памяткі, а

менавіта духоўныя. Гістарычнае мінулае абодвума творцамі асэнсоўваецца ў кантэксце фальклорна-міфалагічнай спадчыны роднага краю, інтэрпрэтуецца як крыніца маральна-этычных каштоўнасцей. Пры гэтым нямецкі аўтар прасочвае канкрэтна-гістарычныя дэталі мінулага, а беларускі перадае гістарычны каларыт у сімволіка-алегарычнай форме.

## Спіс літаратуры:

1. Каваленка, В. А. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць: развіццё беларускай літаратуры XIX—XX стагоддзяў / В. А. Каваленка; рэд. П. К. Дзюбайла. — Мінск: Навука і тэхніка, 1975. — 335 с.

2. Шторм, Теодор. Новеллы: в 2 т. / Т. Шторм; пер. с нем. — М.: Худож. лит. — 1965. — Т. 2. — 567 с.

3. Баршчэўскі, Я. Выбраныя творы / Я. Баршчэўскі ; уклад., прадм. і камент. М. Хаўстовіча. — Мінск : Беларус. кнігазбор, 1998. — 480 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 14 студзеня 2016 года.

## Рэзюмэ

**Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА**

### Мастацкая інтэрпрэтацыя мінулага ў прозе Тэадора Шторма і Яна Баршчэўскага: параўнальна-тыпалагічны аспект

У артыкуле разглядаюцца творы «Aquis submersus», «Да летапісу роду Грызхус», «Вершнік на белым кані» Тэадора Шторма і кніга «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Яна Баршчэўскага ў параўнальна-тыпалагічным аспекце. Адзначаецца блізкасць праблематыкі ў творах нямецкага і беларускага пісьменнікаў, кампазіцыйныя і вобразныя тыпалагічныя сыходжанні. Выяўляецца спецыфіка мастацкай інтэрпрэтацыі мінулага Тэадорам Штормам і Янам Баршчэўскім у кантэксце фальклорна-міфалагічнай спадчыны.

**Ключавыя словы:** Тэадор Шторм, Ян Баршчэўскі, міф, тыпалогія, літаратура.

## Summary

**Hanna NAVASELTSAVA**

### Literary interpretation of the past in the prose by Theodor Storm and Jan Barchevsky: comparative-typological aspect

The article represents the work «Aquis submersus», «To Gryzhus'chronicles», «The rider on the white horse» written by Theodor Storm and the book «Shlyahtich Zavalny, or Belarus in fiction stories» by Jan Barchevsky in comparative typological aspect. The intimacy of problems in the works of German and Belarusian writers, is marked as wellas structural and typological similarities. The specificity of literary interpretations of the past in the context of folklore and mythological heritage of Theodor Storm and Jan Barchevsky has been revealed.

**Key words:** Theodor Storm, Jan Barchevsky, the myth, the typology and literature.

# ЛІТАРАТУРА І ЖЫЦЦЁ Ў ПЕРАПІСЦЫ ІВАНА ШАМЯКІНА

***Чытачы часопіса «Полымя» ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца з перапіскай І. Шамякіна з пісьменнікамі, перакладчыкамі, грамадскімі дзеячамі. Чарговы раз прапануем падборку лістоў як самога Івана Пятровіча, так і пісьмы да яго. У гэтай публікацыі ўпершыню друкуюцца некаторыя водгукі чытачоў аб раманах «Глыбокая плынь», «Крыніцы», «У добры час». Таксама ўпершыню публікуюцца ўрыўкі з дзённікаў за 1945—1946 гг. На жаль, поўны тэкст дзённікаў гэтых гадоў не выяўлены. Магчыма, яны згублены. Але мяркуем, што і прапанаваныя ўрыўкі таксама дадуць пэўнае ўяўленне пра першыя пасляваенныя гады.***

## 1. У. Дубоўка — І. Шамякіну

*15 чэрвеня 1970, Масква*

Дарагі Іван Пятровіч!

Адказваю на ваш ліст ад 11/06 70 г. Перадусім фактычная даведка — я нарадзіўся 15 ліпеня. Вы згадваеце 2 ліпеня, мабыць таму, так будзе па ст. стылі. Але гэта — няправільна.

Наконт юбілею. Вам добра вядома, «што, чаму і як». Апрача ўсяго іншага, апошнім часам я хварэю (сэрца). Хварэе і мая Марыя Пятроўна. Ехаць у далёкую дарогу мы, безумоўна, не здолеем. Калі здолею, дык у канцы чэрвеня выеду з Масквы для лячэння.

Што датычыцца Вашага (з Міколам Гаўрылавічам) запытання — «якім чынам адзначыць» маё 70-годдзе — дык я нічога сказаць не магу. Думаецца, што Вы самі прыдумаеце лепш, чымсьці мог бы параіць я.

Самае сардэчнае прывітанне Вам, Вашай сям'і ад М. П. і ад мяне.

Ваш Уладзімір Дубоўка

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам Уладзімірам Мікалаевічам Дубоўкам (1900—1976) наконт святкавання яго 70-годдзя.*

*Марыя Пятроўна — М. П. Дубоўка, жонка У. Дубоўкі.*

*...выеду з Масквы... — У. Дубоўка ў 1930 г. быў рэпрэсіраваны. Пасля рэабілітацыі (1957 г.) жыў у Маскве.*

*...(з Міколам Гаўрылавічам)... — з Міколам Гаўрылавічам Ткачовым (1918—1979), беларускім пісьменнікам, які ў 1959—1972 гг. працаваў сакратаром праўлення СП БССР.*

*М. П. — М. П. Дубоўка.*

## 2. З рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» — І. Шамякіну

*21 студзеня 1955, Мінск*

Паважаны Іван Пятровіч!

У рэдакцыю нашай газеты паступае вельмі многа пісем ад юнакоў і дзяўчат, якія просяць рэдакцыю расказаць аб лёсе герояў вашай кнігі «Глыбокая плынь». Іх цікавіць, ці існуюць у сапраўднасці Насця Буйская, сям'я Маеўскіх, Ленка

Лубян і іншыя, што яны робяць, дзе жывуць і г.д. Супрацоўнікі рэдакцыі пасылалі адказы на гэтыя пісьмы, дзе на свой погляд растлумачвалі падобныя пытанні. Але, як потым пераканаліся яны, нашы чытачы не заставаліся задаволенымі такімі адказамі.

Паважаны Іван Пятровіч! Просім Вас на старонках нашай газеты даць адказ нашым чытачам на ўпамянёныя пытанні. Просім коратка расказаць аб тым, як пісалася кніга «Глыбокая плынь», аб лёсе герояў кнігі.

Рэдакцыя звяртаецца да Вас ад імя чытачоў і спадзяецца, што Вы не адмовіце ў гэтай просьбе.

З павагай

Рэдактар газеты /Н. Дастанка/

Загадчык аддзела пісем /Л. Палякоў/

*Ліст дасланы І. Шамякіну з рэдакцыі газ. «Чырвоная змена». На адрас рэдакцый газет, часопісаў і выдавецтваў, на адрас самога пісьменніка прыходзіла шмат пісем ад чытачоў з розных абласцей Савецкага Саюза з водгукамі на раман «Глыбокая плынь». Некаторым адрасатам пісьменнік адказваў сам, часам свае адказы змяшчаў у газетах і часопісах. У гэтай публікацыі трохі ніжэй мы падаем некалькі лістоў ад чытачоў, напісаных па-беларуску.*

## 3. К. Буйло — Максіму Танку, І. Шамякіну

*Пасля 14 студзеня 1968, Масква*

Дарагія мае Яўген Іванавіч і Іван Пятровіч!

Атрымала Вашу цёплую тэлеграму і глыбока кранула яна маю душу. Дзякуй Вам сардэчна за шчырае павіншаванне і добрыя пажаданні. У гэтыя дні я атрымала мноства тэлеграм, пісьмаў, адкрытак, быццам цёплая хваля любві, дабраты, цеплыні і сардэчнасці ахінула мяне. Быццам Беларусь, як добрая родная маці агарнула маю галаву пяшчотнымі рукамі і прытуліла да сваіх грудзей. Усхвалявала глыбока і ўзнагарода Вярхоўнага Савета. Нізка схіляю галаву перад Партыяй, Урадам і народам, які так высока ацаніў маю скромную працу. Дзякуй усім Вам, родныя, дзякуй Партыі і Правіцельству, дзякуй народу беларускаму — які так прыхільна прывітаў мяне ў юбілейны мой дзень.

*Ліст напісаны беларускай пісьменніцай Канстанцыяй Буйло (сапр. Канстанцыя Антонаўна Калечыц; 1899—1986).*

*Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995) — народны паэт БССР (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1948). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966). Акадэмік АН БССР (1972).*

*Атрымала Вашу цёплую тэлеграму... — у сувязі з 75-годдзем, якое адзначалася 14 студзеня 1968 г.*

*Быццам Беларусь, як добрая родная маці, агарнула маю галаву пяшчотнымі рукамі і прытуліла да сваіх грудзей. — У 1923 г. К. Буйло пераехала да мужа ў Маскву і жыла там да самай смерці.*

*...так высока ацаніў маю працу. — У 1968 г. К. Буйло было прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры БССР.*

## 4. І. Мележ, І. Шамякін — І. Пташнікаву

*22 студзеня 1970, Мінск*

Паважаны таварыш Пташнікаў І. М.

Прэзідыум Саюза пісьменнікаў і «Литературная газета» падрыхтавалі правядзенне рэгіянальнай канферэнцыі-сімпозіума па тэме «Савецкі рабочы і яго вобраз у нашай многанацыянальнай літаратуры».

У абмеркаванні гэтай надзвычай актуальнай тэмы напярэдадні Ленінскага юбілею прымуць удзел пісьменнікі, сацыёлагі, філосафы, партыйныя работнікі, кіраўнікі заводаў, будоўляў з Масквы, Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі.

Каферэнцыя-сімпозіум пачне сваю работу ў памяшканні Саюза пісьменнікаў Беларусі (Мінск, вул. Энгельса, 9) 11-лютага г.г. у 12 гадзін дня.

Просім Вас прыняць актыўны ўдзел у рабоце канферэнцыі — выказаць свае думкі аб вобліку сучаснага рабочага і аб праблемах адлюстравання жыцця рабочага класа ў літаратуры.

Сакратары Праўлення
СП БССР /І. Шамякін/.
/І. Мележ/.

*Ліст адрасаваны беларускаму пісьменніку, заслужанаму работніку культуры БССР, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР (1978) Івану Мікалаевічу Пташнікаву (нар. 1932).*

*Мележ Іван Паўлавіч (1921—1976) — народны пісьменнік БССР (1972). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976; пасмяротна).*

*«Литературная газета» — савецкае і расійскае штотыднёвае літаратурнае і грамадска-палітычнае выданне. Лагатып газеты — профілі А. С. Пушкіна і Максіма Горкага. Выдаецца па ініцыятыве Максіма Горкага з 1929 г. у Маскве.*

*...напярэдадні Ленінскага юбілею... — напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння дзеяча расійскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху, заснавальніка Савецкай дзяржавы У. І. Леніна (сапр. Ульянаў; 1870—1924), якое адзначалася 22 красавіка 1970 г.*

## 5. І. Шамякін — І. Пташнікаву

Паважаны Іван Мікалаевіч!

У жніўні 1977 года памёр беларускі пісьменнік Уладзімір Карпаў. Жыццё Ул. Карпава, яго работа педагога, актыўны ўдзел у партызанскім руху, творчасць раманіста, якая прынесла яму ўсесаюзную вядомасць, — з'яўляецца прыкладам вернага служэння партыі, народу.

Вы — адзін з тых, хто ведаў Уладзіміра Карпава, дзяліў з ім і радасці і нягоды. Звяртаемся да Вас з просьбай — напішыце пра яго, што Вы ведаеце, што падказвае Ваша памяць і сэрца. Можа, у Вас ёсць пісьмы Уладзіміра Карпава, фота, іншыя дакументы? Вашы ўспаміны і ўспаміны таварышаў складуць кнігу пра Уладзіміра Барысавіча Карпава.

Матэрыялы дасылайце на адрас: г. Мінск, Ленінскі праспект, 28, кв. 40. Марыі Міхайлаўне Карпавай.

З павагай
Першы сакратар Праўлення
СП БССР /І. Шамякін/.

*Ліст адрасаваны І. М. Пташнікаву. Гл. камент. да ліста № 4.*

*У жніўні 1977 года памёр беларускі пісьменнік Уладзімір Карпаў. — Памёр 6 жніўня 1977 г. Карпаў Уладзімір Барысавіч (1912—1977) — беларускі празаік, крытык.*

*...яго работа педагога, актыўны ўдзел у партызанскім руху, творчасць раманіста... — працаваць настаўнікам У. Карпаў пачаў да Вялікай Айчыннай вайны на Брагіншчыне, у Сіроцінскім раёне, пасля вайны выкладаў мову і літаратуру ў сярэдняй школе № 42 г. Мінска; у гады Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у падпольным і партызанскім руху, быў намеснікам камандзіра спецгрупы Мінскага абкама КПБ, старшым разведчыкам глыбокага тылу; вядомы як аўтар раманаў «За годам год» (1957), «Вясеннія ліўні» (1961), «Нямігі крывавыя берагі» (1962), «Сотая маладосць» (1971).*

*Вашы ўспаміны і ўспаміны таварышаў складуць кнігу пра Уладзіміра Барысавіча Карпава. — Кніга «Успаміны пра Уладзіміра Карпава» выйшла ў 1991 г.*

*...Ленінскі праспект... — назва праспекта Незалежнасці ў 1961—1991 гг.*

*...Марыі Міхайлаўне Карпавай. — Карпава Марыя Міхайлаўна (1914—2008), жонка У. Б. Карпава.*

## 6. Х. Жычка — І. Шамякіну

*1975, Мінск*

Старшыні Вярхоўнага Савета
Беларускай ССР
тав. Шамякіну І. П.
Рэдактар газ. «Л. і Маст.»
Жычка Х. Д.

Паважаны Іван Пятровіч!

Два гады таму назад першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР т. Шамякін І. П. звярнуўся да намесніка старшыні выканкама Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных тав. Паўлюкевіча У. Л. з просьбай аб устаноўцы кватэрнага тэлефона рэдактару газеты «Літаратура і мастацтва» па адрасу: в. Янкі Маўра, 56, кв. 53, г. зн. мне. Тав. Паўлюкевіч пераадрасаваў просьбу начальніку вузла сувязі Мінскага раёна т. Базану, які... адмовіў «з прычыны адсутнасці тэхнічных умоў».

Праз год, калі тэхнічныя ўмовы палепшыліся, т. Паўлюкевічу зноў была напісана ад праўлення СП паўторная просьба. Зноў адказаў той жа Базан той жа стандартнай адпіскай. А тэлефоны паціху ўстанаўліваліся ў доме, дзе я жыву, у тым жа пад’ездзе, паверхам ніжэй, кв. № 49. Вось ужо год як працуе тэлефонная ўстаноўка № ....

Я некалькі разоў спрабаваў трапіць на прыём да т. Паўлюкевіча, але выседжваць днямі ў яго прыёмнай у мяне проста няма часу. Дазваніўся па тэлефоне, і ён заверыў мяне, што зробіць усё магчымае. У сакавіку г.г. па маёй просьбе да т. Паўлюкевіча звяртаўся інструктар аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ тав. Парахневіч М. П. — і яго т. Паўлюкевіч запэўніў, што ў чэрвені-ліпені тэлефон на кватэры рэдактара «ЛіМа» будзе ўстаноўлены.

Прайшоў і ліпень, і жнівень, і верасень, і кастрычнік. Цяпер у новых мікрараёнах Фрунзенскага раёна г. Мінска масавая ўстаноўка кватэрных тэлефонаў. Але зноў я маю ўсе шанцы астацца па-за чаргой, бо на тыя просьбы праўлення СП БССР як бы ўжо дадзены адказы, а вусныя абяцанні т. Паўлюкевіча да справы не падшыты.

І хоць мне прыемна насіць пальму першынства — на сённяшні дзень я адзіны ва ўсім Савецкім Саюзе рэдактар рэспубліканскай газеты, які не мае кватэрнага тэлефона, — прашу Вас як афіцыйную асобу ўздзейнічаць неяк на тых таварышаў, ад якіх залежыць вырашэнне гэтай справы. Тэлефон на кватэры патрэбен не для асабістых патрэб, а для сувязі з кірўнікамі тых устаноў, органам якіх з’яўляецца газета «Літаратура і мастацтва» — Саюза пісьменнікаў і Міністэрства культуры БССР.

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам і перакладчыкам Хведарам Змітравічам Жычкам (1927—2007).*

*Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР тав. Шамякіну І. П.... — у 1971—1985 гг. І. П. Шамякін быў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР.*

*«Л.і Маст.» — «Літаратура і мастацтва» — беларуская штотыднёвая літаратурная газета. Заснавана ў Мінску ў 1932 г. Выходзіць на беларускай мове адзін раз на тыдзень на 16 старонках (у 1957—1970 гг. выходзіла 2 разы на тыдзень).*

## 7. В. Гарбук — І. Шамякіну

Паважаны
Іван Пятровіч!

Даруйце за лішні клопат, які прыношу сваім зваротам да Вас. Я, як мне напісалі, крыху (але не з прычыны абвастрэння свае хваробы) спазніўся з просьбай да Камітэта па друку і да Саюза аб выданні да майго 60-годдзя, якое мае быць у лістападзе 1973, падрыхтаванага аднатомніка маіх твораў. Зборнік прашу невялічкі: на дзесяць аўтарскіх аркушаў.

Даруйце за лішні клопат, які прыношу Вам гэтым пісьмом. Як мне напісалі, я не зусім, але ўсё ж такі крыху спазніўся з заяўкай аб выданні да майго 60-годдзя, якое мае быць у канцы 1973, падрахункаванага аднатомніка маіх твораў. Зборнік прашу невялікі: на дзесяць аркушаў. У яго ў новай рэдакцыі ўвойдзе лепшае з надрукаванага і ненадрукаванага. Уступны артыкул згадзіўся напісаць доктар філалагічных навук прафесар Ю. Пшыркоў, які вывучае маю творчасць. Яго артыкул «Прага жыцця, творчасці», у свой час надрукаваны ў газеце «Звязда» ў якасці папярэдняй анатацыі і для асабістага азнаямлення дадаю да гэтага пісьма. Калі можна будзе, вярніце.

*Ліст (чарнавы варыянт) напісаны беларускім пісьменнікам Вісарыёнам Сцяпанавічам Гарбуком (1913—1986). У красавіку 1936 г. рэпрэсіраваны. Вярнуўся на Беларусь у 1940 г. Поўнасцю рэабілітаваны ў 1961 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1946 г. цяжка захварэў на поліартрыт і быў прыкаваны да ложка. Жыў у Пяцігорску.*

*...аб выданні да майго 60-годдзя, якое мае быць у лістападзе 1973, падрыхтаванага аднатомніка маіх твораў. — 60-годдзе з дня нараджэння В. Гарбук адзначаў 24 лістапада 1973 г. У 1973 г. выйшла кніга В. Гарбука «Хто такія мы».*

*Пшыркоў Юліян Сяргеевіч (1912—1980) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).*

*Яго артыкул «Прага жыцця, творчасці», у свой час надрукаваны ў газеце «Звязда»... — рэцэнзія на кнігу В. Гарбука «Лицо в полоску» (Мінск, 1967) «Прага жыцця, творчасці» («Звязда», 1968, 25 крас.). «Звязда» — дзяржаўная рэспубліканская газета. Выдаецца з 1917 г. у Мінску на беларускай мове.*

## 8. І. Шамякін — Янку Брылю

*29 красавіка 1959, Церуха*

Янка!

Артыкул я напісаў. Пяць старонак. Не вельмі каб, але на такую тэму памерацъ выціснуць што-небудзь большае цяжка. Я публіцыст — ні к чорту.

Прачытаў тваю аповесць з вялікай прыемнасцю. На маю думку, гэта — сапраўдная рэч. Гэта тое, што нам трэба. Безумоўна, могуць знайсціся ханжы і кой за што кінуць закід… Плюй на іх! Рэцэнзію Кір'янаву вышлю заўтра-паслязаўтра.

Будзеш ехаць у Адэсу — не мінай Церухі.

Як пагуляў на вяселлі?

Прывітанне

Іван

29/IV-59 г.

P.S. Скажы «Лімаўцам», што артыкул ім я зраблю крыху пазней.

*Ліст адрасаваны беларускаму пісьменніку Янку Брылю (Іван Антонавіч; 1917—2006). Народны пісьменнік БССР (1981). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1952). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).*

*Артыкул я напісаў. — Відаць, артыкул «Калі ласка, дарагія сябры» («Полымя», 1959, № 8).*

*Прачытаў тваю аповесць... — відаць, аповесць «Расчараванне» ў рукапісе або ў карэктуры (апублікавана ў часоп. «Полымя», 1959, № 6).*

*Рэцэнзію Кір'янаву... — хутчэй за ўсё, рэцэнзію на адну з кніг, якая павінна быць уключана ў план выдавецтва «Советский писатель». Кір'янаў Сяргей Леанідавіч (1907—1982) — у той час загадчык рэдакцыі прозы народаў СССР выдавецтва «Советский писатель».*

*Церуха — вёска ў Гомельскім раёне Гомельскай вобл.*

*Скажы «Лімаўцам», што артыкул ім я зраблю крыху пазней. — У 1959 г. на старонках «ЛіМа» быў надрукавыны толькі адзін артыкул І. Шамякіна «Румынія сёння: дарожныя нататкі» (1959, 22 жн.).*

## 9. І. Шамякін — Янку Брылю

*1960-я гг.*

Янка!

Машыну я прышлю табе, але не 27, а 24. Пазней трэба будзе прывозіць Л. Кручкоўскага і вазіць яго па Мінску. Дарэчы, спытай, калі ласка, у яго, калі трэба прыслаць за ім машыну.

Машына ў нас толькі адна. Літфондаўская на рамонце, а Макарэвіч у адпачынку.

Прывітанне тваёй сям'і і сям'і Л. Кручкоўскага.

З прывітаннем

І. Шамякін.

*Ліст адрасаваны Янку Брылю. Гл. камент. да ліста № 8.*

*Кручкоўскі Леон (1900—1962) — польскі пісьменнік, драматург, празаік, публіцыст, грамадскі дзеяч.*

*Макарэвіч Міхаіл Лявонцьевіч — шафёр СП БССР.*

## 10. В. Віннікаў — І. Шамякіну

*12 лютага 1963, Гомель*

Паважаны Іван Пятровіч!

Гледачы нашай тэлестудыі жадаюць, каб пасля нарады маладых у Маскве, некалькі маладых пісьменнікаў (паэт, празаік і абавязкова крытык) заехалі да нас у Гомель па дарозе з Масквы і выступілі па тэлебачанню.

Мы звяртаемся да Вас, каб Вы пасадзейнічалі гэтаму карыснаму мерапрыемству.

Намеснік старшыні камітэта па

Радыёвяшчанню і тэлебачанню /В. Віннікаў/.

*Ліст напісаны намеснікам старшыні Камітэта па радыёвяшчанні і тэлебачанні В. Віннікавым.*

## 11. П. Броўка — І. Шамякіну

*10 мая 1958, Кіславодск*

Кіславодск

Дарагі Іван Пятровіч!

Дзякую Вам за пісьмо. Я так і зраблю, як наважыў. Іду сёння і купляю білет на самалёт на 20/V. Але ўся бяда, што няма прамога самалёта на Мінск. Трэба ляцець праз Маскву. Ва ўсялякім выпадку 21-га раніцой я буду ў Мінску. Калі вечар у Мінску 21-га, дык якраз я буду ў час. Уступная прамова ў мяне будзе гатова, трэба будзе толькі ўставіць прозвішча гасцей.

У Ашмяны з'ездзіце без мяне.

Цяпер адносна прыёма па хатах. Трэба падзяліць гасцей на 3-х чалавек. Вылучыце і мне пэўную колькасць. Думаю, што хатнія прыёмы трэба зрабіць 22-га Мая пасля выступленняў на прадпрыемствах Мінска.

Запрасіце на ўсялякі выпадак з Масквы Лесючэўскага і Владакіна, якія можа не паедуць, а запрасіць варта. Колькі разоў мы ім гэта гаварылі!

Вось і ўсё. Старайцеся там, каб усё было добра. Падумайце і пра прыём у Каралішчавічах. Яго, відаць, трэба зрабіць па леташняму ўзору пад самы канец. Калі грошай малавата, дык можа дапусціць складчыну?

Шчырае вітанне Максіму Іванавічу, Тарасу, Якімовічу, Есакову, Васілёнку, усім сябрам.

Ваш

Пятрусь Броўка.

*Ліст напісаны народным паэтам БССР (1962), Героем Сацыялістычнай Працы (1972), лаўрэатам Сталінскай прэміі (1947, 1951), лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР (1970, 1976), лаўрэатам Ленінскай прэміі (1962), акадэмікам (1966) Петрусём (Пётр Усцінавіч) Броўкам (1905—1980).*

*Кіславодск — горад-курорт Стаўрапольскага краю (Расія).*

*Калі вечар у Мінску 21-га — 21 мая 1958 г. адбыўся літаратурны вечар з нагоды адкрыцця Тыдня літоўскай літаратуры ў Беларусі. З прывітальным словам выступіў П. Броўка.*

*...Лесючэўскага... — Лесючэўскі Мікалай Васільевіч (1908—1978), літаратурны крытык і публіцыст. Старшыня праўлення выдавецтва «Советский писатель».*

*...Владакіна, — супрацоўнік выдавецтва «Советский писатель».*

*...у Каралішчавічах. — Каралішчавічы, дом творчасці беларускіх пісьменнікаў у в. Каралішчавічы Мінскага раёна, па Магілёўскай шашы, дзе да 1949 г. знаходзіўся паляўнічы домік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі Н. Наталевіча. Рашэннем Урада гэты будынак быў перададзены Саюзу беларускіх пісьменнікаў. У Доме творчасці з 1950 г. адпачываў Якуб Колас. Пасля смерці Якуба Коласа (1956) Дому творчасці прысвоена імя народнага пісьменніка. Пасля заканчэння будаўніцтва Дома творчасці пісьменнікаў «Іслач» Каралішчавічы былі перададзены ААТ «Мінскрамбуд», дзе іх намаганнямі адкрыты дом адпачынку «На ростанях». На будынку захавана мемарыяльная дошка: «У гэтым доме жыў і працаваў у 1950—1956 гг. народны паэт БССР Якуб Колас». У пакоі, дзе летаваў Якуб Колас, супрацоўнікамі музея створана экспазіцыя, якая дапамагае прасачыць жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, азнаёміцца з матэрыяламі аб адпачынку Якуба Коласа ў Каралішчавічах.*

*...Максіму Іванавічу... — Максім Танк, гл. камент. да ліста № 3.*

*...Тарасу... — Хадкевічу Тарасу Канстанцінавічу (1912—1975), беларускаму пісьменніку, перакладчыку.*

*...Якімовічу... — Якімовічу Алесю (Аляксандр Іванавіч; 1904—1979), беларускаму пісьменніку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР (1974).*

*...Есакову... — Есакову Алесю (Аляксандр Аляксандравіч; 1911—1985), беларускаму крытыку, літаратуразнаўцу.*

*...Васілёнку... — Васілёнку Яўгену Пятровічу (1917—1973), беларускаму паэту і празаіку.*

## 12. П. Броўка — І. Шамякіну

*22 верасня 1962, Цхалтуба*

Цхалтуба

Дарагі Іван Пятровіч!

Не разлічыў, мала ўзяў паперы, вось і даводзіцца пісаць на бланках.

Адбыў я ў Цхалтуба палову тэрміну, хаджу кожны дзень на ванны, упэўніўся, што яны мне дапамагаюць. Адсюль паеду 1 Кастрычніка на 13 дзён у Сочы, а адтуль дахаты. Не ведаю, можа прыехаўшы адразу вазьмуся за дзяжурства ў Маскве, а можа пачну з 1 лістапада.

Што там у Вас добрага? Відаць вялікі клопат з кватэрамі. Што ж, няхай камісія паступова аглядае ўмовы ўсіх, хто падаў заявы. Прыблізна можна і меркаваць тое-сёе, але мая парада — не рашайце загадзя пакуль дом не гатовы. Рашэнне трэба прымаць, калі ў Дом ужо можна будзе ў'язджаць, інакш жыцця не будзе.

Трэба абавязкова ўлічыць яшчэ адно: перад канчатковым зацвярджэннем спіса, каму камісія мяркуе даць, трэба абавязкова вывешваць за два тыдні.

Я думаю, што Вам трэба заслухаць справаздачу Літфонда. Неабавязкова чытаць усім. Можна цяпер, а можна і пасля размеркавання кватэр.

Вось ледзь не забыўся, напішыце афіцыйнае пісьмо З. П. Матузаву з просьбай выдаць у 1963 годзе раман Ш. Рашыдава «Сильнее бури». Ён мне казаў аб гэтым, а я забыўся.

Якое ў вас там надвор'е? Баюся, што па-ранейшаму лье. Якая гэта бяда для нас. А тут цёпла, удзень нават хаваюся ад сонца, але шлю Вам і Вашай сям'і, а таксама Ткачову, Грамовічу, Хадкевічу, Кучару, Русецкаму, Т. К., М. К. і ўсім, усім маім сябрам самы шчыры, сонечны прывет!

Ваш Пятрусь Броўка.

*Ліст напісаны П. Броўкам. Гл. камент. да ліста № 11.*

*Цхалтуба — горад-курорт на захадзе Грузіі.*

*Матузаў Захар Пятровіч (1911—1977) — дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва БССР (з 1963 г. — «Беларусь») у 1948—1977 гг.*

*...выдаць у 1963 годзе раман Ш. Рашыдава «Сильнее бури». — Раман (1958) Ш. Рашыдава. Рашыдаў Шараф Рашыдавіч (1917—1983) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, пісьменнік. Першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Узбекістана (1959—1983). Герой Сацыялістычнай Працы (1974, 1977).*

*...Ткачову... — гл. камент. да ліста № 1.*

*...Грамовічу... — беларускаму пісьменніку і перакладчыку Івану Іванавічу Грамовічу (1918—1986).*

*...Хадкевічу... — гл. камент. да ліста № 11.*

*...Кучару... — беларускаму крытыку і драматургу Алесю (Айзік Евелевіч) Кучару (1910— 1996).*

*...Русецкаму... — беларускаму паэту Аляксею Сцяпанавічу Русецкаму (сапр. Бурдзялёў; 1912—2000).*

*...Т. К. ... — супрацоўніцы СП БССР Тацццяне Кузьмінічне Іваніцкай.*

*...М. К. ... — загадчыцы бібліятэкі СП БССР (1928—1941, 1944—1977) Марыі Канстанцінаўне Хайноўскай (1903—1989).*

## 13. Янка Журба — І. Шамякіну

*27 красавіка 1963, Полацк*

27/IV—63 г.

Дарагі Іван Пятровіч!

Сардэчна віншую Вас з Першамайскім святам, жадаю правесці святочныя дні ў поўным душэўным спакоі, у самым лепшым настроі і як можна весялей.

Я сустракаю святочныя дні нявесела. Прычына гэтаму — мае захворванні, ад якіх я лячуся ў Полацкай бальніцы сёмы месяц і не ведаю, калі перайду на кватэру.

Я ўспомніў сваё першае знаёмства з Вамі, якое было ў Мінску, успомніў таксама і тое, як я быў у Вас на кватэры, дзе Вы далі мне напамяць свой першы раман «Глыбокая плынь».

Прашу Вас напісаць мне, як Вы адчуваеце сябе з боку здароўя, над чым працуеце ў сучасны момант, якія навіны ў жыцці Саюза пісьменнікаў БССР, ці весела правялі Першамайскае свята.

Я атрымаў вельмі цёплае віншаванне з Новым годам ад Прэзідыума Саюза пісьменнікаў БССР. Вельмі непрыемна мне, што я не мог паслаць віншаванне з Новым годам Прэзідыуму нашага Саюза: у той час я вельмі дрэнна адчуваў сябе з боку здароўя.

Мой адрас: г. Полацк, Віцебскай вобл., Скарынская, 6, Івашыну І. Я.

З гарачым прывітаннем і са шчырым пажаданнем Вам здароўя і новых творчых поспехаў.

Я. Журба.

*Ліст напісаны беларускім паэтам і перакладчыкам Янкам Журбой (сапр. Івашын Іван Якаўлевіч; 1881—1964).*

*...як я быў у вас на кватэры... — па вул. Карла Маркса, 6.*

*...Вы далі мне напамяць свой першы раман «Глыбокая плынь». — Падараваў з дарчым надпісам.*

*...над чым працуеце ў сучасны момант... — І. Шамякін у гэты час працаваў над раманам «Сэрца на далоні».*

## 14. М. Калачынскі — І. Шамякіну

*1 ліпеня 1958, Рыга*

Дарагі Іван Пятровіч!

Сёння роўна тыдзень як я на ўзмор'і. Першыя два дні было вельмі няўтульна, а, галоўнае, холадна. Марасіў дождж, мора, свінцова-сінее ад холаду, не прынімала да сябе. Здавалася, з лета мы прыехалі ў зіму; за вакном нават пішчэлі сініцы — іх тут багата.

Апошнія дні, пасля латышскага народнага свята Ліга, усё змянілася. Многа сонца, паветра, цеплыні. Калі наступае вечар, гарацъ водбліскі белых паўночных начэй. Хораша спіцца, але не пішацца. Пад бокам, акрамя мора, рака. Але рыба ў ёй не ловіцца, хадзіць туды няма ахвоты.

Са знаёмых тут Карпаў, Модэль і Кабзарэўскі. Усе мы нічога не ведаем, як прайшло абмеркаванне Кулакоўскага. Ці быў ты на абмеркаванні? Напішы хаця пару слоў.

Учора Кабзарэўскі атрымаў пісьмо з ленінградскай «Звязды». Да 40-годдзя БССР «Звязда» хоча даць поўнасцю беларускі нумар: трэба аповесць, апавяданні, вершы, крытыка. Што мы можам прапанаваць? Хто мае новую «повестушку»? Даручы, калі ласка, Багушэвічу спытаць хлопцаў. Мы павінны тэрмінова даць «Звяздзе» адказ.

Што новага ў Саюзе, у цябе асабіста? Магчыма закончыў другую частку «Непаўторнай вясны»? За ёй палюецца «Нява». Давай, браток, на — гара!

Як тваё здароўе? Скажу па шчырасці, што на Рыжскім узмор'і ты можаш падлячыць толькі нервы, гіпертанію і зоб, калі такі ёсць. Загартоўваць лёгкія і іншыя «органы» нельга: многа вільгаці, сырасці, на пляжы — поўна трухлявых старушэнцый і дзяцей.

Вось, бадай, і ўсё.

Прывітанне Пятру Усцінавічу, Тарасу, Есакову, Юру, усім нашым, а таксама — тваім дамачадцам: Машы, дзецям ад мяне і сям'і.

Па-сяброўску абдымаю!

Міхась Калачынскі.

1.VII-58.

*Ліст напісаны беларускім паэтам Міхасём (Міхаіл Іванавіч) Калачынскім (1917—1990).*

*...як я на ўзмор'і. — На Рыжскім узмор'і.*

*...пасля латышскага народнага свята Ліга... — або Янаў дзень, латышскае народнае свята. Адзначаецца звычайна ў ноч з 23 на 24 чэрвеня і лічыцца адным*

*з самых вялікіх і папулярных свят сярод латышоў. Дзень перад Лігай называюць Зялёным днём або днём Лігі.*

*Карпаў — гл. камент. да ліста № 5.*

*Модэль Міхась (Мендэль Моўшавіч; 1904—1980) — беларускі крытык.*

*Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч (сапр. Гардон Фавій Залманавіч; 1909—1970) — рускі паэт, перакладчык.*

*...як прайшло абмеркаванне Кулакоўскага. — Магчыма, абмеркаванне аповесці «Дабрасельцы» («Маладосць», 1958, № 5). Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч (1913—1986) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986, пасмяротна).*

*...з ленінградскай «Звязды». — Са штомесячнага літаратурнага часопіса, які выдаецца ў Петраградзе — Ленінградзе — Санкт-Пецярбурзе з 1924 г.*

*Да 40-годдзя БССР... — адзначалася 1 студзеня 1959 г.*

*...Багушэвічу... — беларускаму пісьменніку Юрыю (Георгій Канстанцінавіч) Багушэвічу (1917—1983).*

*Магчыма закончыў другую частку «Непаўторнай вясны»? — Тут маецца на ўвазе другая аповесць «Начныя зарніцы» (1958) з пенталогіі «Трывожнае шчасце». «Непаўторная вясна» (1956) — першая аповесць з пенталогіі «Трывожнае шчасце».*

*За ёй палюецца «Нява». — У часоп. «Нева» сапраўды была надрукавана аповесць «Непаўторная вясна», але не ў 1958 г., як піша М. Калачынскі, а на год раней (1957, № 10). «Нева» — штомесячны літаратурны часопіс, які выдаецца ў Ленінградзе — Санкт-Пецярбурзе з 1955 г.*

*...Пятру Усцінавічу... — П. У. Броўку, гл. камент. да ліста № 11.*

*...Тарасу... — Т. Хадкевічу, гл. камент. да ліста № 11.*

*...Есакову... — гл. камент. да ліста № 11.*

*...Юру... — Ю. Багушэвічу.*

*...Машы... — Шамякінай Марыі Філатаўне (1921—1998), жонцы І. П. Шамякіна.*

## 15. М. Лынькоў — І. Шамякіну

*29 красавіка 1962, Мінск*

Дарагі Іване!

Прымі з Марыяй Філатаўнай і ўсёй сям'ёй сардэчнае павіншаванне з першамайскім святам і цэлы кош самых добрых вясновых пажаданняў, каб у сям'і заўсёды пахла вясной, веснавой бадзёрасцю і радасцю.

З сяброўскім прывітаннем

Міхась Лынькоў.

29/IV 1962 г.

*Віншавальны ліст напісаны народным пісьменнікам БССР (1962), акадэмікам (1953), лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР (1968) Міхасём (Міхаіл Ціханавіч) Лыньковым (1899—1975).*

*...з Марыяй Філатаўнай... — гл. камент. да ліста № 14.*

## 16. М. Лынькоў — І. і М. Шамякіным

*26 красавіка 1963, Мінск*

Дарагія Іван Пятровіч і Марыя Філатаўна!

Прыміце з сям'ёй сардэчнае першамайскае павіншаванне і найлепшыя нашы пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў і вясновых радасцей!

З прывітаннем

Міхась Лынькоў.

26/IV 1963 г.

*Віншавальны ліст напісаны М. Лыньковым. Гл. камент. да ліста № 15.*

*...Марыя Філатаўна! — гл. камент. да ліста № 14.*

## 17. І. Шамякін — З. Матузаву

*24 ліпеня 1968 г., Мінск*

Паважаны Захар Пятровіч!

У тэматычны план 1970 года прапаную мой новы раман аб жыцці інтэлігенцыі ў наш час — «Снежныя зімы». Хоць хацеў бы, каб выданне рамана не адцягвалася так далёка, бо твор гатовы, зданы ў «Полымя».

Маю намер зноў звярнуцца да сельскай тэмы — да жыцця сённяшняй вёскі, да тых працэсаў, якія адбыліся там у апошнія гады. Гэта будзе аповесць ці раман. Рэальна было б планаваць гэтую рэч на 1972 год. Больш блізкая задума: паспрабаваць напісаць апавяданні на аснове некаторых ленінскіх дакументаў. Тэма і жанр для мяне новы, не ведаю, што атрымаецца, але жаданне такое маю. Ёсць работа, якая пачата ўжо, але выдавецтва яна асабліва не зацікавіць, бо гэта — п’еса.

Такія мае планы. Калі яны ўнясуць крупінку ў Ваш вялікі пяцігадовы план — буду рады.

З павагай

Іван Шамякін.

24/VII 68 г.

*На лісце наступная рэзалюцыя З. П. Матузава:*

*тов. Жычко*

*Прошу завести папку с ответами наше письмо. Попросите у т. Шамякина рукопись романа и по ознакомлении с ним будем решать в каком году издать.*

*З. Матузов*

*26.VII 68 г.*

*Ліст адрасаваны З. П. Матузаву. Гл. камент . да ліста № 12.*

*У тэматычны план 1970 года ~ «Снежныя зімы». — Раман выйшаў у 1970 г.*

*...зданы ў «Полымя». — Раман «Снежныя зімы» апублікаваны ў часоп. «Полымя», 1968, № 11, 12.*

*...напісаць апавяданні на аснове некаторых ленінскіх дакументаў. — У гэты час І. Шамякіным на ленінскую тэму напісаны наступныя творы: «Хлеб», «Камандор з “Алега”», «Браняпоезд “Таварыш Ленін”», «Эшалон прайшоў».*

## 18. Вучні Церабунскай школы — І. Шамякіну

*Пачатак 1960-х гг., Брэсцкі раён*

Паважаны Іван Пятровіч!

Мы, вучні Церабунскай васьмігадовай школы Брэсцкага раёна, вельмі любім чытаць Вашы творы. Асабліва нам спадабаўся раман «Крыніцы» і тэтралогія «Трывожнае шчасце».

Мы вельмі хацелі б мець Вашу апошнюю кніжку «Матчыны рукі» з Вашым асабістым аўтографам ці іншы Ваш твор у нашай школьнай бібліятэцы. Калі ласка, прышліце нам.

Ад усёй душы жадаем Вам творчых поспехаў.

Вучні Церабунскай васьмігадовай школы: Апанасік, Кулеша, Панасюк, Ляўчук.

Наш адрас: Брэсцкая вобласць, Брэсцкі раён, вучням Церабунскай васьмігадовай школы.

*Ліст напісаны вучнямі Церабунскай школы Брэсцкага раёна. Датуецца прыкладна пачаткам 1960-х гг. паводле зместу ліста: «... тэтралогія “Трывожнае шчасце”» і «...мець Вашу апошнюю кніжку “Матчыны рукі”». «Трывожнае шчасце» да 1964 г. было тэтралогіяй. А зб. «Матчыны рукі» выйшаў у 1961 г.*

*...апошнюю кніжку «Матчыны рукі»... — зборнік апавяданняў. Выйшаў у 1961 г.*

## 19. В. Туркевіч — І. Шамякіну

*14 лютага 1953 г, Пінск*

Дарагі наш таварыш Шамякін!

Дазвольце мне, студэнту Пінскага педвучылішча, сказаць Вам, маладому таленавітаму пісьменніку, аўтару незабыўнай «Глыбокай плыні», шчырае маё студэнцкае «дзякуй» за Вашу цудоўную кнігу. Асабіста з Вамі я не знаёмы, але адчуваў сябе шчаслівым, прачытаўшы «Глыбокую плынь», а асабліва, калі Вам прысудзілі за яе Сталінскую прэмію. Я вельмі люблю родную мову, мову Купалы, Коласа, Багдановіча, Каліноўскага, Скарыны, мову Глебкі, Броўкі, Крапівы, Шамякіна. Я ганаруся, што гэта беларусы. Таму з'яўленне кожнага новага твора сустракаю з вялікай радасцю. Вашу кнігу я чытаў 3 разы. Кожны раз знаходжу ў ёй новае Ваша паэтычнае майстэрства. Вось чаму я так горача люблю Вас, мой настаўнік, мой старэйшы брат, таварыш Шамякін.

Я думаю, Вы не ўзлуецеся, калі я звярнуся да Вас з просьбай. Я прашу ў Вас (вельмі шчыра прашу!) прыслаць мне экзэмпляр «Глыбокай плыні» на роднай мове і свой фотаздымак.

Дарагі Іван Пятровіч! Прабачце, калі ласка, што турбую Вас сваім лістом, адрываючы ў Вас дарагі час — час творчай працы.

Надта моцна прашу выканаць маю просьбу, дарагі Шамякін.

Бывайце! Жадаю поспехаў!

Ваш чытач і вучань

В. Туркевіч,

студэнт Пінскага

педвучылішча імя А. С. Пушкіна

г. Пінск

14 лютага 1953 года.

*На лісце рукой І. Шамякіна: Адк.*

*Ліст напісаны студэнтам Пінскага педвучылішча В. Туркевічам.*

*...Сталінскую прэмію. — Прысуджана ў 1951 г.*

*...Купалы... — Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942) — народны паэт БССР (1925), акадэмік АН БССР (1928). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1941).*

*...Коласа... — Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — народны паэт БССР (1926), акадэмік АН БССР (1928). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1946).*

*...Багдановіча... — Багдановіч Максім Адамавіч (1891—1917) — беларускі паэт, празаік, публіцыст, крытык, перакладчык.*

*...Каліноўскага... — Каліноўскі Кастусь (Канстанцін (Вінцэнты) Сямёнавіч; 1838—1864) — рэвалюцыянер, публіцыст, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 г. на тэрыторыі Расійскай імперыі.*

*...Скарыны... — Скарына Фрынцыск (каля 1490 — каля 1551) — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, асветнік-гуманіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч.*

*...Глебкі... — Глебка Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969) — беларускі паэт, драматург, крытык, перакладчык. Акадэмік АН БССР (1957).*

*...Броўкі... — гл. камент. да ліста № 11.*

*...Крапівы... — Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896—1991) — народны пісьменнік БССР (1956). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Акадэмік АН БССР (1950). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1941, 1951). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974).*

## 20. В. Туркевіч — І. Шамякіну

*24 сакавіка 1953 г., Пінск*

Дарагі Іван Пятровіч!

Я атрымаў Ваш падарунак 24 сакавіка г.г., за што ад усяго сэрца выказваю Вам шчырую-шчырую падзяку. Я ад сэрца дзякую Вам, што Вы задаволілі найвялікшую маю просьбу, што Вы, нягледзячы на ўсю сваю занятасць, знайшлі час прачытаць мой ліст з просьбай прыслаць уласную кнігу, выканалі яе, хоць гэта каштавала вялікіх сродкаў і турбот. Як граніт, моцнае, як горы, вялікае і ад усяго сэрца шчырае Вам дзякуй за гэта шаноўны і родны Іван Пятровіч! Праз некалькі хвілін пасля таго, як я атрымаў Ваш пакет, аб гэтым незвычайным здарэнні ўжо ведалі ўсе 324 студэнты. Гэты выпадак зрабіў станоўчае ўражанне на нашых студэнтаў. Гэта знішчыла меркаванне, якое ў некаторых захавалася аб пісьменніку, як аб чымсьці незвычайным. Некаторым са студэнтаў, асабліва малодшых курсаў, цяжка растлумачыць, што пісьменнік — гэта самы звычайны, самы просты чалавек, як і ўся інтэлігенцыя, рабочыя, калгаснікі.

Дарагі Іван Пятровіч!

Я жадаю паведаміць Вам, што з гэтага часу мы станем добрымі сябрамі. Я лічу Вас сваім настаўнікам, сваім бацькам і сваім старэйшым верным таварышам. Не бяда, што мы асабіста не можам яшчэ сустрэцца: чытаючы «Глыбокую плынь», я буду лічыць, што праводжу час у размове з Вамі, дарагі таварыш Шамякін. «Глыбокая плынь» — з гэтага часу мой неразлучны спадарожнік. Такую каштоўную і цікавую кнігу штораз будзем чытаць з усё ўрастаючым захапленнем.

Жадаю Вам, паважаны Іван Пятровіч, новых поспехаў у Вашай творчай працы па стварэнню новых вобразаў гераічнага беларускага народа, будаўніка камуністычнага грамадства!

Іван Пятровіч! Вы вельмі мяне ўзрадавалі б, калі б адказалі на наступныя пытанні, што мяне дужа цікавяць:

1. Над чым Вы зараз працуеце, аб чым пішаце новы твор, як ён называецца?
2. Ці наведае Пінскі АДНТ у хуткім часе хто з нашых пісьменнікаў і паэтаў?
3. Вельмі прашу перадаць ад мяне і ўсіх нас, чытачоў, прывітанне Бацьку нашай літаратуры Якубу Коласу і ўсім іншым пісьменнікам.

Вельмі шчыра прашу, мой любімы Іван Пятровіч, даць адказ у форме пісьма.

Яшчэ раз дзякуй за кнігу!

Жадаю вялікіх поспехаў!

Бывайце!

З пашанай да Вас студэнт Пінскага педвучылішча

Ваш чытач і малодшы таварыш

Васіль Туркевіч

24/III-53 г.

г. Пінск

Туркевіч.

*Ліст напісаны В. Туркевічам. Гл. ліст № 19 і камент. да яго.*

*...Якубу Коласу... — гл. камент. да ліста № 19.*

## 21. Я. А. Кулага — І. Шамякіну

*20 ліпеня 1953 г., в. Суенец*

Дарагі і шаноўны пісьменнік Іван Шамякін!

Я з захапленнем прачытаў Ваш твор «Глыбокая плынь», але то, што я адчуваў, калі чытаў Ваш новы твор «У добры час» не здолею і апісаць: для гэтага патрэбна быць такім як Вы — Іванам Шамякіным! Я плакаў і не саромеўся сваіх

слёз. Можна шмат за што з Вашага рамана Вам падзякаваць, але звыш таго бясконца дзякуй Вам за мову Вашага твора: якая ж яна праўдзівая, прыгожая і жыццярадасная!

Жадаю Вам і на далей такіх жа поспехаў у будучым! У добры час!

20.7. 1953 г. Е. А. Кулага

Хочацца Ваш твор убачыць на экране ў кіно, але каб Ваша «пісьмо» захавалася такім жа.

*На адваротным баку ліста рукой, хутчэй за ўсё, М. Ф. Шамякінай напісана: Могил. обл. Кировский р-н Мышковичский с/с Кулага Евгений Алексеевич*

*Ліст напісаны чытачом Я. А. Кулагам.*

## 22. Вучні Каменскай СШ — І. Шамякіну

*24 студзеня 1957 г., Шчучынскі раён*

Добры дзень, дарагі і паважаны Іван Пятровіч!

Дарагі Іван Пятровіч!

Вы, напэўна, і не падазравалі, што ў нашай рэспубліцы ёсць дзесяцігодка, якая называецца Каменскай. Вучні дзясятага класа гэтай школы і пішуць Вам.

Паважаны Іван Пятровіч!

Хоць Вы нас і не ведаеце, але мы з Вамі пазнаёміліся ўжо даўно гадоў пяць таму назад, чытаючы Вашу кнігу «Глыбокая плынь». Гэтая кніга стала адной з самых любімых нашых кніг.

Праз некалькі год мы з Вамі, як з добрым знаёмым, сустрэліся зноў: мы чыталі Ваш новы раман «У добры час», які стаў самай папулярнай кнігай сярод нашай савецкай моладзі. Па раману «У добры час» вучнямі нашай школы два разы праводзілася чытацкая канферэнцыя пры прысутнасці настаўнікаў. І неяк само сабой увайшло ўжо ў традыцыю, што вучнямі нашай школы праводзіцца раз у год чытацкая канферэнцыя па якой-небудзь Вашай кнізе. А так як быў надрукаваны Ваш новы раман «Крыніцы», то мы рашылі правесці чытацкую канферэнцыю па гэтаму раману.

Мы ўжо ўсе прачыталі раман, чыталі з вялікай цікавасцю і захапленнем. І вельмі добра было б, дарагі Іван Пятровіч, каб з заключным словам на канферэнцыі выступілі б Вы самі! Пагэтаму вельмі і вельмі просім Вас прыехаць к нам на канферэнцыю, якая адбудзецца 2 лютага ў 7 гадзін вечара!

Калі ж прыехаць не зможаце, дык напішыце, калі ласка, над чым Вы працуеце цяпер і пра першыя літаратурныя крокі (гэтае пытанне цікавіць асабліва некаторых вучняў, таму што яны пачынаюць пробаваць сваё пяро).

На гэтым дазвольце пажадаць Вам добрага здароўя на доўгія гады і выдатных поспехаў у Вашай цяжкай і слаўнай працы на карысць народу і Радзіме!

Прыязджайце, калі ласка!

Будзем чакаць!

Да хуткай сустрэчы, дарагі і шаноўны Іван Пятровіч!

Ад імя вучняў дзясятага класа:

Белаец І.

Дубок П.

Лебядзінская Т.

Шэўчык І.

Якушка А.

24/I-1957 года.

*На лісце рукой М. Ф. Шамякінай напісана: Гродзенская вобл. Шчучынскі р-н Каменская СШ.*

*Ліст напісаны вучнямі Каменскай сярэдняй школы Гродзенскай вобл.*

## 23. З дзённікавых запісаў І. Шамякіна 1945—1946 гг.

*9 снежня 1945 г.*

Мы з Машаю прыгожа жывём. Удвух працуем, дапамагаем адзін другому, жартуем, натхняемся і верым у вялікую чароўную будучыню. Часта ў нас няма хлеба. І тады ядзім бульбяны суп і бульбяныя аладкі і за ядою вясёла кпім са свайго становішча. Маленькая Лінка дапамагае нам смяяцца.

Я перапрацоўваю і перапісваю старыя апавяданні. Маю «Помсту» абяцаюць надрукаваць і абяцаюць (абяцаў у лісце Крысько) выклікаць на пашыраны пленум Праўлення ССПБ, які мае адбыцца 10 снежня, але праз паўтары гадзіны будзе 10, а выкліку ніякага няма.

Абраны сакратаром пярвічнай партарганізацыі. Сёння — выхадны, а мы ўтрох (я, Маша і Таня) амаль увесь дзень рыхтавалі топліва — пілілі, калолі і насілі ў пакой дровы.

Мароз. Бясснежна. Халодна нават і ў пакоі.

*13 снежня 1945 г.*

Сакратару партарганізацыі работы надта многа і работа адказная. Пазаўчора правёў партыйны сход, учора — сход настаўнікаў і сход калгаснікаў — вылучалі кандыдатаў у састаў выбарчых камісій. На сходзе калгаснікаў упаўнаважаны райкама партыі парушыў дэмакратыю — не ўвёў у спісак для галасавання кандыдатуру, пададзеную калгаснікамі.

Пасля я чуў калгаснікі бурчэлі:

— Каго захацелі, таго і вылучылі. Навошта сабіралі нас.

У гэтым, лічу, вялікая бяда нашых многіх працаўнікоў: зразаць правы калгаснікаў, паніжаць іх значэнне, як гаспадароў свайго калгаса. У калгасах справы вельмі дрэнныя. Трэба добрая агітацыя, каб умацаваць працоўную дысцыпліну. І навогул трэба шырока развярнуць агітацыйную работу.

Спрачаюся з Машай. Яна не верыць у сілу нашай агітацыі. Даказваць ёй цяжка. Яна — індывідуалістка, нават некалькі эгаістка і ўжо пачынае раўнаваць мяне «к совещаньям, книгам и друзьям». Сёння яна без прычыны расплакалася і заявіла, што я не добры, што яна жадала б, каб я быў такім, якім быў у 1940 годзе — у першы год нашай жаніцьбы, калі мы пражылі разам толькі 26 дзён. Дзіўная.

Не шанцуе ў гаспадарцы. Без мяне яна завяла цёлку, парасёнка. Тыдзень назад цёлка цяжка захварэла, і мы вымушаны былі прырэзаць. Сёння раніцою раптам захварэў парасёнак. Ужо падрыхтавалі нож, але вырашылі пачакаць. Зараз дзяжурым каля яго, каб не даць яму здохнуць. Але здаецца яму стала лепш.

Пабыла Таня. Гасціла тыдзень. Сёння пайшла. Вельмі ўжо я адарваўся ад сваіх бацькоў.

*18 снежня 1945 г.*

Атрымаў тэлеграму ад Лынькова. Прыглашае на пленум ССП. Пытае, ці згодны прыехаць. Сёння я даў тэлеграму, што паехаць вельмі рад і папрасіў афіцыяльнага выкліку, каб па ім атрымаць права выехаць з месца работы і ўехаць у Мінск.

Выпаў снег. Бела, чыста, прыгожа. Месячныя ночы. Учора нас наведаў Коля Літвінаў, а ў нас не было нават і хлеба, не маглі знайсці па чарцы. Частавалі бульбай ды салам (парася забілі).

Маша нездаволена, што я многа работаю. І сапраўды гэта цяжка, асабліва пры такіх умовах. Самага прастога і неабходнага — лямпы няма. Ад газніка закапціліся сцены, кнігі, люстра, і кожнае ранне поўны нос копаці. Апрача ўсяго гэтага — цяжка вачам. А работаць трэба многа і ўпарта. Трэба вучыцца. Многа часу аднімаюць абавязкі сакратара партарганізацыі.

*21 снежня 1945 г.*

Учора позна ўвечары хадзіў у Чарацянку (вёска за 4 км) праводзіць сход калгаснікаў. Зрабіў нядоўгі, але яскравы і пераканаўчы даклад аб выбарах у Вярхоўны Савет СССР. Пасля выступіў з гарачай прамовай аб выкананні лесанарыхтоўкі і пазыкі. Паслухаў як адна цётка лаялася са старшынёй. Вось гэта дэмакратыя! У другой краіне за такія словы на кіраўніка яе пасадзілі б. А тут старшыня, відаць, прывыкнуў да гэтага — і вухам не шавеліць, як быццам так і трэба.

Увесь час мяне здзіўляла апалітычнасць нашай вясковай інтэлігенцыі, асабліва настаўнікаў. Я шукаў прычыны гэтай апалітычнасці і толькі сёння знайшоў. Сёння выпадкова ў размове я нечакана высветліў, што ўсе тры настаўніцы НСШ выключна нічога не ведаюць аб працэсе галоўных нямецкіх злачынцаў у Нюрбергу. Вось яна прычына — яны выключна нічога не чытаюць і апрача свайго прадмета і сваёй хатняй гаспадаркі нічога не ведаюць і не хочуць ведаць. Больш гадзіны расказваў ім аб гэтай вялізарнай гістарычнай з’яве міжнароднага значэння.

Маша таксама не чытае газет і не ведаю, як заставіць яе рабіць гэта. Паранейшаму яна цікавіцца толькі мастацкай літаратурай.

*3 студзеня 1946 г.*

З 25 па 31 снежня быў у Мінску на пашыраным пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пазнаёміўся з усімі пісьменнікамі і паэтамі. Перапоўнены ўражаннямі і жаданнем пісаць, як мага, больш і лепш. Але пісаць цяжка. Многа пабочнай работы. Апрача таго, Маша глядзіць на мой творчы труд, як на нейкую забаву, не цікавіцца ім і не цэніць яго. Нават, здаецца, часамі яна проста хоча перашкодзіць мне пісаць. Гэта яе абыякавасць да маёй працы абражае мяне. Я пакуль што ўмела адкупляюся жартамі. Але гэта вельмі непрыемна і крыўдна нават за яе, якую я заўсёды так высока цаніў. Маё напружанае намаганне да творчай работы яна расцэньвае як гультайства, нежаданне займацца гаспадарчымі работамі і маё жаданне ўсё ўзваліць на яе. Гэта глупа і больна! Я бачу, што ёй цяжка, я стараюся дапамагчы ёй усім, чым толькі магу, але яна проста часамі бывае неразважна і неразумна несправядлівай. Я ж хачу толькі аднаго, каб мы заўсёды так разумелі адзін другога, як разумелі раней і заўсёды так кахалі друг друга, як кахаем цяпер.

*16 студзеня 1946 г.*

Мая творчая работа мае марудныя тэмпы. За тры месяцы, якія я ўжо знаходжуся дома, я не напісаў ні аднаго апавядання, ні аднаго верша. Я толькі перапісаў некалькі старых апавяданняў. Яшчэ горш тое, што я амаль нічога не чытаю, не вучуся. Работа ў школе, партыйная работа і сям’я аднімаюць амаль увесь час. Асабліва многа часу аднімае партыйная работа. Я не магу не работаць, калі навокал так дрэнна рухаецца перабудова жыцця. Мне здаецца, я аддаў бы сваё сэрца, жыццё, каб толькі пераканаць людзей у самым простым: тое, што маем мы — сацыялізм — самае найлепшае, што ёсць на зямлі і што шчасце ўсіх, паляпшэнне жыцця залежыць ад іх, ад іх працы. Многія гэтага не разумеюць. Маша таксама добра не разумее гэтага і нам даводзіцца спрачацца. Яна абвіняе мяне і дакарае, што я хутка зусім закіну сваю творчую працу. Не, я ніколі не закіну яе. Але пісаць цяжка. Я ўспамінаю, як хутка і лёгка я напісаў «Помсту» і як цяжка пішацца зараз аповесць «Пасля вайны». Ну, нічога! Дрэнны той пісьменнік, хто сам не прынімаў удзел у барацьбе, якая кіпіць кожны дзень.

Дрэнна з матэрыяльнымі ўмовамі. Вось ужо паўмесяца не бачу хлеба і даводзіцца сядзець на адной бульбе з капустаю. Адчуваю, што слабею фізічна: часта кружыцца галава, часта баліць, панізілася работаздольнасць, з’явілася санлівасць. Але я стараюся не паказваць сваёй слабасці і кожны новы дзень сустракаю з радасцю, з цвёрдай надзеяй на лепшае, на шчаслівейшае жыццё.

*28 студзеня 1946 г.*

Кажуць, што чалавек вельмі трывалы — трывалей любой жывёліны. Мне здаецца, што гэта не так. Чалавечае жыццё вельмі часта абрываецца, канчаецца так раптоўна, так нечакана, што толькі здзіўляешся. Пазаўчора я гаварыў з адным нашым камуністам, старшынёй калгаса. Гэта быў выключна вясёлы, чэсны, адданы сваёй справе чалавек. Ён сказаў мне: «Не я буду, калі не падніму калгас». І на ўчарашні дзень назначаў пайсці ў сваты. Учора раніцою прыбег чалавек і паведаміў, што гэты цудоўны хлопец, Коля Карніенка, памёр, без хваробы, нечакана, у дзесяць гадзін вечара пазаўчора. У чым справа? Толькі за некалькі гадзін да смерці ён паскардзіўся на ангіну. Крыўдна і жалка да болю, да слёз. Шэсць год ён прабыў у арміі, праваяваў усю вайну, ранены, узнагароджаны. І зараз — жыць бы і жыць, але — не… Што гэта лёс, ці што? Мяне вельмі ўразіла гэта смерць.

*На сённяшні дзень поўны варыянт дзённікаў гэтых гадоў не выяўлены. Тэкст падаецца ў аўтарскай рэдакцыі.*

*...з Машаю... — гл. камент. да ліста № 14.*

*...Лінка... — Шамякіна Ліна Іванаўна (нар. 1941) — дачка І. Шамякіна.*

*Маю «Помсту» абяцаюць надрукаваць... — надрукавана ў часоп. «Полымя» 1945, № 11—12.*

*Крысько — Вітка Васіль (сапр. Крысько Цімох Васільевіч; 1911—1996) — беларускі дзіцячы пісьменнік, драматург, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).*

*...выклікаць на пашыраны пленум Праўлення ССПБ... — пленум праходзіў з 27 па 30 снежня 1945 г.*

*Таня — Смірнова Таццяна Пятроўна (1931—1996) — сястра І. Шамякіна.*

*...Лынькова... — гл. камент. да ліста № 15.*

*Чарацянка — вёска ў Гомельскім раёне Гомельскай вобл.*

*...аб працэсе нямецкіх злачынцаў у Нюрбергу. — Маецца на ўвазе Нюрбергскі працэс — судовы працэс над групай галоўных нацысцкіх ваенных. Праходзіў з 20 лістапада 1945 па 1 кастрычніка 1946 г.*

*...як цяжка пішацца зараз аповесць «Пасля вайны». — І. Шамякін у гэты час працаваў над раманам «Глыбокая плынь».*

***Уступнае слова, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыяў
Алесі ШАМЯКІНАЙ.***



**Васіль СТАРЫЧОНАК**

# ДРУГАСНЫЯ НАЙМЕННІ ЧАЛАВЕКА Ў ТВОРАХ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У сучаснай навуковай парадыгме актыўна развіваецца антрапамарфічны падыход да даследавання моўных з'яў. У шматлікіх працах увага акцэнтуецца на даследаванні ўзаемасувязі мовы і мыслення чалавека, яго свядомасці і духоўна-практычнай дзейнасці, на адлюстраванні ў мове разумовых працэсаў і станаў. У антрапацэнтрычнай парадыгме галоўнымі прынцыпамі ўсё часцей становяцца кагнітыўныя сферы, звязаныя з самаідэнтыфікацыяй чалавека і моўнай рэпрэзентацыяй феномена чалавечага розуму.

Праблемы семасіялагічных даследаванняў другасных намінацый і працэсаў утварэння вытворных лексіка-семантычных варыянтаў (у далейшым ЛСВ) займаюць важнае месца ў сучаснай лінгвістычнай навуцы. Другая палова XX і пачатак XXI стагоддзя адзначаны неаслабнай цікавасцю айчынных і замежных лінгвістаў да пытанняў намінацыі, пад якой разумеюць утварэнне моўных адзінак, якія служаць для абазначэння субстанцыянальных (прадметаў, асоб) і несубстанцыянальных (якасцей, уласцівасцей, адносін, падзей, працэсаў, дзеянняў, пачуццяў, перажыванняў, псіхічных станаў і інш.) элементаў рэчаіснасці, абазначэння ўсяго, што адлюстроўваецца і разумеецца чалавечай свядомасцю.

Сістэма намінатыўных сродкаў мовы характарызуецца двухузроўневай арганізацыяй, якая складаецца з першасных і другасных намінацый. Пад другаснымі разумеюцца лексіка-семантычныя варыянты, утвораныя ў сваёй большасці на базе зыходнага значэння слова, якое пэўным чынам трансфармуецца. Пры гэтым выкарыстоўваецца гукавое афармленне (фанетычны воблік) ужо існуючай у мове лексічнай адзінкі. Другасныя ЛСВ не проста называюць пэўны фрагмент рэчаіснасці, а фармулююць пра яго ўяўленне, канцэптуалізуюць яго ў чалавечай свядомасці. Гэта новае бачанне прадмета, актуалізацыя яго асобных якасцей і ўласцівасцей, відазмяненне ўражанняў аб прадмеце.

У аснове другаснасці — дыспрапорцыя, асіметрыя моўнага знака, сутнасць якой заключаецца ў адсутнасці ізамарфізму паміж планам выражэння і планам зместу, у выкарыстанні абмежаванай колькасці слоў для абазначэння неабмежаванай колькасці прадметаў і з'яў навакольнага свету, невычарпальнага канцэптуальнага зместу.

Узнікненне другасных намінацый абумоўлена прыродай і асаблівасцямі чалавечага мыслення, яго абстрагаваным і абагульняным характарам, здольным адлюстроўваць акаляючую рэчаіснасць ва ўзаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці ўсіх яе элементаў. У семантычнай дэрывацыі адлюстроўваюцца складаныя ментальныя і асацыятыўныя працэсы чалавечага мыслення. Практычна любыя другасныя намінацыі з'яўляюцца вынікам натуральнага развіцця мовы, абумоўленага пазнавальнай і камунікатыўнай дзейнасцю чалавека. Такія намінацыі выконваюць не дапаможную, а асобасную ролю пры вербалізацыі прадметаў і з'яў навакольнай рэчаіснасці. Яны лічацца вынікам аднаго з фундаментальных моўных працэсаў, які рэалізуецца ў тэндэнцыі да эканоміі моўных сродкаў. Менавіта ў другасных намінацыях выяўляецца галоўны закон развіцця мовы і мыслення, які прадугледжвае філіяцыю — развіццё моўных з'яў у паслядоўнасці

і пераемнай сувязі, у непасрэднай залежнасці ад папярэдніх фактаў, накапленне ведаў і атрыманне на іх аснове новай інфармацыі.

У працэсе ўтварэння другасных намінацый узаемадзейнічаюць 2 кампаненты: а) зыходная паняційная сфера (у другіх тэрмінах — вобласць-крыніца, сфера-донар, фрэйм-крыніца, крыніца метафарычнай экспансіі, канал атрымання інфармацыі, тое, што атаясамліваецца, асацыіруецца або параўноўваецца); б) новая паняційная сфера (у другіх тэрмінах — вобласць-мэта, сфера-рэцыпіент, сфера-магніт, фрэйм мэты, вынік метафарычнай экспансіі, тое, з чым адбываецца атаясамліванне, параўнанне). Асноўнымі сродкамі другасных намінацый з'яўляюцца метафара, метанімія, сінекдаха, канкрэтызацыя (ці звужэнне, спецыялізацыя), генералізацыя (пашырэнне сэнсавага аб'ёму), эмфатызацыя (узмацненне канататыўнага кампанента зыходнай лексічнай адзінкі).

У філалагічнай навуцы пачатку XXI ст. сталі дамінараваць даследаванні, звязаныя з вывучэннем чалавека, што абумоўлена перш за ўсё развіццём антрапацэнтрычнага падыходу да моўных з'яў. Увага акцэнтуецца на ўзаемасувязі мовы і мыслення чалавека, яго свядомасці і духоўна-практычнай дзейнасці, на адлюстраванні ў мове разумовых працэсаў і станаў, выражэнні моўнымі сродкамі інтэлектуальна-эмацыянальных асаблівасцей індывідуума, яго светапоглядных, рэлігійных, эстэтычных, псіхалагічных, духоўных уяўленняў. Для намінацый чалавека ў мове існуе вялікая колькасць лексічных, лексіка-фразеалагічных сродкаў, парэмій, прэцэдэнтных імёнаў і тэкстаў, што носяць ідыяэтнічны характар і залежаць ад культурна-гістарычных традыцый народа. Важнае месца сярод гэтых сродкаў займаюць другасныя намінацыі, утвораныя ад найменняў заонімаў, артэфактаў, фітонімаў і іншых лексіка-тэматычных груп, якія нараджаюць даволі разнастайныя і ўстойлівыя асацыяцыі. Як правіла, падобныя асацыяцыі носяць ярка выражаны пейяратыўны характар з указаннем такіх якасцей, як няўклюднасць, неахайнасць, легкадумнасць, ветранасць, балбатлівасць, гультайства, абжорства, невуцтва, дурасць, бесталковасць. Гэтыя якасці відавочна пераважаюць у групе другасных аністычных намінацый, што пацвярджае вядомы тэзіс аб асіметрыі моўнай ацэнкі і больш дэталёвай і дыферэнцаванай рэпрэзентацыі негатыўных ацэнак і эмоцый, чым пазітыўных. Адмоўныя ацэнкі, як правіла, лічацца адхіленнем ад нормы і адкрыта дэманструюцца з мэтай іх выпраўлення і выкаранення.

Анімістычныя метафары ў сваёй большасці грунтуюцца на адным з універсальных сродкаў чалавечага ўсведамлення — параўнанні, супастаўленні новага прадмета з ужо вядомым і выдзяленні пры гэтым агульных іх уласцівасцей. У сувязі з гэтым метафару часта называюць эліптычным скрытым параўнаннем, у якім выражаюцца адносіны дадзенага калектыву (ці індывідуума) да аб'ектыўнай рэальнасці. Прывядзём некалькі прыкладаў, дзе адно і тое ж слова ў розных дыскурсах можа выкарыстоўвацца як у якасці параўнання, так і метафары:

| Параўнанне | Метафара |
|---|---|
| *Косця чмыхнуў, як **вожык*** (А. Якімовіч). | *Ах ты, **вожык** мой кругленькі. Што ты прывязеш мне?* (Л. Дайнека). |
| *«У паліцыю хулігана!» — быццам **гусак**, сіпеў і гагатаў айцец* (М. Гарэцкі). | *Ад імя адміністрацыі з палкай выкрывальніцкай прамовай выступіў арганізатар выхаваўчай працы, якога, з-за доўгай шыі, мы называлі гусаком. **Гусак** чытаў па-пісаным, штохвілі збіваўся* (В. Мудроў). |
| *Дурны мужык, як **варона*** (Ф.Багушэвіч). | *Дурны ты! **Варона**! Чаго трэшся па кутках, прасі іх, пакуль сходка не адбылася, а то позна будзе* (Л. Родзевіч). |
| *Ён сядзеў за сваім сталом надзьмуты, як **індык**, незадаволены* (А. Бароўскі). | *«Іш ты, стары **індык**, — падумаў Рыбак.— Яму ноч мяшае»* (В. Быкаў). |

| | |
|---|---|
| *Хударлявая, гнуткая, як* ***змяя****, яна, віхляючы сцёгнамі, наблізілася да гасцей* (В. Іпатава). | *«****Змяя*** *ты, і брат твой — падкалодны* ***змей****, і ўсё ваша кодла гадзючынае!» — крыкнуў скрозь слёзы Васіль* (А. Бароўскі). |
| *«Ну што ты, як* ***рыбіна****, маўчыш? Пра што была ў вас гаворка?» (*І. Шамякін). *Ён хапаў паветра, разяўляў рот, як* ***рыбіна****, выкінутая на бераг* (С. Давідовіч). | *«Так. Я* ***рыбіна****. Ну і што?»* (К. Травень). |
| *А хітры быў які! Як* ***ліса****!* (У. Дамашэвіч). | *Ох і ліса ты, Аксана, не* ***ліса****, а пантэра* (А.Бароўскі). |
| *А я іду нехлямяжа, нібыта палескі* ***мядзведзь*** (В. Зуёнак). | *Ды я ледзь пазнаў цябе,* ***мядзведзь*** *ты гэтакі* (П. Кавалёў). |
| *Яго судзілі і каралі з упартай мудрасцю* ***аслоў*** (В. Зуёнак). | *Дурні спадзяюцца на такую змову. Клюнуць на такое здольны мо аслы!* (П. Пруднікаў). |
| *Праўда, і сам цягне, як* ***вол****. Але ж і здароўе ў яго — на траіх* (А. Крэйдзіч). | *Цётка Настуля — жняярка і* ***вол*** (Я. Янішчыц). |
| *Не меў сяброў, адзін, як* ***ваўкалак****, Прабег сурова па няторным шляху* (А. Лойка). *Жыве, як* ***ваўкалак*** (А. Дзятлаў). | *Нашы хлопцы... захацелі напалохаць гэтага* ***ваўкалака****, бо ён амаль кожнаму насаліў* (М. Машара). *Маўчы, сынок, хіба ж ты яго [Мікодыма] не ведаеш, які ён у нас* ***ваўкалак*** (Р. Сабаленка). |
| *Я даўно ведаю гэту бабу: даволі скупаватая і дурная, як* ***бот*** *(*У. Караткевіч). *Дурная ты, як стаптаны* ***бот****!* (В. Быкаў). | *Набраўся ўчора,* ***бот*** *дурны!* (Н. Гілевіч). |
| *«Ды што ты, як* ***трашчотка****», — перабіў яе Мікола* (Л. Адамовіч). | *Ну і знайшоў сабе* ***трашчотку*** *гэты Грот* (І. Шамякін). |
| *Саноўны дуб пражыў, як* ***бервяно****. Даў дуба… Не ратуе чын ад смерці. Казалі: «Перастала біцца сэрца»* (Г. Ліхтаровіч). | *Ёй проста было цікава пабачыць, што ён за чалавек. «Ну і* ***бервяно*** *нейкае!» — сама сабе зазначыла панна Людміла* (Я. Колас). *Прастытутка!* ***Бервяно****! Вучыцца яшчэ ды вучыцца!* (В. Ткачоў). |
| *Дзяўчына — бы* ***ягадка*** *якая* (М. Танк). | *«Бывай,* ***ягадка****» — Косця памахаў рукою і пайшоў, насвістваючы* (А. Якімовіч). |

Найбольш часта другасныя намінацыі ўтвараюцца ад зыходных ЛСВ найменняў жывёл, якія адносяцца да ліку базавых і старажытных лексічных адзінак, характарызуюцца высокай частотнасцю ўжывання і здольнасцю да самых розных параўнанняў і атаясамліванняў, што ўзыходзяць да глыбінь свядомасці чалавека, яго вераванняў, традыцый і міфалогіі. У якасці зыходнай базы для зоамарфізмаў часцей за ўсё выступаюць заонімы (найменні жывёл) і арнітонімы (найменні птушак). Другасная семантыка зоамарфізмаў даволі часта развіваецца па прататыпічных сцэнарыях, якія адлюстроўваюць спецыфіку светаўспрымання носьбітаў моў, іх уклад жыцця, духоўна-культурны практычны вопыт. Жывёлы, уцягнутыя ў свет чалавечых асацыяцый і атаясамліванняў, выступаюць у якасці сімвалаў, эталонных носьбітаў тых ці іншых якасцей, якія ў адпаведнасці з прынятай у дадзеным соцыуме ацэначнай шкалой прыпісваліся чалавеку па пэўных характарыстыках паводзін, па разумовых здольнасцях, знешнім выглядзе, целаскладзе і інш. У адпаведнасці з гэтым сцэнарыем *асёл*, напрыклад, надзяляецца глупствам, тупасцю, упартасцю, *свіння* — неахайнасцю, непрыстойнасцю, *ліса* — хітрасцю, ліслівасцю і г. д. Прычым такія ўзоры-эталоны часта выяўляюць спецыфіку культурна-этычнага і сацыяльна-гістарычнага развіцця тых ці іншых супольнасцей і могуць не супадаць у розных мовах. Для прыкладу, *слон* у індыйскай моўнай свядомасці мае канатацыю вытанчанасці, грацыёзнасці рухаў, *воўк* у некаторых народаў Каўказа сімвалізуе адвагу і бясстрашнасць, *свіння* для народаў Індакітая — знак дабрабыту, *вярблюд* у арабскіх мовах — стэрэатыпны вобраз працаздольнага, цярплівага чалавека, слова *жук* у носьбітаў нямецкай мовы і культуры ўспрымаецца як квазіэталон прыгажосці. У структуры англійскага слова *bear*

поруч з асноўным значэннем ‘мядзведзь’ фіксуецца слэнгавы ЛСВ ‘паліцэйскі’, які адрозніваецца ад звыклага нам уяўлення пра няўклюднага, непаваротлівага дужага чалавека. Монасемічнае ў беларускай мове слова *дрозд* пры параўнанні з французскай мовай выяўляе характэрныя для гэтай мовы выразы *fin merle* ‘прайдзісвет’, *beau merle* ‘непрыемны чалавек’.

Зоамарфічныя метафары выконваюць экспрэсіўную функцыю і характарызуюцца высокай канататыўнай насычанасцю. Яны не столькі называюць чалавека, колькі вобразна, экспрэсіўна і ацэначна характарызуюць яго. Выкарыстоўваючы шырокі вобразна-асацыятыўны патэнцыял слова, яны праецыруюць якасці і ўласцівасці жывёл на чалавека і ў большасці выпадкаў носяць пеяратыўны, зневажальны характар. Пеяратыўна могуць ацэньвацца заганы чалавека, яго фізічныя і фізіялагічныя ўласцівасці (звычайна перабольшаныя, празмерныя). Зоамарфізмаў з меліяратыўнай (станоўчай) ацэнкай у колькасных адносінах значна менш.

Практычна кожны заонім можа лічыцца патэнцыяльным зоамарфізмам, які ў пэўнай маўленчай сітуацыі становіцца вобразнай характарыстыкай чалавека. Ядзернымі ў гэтай мадэлі з’яўляюцца метафарычныя пераўтварэнні па падабенстве ўнутраных прымет і якасцей: па псіхічным складзе, разумовых здольнасцях, маральна-валявых, сацыяльна-камунікатыўных якасцях і інш. У працэсе метафарызацыі могуць актуалізавацца наступныя прыметы:

1. Абмежаванасць, неразумнасць, някемлівасць, бязглуздасць. Падобнага роду ментальныя характарыстыкі часта суправаджаюцца ўказаннямі на ўпартасць, нерастаропнасць, нехлямяжасць: *баран, асёл, ішак, казёл* ‘тупы, някемлівы, упарты чалавек’, *авечка* ‘някемлівы, дурнаваты чалавек’, *цяцера* ‘някемлівы, няспрытны чалавек, разява’, *варона* ‘нерастаропны, нехлямяжы чалавек’, *сава* ‘не вельмі разумная жанчына’: *Другі баран — ні , «бэ», ні «мя», А любіць гучнае імя* (К. Крапіва). *Адзін з іх толькі швагер Мітрафан, На лаве стоячы, крычаў: «Баран! Нашто на сцены лезеш п’яным лбом!»* (М. Танк). *Божа, які асёл! Які ён асёл!.. Каб прыехаць адзін, усяго адзін толькі прыпынак, ён не сышоў следам за ёй... (*А. Васілевіч). *Гэта не вельмі прыемна, калі цябе выстаўляць гэткім вось даўгавухім ішаком* (У. Шыцік). *Гэтаму казлу ніяк не дакажаш, стаіць на сваім, хоць ты яго рэж* (І. Капыловіч). *Ой, дурненькая варона, Што з табой чыніці* (Я. Купала). *«Авечка ты! — кажу. — Ці ж у гэтым прычына? Адумайся, паварушы мазгамі»* (І. Грамовіч). *Ці ж мала ёсць такіх авечак? Ах, толькі смех глядзець на іх* (Я. Купала). *Ён называў яе неразумнай цяцерай* (Р. Сабаленка). *А што мне рабіць з гэтай дурной савой?* (Я. Маўр).

2. Злосць, каварства, уедлівасць, шкадлівасць, небяспечнасць: *змяя, яхідна* ‘каварны, злы, хітры чалавек’, *гадзюка* ‘небяспечны, шкодны, агідны чалавек’, *выдра* ‘злая жанчына’, *павук* ‘хітры, крыважэрны чалавек’, *пацук* ‘шкадлівы чалавек’, *клешч, крумкач* ‘небяспечны, шкодны чалавек’, *шашаль* ‘злы, уедлівы чалавек’: *Вось зараз, ідучы дадому, зайду да Мархвы, — у-у, змяя! — І пацуру ёй вокны (*У. Корбан). *Хіба з гэтай яхіднай можна гаварыць. Гатова ўсіх задушыць. Адно добра, што маўчыць (*С. Давідовіч). *Сціхні ты, гадзюка, сціхні (*З. Бядуля). *Хіба з гэтай выдрай можна ўжыцца? Бурчыць з раніцы да вечара* (І. Макаловіч). *Я шкадаваць не буду вас — Вас, павукі, у кім апошні праменьчык людскасці пагас* (Н. Гілевіч). *«Ненавіджу, павук! Ты думаў заблытаць мяне ў сваю павуціну», — яна паказала на прыгожыя пакоі* (І. Дуброўскі). *Гэта я хачу, каб ніхто не гаварыў, што мы толькі блытанікі, канторскія пацукі ці чарнільныя душы* (Я. Скрыган). *Ах ты, шашаль папяровы! Прыгадаем табе гэта* (А. Бялевіч). *Ён у навуцы — шкодны клешч: Сядзіць, упіўшыся, на шыі, Пакуль не лопне ў рэшце рэшт (*Н. Гілевіч). *На бяду нашаму калгасу амнісціравалі гэтага старога крумкача* (А. Бажко).

3. Прагнасць, жорсткасць, лютасць: *шакал* ‘прагны, драпежны чалавек’, *звер* ‘вельмі злы, жорсткі чалавек’, *воўк* ‘прагны, жорсткі чалавек; вораг’, *п’яўка* ‘жорсткі чалавек, эксплуататар, прыгнятальнік’: *Шакалаў подлых за мяжой арда*

*і ўласныя гіены — марадзёры* (У. Паўлаў). *Сафрон, раз'ятраны, звер зверам, плюхае ззаду з бізуном* (М. Ракітны). *Ваўкі маладыя, Я вас пазнаю: Ўсім скруціце шыю За ўладу сваю* (В. Зуёнак). *Беларускі народ не пакорны і лагодны. З ваўкамі ён умее гаварыць па-воўчы (*Я. Купала). *І як ні кляў ён гэту п'яўку, Ды мусіў даць рубля за спраўку* (Я. Колас).

4. Мізэрнасць, нікчэмнасць, агіднасць, подласць, варожасць: *гніда, смоўж, гад, гадзіна, чарвяк* 'агіднік, нікчэмны, гадкі чалавек', *выкармак* 'нікчэмны, подлы чалавек, выхаваны дрэнным асяроддзем': *Драпежнік! Нашто зганьбіў род людскі? Гніда! Ці ёсць табе апраўданне?* (У. Ліпскі). *Дарэмна стараецеся, гады! Падлюкоў сярод нас няма* (Я. Лецка). *«Ох смоўж, прыстасаванец!» — паківаў галавой дырэктар* (Г. Далідовіч). *Гора вам, гора! Калі вы... не растопчаце лютую гадзіну ў час (*М. Танк). *Хтосьці другі злосна сказаў: Сволач... Гітлераўскі выкармак. Каб мне ў рукі трапіў, сказаў бы (*А. Асіпенка). *Дык гэта ты прадаў Андрэя? Чарвяк ты няшчасны! Погань ты!* (І. Шамякін).

6. Балбатлівасць, языкастасць: *сарока* 'балбатлівы чалавек', *сакатуха* 'жанчына, якая многа гаворыць, балбатуха', *пустабрэх* 'пустаслоў, балбатлівы чалавек': *Прышла ты, сарока, выведаць, што ў хаце маёй робіцца* (З. Бядуля). *А гэту сакатуху нічым не спыніш. Балбоча і дзень, і ноч (*М. Корзун). *«А ты бабнік, — спакойна, без эмоцый сказаў Корнеў. — І пустабрэх» (*А. Масарэнка).

7. Крыклівасць, задзірлівасць: *певень* 'задзірысты чалавек, забіяка', *ёрш* 'няўступчывы, задзірысты чалавек', *вожык* 'колкі, з'едлівы чалавек': *«Певень ты задзірлівы», — сказаў Сцяпан на Харытончыка* (М. Гроднеў). *Ну і ёрш жа! З табою, я бачу, ні аб чым не дамовішся* (М. Лобан). *Ну, які ж яна, Тася, калючы вожык, калі ў яе такія шчырыя, ясныя вочы, такі светлы твар* (А. Бялевіч).

8. Маўклівасць, панурасць, дзіклівасць: *крот* 'скрыты, замкнуты чалавек', *сыч* 'маўклівы,ануры чалавек', *Што маўчыш, упарты крот?* (А. Дзеружынскі). *Злы сыч раз'ятрыўся не на жарт ад бесталковай валтузні на двары, зароў амаль дзікім голасам на паліцаяў* (У. Паўлаў).

9. Бязвольнасць, бесхарактарнасць: *цяля* 'занадта прастадушны, бязвольны чалавек', *ягнё* 'ціхі, пакорлівы, нясмелы чалавек', *слізняк, смоўж* 'бязвольны, бесхарактарны чалавек': *«Цяля! — у думках вылаяў сябе Кулік. — Ты здольны толькі паказаць дулю ў кішэні» (*І. Гурскі). *І ён, Отто, пакорлівае ягнё* (З. Бядуля). *А гэты слізняк абражае пачуцці, абражае Мальвіну, чыстую, як веснавое неба* (І. Дуброўскі). *Лаяў сябе: баязлівец, слімак; папракаў: так ніколі нічога не даб'ешся, — але саўладаць з прыкрай кволасцю не мог (*І. Мележ).

10. Баязлівасць, запалоханасць: *трус, заяц* 'баязлівец': *На ўсё сяло найбольшым трусам быў Мікола Гляк. Такога палахлівага і баязлівага чалавека, як ён, цяжка знайсці* (Я. Колас). *Ён жаўнеру... Свіснуў шабляй каля вуха, І з жаўнера мае зайца* (Я. Купала).

Непасрэдна да гэтай групы прымыкаюць метафарычныя характарыстыкі чалавека, што ажыццяўляюцца з пункту гледжання яго паводзін, маралі, адносін да іншых людзей. У аснову такіх метафар звычайна кладуцца наступныя прыметы:

1. Гультайства, лодарнічанне: *труцень '*дармаед, лодар; той, хто жыве за кошт чужой працы': *А гэты — труцень і шкоднік з сувязямі не маім раўня* (П. Шруб). *Ідучы праз залу рэстарана, Асташонак спыніўся каля афіцыянткі і гучна прамовіў: «Як вам не сорамна! На падачках у тых трутняў жывяце» (*М. Ваданосаў).

2. Высакамернасць, пагардлівасць, ганарыстасць, фанабэрыстасць: *гусь, шчыгол* 'пагардлівы чалавек, выскачка, хвалько': *«Бач ты, — падміргнуў Ярмоленка Сяргею. — Бач ты, які гусь знайшоўся»* (І. Сіўцоў). *Міхась зірнуў на Кудрыцкага і выпаліў: «Гэта ж шчыгол нейкі абскубаны, а не карэспандэнт»* (Р. Сабаленка).

3. Разбэшчанасць, распуснасць: *канарэйка, курапатка* 'неахайная, распусная жанчына', *выжла* 'легкадумная жанчына', *жарабец* 'распуснік, блуднік': *Сцяпук з папрокам сказаў камісару брыгады: «Разложыць ваша канарэйка мне атрад»*

(І. Шамякін). *Што ім, курапаткам, да Акцызніка. Яны на практыку прыехалі, хутка паедуць адсюль, забудуцца на ўсё* (І. Пташнікаў). *Ну, і дачка ... такая ж выжла!* (Н. Гілевіч). *Гэтага саракагадовага жарабца цяжка ўціхамірыць* (У. Клімовіч).

4. Хітрасць, лісліўасць: *ліс, ліса, лісіца* 'хітры, ліслівы чалавек', *жук* 'хітры, пранырлівы чалавек': *Ты стары ліс і хады ўсе ведаеш не горш за свайго пана, але параду маю паслухай* (А. Пальчэўскі). *Агата — гэта ж такая лісіца: міліцыянера вакол пальца абвяла* (С. Свірыдаў). *«Эх ты, брат, і жук», — у сваю чаргу разгадаў яго думку Міхал* (А. Васілевіч).

5. Назойлівасць: *авадзень, аса* 'назойлівы чалавек': *На якое ліха цябе прыпёрла сюды, авадзень паджары!* (М. Пянкрат). *Аса сапраўдная, так і кідаецца ў вочы* (Р. Мурашка).

6. Нявыхаванасць, няўдзячнасць: *свіння, свінчо* 'нявыхаваны, некультурны чалавек, няўдзячны чалавек': *Я навучу вас паважаць закон, смуродныя вы свінні* (Э. Самуйлёнак). *Ты, свіння! Так ты вартуеш?* (К. Крапіва). *Я добра разумею, што я няўдзячнае свінчо, што мне трэба змоўчаць* (А. Васілевіч).

Многія метафарычныя пераносы заснаваны на вонкавым (фізічным) падабенстве жывёл і людзей. У працэсе метафарызацыі актуалізуюцца наступныя прыметы:

1. Нязграбнасць, няўклюднасць, непаваротлівасць, паўната: *мядзведзь, цюлень, карова, гарыла* 'няўклюдны, непаваротлівы, тоўсты чалавек', *слон* 'моцны (часцей непаваротлівы) чалавек': *Ды я ледзь пазнаў цябе, мядзведзь ты гэтакі* (П. Кавалёў). *Суседскі слон учора ўчыніў бойку і жонцы, і гасцям* (У. Клімовіч). *Дырэктар — цюлень, ні богу свечка, ні чорту качарга* (А. Бажко). *Не выспіцца ўсё ніяк, мех гэты. Узваліцца гэткая карова на калыску* (К. Крапіва). *«Сапраўдная гарыла!» — казалі на яго тыя, хто першы раз бачыў гэтага чалавека* (А. Карпюк).

2. Дужасць, моц здароўя: *бугай, мядзведзь* 'здаровы, моцнага целаскладу чалавек': *І вось ужо дзіця падхапілі дужыя Жэневы рукі ці, як я яго клічу, алтайскага мядзведзя — выдатнага паляўнічага, добрага плыўца* (С. Законнікаў). *Чатыры такіх бугаі аднаму бандыту не маглі даць рады* (М. Машара).

3. Нізкарослаcць: *маляўка* 'чалавек маленькага росту': *Усе потым гавораць: «Ой, якая ты, Валюшак, маляўка побач з Жэняй!»* (У. Мехаў).

4. Вусатасць: *морж* 'вусаты чалавек, падобны да маржа': *Яго калючыя вусы прыходзілі ў такі пагрозны рух, што Майка ледзь стрымлівалася, каб не разрагатацца. «Морж, чысты морж», — думала яна* (М. Лынькоў). *Чаго ад маладзічкі морж вусаты дамагаецца?* (І. Аношкін).

5. Жвавасць, рэзвасць, гарэзлівасць: *страказа вавёрка* 'вясёлая, жывая, непаседлівая дзяўчына', *уюн* 'рухавы, жвавы чалавек': *Не маглі зрабіць так, каб гэтая страказа пачакала, паспела б* (У. Шахавец). *Кусай, мая вавёрка, харошая мая... Глядзі, над намі зорка* (А. Бялевіч). *Уюны нашы не могуць сядзець спакойна, усё завіваюцца ля стажорак* (А. Давыдаў).

6. Нерастаропнасць, марудлівасць: *варона* 'нерастаропны, нехлямяжы чалавек', *чарапаха* 'маруда': *Вароны вы! Паслаць за ім людзей і затрымаць*! (П. Глебка). *Гэтыя чарапахі яшчэ не хутка нас дагоняць* (Г. Васілеўская). *Мацвей, гэта чарапаха, ледзьве цягнецца следам* (У. Клімовіч).

Даволі часта ў якасці характалагічнай прыметы выступае сема 'ўзрост' (часцей малады): *шчанюк, шчаня, куранё* 'малады, неспрактыкаваны чалавек', *журавель* 'малады, неспрактыкаваны салдат', *жаўранак, жаба* 'дзіця', *жаўрук* 'гарэзлівае дзіця', *барсук* 'стары чалавек': *«Вон, шчанюк!» — жандар, схапіўшы Міколку за плечы, адштурхнуў яго за дзверы* (М. Лынькоў). *«Ах ты, шчаня, от я табе зараз, басяка кавалак. Гэта ты так на мацеру», — крычала яна* (М. Клебановіч). *«Бач ты фрукт! Яшчэ малако на губах не абсохла, а павучае ўжо, куранё»*, *— са злосцю сказаў начальнік (*Я. Каршукоў). *Адзін журавель, радавы, не*

*так падлогу памыў...* (Я. Брыль). *Духмянае сена стагую, Аж пот па спіне — што ручай. І спрытна малога страхую: Ты — жаўранак — мне выбачай* (С. Гаўрусёў). *Бесклапотны, гарэзны жаўрук — Я злятаю з бабуліных рук* (А. Пісьмянкоў). *Жабы вы малыя!* (С. Александровіч). *Ззаду, згорбіўшыся ў сук, клыпаў адстаўны барсук* (В. Вітка).

Вобразы драпежных жывёл і птушак, як правіла, не выклікаюць пазітыўнага ўспрымання ў свядомасці беларускага чалавека і асацыіруюцца з агіднымі, жорсткімі, прагнымі людзьмі, а таксама ворагамі, чужынцамі, захопнікамі: *Гітлераўскія* ***драпежнікі*** *вялі свой звярыны паход, захапляючы чужыя прасторы* (М. Машара). ***Шакалаў*** *подлых за мяжой арда І ўласныя гіены — марадзёры* (У. Паўлаў). *Будзем вешаць* ***гадаў*** *хітрых На высокіх на асінах* (М. Танк). *Браты беларусы! Вырвем не слязу, а кроў з фашысцкай* ***гадзіны*** *разам з вачыма, разам з паганай яе галавою* (Я. Купала). *Беларускі народ не пакорны і лагодны. З* ***ваўкамі*** *ён умее гаварыць па-воўчы* (Я. Купала). *Не чакаючы זораў, даў ходу у бамбасховішча,* ***Ведае****, псіна, што ад зораў ён гэтых загіне* (М. Танк). *Яму карцела разведаць: можа, і праўда Толя трапіў у лапы фашысцкіх* ***каршуноў*** (А. Якімовіч). *Усім вядома, што сусветныя* ***акулы*** *задушыць нас хочуць* (І. Гурскі).

Станоўчай канатацыяй у свядомасці беларускага чалавека адзначаны найменні птушак, якія выступаюць у якасці сімвалу свабоды, вольнасці, незалежнага перамяшчэння ў прасторы. Для характарыстыкі мужнага, адважнага, смелага чалавека беларускія пісьменнікі выкарыстоўваюць традыцыйныя асацыятыўныя сувязі слоў *арол (арляня), арліца, сокал (саколік): Арол! Ведае, чым узяць народ. За такім камандзірам кожны ў самае пекла пойдзе* (П. Машара). *Вось які той атаман наш, арол сізакрылы* (Я. Купала). *Колькі іх, арлянят [байцоў], з недалётам Склалі крылы свае назаўжды!.. (*П. Пруднікаў). *Была тваёй маладою журбою, Тваёй ахоўнай арліцай была* (Я. Янішчыц). *Ідзі, баец, ідзі, наш сокал ясны...* (П. Панчанка). *А хлопцы там — сокалы (*К. Цвірка). *Пастаўлю я кветкі на столік І ўспомню цябе, мой саколік* (А. Дзеружынскі).

Асновай зоамарфізмаў можа служыць падабенства эмацыянальных адносін. Вытворныя ЛСВ у такіх выпадках дэсемантызуюцца і не столькі характарызуюць асобу, колькі ў абагульняючай форме выражаюць ласку, сімпатыю, павагу да чалавека. Немалаважную ролю ў гэтым адыгрываюць інтанацыйныя сродкі, памяншальна-ласкальныя суфіксы. Такія формы часта выступаюць у сінтаксічнай функцыі звароткаў. Параўн. *галубка (галубанька, галубачка), голуб (галубок, галубочак*) 'ласкавы зварот да мужчыны, жанчыны', *ластаўка, рыбка, жаваранак* 'ласкавыя назвы жанчыны, дзяўчыны', *сокал ( саколік)* 'пра смелага, прыгожага юнака', *салавей (салавейка, саловачка)* 'прыгожы юнак', *зязюля (зязюлька, зязюленька)* 'ласкавы зварот да жанчыны': *Пра наша каханне, галубка, спявай — Пад ціхі твой спеў я засну* (М. Чарот). *Ой, дзевачкі, любанькі! Люблю, люблю вас, Я ў вашых, галубанькі, Сетачках увяз* (Я. Купала). *Устань, галубачка бяскрылая, Заспаны зоры-вочанькі патры* (Я. Купала). *Скажы лепш, голубе, куды ты мяне завязеш?* (У. Мяжэвіч). *А ты, галубок, не звяртай увагі. Дзяўчаты ўсе такія (*А. Асіпенка). *Не хадзі, мой сынок, у лясочак, не хадзі, любы мой галубочак!* (В. Рагаўцоў). *Што ж, ластаўка мая, ты скажаш?* (М. Танк). «*Ластаўка мая лёгкакрылая», — пачынала маці* (Ц. Гартны). *Маці ледзь чутна, бездапаможна шэпча: «Рыбка мілая, што ж табе даць?»* (Я. Брыль). *Кучарава-залатагаловы Суішыўся разанскі салавей* (Я. Янішчыц). *Цябе з цёплай усмешкай сустрэнуць бабулі, Скажа кожная з іх: «Салавейка ты мой»* (Л. Дайнека). *Праводзіла ночку: Быў са мною, Са мною саловачка — Прыгажун З кучаравай галовачкай* (А. Дзеружынскі). *Я час праводзіў з зязюляй Антанінай Пясецкай* (І. Козел). *Яна напамінае Зязюленьку тую, З якой я расстаўся даўно* (М. Танк). *Ах ты [Паўлінка], зязюлька мая ненаглядная* (Я. Купала). *Дык не ўцякай, няма спяшаць куды, Мой ранні жаваранак залаты* (М. Танк). *Не плач, не бойся, жаваранак мой* (М. Танк).

Зрэдку зоамарфізмы характарызуюць чалавека абагулена, без указання на якія-небудзь асацыятыўныя прыметы: *Мы, зрынутыя з гнёздаў вераб'і, лічылі вас [вёску Юравічы] радзімай і айчынай* (У. Верамейчык). *Жыў, любіў сіротку... Ночкі караталі. Песціўся з лябёдкай — Думкі ашукалі* (Я. Купала). *А ты,* ***арол****, глядзі — дзяўчыны ў рыбакоў не забяры* (М. Танк). *Зямля шаптала мне — ляці, Спяшайся, жораў ранні, Цябе чакаюць у жыцці Усе выпрабаванні* (А. Куляшоў).

У некаторых выпадках метафарычнае пераўтварэнне па лініі «жывёла→чалавек» грунтуецца на некалькіх прыметах, якія сумяшчаюцца ці напластоўваюцца адна на адну. За адным і тым жа метафарычным вобразам замацоўваюцца розныя прэдыкатыўныя характарыстыкі, якія актуалізуюцца ў залежнасці ад кантэкставага акружэння слова і мэтавай задумкі аўтара. У выніку такога роду сінкрэтычнай (комплекснай) матывацыі аднаму і таму ж аб'екту адпавядае розны змест, розныя сэнсавыя адгалінаванні, якія ў межах пэўнага інварыянтнага значэння дэталізуюць і ўдакладняюць сэнсавую структуру зоамарфізма. Напрыклад, у семантычны дыяпазон полісеманта *свіння* ўключаецца некалькі сем адмоўнага, уніжальнага характару: а) неахайнасць; б) нявыхаванасць, невуцтва, грубасць; в) непрыстойнасць, подласць; г) няўдзячнасць. Семантычную парадыгму субстантыва *ваўкалак* утвараюць 3 ЛСВ 'нелюдзімы чалавек', 'падонак', 'вораг-фашыст'. У розных кантэкставых сітуацыях могуць актуалізавацца тры розныя значэнні полісеманта *звер*: а) 'вельмі злы, жорсткі чалавек': *Сафрон, раз'ятраны, звер зверам, плюхае ззаду з бізуном і ім, як п'яны, — раз па Лукер'і, два — па Усціну.* (М. Ракітны); б) 'вораг, злачынец': *Ды прыйшлі к нам з чужыны звяры, Каб нас вешаць і грабіць двары* (А. Астрэйка); в) 'прагны да працы чалавек': *А ты, Змітрок, хлопец на ўсе сто. Нават з прысыпачкаю. І на працу — звер. Я таксама такі, але мяне распаліць трэба* (А. Савіцкі). У сэнсавай структуры полісеманта *мурашка* актуалізуюцца семы 'працавітасць' і 'капрызнасць': *І мурашка Палашка Сагнулася ў крук* (З. Бядуля). *Навошта мне абавязкова дагаджаць гэтай мурашцы?* (А. Бажко). Семантыка субстантыва *певень* можа суадносіцца з задзірыстым чалавекам, забіякам і выскачкам. *Жабай* называюць і хцівага, карыслівага чалавека і дзіця: *Праціўна гэтай слізкай жабе Раскрыць душу сваю ў бядзе* (Я. Колас). *Яшчэ ён [Данілка], жаба, будзе са мной абрыдацца!* (Я. Купала). *Жабы вы малыя!* (С. Александровіч).

У асобных выпадках характаралагічныя параметры метафары дасягаюць сваёй мяжы і выражаюць як станоўчыя, так і адмоўныя якасці і ўласцівасці чалавека, утвараючы яркія энантыясемічныя канструкцыі, параўн.: *сабака* — разумны, верны, адданы — злы, подлы; *змяя* — хітрая, каварная, злая — мудрая, разумная; *мядзведзь* — нязграбны, няспрытны, нявыхаваны — добры, спагадлівы. Такія шырокія характаралагічныя параметры метафар абумоўлены шырынёй іх кантэкставага ўжывання, яркай вобразнасцю, мнагапланавасцю зместу.

З мэтай дасягнення пэўнага эфекту, узмацнення ўражання і канцэнтрацыі ўвагі на неабходных, сэнсава вядучых словах выкарыстоўваецца прыём градацыйнага нанізвання зоамарфізмаў, які дазваляе аўтарам стварыць выразны «гіпербалічны малюнак». На кампазіцыйным узроўні метафары нараджаюць ланцужковыя намінацыі, якія робяць тэкст рэзкага адмоўнага зместу даволі злітным, непарыўным і эмацыйна насычаным: «*Ну і* ***змяя****, ну і* ***гадзюка****!»,— думаў Пятрок, знясілена точачы ў жвір рыдлёўку (*В. Быкаў). *«****Змяя*** *ты, і брат твой-падкалодны* ***змей****, і ўсё ваша* ***кодла гадзючынае****!» — крыкнуў скрозь слёзы Васіль* (А. Бароўскі). *Усе ненавідзяць вас, бо вы* ***п'яўкі, крывасмокі*** (М. Лынькоў). *Гэтых людзей, чортава насенне, ён называў* ***павукамі, трутнямі, п'яўкамі*** (Ц. Гартны). «***Гад, звер, псіна, гніда, змей падкалодны****,* ***скула*** *паршывая, павесіць бы цябе на асіне», — караў цяпер сябе Халікаў, успомніўшы тое паскудства* (В. Хомчанка). *Разлюбіла я яго даўно…такі* ***вол, такі мядзведзь****… нудны, стары…* (Э. Ажэшка).

Часам у купалаўскім дыскурсе можа ствараецца яркі антанімічны малюнак са словамі *слон* і *моль*, дзе проціпастаўляецца моц і магутнасць з эгаістычнасцю і

карысталюбівасцю чалавека: *Вось так хлопец, вось так ён, Слухай яго, голь! На славах — магутны* ***слон****, А на дзеле —* ***моль*** *(*Я. Купала).

У межах аднаго тэкставага кантынуума зоамарфізмы (як правіла, пеяратыўныя) могуць характарызаваць не адну, а некалькі асоб і тым самым ствараць сэнсавую двухпланавасць дыскурса, яго расчляненне на некалькі галоўных частак: *Там баба — хітрая, як ведзьма, І ёй да пары —* ***псюк*** *стары. Ну, і дачка ... такая ж* ***выжла****!* (Н. Гілевіч). «*Ты задзірысты* ***певень****. — А ты рыжая* ***курыца****», — яна бяскрыўдна засмяялася* (І. Шамякін).

У стварэнні вобразнага пеяратыўнага малюнка могуць удзельнічаюць як зоамарфізы, так і другасныя намінацыі іншых тэматычных груп: *«А ты —* ***асёл****!* ***Баран****!* ***Абэлтух****!» — Кураглядаў схапіў земляка за грудзіну, але той ужо не збаяўся яго гневу* (Г. Далідовіч). *А я проста* ***цацка*** *ў матчыных руках, бязвольная* ***амёба*** (А. Бязлепкіна).

У якасці сферы-донара для анімістычных намінацый традыцыйна выступаюць найменні артэфактаў, якія асэнсоўваюцца як вынік стваральнай дзейнасці чалавека, яго імкненняў пераўтварыць і ўдасканаліць аб’ектыўную рэчаіснасць, дзе праца разглядаецца як дзейсная канцэптуалізацыя свету. У зыходнай артэфактнай зоне аказваюцца такія сферы, як прадметы быту, посуд, адзенне, абутак, галаўныя ўборы, прадукты харчавання, ежа і інш.

Часцей за ўсё артэфактныя метафары характарызуюць асобу з пункту гледжання яе вонкавага выгляду. Так, на паверхневым семантычным узроўні высвятляюцца сувязі тоўстага, непаваротлівага, няўклюднага, нязграбнага чалавека з мехам, мяшком, торбай, сяннікам, кулём, скрыняй, тумбай, кругляком, цыферблатам: *Абодва вы кавалёвыя мяхі, непаваротлівыя* (Я. Купала). *«Мяшок, а не камандзір», — ідучы па алеі, думаў Ахтан* (А. Алешка). *«Не мог знайсці якога праходу, торба»,— вылаяўся ў думках сяржант* (В. Быкаў). *Эй ты, там, торба з кутасамі! Якога чорта гэта смаліш?* (Я. Колас). *Таўстапузы сяннік, калі ты ўжо лопнеш?* (А. Якімовіч). *Ішла сялом, шапталі ўслед: «Кулёма! Не дзеўка, а саломы куль»* (Р. Баравікова). *Бургамістр... гыркнуў на сваю палавіну: «Чаго фыркаеш, скрыня? Ці ім, панам афіцэрам, скакаць з вамі, тумбамі!»* (М. Лынькоў). *Але гэта яшчэ дзед быў! Ружовы, белабароды кругляк. Родам з вёскі Шыі, з суседняга раёна* (М. Ракітны). *Цыферблатам дражнілі за круглы твар* (І. Грамовіч).

Той жа кірунак вонкавападабенчых метафар назіраецца ў «хлебабулачных» найменнях *бохан, пампушка (пампушачка),* якія характарызуюць тоўстых, пульхных, падобных да пышных булак людзей: *Твайго Яраша возіць мой бохан на машыне. І яны не прыязджаюць пустымі* (І. Шамякін). *І вось яна, круглатварая пампушка, перад ім* (У. Паўлаў). *І з-за чаго гэтая прыгожая пампушачка Аліса кінулася на яго, як тая муха на паперу-ліпучку* (Р. Сабаленка).

Для наймення худога, слабага, нямоглага чалавека часцей за ўсё ўжываюцца назоўнікі з першаснымі значэннямі ‘непрыгодная, паламаная рэч; рэшткі разбуранага збудавання; абломак гнілога, спарахнелага дрэва; цень; шкілет’: *Сядзець дома склаўшы рукі яна [Рэня] ужо не магла. Хіба яна зломак?* (І. Сіняўскі). *Сам я пакуль што не зломак, на пенсію не збіраюся* (Т. Хадкевіч). *З моцнай і стрыманай жанчыны, якую ніхто не адважваўся нават назваць старой, атрымалася руіна, для якой не існавала ні мінулае, ні будучае (*А. Карпюк). *Ты дужы, малады, прыгожы. Не тое што я — камель парахнявы* (В. Давыдзенка). *Як ён [Косця] зблажэў і аслабеў! Проста не чалавек, а цень* (М. Ваданосаў). *Хворы, абяссілены, ён ператварыўся ў цень* (У. Клімовіч). *Яшчэ жыве душа ў шкілеце гэтым, Які абцягнуты скураю сухой* (А. Бялевіч). У некаторых выпадках у ЛСВ ‘худы, слабы чалавек’ адзначаецца дадатковая сема ‘стары, лядашчы’, якая адначасова характарызуе асобу і з пункту гледжання яе ўзросту, параўн.: *ламачча* ‘старыя непатрэбныя рэчы→стары, хворы чалавек’, *парахня* ‘парахня, струхлелае дрэва→ стары, лядашчы чалавек’. Слабы, нікуды не варты чалавек часам параўноўваецца

са зносакам (маленькім, звычайна апошнім, курыным яйкам): *А мы зноскі якія, ці што? Не здолеем абсадзіць якіх дваццаць—трыццаць кіламетраў* (У. Дубоўка). *Вы не зломкі, вы не зноскі, — Вы народ магучы* (Я. Купала).

У назоўніка *баравік* развіліся меліяратыўныя ЛСВ, у якіх актуалізуюцца семы ‘моц, сіла, здароўе’, а таксама ‘таленавітасць, павага’: *Каржакаваты, моцны — сапраўдны баравік — Сярод зялёных хлопцаў ты нечакана ўзнік* (М. Гудкова). *Сярэдні хлопчык, чарнавокі баравік, узрадаваўся і бразь лыжку аб стол* (Я. Ермаловіч). *А. Луцкевіч — гэта магутны баравік на ўзлессі сярод простых баравікоў* (М. Машара).

Пераносны ЛСВ ‘высакаросла чалавек’ адзначаецца ў полісемантаў *стаўбун, сухастоіна, чапяла*: *Каб у яго быў бацька, дык, можа, Віця быў бы большы і за гэтага стаўбуна Кастуся* (А. Марціновіч). *Ён дзеля грошай ажаніўся з гэтай сухастоінай* (А. Кулакоўскі). *Худы выцягнуты твар, некалі прыгожы, з гарбінкай, а цяпер доўгі нос ператварылі Мішку ў чапялу* (І. Стадольнік).

Некаторыя метафарычныя найменні па вонкавым выглядзе не вельмі распаўсюджаны і прадстаўлены адным-двума прыкладамі. Традыцыйна анімістычным пераасэнсаванням падвяргаюцца назвы тых дэнататаў, якія сваім вонкавым выглядам нагадваюць чалавека ці часткі яго цела: *Можа, пісар у штабе і помніў прозвішча, а мы яе звалі проста* ***пупышкай*** *— ростам яна маленькая была* (М. Гроднеў). *Бог і рубельчыкам, і тым, і сім не абмінае. Я не такая* ***крывуля****, як ты!* (З. Бядуля).

Вялікую па колькасці групу ўтвараюць метафары, якія характарызуюць асобу з пункту гледжання яе псіхічнага складу, разумовых здольнасцей, рысаў характару. Даволі пашыранымі ў гэтай групе з’яўляюцца найменні дурнаватага, недалёкага, някемлівага, бязглуздага чалавека. Метафарычныя пераасэнсаванні, як правіла, ажыццяўляюцца за кошт прыцягнення кампанентаў тэматычных груп, звязаных з назвамі розных прылад працы (сякерай, касой, бязменам, калуном, абухом і інш.): *Вось той бязмен — прыродны лорд, ад пыхі ажно пеніцца* (Я. Сеняжон). *Ёсць талентаў багата ў народзе, Ды росту іх часам шкодзяць — калуны!* (Э. Валасевіч). *І гэты абух разумее, што ў хаце яго бацькі не жыццё, а пекла* (А. Чарнышэвіч). *Шчыра скажу табе, хаця я і не думаю цябе падбухторваць, але твой рэжысёр абух абухом* (Л. Гаўрылкін). *З чыноўніцай магло такое быць. Ну што вы хочаце з яе, тупіцы!* (У. Корбан). *Гэты балван, перад якім ён спавядаўся, перабіў яго* (С. Яновіч). *Вот надаўбень той… упрэцца, як конь папоўскі — ні тпру ні но…* (М. Лынькоў). *«Ну, папаўся, галавешка? Не паслухаў?» — сказаў са злой радасцю Тыталь* (І. Мележ).

Другасныя пеяратыўныя ЛСВ рэгулярна адзначаюцца ў так званай «дрэвавабервяной» групе і яе лексічных прадстаўніках *цурбан* ‘кароткае бервяно, абрубак дрэва; пра някемлівага, неразумнага чалавека’, *доўбня (даўбня)* ‘вялікая палка з патаўшчэннем на канцы; пра няцямкага, дурнога чалавека’, *даўбешка* ‘цяжкае палена; невялікая доўбня; тупы, няздольны чалавек’, *дубіна* ‘тоўстая (звычайна дубовая) палка; тупы, неразумны чалавек’, *слуп* ‘бервяно, тоўсты брус, умацаваныя вертыкальна ; недалёкі, тупы чалавек’, *палена* ‘кавалак распілаванага і рассечанага бервяна на паліва; тупы, дурнаваты чалавек’, *цяльпук* ‘кароткі тоўсты кавалак дрэва, калодка; нязграбны, непаваротлівы, няўклюдны чалавек’, *трэска* ‘шчэпка; легкадумны, пусты чалавек’: *Трэба было быць цурбаном, каб не заўважыць іхнія ўхмылкі, як яны моўчкі, з падціснутымі губамі, паглядалі адна на адну* (М. Ракітны). *Трэба ж было таму дурню надумацца лавіць павука акурат у гэты час. Даўбня, а не даследчык!* (П. Галавач). *Даўбешка часам пост займае І марыць, што яна — свяціла, карыфей* (Э. Валасевіч). *Турак ты дурнаваты. Дубіна. Ну, з табой не засумуеш* (А. Крэйдзіч). *Вось утаропіўся, як баран на новыя вароты. Галавы не можа павярнуць, слуп гэткі* (І. Шамякін). *А мне, думаеш, падабалася, як ты да дзяўчыны сватаўся? Ды я ж, можа, не палена* (І. Гурскі). *Смешна ўспомніць, але я, цяльпук і маўчун, тады гаварыў і гаварыў, мо таму,*

*што так хараша мне было ў той час* (А. Ус). *А вы думалі усё з трэскамі справу мець будзем?* (М. Сергіевіч).

Семантычна роднаснай з папярэдняй з’яўляецца група, другасныя ЛСВ у якой арыентаваны на выражэнне маладасведчанасці, адсутнасці добрых ведаў у якой-небудзь галіне. Людзей з такімі якасцямі могуць называць хамутом, лямцам, аскалёпкам: *Са мной Ігар нават гаварыць не хацеў — лічыў мяне проста вясковым* ***хамутом*** (Б. Сачанка). *Будуць бэсціць і кпіць: Во няздара! Не змог навучыцца гаварыць «языком»! Во тупіца! Вясковы* ***хамут****!* (Н. Гілевіч). *Ці даўно яму самому, калі вучыўся ён у семінарыі, крычалі мешчанчукі:* ***«Лямец, лямец****! На якой бярозе ты лапці павесіў?»* (Я. Колас), *Сітоў пасмяяўся з маіх страхаў: «Хведар проста некультурны.* ***Аскалёпак*** *старога Зарэчча»* (А. Асіпенка).

Другасныя намінацыі развіваюцца ў субстантывах, якія называюць прадметы, што круцяцца, верцяцца, утвараюць пэўныя гукі, могуць трашчаць, скрыпець, звінець, якімі даволі інтэнсіўна і мнагакратна ўздзейнічаюць на аб’ект. Як правіла, у такіх ЛСВ увага акцентуецца на тых людзях, якія многа і абы-што гавораць, балбочуць, не ўмеюць дакладна і акрэслена выразіць думку: *балаболка* ‘бразготка, якую чапляюць жывёле на шыю; пра таго, хто хутка, многа і абы-што гаворыць’, *балабон* ‘кругленькі званочак у выглядзе шарыка; балбатун, пустаслоў’, *трашчотка* ‘прыстасаванне для ўтварэння трэску, шуму; балбатун (балбатуха)’, *трапло* ‘прылада, пры дапамозе якой трэплюць лён; чалавек, які гаворыць лухту, бязглуздзіцу, многа гаворыць’, *мянташка* ‘наждачная лапатка, якой востраць косы; хто многа і без толку гаворыць’: *«Балаболка ты», — сказаў Будрыс* (У. Караткевіч). *Ты проста звычайны паршывы балабон* (У. Караткевіч). *Ну і знайшоў сабе трашчотку гэты Грот* (І. Шамякін). *Лахудра, змыйся, трапло, каб паху твайго не было!* (М. Лынькоў). *Шкада, што мянташкам Там-сям давяраюць І волю даюць Языкамі мянціць* (У. Корбан).

Амаль тоесная другасная намінацыя развіваецца ў найменнях артэфактаў *млын, матавіла, памяло: Што табе скажа гэты пусты млын* (К. Крапіва). *«Матавіла ты, — плюнуў Асыка і адышоў далей, сеў каля Матвейцава. — Толькі і ўмее мянціць языком»* (В. Хомчанка). *Ім пшаніца, ім мучыца, А ў нас — не тут было! Як мне жыць з табой, дурніца. Цьфу! Сівое памяло* (С. Дзяргай).

Акцэнтацыя на такіх адмоўных якасцях, як зменлівасць, рэзкая змена поглядаў, адсутнасць уласных перакананняў, назіраецца ў беларускіх полісемантах *флюгер* ‘рухомае прыстасаванне, якое паказвае кірунак ветру; пра непастаяннага чалавека, які хутка мяняе свае погляды і перакананні’, *марыянетка* ‘тэатральная лялька; чалавек, які слепа дзейнічае па волі іншых’, *цацка* ‘прадмет, прызначаны для гульні дзецям; той, кім распараджаюцца па ўласным жаданні дзеля пацехі’: *«Ну і флюгер!» — ужо без злосці і абурэння падумаў Шыковіч* (І. Шамякін). *То і яна, як усе скрозь, проста пешка, проста марыянетка ў нечыіх спрытных руках, якой адно і дазволена — пачуваць сябе зрэдчас задаволенаю* (Т. Бондар). *Бывае, чалавек усё жыццё сваё, увесь век нікчэмнай цацкай пражывае (*У. Корбан).

Да гэтай жа групы прымыкаюць назоўнікі *пустышка*, *фінціклюшка*, *круцёлка*, *свісцёлка*, у якіх увага акцэнтуецца на легкадумнасці, несур’ёзнасці чалавека: *пустышка* ‘гумавая соска для груднога дзіцяці; пусты, легкадумны чалавек’, *фінціклюшка* ‘цацка, упрыгожанне; пустая, несур’ёзная жанчына, якая думае толькі пра ўборы і гульні’, *круцёлка* ‘прадмет ці прыстасаванне, якія круцяцца; легкадумны, ветраны чалавек (пераважна пра жанчыну)’, *свісцёлка* ‘музычны інструмент, свісток; балбатуха’: *Калгаснікі яго не паважалі. «Пустышка, балабон... » — казалі* (У. Корбан). *Яна [Вольга] мяне гэтымі днямі здумала вучыць — фінціклюшка* (П. Пестрак). *Круцёлка языкатая!» — не першы раз падумаў цяпер Яўхім, ступаючы побач з возам* (І. Мележ). *Разводка быццам бы... Але па ўсім відаць, што не свісцёлка. Да ўсіх з павагай у сяле* (Н. Гілевіч).

Для намінацый адсталага, некультурнага, дурнаватага чалавека выкарыстоўваюцца «абутковыя» метафары *лапаць* ‘сялянскі абутак; пра адсталага некультур-

нага чалавека’, *бот* ‘скураны абутак з высокімі халявамі; дурань’, *халява* ‘частка бота, яка закрывае нагу ад ступні да калена; дурнаваты, някемлівы чалавек’: *Ты ж, браце, на філасофіі зубы з’еў, а я як быў лапцем, так і застаўся (*А. Рыбак). *Гэта бот, разумееш, звычайны бот. Сляпая нянавісць пазбавіла гэтага ідыёта ўсякага розуму* (М. Лынькоў). *Дзіравая ты халява. Вось што. Нічога не разумееш* (Р. Няхай).

Вытокі другасных анімістычных ЛСВ назіраюцца ў фітанімічных намінацыях. Канцэптуалізацыя фітанімічнай сферы ў розных лінгвакультурах з’яўляецца адной з найбольш традыцыйных па прычыне таго, што веды і ўяўленні пра свет прыроды выкарыстоўваліся пры асэнсаванні розных аспектаў быцця чалавека. У беларускай мове другасныя анімістычныя ЛСВ развіліся ў субстантывах *дуб, пень, мухамор (мухаморына), пустацвет, чартапалох*. Полісемант *дуб* у моўнай карціне свету выступае не толькі сімвалам крэпасці, моцы, але і тупасці, глупства: *дуб* ‘лісцевае дрэва; высокі, моцны чалавек; тупы, неразумны чалавек’: *У Жарстака было сем сыноў, і чацвёра з іх такія ж дубы, як і бацька* (Я. Колас). *Старшыня будкома з абурэннем зазначыў: «Ну і дуб, што ты пляцеш?»* (Л. Гаўрылкін). *Я так і знаў!.. Дубы!.. Разявы!.. Ад гневу ажно лоб узмок* (А. Бачыла). Як відаць з прыкладаў, у структуры полісеманта *дуб* выкарыстоўваюцца энантыясемічныя ЛСВ: у адным выпадку ўвагу акцэнтуецца на высокім росце і сіле чалавека, у другім выпадку — на разумовай абмежаванасці.

Другасныя ЛСВ полісеманта *пень* утвораны ў выніку актуалізацыі прымет ‘бесталковасць’, ‘старасць’ (апошняя прымета рэалізуецца ў выразах з ад’ектывам *стары*): *Няўжо ты такі пень, што не разумееш?* (І. Навуменка). *Нядрэнна зарабляе гэты пень, хоць ад яго карысці мала* (У. Корбан). *Таго не прыкмеціў, стары пень, што дачка здарожылася* (А. Савіцкі). *Ходзіць да маладзіцы Пень стары маладзіцца* (А. Дзеружынскі).

Фітонімы *пустацвет, мухамор (мухаморына), чартапалох* характарызуюць пустога, злога, уедлівага, часам небяспечнага чалавека: *Сёння пустацвету развялося многа, маладыя, здаровыя, а рабіць нічога не хочуць, ніякай карысці не прыносяць, толькі грошы ім давай* (У. Шыцік). *Пустальга ты несусветная, ні ў таты, ні ў сваты — пустацвет той гарбузны…* (М. Лынькоў). *Ён злосна хахакнуў і з едкім смехам забубніў: «Ну і шалахвост... Ну і мухамор... Чаго ён так узгарэўся?»* (М. Ракітны). *Пасмейваюцца, маўляў, мухамор, відаць, і ноччу не спіць, бо калі б ні прачнуўся, ён у любы час на нагах* (А. Крэйдзіч). *Ах, паганка! Ах, мухаморына! Ашукаў! Нас а шукаў!* (А. Якімовіч). *Чаго ён, гэты чартапалох, да цябе заўсёды чапляецца?* (М. Машара).

Быстрага чалавека, жэўжыка, гарэзу некаторыя пісьменнікі параўноўваюць з агнём, мяцеліцай: *А дзяўчаты — **агонь*** (У. Корбан). *А твая — дык гэта ж нейкі **агонь**. Адкуль ты да яе прыступішся (*Я. Ермаловіч). *Была дзяўчынаю, была красуняю, Была **агонь**!..* (А. Гарун). *«Пачакай, **мяцеліца**!» — спыніла яе наборшчыца Валя Козел* (М. Лобан). Сэнсавыя структуры такога роду слоў даволі часта ўскладняюцца дадатковымі семамі ‘нецярплівасць, запальчывасць’, параўн.: *Сярод іх быў Апанас Хмель, чалавек нецярплівы, словам, — **іскра, порах*** (П. Пестрак). *А Міхал — гэта ж **кіпень**, здаецца, вось-вось са скуры выскачыць* (А. Васілевіч).

Для характарыстыкі слабавольнага, бесхарактарнага, нерашучага чалавека выкарыстоўваюцца асобныя назвы ежы: *кісель* ‘кіслая студзяністая страва; млявы, слабавольны чалавек’, *размазня* ‘рэдкая каша; нерашучы, слабавольны чалавек’: *Бялецкі і сімпатычны хлопец, але размазня і рамантык, таму суперменам яму ніколі не стаць* (В. Кадзетава). *«Мне толькі і засталося іншым парады даваць», — сказаў ён змрочна і ўпіўся вачамі ў наскі сваіх белых шкарпэтак. — Таму што быў размазня. А ў кожнай размазні заўсёды прамашкі* (М. Ракітны). *Пастух Пецька Бурбалка — кісель і плакса з вечна вільготным чырвоным носам* (А. Васілевіч).

У гэтым жа другасным значэнні выкарыстоўваюцца назоўнікі *ануча, панчоха, спадніца, бервяно, лопух: «Ануча, а не чалавек», — засупярэчыў Галаскок*

(К. Крапіва). *Шэлег, як выявілася, быў анучай* (І. Навуменка). *У Рывіна поўная крама людзей. Кічын не паспявае мераць, нават Мармур — такая панчоха, і той прадае* (А. Чарнышэвіч). *«Маўчы, бабская спадніца. Сам бачу, хто ёсць хто. Але партыю не чапай мне, зразумела?» — спахмурнелы бацька ледзь не тупаў нагамі* (А. Ветах). *Ёй проста было цікава пабачыць, што ён за чалавек. «Ну і бервяно нейкае!» — сама сабе зазначыла панна Людміла* (Я. Колас). *Дачка... на просценькіх з насмешкаю мармыча: «Лапухі»* (П. Панчанка).

Розныя асацыяцыі кладуцца ў аснову пераасэнсаванняў кампанентаў іншых тэматычных груп, метафарычныя дэрываты якіх называюць прыдзірлівага, сварлівага (злоснага), дакучлівага чалавека:

● Прыдзірлівы, сварлівы, уедлівы чалавек: *«Ах, і **стрэмка** ж ты, дзядзька Яўтух! — думаў я, слухаючы ўсё гэта. — **Перац**!»* (А. Бялевіч). *Ну і **піла** ў цябе! [жонка] Ніколі не бачыў, каб не бубнела* (У. Клімовіч). *Пабіў у сваёй хаце вокны, міскі, гаршкі. Нікому не давала спуску **качарга*** (Я. Колас). *«Ох, і **калючка** ты», — папракнуў Алесь* (У. Шыцік). *Вось Арцюшок — о, гэта **скула**! Ну і шкадлівы ж быў, хамула* (Я. Колас). *«Я ведаю гэту Жаваранкаву, я на яе даўно зуб маю! У-ух, **язва**!» — прашыпеў Куцак* (М. Гутковіч). *Пакідаць яго старшынёю нельга, гэта відавочна, але ж на якую работу паставіць такую **балячку**?* (І. Дуброўскі).

● Назойлівы, надакучлівы чалавек: *«Ну і **смала** ж ты! — бурчыць. — Прычапіўся са сваім першачком...»* (М. Ракітны). *Адчапіся, **слата**, у горле перасохла. Прадзі вось лепш, а то бацька будзе без кашулі* (Я. Брыль). *«Сам ты **мухалоўка**», — не хацеў заставацца ў даўгу Паўлік* (П. Беразняк).

Невялікую групу складаюць субстантывы, арыентаваныя на выражэнне разумовых і прыродных здольнасцей чалавека, яго таленту. Метафарызацыі падвяргаюцца найменні каштоўных камянёў і свяціл: *Расказваў нейкі Васюкоў пра аднаго **самародка** з талентам ад прыроды* (М. Хведаровіч). *Аляксандр Сяргеевіч Пушкін — сапраўды, **сонца** рускай паэзіі, і пад гэтым сонцам, як і пад сонцам Купалы ды Коласа, нам цёпла і хораша* (Г. Далідовіч). *За абарону ў гэтым працэсе бяруцца такія **свяцілы** варшаўскай адвакатуры, як Смяроўскі, Бабінскі, Гронгвіль* (М. Машара). *Ён лічыўся **свяцільнікам** навукі* (М. Клімковіч).

У асобную групу вылучаюцца другасныя ЛСВ з характарыстыкай асоб па іх паводзінах, маралі, спосабу жыцця, дзеяннях і ўчынках. Часцей за ўсё актуалізуюцца наступныя прыметы:

1. Няўмеласць, няздатнасць, непрыстасаванасць да жыцця: *Івана суседскага сын у начальніках ходзіць. А ты [Сяргей], што ты? Гнілы **корак** ад пустой бутэлькі* (М. Лынькоў). *От жа гад печаны, і ў каго ён удаўся, гэтакі **выбоіна*** (Р. Сабаленка).

2. Гультайства, лодарнічанне, абібоцтва: *Так запусціць зямлю нядбала? Не гаспадар быў, а **завала**!* (Я. Колас).

3. Прадажнасць, небяспечнасць, подласць, карысталюбства: *«Не туды твае слёзы цякуць, паліцэйская **скура**», — сказаў швагер* (Я. Брыль). *Сволачы яны, **скуры** прадажныя* (Я. Колас). *«Прадажная **шкура**», — падтрымала ўрача Вікторыя Рубец* (І. Новікаў). *І сапраўды, акінуўшы вокам удзельнікаў нарады, можна было ўпэўнена сказаць, што сярод прысутных **смецця** не было* (М. Хведаровіч).

4. Прыслужніцтва: *Што пхаешся, панская **падэшва**?* (Я. Колас).

5. Прыкрасць, агідлівасць, непрыемнасць: *Ой, абармот жа, абармот! Забіць бы гада, ды за плот. Як носіць свет такую **плягу*** (Я. Колас). *«Ах ты, **труба** выхлапная!» — не стрываў Іван і зноў памкнуўся да Бандарчука* (А. Капусцін). *І давядзі справу да канца так, каб праз некалькі дзён гэты стары **смурод** узяў цябе замуж* (К. Чорны).

5. Абжорлівасць, прагнасць да яды: *Калі Яўмен выходзіў з хаты, Тарас Тарасавіч пляваў услед: «Жываглот, крывабокая **прорва**, яму ўсё мала»* (А. Асіпенка). *«Вось табе, **прорва** ненаедная, ненасытны панскі трыбух!» — крычаў ён* (В. Вітка).

6. Распуснасць, маральная разбэшчанасць, непрыстойнасць: *I як у насмешку, першага, каго я сустрэў — нямецкая* ***падсцілка****. Нездарма ж яна прывяла мяне сюды, ды яшчэ разыгрывае чысценькую праведніцу* (А. Асіпенка). *Прастытутка!* ***Бервяно****! Вучыцца яшчэ ды вучыцца!* (В. Ткачоў).

7. Кручкатворства, бюракратызм: *Там гэтакі сядзіць* ***кручок****, што да яго — не падступіцца* (Э. Валасевіч).

Чалавека высокіх маральных і душэўных якасцей, храбрага, адважнага, мужнага, часцей называюць крэменем, гранітам, золатам, светачам: *Гэты [Дубадзел] — цвёрды, гэты —* ***крэмень****, барацьбіт* (І. Мележ). *Мы ўсе адзіны, — непераможны* ***граніт*** (Я. Колас). *«Братка ты мой! — гаворыць адзін. — Твой Алесь* ***золата****, а не чалавек»* (Я. Колас). *На разняволенай зямлі Шлях асвятліў нам* ***светач*** *вечны: І правадыр, і Чалавек, І мудры, і сардэчны* (Я. Пушча).

Вылучаецца група субстантываў, у якой другасныя ЛСВ характарызуюць асобу з пункту гледжання яе ўзросту.

Для найменняў старога чалавека выкарыстоўваюцца полісеманты *корч, вываранень, грыб, лунь: Так, я таксама стары* ***корч****, іншы стаў. Ледзь што — ах, ах, сэрца* (І. Мележ). *Каму патрэбна твая балбатня? Ды хто ты такі ёсць, стары* ***корч****?* (В. Вітка). *«Як жа гэта я, стары* ***вываранень****, не мог змікіціць?» — гадаў Каўрыжка* (М. Пянкрат). *З гэтым* ***грыбам*** *хіба можна кашу зварыць, не разумее ён нас, маладых* (А. Асіпенка). *Каб пачуў, як жыве стары бацька — сівенькі* ***лунь*** (М. Чарот). *Хоць галавой —* ***Лунь*** *белы — Ў гусляра, Ды гэта ўсё ж Не тое падабенства* (М. Мятліцкі).

Малады, неспрактыкаваны, нясталы чалавек часцей за ўсё атаясамліваецца з зялепухай, зеленню: *Я знаю бязвусых* ***зялепух*** *нямала, Што «зведалі», кажуць, усё дасканала* (Н. Гілевіч). *Па гадах яна [Марыя Пятровіч] яшчэ, як кажуць,—* ***зелень*** (М. Сергіевіч). Маларослы падлетак параўноўваецца са шпінгалетам, шпунтом, смаркачом: *Такі* ***шпінгалет****, а ўжо — ультыматум. Ну, цяпер і будзе Санька мець адказ на свой ультыматум* (А. Савіцкі). *Прычым тут Іцка, калі яго сынок, вось такі* ***шпунт****, усе грошы пракурвае (*В. Хомчанка). *Я ўспамінаю, як прыглядаўся да яе, сам яшчэ* ***смаркач****, а яна ўжо дзеўка* (Я. Брыль).

Назвы дзіцяці (сына, дачкі) атаясамліваюцца з крошкай, кропелькай, расінкай, крывінкай: *І нават* ***крошка*** *Соня І тая пахвалілася: «І я сама сягоння Вунь чыста як памылася!»* (І. Шуцько). *Здрыганулася: воблікам тваім* ***Кропелька*** *твая бяжыць са школы* (Я. Янішчыц). *Спі, мая донька,* ***расінка*** *мая* (Н. Мацяш). *Ведае маці, што чуе* ***крывінка*** *песню ў цішы (*С. Давідовіч). *Толік — мой сын, мая адзіная* ***крывіначка*** (Я. Васілёнак). У значэнні ‘апошняе ў сям’і дзіця’ ўжываюцца словы *паскрэбак, выскрабак* (‘зыходнае значэнне — маленькая булачка хлеба, спечаная з рэштак цеста’): *Вылазь,* ***паскрэбак*** *нячасны! От паспрабуй пасунься на тарахтайцы сваёй...* (А. Ветах). *Я ў родзе Леткаў найапошні,* ***выскрабак*** (І. Летка).

У творах мастацкай літаратуры шырокаўжывальнымі лічацца метафарычныя дэрываты, звязаныя з характарыстыкай маладой і прыгожай дзяўчыны. Народнапаэтычныя асацыяцыі такой дзяўчыны з кветкай носяць даволі рэгулярны характар і абумоўлены яркай шматколернасцю кветак, іх духмянасцю, незвычайнай формай, асаблівасцямі лістоты і суквеццяў. Акцэнт у семантычнай мадэлі « кветка→каханая дзяўчына» робіцца на знешнім абліччы дзяўчыны, яе маладосці, прыгажосці, прывабнасці: Параўн.: *Мая любачка — зорка ясная, мая Ганначка —* ***кветка*** *красная* (А. Гарун). *Ты такая ценькая, Як ільдзінка светлая, Мая залаценькая, Палявая* ***кветачка****, У сукенцы беленькай, Ручанькі танюсенькі* (М. Мішчанчук*). І даўно ўжо трэба было гэтак сказаць, мая ты кветачка майская* (Я. Купала). *І дзяцюк зірнуў на* ***краску****, На дзяўчыну з шчырай ласкай* (З. Бядуля). *Як была дзяўчына —* ***Красачка****, ласачка, А як стала жонка — Ўелася ў пячонку* (А. Дзеружынскі).

У працэс метафарызацыі ўключаюцца не толькі абагуленыя назвы *кветка, краска*, але і канкрэтныя назвы кветак, якія ў дачыненні да агульнай назвы — гіпероніма (грэч. *hyper* ‘над, зверху’, *onyma* ‘імя’) — выступаюць у якасці гіпонімаў (грэч. *hypo* ‘пад, знізу’, *onyma* ‘імя’). У якасці гіпонімаў-метафар выступаюць субстантывы *вяргіня (вяргінечка), пралесачка, лілея, незабудка, ружа, шыпшына, маргарытка, стракотка: Вы — цудадзейныя багіні, Выратавальніцы Зямлі. Вы — бессмяротныя* ***вяргіні****, Што ў ліхалецце расцвілі* (Л. Дайнека). *Чырвоная* ***вяргінечка*** *— Прыгожая дзяўчыначка, О-я-ёй, Што зрабіла ты са мной?* (А. Русак). *Яна,* ***пралесачка****, на гэтым крыжы вешала фартушок — сіні крыжык вышыты* (Л. Родзевіч). *Магда, Магдачка, Мая* ***кветачка-пралесачка****, Не кахацца мне, хлопцу, з табою, Ваявода старога дачкою* (М. Багдановіч). *Цяпер ты ў вочы не глядзіш, Адводзіш прэч, хаваеш веі. Я помню твой таемны ўздых, Мая чароўная* ***лілея*** (М. Шабовіч). *Выходзіць юнак з тэлефоннай будкі, на далані шарыкавым алоўкам запісвае нумар сваёй* ***незабудкі*** (Р. Барадулін). *Дзяўчына вясковая! Чайная* ***ружа*** *вырасла сярод дзядоўніку! Ці не праўда?* (М. Ваданосаў). *Тыя словы Стась выдыхнуў ласкава і ціха: «Янечка! Ты мая чароўная* ***шыпшына****, ты самая гожая* ***кветачка*** *ў сусвеце»* (А. Ветах). ***Маргарытка*** *ты,* ***стакротка****, для цябе — дзве назвы! Для мяне — адной, кароткай, не знайшла ні разу* (У. Дубоўка).

Такі ж кірунак метафарызацыі назіраецца ў найменнях дрэў, кустовых раслін, пладоў і ягад. Такія назвы, як правіла, ужываюцца ў дэмінутыўнай (памяншальна-ласкальнай) форме: *Якая яна [Рая], сапраўды, маладая* ***бярозка*** *— беленькая, гнуткая* (І. Шамякін). *Жняя маладая — стройная* ***каліна*** *— У глухой даліне жыта дажынала* (П. Глебка). *Сваю* ***вішаньку****, Сваю* ***вішаньку****, Мілую кахаю І цалую я, І цалую я З вечара да ранку* (А. Дзеружынскі). *Шчокі ў яе былі круглыя, ружовыя. «Мая* ***вішанька****», — так звычайна называў яе бацька* (А. Якімовіч). *«А ты ўжо не плачаш,* ***ягадка****?» — ласкава спытала Марыля* (*І. Козел*). *Эх, Дуня, Дуня,* ***ягадка*** *мая…* (У. Федасеенка). *Хто ўслаўляе працай край, Што квітнее, нібы май, Хто сама ёсць маладосць, Наша радасць, весялосць?* ***Журавінка, журавінка*** *— Беларуская дзяўчынка* (А. Дзеружынскі).

Часам другасныя ЛСВ найменняў кветак выкарыстоўваюцца ў адным метафарычным кантэксце разам з найменнямі жывёл, птушак, нябесных цел, міфічных істот. У такіх дыскурсах ствараецца некалькі асацыятыўных цэнтраў, якія характарызуюць асобу з розных аспектаў і ствараюць шматаблічны вобраз дзяўчыны-прыгажуні: *Тыя словы Стась выдыхнуў ласкава і ціха: «Янечка! Ты мая чароўная* ***шыпшына****, ты самая гожая* ***кветачка*** *ў сусвеце»* (А. Ветах). *Будзь мужнай,* ***сонейка*** *маё ненагляднае,* ***птушачка*** *мая трапяткая…* ***кветачка*** *мая незабыўная…* (А. Петрашкевіч). *«Маленькі мой* ***зайчык****, маё* ***сонейка****,* ***кветачка*** *мая…— шаптаў ёй на вуха. —* ***Русалачка*** *мая…»* (Л. Адамовіч).

Дэмінутыўныя формы найменняў дрэва і плода яблыні, а таксама назва расліны-кветкі выкарыстоўваюцца для абазначэння прыгожага юнака: *Каля першай хаты яго спыніла бабуля як печаная дуля і загаласіла: «****Яблычка*** *маё недаспелае, каго я бачу! Хадзі, Магдысёк, сядзьма на калодзе, пагаварым у прыродзе»* (Г. Юрчанка). *А мой жа ты* ***дубочак****, месячык ты мой залаценькі! (*І. Мележ). *Яго так усе і звалі —* ***Адуванчык****. Ён і быў падобны на адуванчык-кветку — залацістарыжы, асабліва калі валасы пасля абавязковай стрыжкі* (В. Хомчанка).

Фальклорныя вытокі і ў метафар, дзе каханая дзяўчына параўноўваецца з нябеснымі свяцiламі *(сонцам, зоркамі*) і зарой*: «Сонца маё, радасць мая, не ведаеш, як сумна было без цябе», — усхвалявана гаварыў Рыгор* (У. Клімовіч). *Для цябе, маё сонейка, Што ты хочаш, зраблю, А таму, што прыгожанька, А таму, што люблю* (А. Дзеружынскі). *Напаткаў я дзівосную зорку сярод весняга гаю, прашаптаў найсвятлейшыя словы: «Я вас кахаю...»* (П. Шруб). *Прыснілася ёй Лідачка, зорачка яе ненаглядная…* (Я. Брыль). *Зоркаю, зорачкай яснай Называюць сваю любую* (А. Пісьмянкоў). *Ты са мной, летуценнага шчасця заранка.*

*Я цалую цябе, апякаючы вусны* (Л. Пранчак). *А мая зараначка сёння за другога йдзе* (Р. Барадулін).

Семы ‘маладосць, прыцягальнасць, прываблівасць’ актуалізуюцца ў пераносных ЛСВ полісемантаў *цукар, цукерка, цукерачка: **Цукар** — не дзяўчына, цукровае яблычка, ружачка пахучая* (Ц. Гартны). *А хіба вы, Мірон Іванавіч, хацелі б бачыць мяне такой салодкай, як Любка? Тая сапраўды на **цукерку** ператварылася* (М. Лынькоў). *«Я лічу наадварот: маладая — дрэнь, а малады — **цукерачка**», — пажартаваў Сёмка* (Ц. Гартны).

У асобную групу вылучаюцца метафары, што характарызуюць ворагаў, чужынцаў, дэкласаваных, злачынных элементаў грамадства. Як правіла, такія метафары-назоўнікі ўжываюцца ў множным ліку ці з’яўляюцца зборнымі: *Здаецца, што ўдаль пагляджу І ўбачу **атрэп’е** чужынцаў, Якія бягуць на мяжу* (Ю. Свірка). *Якой толькі **навалачы** не лезла на наш край, імкнучыся і яго запаланіць!* (К. Кірэенка). *Сам ачышчаў бранёю поле Ад **пустазелля** — чужакоў* (П. Пранузa). *Снавалася тут без упынку **Падонкаў** людскіх барахло* (Я. Колас).

Некаторыя абстрактныя паняцці могуць супастаўляцца з рэальнымі аб’ектамі і служыць у якасці базы для пасрэднікаў з групы найменняў чалавека. Абстрактнае паняцце ў пэўнай ступені матэрыялізуецца і ў канкрэтнай маўленчай сітуацыі пачынае абазначаць асобу з пэўнай канатацыйнай афарбоўкай. Другасныя ЛСВ у такіх выпадках утвараюцца па метанімічнай мадэлі «пачуццё, стан чалавека → чалавек які выклікае такое пачуццё або чалавек, якому ўласціва такое пачуццё»: *радасць* ‘пачуццё вялікай асалоды, задаволенасці; ласкавы пяшчотны зварот’, *шчасце* ‘пачуццё найвялікшай радасці і задаволенасці; любімы, каханы чалавек’, *прастата* ‘няхітрасць, прастадушнасць, адкрытасць; прастадушны чалавек’, *гора* ‘няшчасце, бяда, жыццёвыя нягоды; чалавек, якія прыносіць іншым непрыемнасці’, *нядоля* ‘цяжкі лёс, гора; нешчаслівы чалавек’, *дурнота* **‘някемлівасць, неабдуманасць, неразумнасць; някемлівы, недарэчны чалавек’**: *Ах, Марыначка, **радасць** мая, як я сумаваў па табе* (А. Курэйчык). *Дык пойдзем, мая **радасць**, я правяду цябе крышку* (І. Козел). *Бывай, маё сэрца і **шчасце**, бывай…* (М. Танк). *Я сэнс жыцця. Я яго **шчасце**, яго каханне* (В. Чаропка). *Тым больш, вядома, дзеці, зусім нявінная **прастата*** (Я. Брыль). *Што ты з сабою зрабіў! **Гора** ты маё* (А. Курэйчык). *Высокі, сутулавата-здаравенны, нейкі не тое што дурны, як гаварылі некаторыя, а такі сабе прастарэка, **нядоля**. Нікуды ён ніколі не спяшаўся* (Я. Брыль). *Ну, што-ж? Пажартавала дзяўчына, а цяпер гэтыя жарты прайшлі; там, у глушы, дзе апроч яго, нікога не было, можна было і з ім пажартаваць, пасмяяцца з яго, **дурнота*** (Я. Колас).

Пры найменні чалавека часам выкарыстоўваецца сінекдахічны прыём, калі найменні частак цела чалавека і яго органаў атаясамліваюцца з самім чалавекам. У мадэлі «частка цела чалавека, яго орган→чалавек» на першы план вылучаюцца характаралагічныя асаблівасці чалавека (яго вонкавы выгляд, фізічны склад, разумовыя здольнасці, інтэлект), якія атрымліваюць канататыўную, а таксама сацыяльна-культуралагічную накіраванасць: *галава* ‘разумны, здольны чалавек; кіраўнік’ *барада* ‘чалавек з барадой’: *А во гэта адтуль чалавек ідзе… Гэй, **барада**, чаго гэта за «месцамі» народ крычыць?* (У. Караткевіч). *Белая **барада**, у чырвонай рубашцы, у брычцы сядзіць* (Я. Брыль). *Сорак год назад пачаў кар’еру з таго, што загадаў адхвастаць аднаго гарадскога **галаву*** (У. Караткевіч). У другасных ЛСВ субстантыва *сэрца* ўтрымліваецца інфармацыя пра чалавека як носьбіта пэўных душэўных якасцей: *«Маладое сэрца павінна жыць у весялосці», — думаў Усяслаў* (Л. Дайнека). *Хто не згадае светлыя сны, смутак і малітвы закаханага сэрца* (К. Тарасаў).

Метафарычныя пераасэнсаванні часта ажыццяўляюцца не ў адным, а ў некалькіх кірунках, што звязана з вялікай колькасцю аспектаў сэнсавай структуры слова, кожны з якіх можа актуалізавацца ў пэўных маўленчых сітуацыях. Безумоўна, пры гэтым нельга адмаўляць комплекснага падыходу да наймення

асобы, якую можна характарызаваць адначасова з розных пазіцый і аспектаў, а таксама з пункту гледжання агульнага ўражання. Так, у структуры полісеманта ***пень*** вылучаюцца два значэнні: ‘стары чалавек’, ‘бесталковы чалавек’. Два амаль процілеглыя значэнні актуалізуюцца ў структуры полісеманта ***дуб***: ‘высокі моцны чалавек’, ‘тупы, неразумны чалавек’. Семы ‘хваравітасць, слабасць’ і ‘ненадзейнасць, прадажнасць’ могуць вылучацца на першы план субстантыва ***гніляк***: *Не падобна гэта на Андрэя — даць па зубах, тым больш таму старому **гніляку**, пра якога ён збіраецца расказваць* (Я. Брыль). *Грош цана тваім словам, калі ты **гніляк**!* (І. Навуменка). *Пытаю: «Ці брат твой, ці бацька **гніляк**, Што ўзяўся пісаць пратакол шчыра так?»* (Ф. Багушэвіч).

У творах мастацкай літаратуры выкарыстоўваецца прыём сцвярджэння пры дапамозе адмоўя з часціцай *не*. Само супастаўленне ў такіх тэкстах дазваляе вылучыць найбольш важныя параўнальныя якасці і тым самым падкрэсліць іх, акцэнтаваць на іх увагу. Метафара-параўнанне ў такіх канструкцыях часцей за ўсё займае прапазіцыю ў адносінах да параўнання: ***Шляпа** вы, а не салдат* (М. Гарэцкі). *Лапко пакруціў галавою: «**Ануча** я, а не чалавек!»* (Я. Колас). *Я даўно раскусіў цябе, малакасоса, што няспелы арэх. **Размазня** ты, а не камісар! Падпявала* (І. Шамякін). Радзей метафары займаюць постпазіцыю і ўключаюцца ў склад параўнальных зваротаў: *Гэта ж **не чалавек** [Мажэйка], а **шашаль** нейкі* (А. Асіпенка). *Ядзя — дробненькая, зграбная, **не кабетка — змяя*** (А. Куляшоў). «*Ох і ліса ты, Аксана, не **ліса**, а **пантэра**», — гэтак жа вясёла прамовіў Вінцук,не вырываючыся аднак ад рукі дзяўчыны* (А. Бароўскі).

Такім чынам, характэрнай асаблівасцю аністычных другасных намінацый з’яўляецца іх шырокі семантычны дыяпазон і рэгулярная ўзнаўляльнасць. Выкарыстоўваючы шырокі вобразна-асацыятыўны патэнцыял слова, такія намінацыі ў большасці выпадкаў носяць пеяратыўны характар. Для ўтварэння другасных ЛСВ выкарыстоўваюцца лексічныя адзінкі самых розных тэматычных груп слоў. Гэта назвы жывёл і птушак, прадметаў побыту, прылад працы, мэблі, адзення, абутку, галаўных убораў, раслін; кветак, ягад, пладоў, грыбоў, страў, прадуктаў харчавання, цацак, шахматных фігур, прыродных з’яў, нябесных свяціл, каштоўных металаў, абстрактных паняццяў, саматызмаў і інш. Неабходна адзначыць, што адны з іх трывала замацаваліся ў сістэме літаратурнай мовы *(абух, агонь, балаболка, гніляк, даўбешка, зломак, кісель, круцёлка, крэмень, мянташка, палена, піла, пудзіла, самародак, слуп, стаўбун, тумба, флюгер, хамут, цень, цурбан, язва),* другія з’яўляюцца прыналежнасцю ідыястылю таго ці іншага пісьменніка (*воўк, крумкач, пава, пантэра, вожык, гусь, шчыгол, вавёрка, жаваранак, бязмен, млын, матавіла, камель, куль, корч, свісцёлка, бот, бохан, баравік, мухамор, чартапалох, вяргіня, кветка, краска, маргарытка, стракотка, шыпшына, незабудка, лілея, адуванчык, мяцеліца, пупышка, скрыня, спадніца, сухастоіна, халява, цыферблат, шчасце, гора, нядоля, прастата*).






Кацярына ДЗЕГЦЯРОВА

# КАБ НЕ КАНУЛІ Ў ЛЕТУ...

*Алесь МАРЦІНОВІЧ*

**ГІСТОРЫЯ ПРАЗ ЛЁСЫ. Том 1**

*Мн.: Беларуская навука, 2016*

Сённяшнім школьнікам імя Алеся Марціновіча добра вядома. Ён піша пра складанае проста і захапляльна. Клапоціцца пра тое, каб дзеці ведалі і сучасных айчынных пісьменнікаў, мастакоў, тэатралаў, і гістарычных асоб сівой даўніны. З цікавасцю чытаюцца яго кнігі пра Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Элаізу Пашкевіч, Уладзіслава Сыракомлю, Ігната Буйніцкага, Рыгора Шырму і інш. Відавочнае захапленне пісьменніка калізіямі гісторыі нашага краю вылілася ў своеасаблівую шматтомную гісторыю Беларусі (кнігі «Зерне да зерня», «Хто мы, адкуль мы…», «У часе прасветленыя твары», «Элегіі забытых дарог», «Сполахі далёкіх зарніц», «Свечка на золкім полі», «Птушкі з пакінутых гнёздаў», «Маладзік над заснежаным шляхам», «Исповедь старых замков», «Рагнеда і Рагнедзічы» і іншыя), у якой на першае месца ставіцца лёс асобнага чалавека, роля яго рашэнняў і ўчынкаў у сацыяльным, палітычным, грамадскім і культурным развіцці народа, нацыі.

Не так даўно ў выдавецтве «Беларуская навука» пачалося выданне тамоў працы Алеся Марціновіча «Гісторыя праз лёсы». І тут аўтар не здраджвае сваім выпрацаваным гадамі пісьменніцкім прынцыпам: арыентуецца ў першую чаргу на чытача (улічваючы яго цікаўнасці, густ, узрост), расказвае дасціпна і захапляльна і пры гэтым дэкларуе гуманістычныя ідэалы вернасці, кахання, узаемадапамогі.

Першы том выдання складаецца з трох кніг, аб'яднаных пад агульнай вокладкай: «Першыя з першых», «Полацкія князі», «Вялікія князі Вялікага Княства Літоўскага», а гэта значыць, што праца храналагічна ахоплівае працяглы гістарычны перыяд з далёкай старажытнасці па XVI ст. Цікава, што аўтар бачыць падзеі даўніны з пазіцый сучаснасці, разглядае не толькі даўно замацаваныя ў гістарычнай навуцы версіі, а і новыя, альтэрнатыўныя. Датычыцца гэта і назваў першых славянскіх плямён, і крыніц атрымання ведаў пра нашу старажытнасць. Напрыклад, знаёміць чытачоў з цікавымі легендамі з «Вялесавай кнігі», робячы дапушчэнне: «…некаторыя навукоўцы сцвярджаюць, што гэта не летапіс, а толькі падробка пад яго. Маўляў, напісана яна не ў глыбокай старажытнасці.

А з’явілася недзе ў пачатку XX стагоддзя. Хто яго ведае… Магчыма, і падробка. Напісана кімсьці, хто добра разбіраўся ў гісторыі. Толькі, калі і падробка, то вельмі таленавітая». Разважае над псіхалагічнымі партрэтамі славутых людзей: «…бадай, ні пра аднаго вялікага князя літоўскага не сказана даследчыкамі столькі адмоўнага, як пра Ягайлу. Маўляў, ён і бесхарактарны быў, і лянівы. Надта любіў раскошу. Дбаў толькі пра сябе. Ці так гэта?» А пачынае ж А. Марціновіч літаральна з самых асноў: тлумачыць, як вядзецца летазлічэнне і г.д. Таму кніга будзе карыснай як для школьнікаў сярэдняга і старэйшага ўзросту, так і для дарослых, якія жадаюць паднавіць веды па гісторыі Беларусі і спазнаць шмат чаго незнаёмага.

Заўсёды прыемна, калі пісьменнік звяртаецца непасрэдна да чытача, як бы пытаецца пра яго меркаванне ці спрабуе атрымаць згоду… Так, Алесь Марціновіч у прадмове «Адкуль мы ёсць, пайшлі» знаёміцца са сваёй аўдыторыяй, тлумачыць ідэю выдання, уводзіць у свет даўніны… Прычым уводзіць праз актуалізацыю высокіх гуманістычных ідэалаў: «…ведаеш, чаму найперш расказваю пра жанчын? Таму што жанчына — гэта маці, сястра, сяброўка. Жанчына дае кожнаму з нас жыццё. Яна — пачатак пачаткаў».

Чытаючы кнігу Алеся Марціновіча, разумееш: наша гісторыя — гэта далёка не сухія факты і даты. Гэта гісторыя сяброўства, кахання, здрады, нянавісці, змовы і іншых праяў жывых чалавечых адносін. Бо разбітыя на невялікія аповеды, раздзелы кнігі вельмі дынамічныя. Такія ж дынамічныя, дасціпныя, інфармацыйныя і назвы: «Фартуна — паненка з характарам», «Без яе і Віцебска не было б», «Калі верыць, то аднаму Святаславу», «Калі жонка, дык толькі Малка», «У каго нервы не вытрымалі», «Пераварот у радасць», «Любы “арэшак” па зубах» і інш. Да таго ж аповед аздоблены выдатнымі ілюстрацыямі з подпісамі, што робіць яго падобным да якаснага серыяла ці комікса.

Жадаеце ведаць, хто з’яўляецца родапачынальнікам славян, калі адбывалася засяленне Беларусі, як да VII ст. называлася Чорнае мора, хто ўваходзіць у пяцёрку «старшых» літоўскіх князёў? Чытайце карысныя і цікавыя кнігі «Гісторыя праз лёсы». Каб памятаць, ганарыцца і не даць слаўным подзвігам продкаў сысці ў нябыт. У тое, што гэта атрымаецца, верыць Алесь Марціновіч: «Героямі гэтых кніг стануць дзяржаўныя дзеячы і ваенныя, вучоныя і падарожнікі, мастакі і акцёры, кампазітары і друкары, вынаходнікі і спевакі. Многія з тых, хто быў, ёсць і заўсёды будзе гонарам Беларусі».



Дар'я НЕЧЫПАРУК

# БЕЛАЯ ЯШМА НА ШОЎКУ ЧЫРВОНЫМ...




*Лі Хэ*

**ПЕСНЯ БАМБУКАВАЙ ФЛЕЙТЫ**

***Пер. з кітайскай А. Раманоўскай, Л. Дранько-Майсюка, Т. Сівец, Ю. Алейчанкі***

***Уклад. Ю. Алейчанкі***

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2016*

Зборнік паэзіі Лі Хэ «Песня бамбукавай флейты» — наступная кніга з серыі «Светлыя знакі: паэты Кітая», якая выйшла пасля перакладаў з кітайскай мовы на беларускую паэтаў Ван Вэя, Лі Бо, Ду Фу, Ай Ціна. У зборнік увайшлі 37 вершаў знакамітага кітайскага творцы дынастыі Тан — Лі Хэ (790—816). Пераклад большай іх часткі з мовы арыгінала на беларускую і падрадкоўнікі зроблены маладой беларускай кітаязнаўцай і перакладчыцай Аленай Раманоўскай. Астатнія вершы пераклалі паэты Леанід Дранько-Майсюк, Таццяна Сівец, Юлія Алейчанка. Прадмовы да зборніка падрыхтавалі дырэктар-галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч і Алена Раманоўская. Алесь Карлюкевіч дае агляд перакладаў твораў кітайскай літаратуры на беларускую мову, Алена Раманоўская знаёміць чытача з эпохай Тан, падчас якой тварыў Лі Хэ, а таксама непасрэдна з жыццём і творчасцю аднаго з самых прыкметных паэтаў старажытнага Кітая. У прадмове падаюцца цікавыя звесткі з гісторыі краіны і спецыфіка тагачаснага грамадскага ладу. Таксама змяшчаецца кароткая біяграфічная даведка пра асноўныя вехі з жыцця Лі Хэ. Каштоўным матэрыялам з'яўляюцца каментарыі, якія тлумачаць незразумелыя для чытача моманты ў тэкстах вершаў, асабліва калі сустракаецца з'ява транслітарацыі.

Што тычыцца назвы зборніка, то яна была абрана невыпадкова: значная колькасць вершаў — метавіта песні, а бамбукавая флейта — музычны інструмент, пад гукі якога яны традыцыйна выконваліся. Чаму менавіта бамбукавая? У вершах Лі Хэ часта можна сустрэць гэтую расліну ці ў якасці галоўнай дзеючай «асобы» (верш «Бамбук»), ці другараднага «героя», які ў розных праяўленнях выконвае дапаможную ролю для стварэння лірычнага малюнка («Сцюдзёная ноч ля ракі», «Пішу за Лю Юнем», «Балада Нябёсаў», «Пра пустэльніка Джао Шэна»). У кітайскай культуры бамбук сімвалізуе высакароднага мужа, сумленнага, часам жорсткага, праўдзівага, які не баіцца ніякіх выпрабаванняў. Бамбук

цяжка зламаць, хоць ён тонкі і полы ў сярэдзіне. У кнізе большасць вершаў закранаюць тэму прыроды, якая адлюстроўвае настрой паэта, часцей элегічны.

Усе творы зборніка можна ўмоўна падзяліць на чатыры тэматычныя катэгорыі: гістарычная тэма, у межах якой Лі Хэ праз падзеі мінулага крытыкуе сучаснасць («Сяньжэнь», «Як горка, што мінаюць дні», «Песня начальніка акругі Яньмэнь»); палкае адлюстраванне пачуццяў («Песня тугі (напісана под гораю Хуашань»); «чароўная» тэма — паэт распавядае пра жыхароў неба і нячыстую сілу («Балада Нябёсаў», «Іду ў палях ля Паўднёвых год»); апісанне бягучых падзей і захапленне прыродай («Сталіца», верш пяты з цыкла «Коні»).

Для вершаў Лі Хэ часта характэрны журбота, адчуванне безнадзейнасці быцця. У адрозненне ад паэтаў-рамантыкаў, такіх, як, напрыклад, Лі Бо, Лі Хэ выкарыстоўвае рэалістычныя матывы. Праз адлюстраванне ўнутранага свету і настрою перадаецца крытычная ацэнка сучасных падзей і з'яў. І наадварот, праз апісанне прыроды праглядаецца ўнутраны настрой творцы. Лі Хэ выступае таксама ў ролі своеасаблівага мастака, які ўмела карыстаецца рознакаляровымі фарбамі: белай («белы ліс», «белая яшма», «белы вецер», «белае сонца»), чырвонай («чырвоны шоўк», «чырвоны мост»), чорнай («чорны дым», «чорны воран»). Трэба зазначыць, што ўсе гэтыя дэталі знайшлі месца ў беларускіх перастварэннях вершаў. Часта выкарыстоўваецца індукцыйны і дэдукцыйны метады перадачы зместу. Напрыклад, «вялікі нос» (з тэксту арыгінала) ператварыўся ў «грубы твар», калі адной дэталі хапае, каб намаляваць поўную карціну. І наадварот, «казурка» ў шырокім разуменні ў кітаямоўным вершы перайшла ў дакладную «цыкаду». Перакладчыкі пашыралі змест тэксту, зыходзячы з уласнага разумення, развіваючы падзеі, пра якія аўтар не кажа, але, мабыць, мае на ўвазе («Сталіца»). Таксама можна сустрэць у перакладчыцкай версіі развіццё пачуццяў галоўнага героя, пра якія ў арыгінале паэт маўчыць («Чырвоны шоўк так доўга ты не мый»). Трэба заўважыць, што для перастварэння тэкстаў старажытнага Кітая на беларускую мову недастаткова толькі валодаць кітайскай мовай, тут патрабуюцца і грунтоўныя веды кітайскай гісторыі і міфалогіі.

Варта асобна адзначыць міфалагічны пласт у вершах Лі Хэ. Веды па міфалогіі Кітая дазваляюць перакладчыкам з дасканаласцю данесці да чытача інфармацыю, якая тычыцца міфічных асоб, падзей, сімвалаў. Так, напрыклад, у вершы «Трынаццаты месяц» тлумачыцца імя багіні «Ван Му», што наўрад ці вядомае непадрыхтаванаму чытачу. Таксама, у арыгінальным вершы Сі і Хэ — дзве розныя асобы, а ў перакладзе яны пазначаны адным словам, але прапануецца двайны каментарый, згодна з якім, з аднаго боку, Сіхэ — «багіня, што вазіла па небе сонца ў павозцы», з другога боку, Сі і Хэ — «астраномы пры двары імператара Яо». Тая ж самая гераіня Сіхэ сустракаецца чытачу і ў «Baладзе нябёсаў», дзе арыгінал падказвае, что гаворка ідзе менавіта пра багіню, такім чынам, перакладчык каментуе сутнасць дзейнай асобы.

Відавочна, што паэт адчувае цёплыя пачуцці да такой міфічнай істоты, як дракон, і нават звычайны меч паўстае перад намі як «дракон з яшмы». Цешыць, што перакладчык тонка адчуў гэта і патлумачыў чытачу. Таксама мы можам сустрэць міні-каментарыі ў самім перакладчыцкім тэксце, якія адсутнічаюць у кітаямоўным варыянце (верш «Сяньжэнь»), а ў вершы «Песня пра світанне» перакладчыку ўдалося даступна патлумачыць змест міфа.

Структурна вершы на мове арыгінала значна карацейшыя за пераклад. Гэта абумоўлена шэрагам фактараў. Папершае, фанетычнай структурай кітайскай мовы, дзе адзін іерогліф можа азначаць як склад, так і цэлае слова, і нават паняцце, асабліва гэта тычыцца старажытнай кітайскай мовы, на якой

пісаліся вершы. Пры стварэнні вершаў паэты карысталіся адмысловымі правіламі вершаскладання, сярод якіх дамінуюць пяціслоўнае ці семіскладовае вершаскладанне. Пяціслоўнае вершаскладанне — гэта паэтычная форма з чатырох радкоў і пяці складоў (іерогліфаў) з рыфмай на першым, другім і чацвёртым радках. Немагчыма падобную структуру перадаць у пераствараэнні верша на беларускую мову. І таму перакладчык вымушаны карыстацца правіламі вершаскладання, характэрнымі для яго мовы. Па прычыне максімальнай лаканічнасці вершаў старажытнага Кітая, іерагліфічнай ёмістасці неабходна падпарадкоўвацца строгім правілам, чытаць паміж радкоў і ў тэксце перакладу на беларускую мову тлумачыць змест напісанага, часта даючы дадатковую інфармацыю, што значна падаўжае верш. Таксама назіраюцца ў перакладах элементы змены першапачатковага зместу, але гэта нармальная з'ява, таму што перад перакладчыкам стаяць адначасова некалькі нялёгкіх задач, як, напрыклад, перадаць пачуцці, падабраць рыфму, данесці да чытача тое, што планаваў аўтар.

У некаторых назвах вершаў на беларускай мове сустракаецца транслітарацыя, але, з нашага пункту гледжання, лепш пазбягаць дадзенай з'явы (акрамя імён і назваў), тым больш, што маецца эквівалент на мове перакладу («Сяньжэнь», «Цсісі»).

Зборнік перакладаў вершаў Лі Хэ «Песня бамбукавай флейты» — увасабленне росквіту цесных літаратурных сувязей. Варта ганарыцца тым фактам, што пераклады твораў кітайскай літаратуры выконваюцца наўпрост з мовы арыгінала на беларускую без выкарыстання мовы-пасрэдніка, што забяспечвае максімальную набліжанасць да арыгінала.






*Анатоль КРЫВАРОТ*

**УЗАЕМАДЗЕЯННЕ ПАРТЫЗАНСКІХ ФАРМІРАВАННЯЎ БЕЛАРУСІ І РАСІІ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ**

*Мінск. «Беларуская навука», 2015.*

Эмануіл ІОФЕ

## ЗМАГАЛІСЯ СУМЕСНА

Гэтая кніга прысвечана вельмі актуальнай тэме. Праўда, дасведчаны чытач можа задаць пытанне: «А што раней аб гэтым не пісалі?»

Пісалі, нават нямала, але вельмі коратка і вельмі эпізадычна, больш за тое, факталагічны матэрыял пераважаў над аналітычным.

У якасці прыкладу прывяду трэці том кнігі «Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны» (1985). Пытанню баявой садружнасці партызан Расійскай Федэрацыі і Беларусі адведзена… аж 7 старонак.

У гістарычнай і мемуарнай літаратуры згаданай тэме прысвечаны многія старонкі, прыводзяцца цікавыя факты, але ўсё гэта не дазваляе разгледзець яе комплексна і на аснове рассакрэчаных апошнім часам фондаў беларускіх архіваў. Фактычна перад намі першае ў свеце фундаментальнае і вельмі блізкае да аб’ектыўнага даследаванне па гэтай праблеме.

Што ж у ім новага?

Па-першае, адзначым, што аўтар кнігі, добра вядомы ў нашай краіне сваімі арыгінальнымі даследаваннямі, вельмі сціплы навуковец. У анатацыі манаграфіі падкрэсліваецца, што ўпершыню ў гістарыяграфіі зроблена *спроба* (курсіў мой. — *Э. І.*) сістэмнага і комплекснага даследавання сумесных дзеянняў партызан Беларусі і Расіі на працягу 1941—1944 гг,. па арганізацыі і ўмацаванні партызанскіх атрадаў, брыгад, часовых злучэнняў пры нанясенні ўдараў па камунікацыях германскіх войск і яго апорных пунктаў (гарнізонах, паліцэйскіх участках, валасных управах), пры адбіцці карных экспедыцый акупацыйных сіл.

Па-другое, выкарыстаны шырокі пласт матэрыялаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Звесткі больш чым са 140 дакументаў упершыню ўведзены ў навуковы ўжытак. Устаноўлены даты заснавання 11 брыгад, сумесна сфарміраваных беларускімі і расійскімі партызанскімі падраздзяленнямі на часова акупаванай тэрыторыі Беларусі ў 1942—1943 гг. Упершыню прыводзяцца А. Крываротам звесткі аб 37 групах РСЧВ і 3 падраздзяленнях НКУС (НКДБ) СССР, якія на працягу 1942—1944 гг. былі накіраваны на акупаваную тэрыторыю.

Па-трэцяе, па-новаму асэнсоўваецца ўзаемадзеянне як фактар станаўлення і развіцця партызанскага руху ў 1941—1944 гадах, пададзены аргументаваныя сведчанні аб характары і вытоках партызанскай барацьбы на часова акупаванай тэрыторыі Беларусі.

Па-чацвёртае, удакладнены асобныя тэрміны, якія склаліся ў савецкай гістарыяграфіі пасляваеннага перыяду. Так, паняцце «беларускія партызанскія фарміраванні» ўключае тры баявыя адзінкі партызан: а) створаныя на тэрыторыі БССР партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі, органамі НКУС БССР з ліку мясцовага насельніцтва, а таксама сфарміраваныя рознымі структурамі Чырвонай Арміі; б) фарміраванні, створаныя самімі мясцовымі жыхарамі і ваеннаслужачымі-акружэнцамі; в) скамплектаваныя за лініяй фронту Цэнтральным Камітэтам Кампартыі Беларусі, абкамамі КП(б)Б, Паўночна-Заходняй групай ЦК КП (б)Б і СНК БССР, органамі НКУС (НКДБ) БССР, якія затым накіроўваліся на акупаваную тэрыторыю і знаходзіліся ў падпарадкаванні вышэйназваных структур.

Што датычыцца тэрміна «расійскія партызанскія фарміраванні», то А. Крыварот справядліва ўключае ў яго баявыя адзінкі партызан: а) створаныя ў тылавых рэгіёнах РСФСР па лініі УКП(б) і УЛКСМ, структурамі Чырвонай Арміі, органамі НКУС(НКДБ) СССР і перакінутыя затым на акупаваную тэрыторыю; б) арганізаваныя на акупаванай тэрыторыі Арлоўскай, Калінінскай і Смаленскай абласцей Расійскай Федэрацыі.

Па-пятае, аўтар кнігі на падставе дэталёвага вывучэння разнастайных крыніц прыйшоў да высновы, што дэфініцыя «беларускія і расійскія партызанскія фарміраванні» не ўказвае на іх этнічную нацыянальную прыналежнасць, а ўвасабляе ў сябе толькі тэрытарыяльна-адміністрацыйны паказчык. Калі чытач сустрэне дэфініцыю «расійскія партызаны», то трэба мець на ўвазе «партызанскія фарміраванні, якія дзейнічалі на акупаванай тэрыторыі Беларусі і РСФСР».

Па-шостае, выключную каштоўнасць маюць дадаткі, змешчаныя ў другой главе, а таксама да асноўнага тэксту. Гэта ўнікальныя табліцы і карты, падрыхтаваныя самім А. Крываротам. Вынікам яго скрупулёзнай працы і сістэматызаваныя ў табліцах звесткі аб 102 армейскіх групах і 45 падраздзяленнях НКУС (НКДБ), закінутых у Беларусь. Чытач пазнаёміцца з абагульнымі дадзенымі аб 15 партызанскіх адзінках, падрыхтаваных у савецкім тыле камітэтамі УКП(б) і УЛКСМ расійскіх рэгіёнаў для барацьбы з нямецкімі акупантамі ў розных рэгіёнах Беларусі, а па прыведзеных картах ён даведаецца з дыслакацыяй і перамяшчэннем па акупаванай тэрыторыі БССР партызанскіх брыгад і палкоў Смаленскай вобласці, аб базіраванні на поўначы Віцебшчыны партызанскіх брыгад Калінінскай вобласці.

Па-сёмае, у пераважнай большасці даследаванняў падкрэсліваецца, што амаль усе партызанскія атрады на тэрыторыі Беларусі і Расіі, акрамя спецатрадаў, стварыла Камуністычная партыя, яе органы і прадстаўнікі, то ў манаграфіі адзначаецца, што шэраг іх узніклі дзякуючы ваеннаслужачым Чырвонай Арміі, якія аказаліся ў акружэнні і нават беспартыйным мясцовым жыхарам.

Па-восьмае, умела спалучаюцца навуковасць і папулярнасць пераказу.

У першай главе дадзены глыбокі і падрабязны аналіз гістарыяграфіі і крыніц даследавання, пачынаючы з кастрычніка 1942 года па 2009 год.

Шмат цікавага ў другой главе — «Узаемадзеянне беларускіх і расійскіх партызан па арганізацыі атрадаў. Брыгад і часовых злучэнняў». А. Крыварот, скрупулёзна вывучыўшы шматлікія крыніцы, прыйшоў да прынцыповай высновы, што ўзаемадзеянне беларускіх і расійскіх партызан па стварэнні атрадаў устанавілася ў першыя месяцы вайны. Калі ў 1941 — пачатку 1942 года такія кантакты насілі эпізадычны характар і адбываліся пераважна на тэрыторыі заходніх абласцей РСФСР, то з вясны 1942 года сумесная дзейнасць перамясцілася на тэрыторыю Беларусі. Каля 75 % сумесна створаных атрадаў прыпадае на яе ўсходнія рэгіёны.

Самая каштоўная трэцяя глава «Баявое ўзаемадзеянне беларускіх і расійскіх фарміраванняў», у якой разгледжаны такія ключавыя пытанні як нанясенне ўдараў па камунікацыях і транспартных сродках германскіх войск, напады на апорныя пункты акупантаў (ваенныя гарнізоны, паліцэйскія ўчасткі, валасныя ўправы) і каардынацыя баявых дзеянняў аб’яднаных партызанскіх сіл.

Глыбокае веданне крыніц дазваляе А. Крывароту смела выказваць свой пункт погляду, а дакладней, дзейнічаць па прынцыпе «Платон мне сябра, але ісціна даражэй». Так ён падкрэслівае: «Аналіз дакументаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь дае магчымасць адзначыць, што ў працах гісторыкаў савецкага і постсавецкага перыяду, якія пры асвятленні падзей у Расонска-Асвейскай зоне зімой-вясной 1943 г. абапіраліся найперш на расійскія крыніцы, некалькі перабольшана роля А. І. Штрахава (кіраўніка партызанскімі сіламі ў зоне. — *Э. І.*) у кіраванні беларускімі партызанскімі брыгадамі падчас карных экспедыцый «Заяц-бяляк» і «Зімовае чараўніцтва».

Часам лічбы гавораць лепш за ўсялякія словы. Выкарыстоўваючы параўнальна-гістарычны метад, аўтар кнігі акцэнтуе ўвагу чытача на наступных з іх:

«У 1941 г. кожны дзясяты падарваны воінскі эшалон стаў вынікам узаемадзеянняў беларускіх і расійскіх партызан. З сакавіка па снежань 1942 г. на тэрыторыі Беларусі мясцовыя і расійскія партызанскія фарміраванні знішчылі звыш 256 эшалонаў (амаль 25 % ад усіх выведзеных са строю тут за гэты перыяд) і больш за 154 масты. Пры гэтым 81 % эшалонаў і 93 % мастоў былі падарваны атрадамі і групамі РСЧА і НКУС СССР. У 1943 — першай палове 1944 гг. сярод сумесных аперацый на камунікацыях найбольшая колькасць была праведзена разам са смаленскімі падраздзяленнямі».

Пасля 1945 года да нашых дзён выйшлі сотні кніг, тысячы газетных і часопісных артыкулаў аб дзеяннях спецатрадаў на акупаванай тэрыторыі СССР і БССР. І толькі апантаны А. Крыварот знайшоў неабходныя і невядомыя большасці гісторыкам матэрыялы, а дакладней звесткі аб ганебных дзеяннях некаторых кіраўнікоў расійскіх спецатрадаў і смела абнародаваў факты, якія замоўчваліся больш як 70 гадоў:

«На працягу 1942 г. кіраванне аб’яднанымі сіламі беларускіх і расійскіх партызан падчас барацьбы супраць карнікаў ажыццяўлялі структуры, створаныя на нарадах каманднa-палітычнага складу, якія пераважна скліканіся па ініцыятыве кіраўнікоў спецгруп РСЧА і НКУС СССР. Пры гэтым камандзіры спецатрадаў В. У. Бойка, І. М. Кузін, П. Р. Шамякін, Г. І. Сазонаў у час карных экспедыцый без уліку мясцовых асаблівасцей і ва ўмовах адсутнасці ў беларускіх партызан прамой радыёсувязі з Цэнтрам ініцыявалі выхад каля 20 атрадаў з рэгіёнаў іх дыслакацыі за межы Беларусі».

Хацелася б, аднак, выказаць і некаторыя заўвагі і пажаданні.

Чамусьці няма ніводнага ўпамінання аб дзейнасці Цэнтральнай аператыўна-чэкісцкай группы НКУС СССР па БССР, створанай 20 студзеня 1942 года, якую ўзначальваў Лаўрэнцій Цанава. У 1942—1943 гадах яна спрыяла ўзаемадзеянню фарміраванняў Беларусі і Расіі.

На жаль, не выкарыстаны фонды архіваў Расійскай Федэрацыі, хаця ў вопісе 3 фонда 1450 Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь змешчаны некалькі дакументаў архіва Смаленскай вобласці.

Абыдзены ўвагай шэраг выданняў, якія непасрэдна датычацца тэмы даследавання.

Было б пажадана, каб у манаграфіі меліся геаграфічны і імянны ўказальнікі.

На некаторых старонках, на жаль, не абышлося без памылак друку.

Сімвалічна тое, што аўтар кнігі сын беларускага партызана, пляменнік камісара 130-й партызанскай брыгады «Помста» Сцяпана Крыварота і начальніка штаба 340-га асобнага партызанскага атрада Уладзіміра Крыварота. На стар. 4 чытач можа прачытаць:

«Прысвячаю майму бацьку Аляксею Цітавічу, які ў чатырнаццацігадовым узросце стаў беларускім партызанам, і яго шасці родным братам — змагарам з германскімі нацыстамі у 1941—1945 гг.».

Анатоль Крыварот стварыў вельмі каштоўную, цікавую, верагодную, ва многім унікальную і наватарскую манаграфію, якая, несумненна, знойдзе свайго чытача сярод навукоўцаў, выкладчыкаў гісторыі, краязнаўцаў, студэнтаў, вайскоўцаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй нашай Бацькаўчыны ў цэлым і гісторыяй партызанскага руху на акупаванай тэрыторыі СССР і БССР у прыватнасці.

Было б пажадана, каб А. Крыварот таксама аб’ектыўна даследаваў узаемадзеянне беларускіх партызан з партызанамі Украіны і Прыбалтыкі ў 1941—1944 гадах.




*Аляксей ПЯТКЕВІЧ*

**СЛОВА І КНІГА ПРЫНЁМАННЯ. Зборнік навуковых артыкулаў**

*Гродна: ЮрСаПрынт, 2016*

Аляксей Пяткевіч — з кагорты тых даследчыкаў, хто пачынаў свой шлях у вывучэнні гісторыі беларускай літаратуры, гісторыі беларускай культуры болей як шэсць дзесяцігоддзяў назад. І таму асабліва ўражлівай падаецца кожная яго сённяшняя публікацыя. Як і вось гэтая кніга — «Слова і кніга Прынёмання», толькі што выдадзеная ў Гродне.

Фактычна зборнік (у падзагалоўку ці ў вызначэнні жанру выдання так і пазначана: «Зборнік навуковых публікацый») складаецца з дзвюх частак. У першай — цэласнае даследаванне пра рукапіснае, друкаванае і літаратурна-мастацкае слова на Гродзеншчыне, у Гродне ці ў звязку з Гродзенскім краем. Тры раздзелы «Рукапіснае слова», «Друкаванае слова», «Літаратурна-мастацкае слова» — аб'яднаны адной ідэяй, адной тэмай. А. Пяткевіч імкнецца стварыць паўнавартасны партрэт Слова, Прыгожага Пісьменства з гродзенскім характарам. І як на мой прыватны погляд, у даследчыка атрымліваецца.

## Кастусь ЛЕШНІЦА

# РЭГІЯНАЛЬНЫ НАПРАМАК

З выкладзенага А. Пяткевічам матэрыялу рэльефна паўстаюць, ажываюць многія старонкі з гісторыі культуры, з гісторыі кніжніцтва на Гродзеншчыне. «Першы ў рэгіёне пісьмовы помнік, што мае свой адрас, датуецца 1241 годам і называецца «Напісанія Афанасія мниха къ Панкови о древе добру и злу и о наузех и о стреле громней», — піша даследчык. — Рукапіс гэты, выкананы ўставам на пергаменце, «рукою многогрешного дъяка Никиты з Любъчи», захоўваўся ў бібліятэцы Храптовічаў у Шчорсах (Навагрудскі р-н).

Раннія на Гродзеншчыне пісьмовыя евангеллі адносяцца да XIV стагоддзя.

Гэта Жухавіцкае, што знаходзілася да Першай сусветнай вайны ў царкве ў вёсцы Вялікія Жухавічы (Карэліцкі р-н), і Лаўрышаўскае, што пісалася для царквы ў Лаўрышаўскім манастыры (Навагрудскі р-н). Манастыр, заснаваны навагрудскім князем Войшалкам у XIII ст., быў буйным цэнтрам грамадска-рэлігійнага і культурнага жыцця. Мяркуецца, што тут — адзін з пачатковых пунктаў беларускага летапісання. Евангелле, напісанае ў 1329 годзе ўставам на пергаменце, складаецца з 4-х кананічных частак і мае 374 нумараваныя старонкі. На іх у XIV—XVI стст. пакінуты запісы пра дарчыя ўклады (фундушы) на царкву дваровымі людзьмі, збожжам, землямі, грашыма. Гэтыя запісы, што перабіваюцца ўстаўкамі на старабеларускай мове і суправаджаюцца каментарыямі XVI—XVII стст. на беларускай і польскай мовах, маюць значную літаратурную цікавасць. У іх выпрацавалася свая, урачыста-кніжная стылістыка, пералічваюцца сведкі, назвы мясцін…»

Ужо з расповеду пра старажытныя вытокі прыгожага пісьменства А. Пяткевіч

настройвае чытача на падарожны, «экскурсійны», характар знаёмства з гістарычным матэрыялам. Асабліва гэта становіцца заўважным далей, калі мы адкрываем для сябе наступныя раздзелы: «Друкаванае слова» і «Літаратурна-мастацкае слова». Ідучы следам за аўтарам, здзіўляешся, якая багатая ў Гародзеншчыны «літаратурная геаграфія». Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч нагадвае пра многіх, хто пакінуў след у літаратуры, хто засведчыў сябе беларускім, польскім, рускім, яўрэйскім пісьменнікам. І, канешне ж, мастацкая тканіна іх твораў, выкладзеныя імі мастацкія ідэі, вобразы — усё гэта ў значнай ступені мае гарадзенскія вытокі. Можна звярнуцца хаця б толькі да назваў некаторых твораў розных літаратараў. Польская пісьменніца Вільгельміна Касцялкоўская (1844—1926) — аўтар нарыса «Шляхта ў Літве». «Ашмянскі павет…» — чатырохтомнае краязнаўчае даследаванне Чэслава Янкоўскага (1857—1929). Збонік апавяданняў «Кара Смаргоні» — адна з кніг яўрэйскага паэта і празаіка Міхася Тайца (1882—1935). «Ля Нёмана» — аўтабіяграфічны раман-эпапея Іосіфа Рабіна (1900—1987).

І хаця ў 1940—2000-я гг. цэнтрам прыцягнення, месцам сталага жыцця і працы для большасці і беларускіх пісьменнікаў з’яўляўся Мінск, Гродна, прастора Гродзеншчыны, не адпускала іх, вяла па творчых шляхах, дапамагала і натхняла. Невыпадковымі ж з’яўляюцца назвы паэтычных зборнікаў: у Алега Лойкі — «Грайна», у Віктара Шымука — «Дочкі сіняга Нёмана», «Свіцязянскія хвалі» і інш. У аўтабіяграфічным нарысе — ён таксама змешчаны ў кнізе — А. Пяткевіч зазначае: «Да сённяшняга часу рэгіянальны напрамак даследаванняў застаецца галоўным у навуковых справах». І яшчэ вось што чытаем у творчай аўтабіяграфіі Аляксея Міхайлавіча: «Літаратурным краязнаўствам я захапіўся даволі хутка па сваім прыездзе ў Гродна»; «Краязнаўчыя інтарэсы прывялі ў пачатку 70-х і на абласное тэлебачанне. Па ініцыятыве Вольгі Іпатавай, якая працавала тады на Гродзенскай абласной студыі, стаў выступаць спачатку з кароткімі нататкамі пра людзей і падзеі мастацкага мінулага рэгіёна…» Рэгіёназнаўства, краязнаўства, літаратурнае краязнаўства — тое, што спрыяе стварыць, разгледзець шырокую панараму асветніцтва ў краі. І Аляксей Міхайлавіч доўгія дзесяцігоддзі шчыруе на ніве гэтых клопатаў. Шчыруе апантана і плённа. Вынікі яго працы — і ў папярэдніх кнігах. Для мяне асабіста літаральна настольнай кнігай з’яўляецца даведнік А. Пяткевіча «Людзі культуры з Гродзеншчыны». 685 персаналій ураджэнцаў Гродна і Гродзеншчыны, якія засведчылі сябе ў культуры, літаратуры, асветніцтве, з’яўляюцца героямі гэтай па-свойму ўнікальнай працы. Аўтар яе, збіральнік гістарычнай, культурнай памяці краю працуе дзеля будучыні, выконвае, калі хочаце, місію пэўнага даследчыцкага інстытута.

Вяртаючыся да «літаратурна-мастацкай» ці «літаратурна-краязнаўчай» біяграфіі Гародзеншчыны, да першай часткі кнігі «Слова і кніга Прынёмання», хацеў бы звярнуць яшчэ ўвагу на раздзел «Друкаванае слова», у прыватнасці, на тыя яго старонкі, што прысвечаны друкаваным мас-медыя. А. Пяткевіч нагадвае, што «сярод культурна-асветніцкіх пачынаў А. Тызенгаўза не апошняе месца займае арганізацыя ў Гродне перыядычнага друку. З 1678 года выходзіць тут перыёдык «Gazeta Grodzienska». Выпускалася на 2-х старонках два разы на тыдзень і паведамляла пра значныя падзеі ў краіне і за мяжой…» І далей аўтар падрабязна асвятляе медыйную гісторыю краю. Гэтым даследаванне павінна быць цікавае і гісторыкам журналістыкі. Відаць, даўно ўжо наспеў час выдаць новую «Гісторыю беларускай журналістыкі». Несумненна, яе аўтары знойдуць шмат карыснага ў «Слове і кнізе Прынёмання» А. Пяткевіча.

Асобную частку выдання складаюць артыкулы, якія дапаўняюць, пашыраюць тэму кнігі: «Галоўная бібліятэка вобласці і фарміраванне інтэлектуальнай эліты рэгіёна», «Універсітэт Янкі Купалы як асяродак навучання і выхавання пісьменніцкіх асоб», «Эліза Ажэшка як пісьменніца беларуска-польскага памежжа» і інш.

Аўтабіяграфічны нарыс, які мы ўжо згадвалі, носіць не выпадковую для Аляксея Міхайлавіча назву — «З родным словам». І вось чым завяршаецца нарыс: «Горад над Нёманам і Універсітэт імя Я. Купалы сталі часцінай мяне самога. Так склаўся лёс. Благі ці шчаслівы, гэта ўжо не мне ацэньваць. Але мой уласны. І роднае беларускае слова ў ім заўсёды было са мною». Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч шчыра роднаму слову служыць і зараз. Кніга «Слова і кніга Прынёмання» толькі пацвярджае гэта.

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Божыдар КНЕЖАВІЧ (1862—1905)

❍ Прагрэс — гэта калі пашыраецца ісціна ў тэорыі, а хлусня ў жыцці.

❍ Сучаснае недарэчнае грамадства нагадвае бібліятэку, у якой кнігі размеркаваны не па значнасці зместу, а паводле фармату і пераплётаў.

❍ У цяперашнім грамадстве тры класы людзей: тыя, што маўчаць, тыя, што гавораць, і тыя, што кажуць нешта. Апошніх найменш, першых найбольш.

❍ Калі ісціна пасярэдзіне, яна — неўжытковая, сярэдняя ісціна.

❍ Патрэбна сіла, каб прызнаць сваю слабасць, патрэбна велічыня, каб прызнаць сваю дробнасць.

❍ Людзі спатыкаюцца толькі аб малыя камяні; вялікія абмінаюць.

❍ Чалавек — стварэнне, за якое часам і Бог можа парадавацца, а часам нават і д’ябал засаромеецца.

❍ Толькі попел не можа згарэць.

## Банэ ДЖУРЫЧЫЧ (1925—2007)

### Адзін, два, тры… браткі пісьменнікі

❍ Адзін пісьменнік — вольны творца.

❍ Два — часопіс (і колькасць іх, на шчасце, павялічваецца).

❍ Тры — літаратурная вечарына (калі збяруцца).

❍ Чатыры — ужо два аб’яднанні з групоўкамі.

## Вук ГЛІГОР’ЕВІЧ (1946—2003)

❍ У прыродазнаўчых навуках усё пачынаецца з нуля. У грамадскіх — ад пэўнай даты.

❍ Некаторыя бессмяротныя падаюць знакі жыцця. Нават магільшчыкам нельга больш верыць.

❍ Каб адзінкі жылі ў вяках, мноства павінна жыць ад сёння да заўтра.

❍ Я апынуўся ў лепшай будучыні! Шліце грошы!

❍ Гусі, якія выратавалі Рым, не абвяшчаліся лебядзямі.

❍ Усё ж такі нас круцяць, шаноўны Галілей!

## Уладзімір ЁВІЧАВІЧ-ЁЎ (1950 г. н.)

❍ Калі праўда, што вернікаў найбольш сярод бедных, дык ці не Вялікі пост надыходзіць?

❍ Хто там памятае дзень у час палярнай ночы!

❍ Не верылася, што настаўлены палец можа страляць. Пакуль чалавек побач з намі не ўпаў.

❍ Што прывяло паэта да зняволення? Верш гісторыі ці гісторыя верша.

❍ Не верце маладым! І яны пастарэюць.

❍ Мэта ўздымае сабе помнікі і без сродкаў.

❍ Я не бачыў, ты не бачыў... І так ва ўсе часы.

❍ «Гэта не той камень», — сказаў Сізіф на вяршыні.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***



